**Мікола Савіцкі**

# Гучала - гучыць і будзе вечна гучаць беларуская мова ў незалежнай Беларусі

***Барацьба за адзіную дзяржаўную беларускую мову***

***Без этнічнай мовы няма нацыі, а ёсць неідэнтыфікаванае насельніцтва, таму любой цаной трэба захаваць гэтую неацэнную каштоўнасць, сапраўдную святыню Беларусі - беларускую мову.***

***Мікола Савіцкі.***



**Мікола Савіцкі**

Прафесар, акадэмік Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі

**Мікола Савіцкі**

# Гучала - гучыць і будзе вечна гучаць беларуская мова ў незалежнай Беларусі

## *Барацьба за адзіную дзяржаўную беларускую мову*

Асабісты архіў пад адной вокладкай

**Мінск**
**2023 г.**

Мікола Савіцкі. Гучала - гучыць і будзе вечна гучаць беларуская мова ў незалежнай Беларусі. Барацьба за адзіную дзяржаўную беларускую мову. Асабісты архіў пад адной вокладкай. Мінск, 2023 г. 280 ст. На правах рукапісу.

У кніжцы змешчаны артыкулы аўтара, у якіх апісаны факты, падзеі, мерапрыемствы ў жыцці беларускага грамадства на ніве беларускага адраджэння на мяжы XX і XXI стагоддзяў. Пададзены як бы факталагічны зрэз жыццядзейнасці беларускага грамадства ва ўмовах навязанага беларусам так званага двухмоўя, адкрытай антынацыянальнай палітыкі ў моўнай сферы. Ужо колькі дзесяцігоддзяў у афіцыйным жыцці краіны беларускае слова знаходзіцца на нулявым узроўні. Няспынны гістарычны працэс беларускага нацыянальнага адраджэння патрабуе ад кожнага беларуса пасільнага ўдзелу ў самавыратавальным працэсе беларускай нацыі ад русіфікацыі і асіміляцыі.

Арфаграфія аўтарская.
Здымкі з архіва аўтара.

*Прысвячаю майму 90-годдзю і*
*ўсім свядомым беларусам*

## П Р А Д М О В А

Як і многіх нацыянальна свядомых беларусаў, аўтара дадзенай кнігі вельмі непакоіць будучыня дарагой, любімай, роднай Айчыны. Так жахліва, несправядліва сталася, што ёй на карысць не пайшло нават аднаўленне ўласнай дзяржаўнасці, якой па віне царскай Расіі давялося пазбавіцца ў канцы XVIII ст. Ад таго часу і да канца 1980-х гадоў, за выключэннем некалькіх гадоў міжваеннай беларусізацыі, наш бацькаўскі край знаходзіўся ў эпіцэнтры царскай, а затым савецкай дзяржаўнай русіфікатарскай палітыкі. І самае страшнае, што ў правядзенні яе актыўна ўдзельнічала многа і беларусаў, са спакойнай душой, па-здрадніцку заганяючы ў магілу самую дарагую духоўную каштоўнасць нашай Бацькаўшчыны - яе родную, непаўторную ва ўсім свеце, спрадвечную беларускую мову, якая аб'ядноўвае народ у адно цэлае, з'яўляецца адным з галоўных паказчыкаў адметнасці нацыі, этнасу. Да канца існавання СССР яе вельмі моцна абкарналі, напоўнілі русізмамі амаль да нуля звялі сацыяльную функцыю, але яна на вялікую радасць не здалася, перажыла ўсталяваную камуністамі савецкую дзяржаўную русіфікатарскую сістэму.

Пры ўсіх негатыўных наступствах савецкай русіфікатарскай палітыкі беларусам у апошнія гады існавання СССР усё ж удалося стварыць больш-менш адпаведную іх нацыянальным інтарэсам дзяржаву. Узяты ёю прагрэсіўны, гістарычна апраўданы цвёрды курс на нацыянальна-культурнае адраджэнне знайшоў, без перабольшвання, моцную ўсенародную падтрымку.

Паводле ж прынятага 26 студзеня 1990 года Закона "Аб мовах у Беларускай ССР" усе сферы грамадскай дзейнасці ў краіне павінны былі абслугоўвацца толькі беларускай мовай, што дапамагло б ёй нарэшце стаць рэальна дзяржаўнай, дзякуючы чаму здзейснілася б запаветная мара многіх пакаленняў нацыянальна свядомых беларусаў. Многім верылася, што абрыдлая русіфікацыя назаўжды пакінула змардаваны ёю беларускі абшар.

Усё карэнным чынам змянілася ў горшы бок пасля ўсталявання ўлетку 1994 года без патрэбы навязанай краіне прэзідэнцкай сістэмы кіравання. Ужо з першых дзён істотная колькасная перавага ў яе чыноўніцкім апараце асобаў прарускай арыентацыі прычынілася да аднаўлення згубнай сваімі разбуральнымі наступствамі русіфікатарскай палітыкі. Практыка апошніх трыццаці гадоў пераканаўча засведчыла, што такая палітыка дае найбольшую эфектыўнасць ва ўмовах, калі яе праводзяць уласныя ўлады, а не якая-небудзь знадворная сіла, як гэта было за царскім і савецкім часамі. Вось чаму ў такім цяжкім, гаротным становішчы і знаходзіцца сёння беларускі народ, ужо не будучы падобным сам на сябе.

Калі на такую нацыянальную палітыку мы смела, рашуча не адкажам моцным усенародным супрацівам, застануцца марнымі спадзяванні беларусаў знаходзіцца ў сям'і самабытных народаў цывілізаванага свету. Сённяшняя нашая бяздзейнасць смерці падобнае. Хацелася б, каб справу нацыянальнага адраджэння працягнулі людзі, не абдзеленыя лёсам упарта дамагацца жаданага поспеху і ў самой сітуацыі, якая доўжыцца ў нас амаль трэць стагоддзя і не падае ніякай надзеі на пазітыўныя змяненне. Адсутнасць буйнамаштабнага нацыянальна-адраджэнскага руху немінуча прывядзе наш народ да этнічнай смерці, а яго краіну - да страты дзяржаўнага суверэнітэту.

Без этнічнай мовы няма нацыі, а ёсць неідэнтыфікаванае насельніцтва, таму любой цаной трэба захаваць гэтую неацэнную каштоўнасць, сапраўдную святыню Беларусі - беларускую мову.

## Першыя старты ТБМ імя Ф. Скарыны ў сталіцы

Менская гарадская Рада зарэгістравана гарсаветам 11 студзеня 1990 г. Яе склад - 80 сяброў, першы старшыня - прафесар гісторыі Анатоль Грыцкевіч, намеснікі: Л. Дайнэка, І. Жарскі, Л. Лыч, І. Чарняўскі. Ад гарадской і раённых Радаў былі вылучаны і абраны народнымі дэпутатамі Вярхоўнага Савета З. Пазьняк, Я. Цумараў, Ул. Новік, В. Галубовіч, А. Трусаў, П. Садоўскі, а таксама шэраг дэпутатаў гарадскога і раённых Саветаў.

Актыўнасць дзеянняў першага складу Рады паступова падала і выбары дзеючай праходзілі толькі з удзелам аднаго намесніка прафесара Л. Лыча. Праўда, на трэцім з'ездзе ТБМ праф. А. Грыцкевіч быў абраны сябрам Рэспубліканскай Рады. Народныя дэпутаты Ул. Новік, В. Галубовіч, П. Садоўскі, пэўна, і забыліся, ад якой арганізацыі яны вылучаліся.

Дзеючая Рада абрана 8 лютага 1992 г. у складзе 23 сяброў, 2 намеснікі старшыні Надзя Сармант (загадчыца ясляў-сада 456) і Яўген Лаўрэль (ст. навуковы супрацоўнік НДІ адукацыі). Калектыўнымі сябрамі з'яўляюцца клюб "Спадчына", прэзідэнт А. Белы і бацькоўскі камітэт, старшыня А. Шамак. Іх дзейнасць вызначаецца актыўнасцю і выніковасцю. На жаль шэраг сяброў Рады перасталі працаваць, не ва ўсіх хапіла мужнасці і пачуцця адказнасці за аказаны давер - вярнуць беларусам іх родную, Богам дадзеную, мову. Прыкладам самаахвярнай, шчырай працы з'яўляюцца Мікола Лавіцкі, Уладзімір Навумовіч, Віктар Навуменка, Язэп Стэпановіч.

Рада імкнулася разам з уладнымі структурамі ўсіх узроўняў спрыяць таму, каб сталіца незалежнай Беларусі пачала жыць у беларускамоўным інфармацыйным асяроддзі. Мы ўсё робім на грамадскіх пачатках і эфектыўнасць ад затрат часу і інтэлекту не высокая таму, што кіраўнікі ўлады не хочуць, ці не могуць скіраваць свае функцыі на выкананне патрабаванняў здаровага сэнсу, законаў аб мовах і аб адукацыі, Канстытуцыі. Зазначым, што яшчэ ў 1989 г. ГК КПБ прыняў рашэнне: *"З 1991 года*

*работнікам упраўлення народнай адукацыі і культуры Мінгарвыканкама перайці на выкарыстанне беларускай мовы ў якасці рабочай".* На жаль і сёння ў гэтых установах, як і ў іншых, дзяржаўная мова не стала рабочай у поўным прафесійным сэнсе. Многае робіцца для бутафорыі, што зневажае годнасць і правы беларусаў. Часам бачым імітацыю па выкананні Законаў і поўную адсутнасць уладных дзеянняў і канкрэтных спраў. Вось прыклад. Рада актыўна працуе, каб на гарадскім транспарце пасажыраў абслугоўвалі на беларускай мове. Тут няма аніякіх цяжкасцей, улічваючы досыць рэгламентаваную прафесійную тэрміналогію. Праводзім сустрэчы з кіраўнікамі транспартных службаў, выступаем на сходах гэтых калектываў, адзначаем лістамі ўдзячнасці вадзіцеляў, якія абслугоўваюць пасажыраў на дзяржаўнай мове. На наш зварот-прапанову аб распаўсюджванні ўжытку беларускай мовы на транспарце старшыня гарсавета А. Герасіменка 30.04.92 г. паведаміў пісьмова, што да канца 1992г. будзе завершана работа па поўным пераводзе гарадскога транспарту на беларускую мову. Яна ж не толькі не завершана і на сёння, а па-дзяржаўнаму фактычна і не пачыналася. У Менску можна адчуць сябе ў беларускамоўным асяроддзі толькі спусціўшыся пад зямлю - у вагоны метро. І што цікава, не зарэгістравана аніводнага выпадку, каб хто-небудзь выйшаў не на сваім прыпынку.

Добрым прыкладам сумеснай працы з мясцовымі кіраўнікамі паказвае Заводскі раён сталіцы. Там ёсць узаемаразуменне і практыка правядзення сумесных мерапрыемстваў. У палацы МАЗ-а былі праведзены найбольш важкія мерапрыемствы: гарадская канферэнцыя пад дэвізам "Спыніць русіфікацыю" з уделам старшыні гарсавета і народных дэпутатаў усіх узроўняў, вечарына "Свята беларускага слова" і інш.

Усё гэта адбылося дзякуючы прафесіяналізму і арганізацыйным здольнасцям намесніка старшыні прафкама МАЗ-а па культурна-арганізацыйнай рабоце Міколы Лавіцкага. На жаль, як стала вядома, культура раёна панесла важкія страты: на МАЗ-е гэтая важная адзінка скарочана. Разглядаем гэта як вялікую страту для паспяховага адраджэння і развіцця беларускай культуры як на МАЗ-е, так у раёне і горадзе.

Бадай, галоўнай задачай лічым паступовы, прафесійны пераклад выхавання і навучання ў сістэме адукацыі на беларускую мову. Пакуль вышэйшая школа не стане беларускай як па духу, так і па змесце нельга чакаць і разлічваць на паспяховае адраджэнне беларускай культуры і яе асновы - мовы. Сталічныя ВНУ павінны падаваць прыклад. На жаль, толькі адзіны рэктар, акадэмік Міжнароднай акадэміі Ціханаў Менскага педагагічнага ўніверсітэта праявіў мужнасць, узяў на сябе асабістую адказнасць і перавёў з мінулага года выкладанне ўсіх прадметаў на ўсіх першых

курсах на беларускую мову. Пытанне: дзе ж дзяржаўная пазіцыя міністэрства? Нагадаем рэальнасць: у гэтым годзе заканчваюць беларускія школы 14 тысяч вучняў. Яны выходзяць на вольны, родны свой прастор і будуць не прасіць, а патрабаваць свайго права на вышэйшую адукацыю на іх роднай беларускай мове. Шаноўныя дзяржаўныя кіраўнікі, рэктары ВНУ, не дапусцім сацыяльнага выбуху на аснове інтэлекту і духоўнага генацыду.

Рада прыняла ў свой час адказнае рашэнне: прапанавала выключыць старшыню Урада Беларусі В. Кебіча са складу сяброў ТБМ за тое, што ён выконвае дзяржаўныя функцыі і канстытуцыйныя абавязкі не на дзяржаўнай мове. Ягоныя выказванні па тэлебачанні апошнім часам аб тым, што "русский и белорусский язык - это один язык", неаднаразовае высоў-ванне перад выбаршчыкамі пытання аб так званым дзяржаўным двухмоў'і пасля ўвядзення ў дзеянне Канстытуцыі (17 артыкул) - пацвердзілі правільнасць нашых дзеянняў. Адраджаць і развіваць беларускую культуру пры такой афіцыйнай пазіцыі кіраўніка ўраду вельмі цяжка. Пануе з боку ўладных структур усеагульная абыякавасць і скрытая варожасць да адраджэння асновы нацыянальнай беларускай культуры - беларускай мовы.

У гэтых умовах актывісты таварыства не эфектыўна трацяць свой час, які маглі б пры нармальных умовах выкарыстаць для сваей прафесійнай справы. Аднак будучы глыбока перакананымі ў тым, што родная мова бароніць, выратоўвае, дапамагае беларусам выжыць і захаваць сваю культуру, Рада імкецца ў суладдзі з прагрэсіўнай часткай кіраўніцтва працаваць з верай і ўпэўненасцю ў поспеху адраджэння беларускай культуры.

Старшыня Менскай гарадской Рады ТБМ імя Ф. Скарыны,
прафесар Мікола Савіцкі.
1992 г.

## Старшыні Камісі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны прафесару Нілу Гілевічу

У вышэйшай школе, калі не лічыць чыноўнічаю імітацыю, больш-менш практычных дзеянняў па паступовым, але мэтанакіраваным і добра спланаваным пераводзе працэсу выхавання і навучання на беларускую мову пакуль што няма. І, бадай, самае страшнае (менавіта страшнае) тое, што ў рабочую групу, якой ВЫ даручылі і даверылі мець дачыненне да надзённых праблем ВНУ, паступае інфармацыя аб пачаўшымся адкаце

назад ад першых парасткаў нацыянальнага Адраджэння вышэйшай школы.

У сувязі з гэтым прашу ВАС і ўношу прапанову ў самы бліжэйшы час арганізаваць сустрэчу ТБМ (мо, Сакратарыята, мо, разам з прадстаўнікамі гарадской Рады,...) з міністрам адукацыі прафесарам В. Гайсёнкам для абмеркавання практычных, тэрмінова неабходных дзеянняў па выкананні заканадаучых актаў і проста здаровага чалавечага і прафесійнага сэнсу.

На маю думку трэба абмеркаваць:

1. Як выкананы рэктарамі ВНУ Загад міністра адукацыі № 171 ад 03.07.92 г. "Аб дадатковых мерах па выкананні Закона "Аб мовах" і "Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы" (сэнс загаду - атэстацыя кіраўніцтва на валоданне і прафесійнае карыстанне беларускай мовай ...).

2. Тэба тэрмінова выдаць Загад Міністра адукацыі, а, мабыць, Пастанову ВАШАЙ Камісіі, аб пераводзе з 1 верасня 1994 г. навучання ва ўсіх ВНУ на ўсіх першых курсах на беларускую мову, з тым, каб не сарваць выканання Закона “Аб мовах”, гэта значыць, у 2000 годзе зрабіць першы выпуск спецыялістаў, выхаваных і навучаных у беларускамоўным прафесійным асяроддзі. Трэба не размовы (яны трэба), а практычныя дзеянні ўладных адказных асобаў. І гэта так проста і так танна: выдай Загад у адпаведнасці з законамі і ў адпаведнасці з імі патрабуй іх выканання ад самых адукаваных, самых культурных людзей дзяржавы.

Паспяшацца трэба і таму, каб рэктараты заклалі ў дакументы па прыёме на новы навучальны год змест гэтага загаду.

3. У значнай частцы навукоўцаў выклікала, мякка кажучы, здзіўленне атрыманая "Анкета научного работника для ВАК" толькі на "русском языке".

Гэта прыклад грубага парушэння і ігнаравання Законаў з боку зяржаўных службоўцаў высокага рангу. Ёсць інфармацыя аб тым, што падрыхтавана і іншая дакументацыя ВАК Беларусі не ў суладдзі з законамі і логікай выратавання беларускай нацыі ад поўнай асіміляцыі.

Старшыня Менскай гарадской Рады ТБМ імя Ф. Скарыны,
прафесар Мікола Савіцкі.

## Аб развіцці беларускай навуковай тэрміналогіі па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы

**Чыя мова - таго і зямля.** Дзяржаўная мова з'яўляецца галоўным чыннікам незалежнасці, асновай адукацыі і культуры. Беларуская нацыянальная культура гістарычна фармавалася шмат у чым як культура

адукацыйная. Апошняя з'яўляецца традыцыйна выпрабаваным шляхам развіцця, а, значыць, і адраджэньня нашай культуры. Ігнараваць яго - значыць свядома чыніць перашкоды беларускаму нацыянальнаму адраджэнню.

Навучальна-выхаваўчы працэс сёння ў вышэйшай школе амаль не закрануты ідэяй і духам нацыянальнага адраджэння. Першыя досыць плённыя вынікі і дасягненьні асобных выкладчыкаў-самаахвярнікаў заціснуты, удушаюцца пануючым рускамоўным панцырам і ідэалогіяй славянскага сабора. Вызваліцца з рускамоўнага атачэння вышэйшай школе Беларусі і ўсёй сістэме адукацыі без мэтанакіраванай, актыўнай дзяржаўнай палітыкі стварэння, аднаўлення беларускай нацыянальнай школы амаль немагчыма. Палітыка ўрада, увасобленая кіраўніцтвам ВНУ, якому, на наш погляд, бракуе разуменьня і хацення адрадзіць беларускую нацыянальную вышэйшую школу. Наадварот, у гэтым асяроддзі мусоліцца антынавуковая, антыпедагагічная тэза: на беларускай мове нельга развіваць навуку і весці падрыхтоўку кадраў. Яны свядома выступаюць супраць аб'ектыўных законаў разьвіцця і захавання моўнага ландшафту свету, законаў моўнай экалогіі.

Для разбурэння заідэалагізаванага, абразлівага штампа аб непрыдатнасці беларускай мовы для развіцця навуковай тэрміналогіі тры гады ўжо аўтар практычнымі справамі імкнецца яго разбураць разам з калегамі-энтузіястамі з іншых ВНУ. Тры гады выкладаю прадмет "Інфарматыка і вылічальная тэхніка" на беларускай мове ў эканамічным універсітэце. Падрыхтаваў і выдаў "Руска - беларуска - ангельскі слоўнік па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы", падрыхтаваў да выдання (выйдзе ў свет у 1994 г. у выдавецтве "Універсітэцкае") вучэбны дапаможнік па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы на беларускай мове памерам 16 аркушаў.

Тэарытычная праца і практычны вопыт яскрава пераконваюць у адсутнасці якіх бы там не было аб'ектыўных, тэарытычных перашкодаў для правядзення навуковых работ і выкладання на беларускай мове. Існуе адна праблема, навязаная нам сілай: аднялі ў беларусаў іх родную мову і нежаданне большай часткі кіраўнікоў іншых нацыянальнасцей рэальнага адраджэння беларускай нацыі.

Пры распрацоўцы тэрміналогіі ўлічваю гістарычныя традыцыі; пошук, аналіз і ўжываньне народных тэрмінаў; патрабаванне да стварэння вузка-спецыяльнай тэрміналягічнай сістэмы; стварэньне асновы банка звестак беларускай тэрміналёгіі; максімальна шырокія кансультацыі і сумесная праца з мовазнаўцамі беларускай літаратурнай мовы, якія стаяць на прагрэсіўных навуковых і палітычных пазіцыях. На жаль, самаахвярных

мовазнаўцаў вельмі бракуе.

Развіццё беларускай навуковай тэрміналогіі павінна ісці ад беларускай мовы, абапіраючыся на класічныя прынцыпы тэрмінатворчасці, і ні ў якім разе не перакладаннем тэрмінаў з расейскай мовы на беларускую. Беларуская культура мае ўласную агульнанавуковую тэрміналогію. Найважнейшая задача ўсіх, хто мае так ці інакш дачыненне да тэрміналогіі, пазбегнуць шэрага калькаванага перакладу з расейскай мовы (прыклад сучасная казённа-газетная мова, мова тэлебачання).

Добрым прыкладам у пошуку беларускага самабытнага і трапнага тэрміна з'яўляецца навукова-метадычная пазіцыя грамадскасці і ўрадаў Францыі і Нямеччыны. Там пільна сочаць на дзяржаўным узроўні за захаваннем самабытнасці і адметнасці сваіх моваў і здзейсняецца абарона ад англамоўнай экспансіі.

Вельмі важна пры распрацоўцы тэрміна абапірацца на мовазнаўчыя навуковыя прынцыпы і законамернасці развіцця беларускай мовы, ведаць і ўлічваць асаблівасці беларускага словаўтварэння (глядзіце П. Сцяцко "У мовы - свае законы", ч. Полымя, № 1, 1993). Напрыклад: не *праграміраванне*, а *праграмаванне*; не *камп'ютэр*, а *кампутар*. Трэба захоўваць эстэтычную каштоўнасць тэрміна. Разам з тым, неабходна ўлічваць рэальна існуючы скалечаны камертон сучаснай беларускай мовы, скалечанай так званай рэформай правапісу 1933 г. Два пакаленьні беларусаў выхаваны і навучаны ў штучным, ненатуральным моўным гучанні беларускага слова і таму псіхалагічна не гатовы ўспрыняць натуральнае роднамоўнае гучанне. Нягледзячы на тое, што слова *кампутар* на старабеларускай мове - *кампутар*; на грэцкай - *camputar* ; на лацінскай - *computare*; на ангельскай - *camputa*, скалечаны камертон беларускага слова русіфікаванай калькай *"камп'ютар"* не хоча прызнаваць эстэтычнае, мілагучнае старабеларускае слова *"кампутар"*.

Моцным тормазам у развіцці беларускай навуковай тэрміналогіі з'яўляецца двухтомны акадэмічны руска-беларускі слоўнік. Для рэдактараў, выхаваных у асяроддзі наркомаўкі, ён з'яўляецца пракруставым ложам, забаронай на вяртаньне і ўвядзенне любога слова (тэрміну) у натуральнай беларускай мове. Ад гэтага слоўніка трэба як мага хутчэй адмовіцца, але ці здольны калектыў акадэмічнага інстытута мовы заняць пазіцыю ў суладдзі з патрабаваннем часу - вось пытанне? Крыніца беларускай мовы невычарпальная для тэхнічнага словаўтварэння.

Аб эстэтычнасці і мілагучнасці тэрмінаў: ёсць небяспека, што зрусіфікаванасць беларускай мовы і страта натуральнага яе камертона, некаторыя аўтары прымяраюць "вуха" толькі да расейскай мовы.

Тут неабходна актыўнае давядзенне да шырокай аўдыторыі навуковых асноў мовазнаўцамі.

Спыніць скептытызм і адмоўнае стаўленне да беларускай мовы ў адпаведнай часткі выкладчыкаў, навукоўцаў і пераадолець штучны псіхалагічны бар'ер у рэальна існуючай сітуацыі магчыма толькі шляхам правядзення цывілізаванай палітыкі ўрада Беларусі. Залежны ад імперыі ўрад не можа спрыяць, ён толькі тармозіць працэс нашага нацыянальнага адраджэння.

Гістарычная практыка вяртання амаль страчанай роднай мовы ўсімі народамі, якія прайшлі ці праходзяць гэты трагічны шлях сваёй гісторыі, вымагае не зацягваць прынясце правапісу, адпаведнага законам развіцця моваў наогул і адметнасцей канкрэтнай мовы. На вялікі жаль, адмена рэпрэсіўнай рэформы беларускага правапісу 1933 г. зацягваецца, калектыў інстытута мовы акадэміі навук Беларусі, выхаваны і навучаны ў асяроддзі "наркамаўкі" і не бачна, што ён хоча вырвацца з яе путаў. Адцягванне на вызначаны тэрмін (вяртанне ў натуральнае беларускамоўнае асяроддзе) беларускага літаратурнага правапісу стварае перашкоды для плённага разьвіцця беларускай навуковай тэрміналогіі і ўсяго працэсу нацыянальнага адраджэння беларускай нацыі, яе культуры.

Не вырашаны пакуль што на дзяржаўным узроўні, на першы погляд, дробязныя пытаньні: адсутнічае драйвер для апрацоўкі інфармацыі на беларускай мове, не вырашаны пытанні кодавай табліцы. Разам з тым, апошнім часам усе часцей ужываецца навуковы тэзіс: *"Жыць тым нацыям, мовамі якіх загавораць кампутары"*. Беларуская мова настолькі багатая, мае такія глыбокія гістарычныя карані, што ў самым блізкім часе сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі будуць "размаўляць" на ёй.

Прафесар Савіцкі Мікола Іванавіч.

## Аб практычных захадах распрацоўкі тэрміналогіі па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы

На сёння ў вышэйшай школе напрач адсутнічаюць умовы для плённага развіцця навуковай тэрміналогіі на беларускай мове: не выконваюцца, а дакладней ігнаруюцца 17 артыкул Канстытуцыі Беларусі І законы "Аб адукацыі" і "Аб мовах". На ўзроўні дзяржавы (міністэрства адукацыі) не прынята канкрэтная праграма і не зроблены эфектыўныя захады па сістэмнаму, метадычна абгрунтаванаму пераводу выкладання і выхавання на беларускую мову, як гэтага патрабуе артыкул 6 закона "Аб адукацыі", ва ўсіх ВНУ. Пакуль што ўсё робіцца асобнымі выкладчыкамі-энтузіястамі.

Адсутнічае якая - небудзь каардынацыя як на ўзроўні асобных ВНУ, так і міністэрства адукацыі. Па-гэтаму неабходна мэтаскіраваная, актыўная дзяржаўная палітыка аднаўлення і развіцця беларускай нацыянальнай вышэйшай школы.

Вялікую шкоду наносіць антынавуковы штамп аб "непрыдатнасці" беларускай мовы для развіцця навуковай тэрміналогіі, а значыць і навукі ў беларускамоўным інфармацыйным асяроддзі. Ён супярэчыць здароваму сэнсу і асновам маладой навукі - моўнай экалогіі. Яна сцвярджае, што эўрыстычныя вартасці нацыянальнай мовы і тэрміналогіі, створанай у яе асяроддзі, адкрываюць новыя магчымасці ў развіцці навукі.

У Беларусі навуковая тэрміналогія на аснове агульначалавечых нормаў павінна развівацца на беларускай мове. Пры гэтым належыць добрасумленна ўлічваць класічныя прынцыпы тэрмінатворчасці. Шкодным і небяспечным з'яўляецца практыка механічнага перакладу тэрмінаў з расейскай мовы на беларускую. Важнейшая задача прафесіяналаў беларускай мовы - праз сродкі масавай інфармацыі - давесці як да работнікаў навукі і адукацыі, так і да масавага чытача самабытнасць і адметнасць беларускай тэрміналогіі. Беларуская культура мае ўласную агульнанавуковую тэрміналогію і шэры калькаваны пераклад з расейскай мовы прыносіць толькі шкоду. Напрыклад, расейскі тэрмін *"загрузка компьютера"* не ў калькаваным перакладзе, а створаны ў асяроддзі беларускай мовы і з улікам заканамернасцяў яе развіцця і словаўтварэння, гучыць як сімфонія *"ладаванне кампутара"*.

Плённае развіццё навуковай тэрміналогіі стрымлівае нявызначанасць і нерашучасць у адмене палітычнай пастановы Урада 1933 года аб так званай рэформе правапісу і вяртанне беларускага правапісу да натуральнага стану.

У сваёй практычнай рабоце па распрацоўцы навуковай тэрміналогіі па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы імкнуся ўлічваць: традыцыі і здабыткі 20-30-х гадоў; тэарытычныя патрабаванні да стварэння прадметнаспецыяльнай тэрміналагічнай сістэмы; праводжу пошук, аналіз і ўжыванне народных тэрмінаў і замацаванне іх у якасці ўдакладненых тэрмінаў замест штучных русізмаў, неалагізмаў.

Важнае значэнне прыдаю кансультацыям і сумеснай працы з навукоўцамі беларускай літаратурнай мовы, якія ўспрымаюць прафесійна праблемы Адраджэння беларускай мовы і нацыянальнай культуры. На жаль апошніх вельмі мала. Слоўнік па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы на заключнай стадыі распрацоўваў разам з мовазнаўцам Вінцуком Вячоркам.

Карысным можа быць вопыт Францыі і Нямеччыны, дзе на

дзяржаўўным узроўні і ў асяроддзі грамадскасці пільна сочаць за захаваннем самабытнасці і адметнасці сваіх моваў і актыўна бароняцца ад англамоўнай экспансіі на самым высокім дзяржаўным узроўні.

Жыць тым мовам і нацыям, мовамі якіх гавораць кампутары!

Мікола Савіцкі, прафесар БДЭУ.

## Беларуская мова - аснова развіцця айчынай вышэйшай школы

*Дык як жа будзем жыць,*
*Мой мілы пане-браце?*
*Ці так, як набяжыць,*
*Ці - спадарамі ў хаце?*
*На імпартных мазгах*
*І завазной маралі,*
*Ц і - з верай, што ў вяках*
*Для нас дзяды стваралі ?*

*Ніл Гілевіч.*

Спрадвеку кожная нацыя, як вядома, развівалася шляхам фармавання ўласных, толькі ёй уласцівых, рысаў, змагаючыся за атрыманне сваёй дзяржаўнасці і далейшае яе ўдасканаленне. Нам - беларусам - наладжваць, выкрышталізоўваць сваю дзяржаўнасць давялося па кроплі ва ўмовах паднявольнай палітычнай і эканамічнай залежнасці ад суседніх краін. Вось чаму сёння ў такі шчаслівы і бурна-адноўленчы час - адкрыліся небывалыя магчымасці для карэннай перабудовы ўсяго ладу жыцця - мы з радасцю і адказнасцю за іх будучыню адраджаем сваю дзяржаву, культуру, уласную гісторыю, родную мову. Адным з асноўных падмуркаў, на якім разаўецца на поўную моц нацыянальнае адраджэнне, з'яўляецца, на наш погляд, сістэма адукацыі і выхавання. Вось чаму яе - цяперашнюю, састарэлую сістэму ў асноўным рускамоўную - мы павінны як мага хутчэй перагледзець, абнавіць, і ў поўным аб'ёме зрабіць беларускай як па мове, так і па духу. Тады можна будзе разлічваць і на поспехі ў падрыхтоўцы нацыянальна свядомых спецыялістаў і на эфектыўнае адраджэнне нацыі. Інакш кажучы, альфа і амега стратэгіі і тактыкі ўсяго аднаўленчага працэсу заключаюцца ў паўнацэннай нацыянальнай сістэме адукацыі і выхавання, бо без яе станаўленне беларускай дзяржавы, яе незалежнасці проста немагчыма.

Разам з тым, родная мова - гэта аснова светапогляду, крыніца вывучэння і ўспрымання нацыянальнай культуры і далучэння яе да

сусветнай.

Такім чынам, толькі праз адукацыю, выхаванне, вяртанне да гіста-рычна-культурных вытокаў беларускага народа можна абудзіць нацыя-нальную свядомасць людзей. Да таго ж красамоўныя, гераічныя і трагічныя факты з гісторыі суайчыннікаў міжволі прымусяць задумацца над тым, хто мы такія, адкуль ідуць нашы карані, гонар і г.д., словам, узнікне жаданне не толькі "людзьмі звацца", але і натуральная патрэба шукаць свае месца ў сузор'і народаў свету, іхняй культуры і гісторыі. На такой глебе, безумоўна, з'явіцца і разаўецца самапавага і гонар за сваю гісторыю і культуру. Але усё гэта, як сведчыць тая ж гісторыя, магчыма толькі ў родна моўным асяроддзі.

Больш таго, жыццё падцвердзіла аксіёму: калі людзі не карыстаюцца роднамоўнымі сродкамі камунікацыі, не думаюць на роднай мове і не адчуваюць сэрцам і ўнутраным голасам сябе ў сувяззю з навакольным асяроддзем, яны не ўспрымаюць, як след - глыбока, шчыра, усеахватна праблемы сваёй сям'і, сваёй нацыі, родныя нацыянальныя вытокі жыцця ў суладдзі з гістарычнай спадчынай народа.

Таму, зыходзячы з рэальнай сітуацыі ў Беларусі, адраджэнне нацыі, выхаванне яе ў адпаведнасці з нормамі агульначалавечага развіцця ў родна моўным асяродку павінна стаяць на першым месцы ў пераліку прафе-сійных патрабаванняў да выкладчыкаў сістэмы выхавання і навучання.

Само сабой зразумела, што выхавацелі і выкладчыкі працуюць на службе ў дзяржавы і абавязаны карыстацца яе мовай. У адваротным стане гэта будуць не нацыянальныя службоўцы. Алагічным з'яўляецца стан, калі выкладчыкі, службоўцы, наогул інтэлігенты, якія жывуць у роднай краіне, не карыстаюцца нацыянальнай мовай, альбо - здараецца і такое - нават яе не разумеюць, а значыць і не валодаюць прафесійна дзяржаўнай мовай.

Такім чынам, добрае валоданне дзяржаўнай мовай - гэта свяшчэнны абавязак кожнага выкладчыка, выхавацеля, службоўца. Больш таго, працэс навучання і выхавання павінен праводзіцца менавіта ў асяроддзі дзяржаўнай мовы, бо такі і канстытуцыйны абавязак усіх педагогаў. Ён замацаваны заканадаўчымі актамі. Артыкул 68 Канстытуцыі Беларускай ССР частка чацьвертая (якой мы карысталіся да прыняцця 17 артыкула новай Кан-стытуцыі) канстатуе: ***"Дзяржаўнай мовай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліке з'яўляецца беларуская мова".*** У новай Канстытуцыі дзяржаўнасць беларускай мовы замацавна адназначна і на векі. У першым артыкуле Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, якой нададзены статус Канстытуцыі, таксама запісана "...дзяржава ўсталявала дзяржаўнасць беларускай мовы", а далей - у дзевятым -

"...дзяржава забяспечвае функцыянаванне беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця". Законы "Аб адукацыі" (артыкул 6) і "Аб мовах" зноў жа абавязваюць нас карыстацца роднай - беларускай мовай.

Як сведчаць факты, наша бяда ў тым, што большасць выкладчыкаў выхаваны па-за нацыянальнай гісторыяй і культурай, не на роднай мове. Вынік сумны: яны не ўспрымаюць дзяржаўную мову як неабходную, абавязковую і таму свядома ці не свядома з'яўляюцца асноўным тормазам у выхаванні пачуцця нацыянальнага гонару за сваю Бацькаўшчыну ў студэнтаў. Значыць, без карэннай пераарыентацыі на новыя прагрэсіўныя метады работы, выселкі па пераходу на беларускую мову навучання і выхавання не прывядуць да стварэння жыццяздольнай нацыянальнай школы.

Прызнаем адкрыта: ВНУ знаходзяцца ў стане моўнай і духоўнай рэзервацыі. Працэс беларускамоўнага навучання і выхавання ідзе, вобразна кажучы, пад жалезным рускамоўным панцырам: пануюць рускамоўныя вучэбна-метадычныя выданні, сродкі масавай інфармацыі і нізкая нацыянальная свядомасць інтэлігенцыі ва ўсіх сферах жыццядзейнасці грамадства. Адбываецца гэта і таму, што наша інтэлігенцыя атрымала сямейнае, грамадскае і дзяржаўнае выхаванне і адукацыю, якія былі скіраваны супраць фармавання нацыянальнай свядомасці. Вось чаму, сёння - у часы, адпушчаныя нам гісторыяй для свайго адраджэння, - трэба самую пільную ўвагу звярнуць на адукацыю, паўсядзённую працу над сабой, на родную мову. Дарэчы, нагадаем, што асветніцтвам, выхаваннем народа заўсёды займалася інтэлігенцыя - гонар нацыі.

Як не цяжка казаць, але трэба падкрэсліць: большая частка менавіта нашай інтэлігенцыі - надзеі і генератара адраджэння, будучыні - на самай справе аказалася нігілістычнай, інертнай, і, у нейкім сэнсе, нават варожай да нацыянальнага адраджэння. Галоўным тормазам для прафесійнага нацыянальнага адраджэння ў ВНУ у вызначальнай меры ёсць рэктараты, дэканаты, загадчыкі кафедрамі і іншыя структурныя адзінкі. І бяда яшчэ ў тым, што сярод кіроўных асобаў крытычна нізкі працэнт беларусаў. Як сведчыць практыка, сёняшні кіроўны апарат ВНУ ў сваёй аснове, за невялікім выключэннем, не ўспрымае як след Законы "Аб мовах" і "Аб адукацыі", праблемы нацыянальнага адраджэння. Такі недапушчальна ганебны ў наш час светапогляд па розных прычынах адны кіраўнікі не хочуць, а другія не могуць змяніць. Дзе ж выйсце? А яно ёсць і, як паказваюць факты, вельмі простае: на пасады рэктаратаў дэканаў факультэтаў, загадчыкаў кафедраў у ВНУ трэба прызначаць нацыянальна свядомых навукоўцаў. Гэтага патрабуе і аб'ектыўны працэс адраджэння беларускай

дзяржавы і беларускай нацыі.

Час, як бачым, прабіў. Вось чаму ў Рэспубліцы Беларусь як мага хутчэй неабходна падрыхтаваць вялікую колькасць высокакваліфікаваных - на сусветным ўзроўні - спецыялістаў, якія будуць здольныя развіваць і ўмацоўваць суверэнітэт нашай краіны, весці па шляху аднаўлення духоўнае жыццё свайго народа, адраджэнне беларускай нацыянальнай самасвядомасці. Хтосьці - з павярхоўным поглядам - можа сказаць, што гаворка ідзе аб нацыяналізме. Толькі гэта не так. У Беларусі бяда не ў нацыяналізме, а хутчэй за ўсё ў тым, што яго ( у цывілізаваным паразуменні) вельмі мала, а падчас і зусім няма.

Вельмі важна рэальна ацаніць: ці зможа, ці зацікаўлены спрыяць паспяховаму вырашэнню гэтых гістарычных задач выкладчык, ці не абыякава ён ставіцца да праблемы нацыянальнага адраджэння Беларусі? Гэта палажэнне мае выключнае значэнне пры вырашэнні пытання аб даручэнні выкладчыкам займаць кіроўныя пасады ў сістэме адукацыі.

Кожны педагог, які імкнецца ўзяць на сябе адказныя абавязкі ў сістэме адукацыі і выхавання, павінен, па меншай меры, праявіць сумленне і сам у сябе спытаць: ці гатоў я спрыяць адраджэнню і станаўленню беларускай нацыянальнай вышэйшай школы; ці буду я генератарам, а не тормазам у пераводзе выкладання на беларускую мову, у адраджэнні беларускай нацыі? Мы павінны рашуча выказацца супраць пануючай пазіцыі паэтапнага, эвалюцыйнага вяртання роднай мовы беларусам. Адбіралі ж родную мову ў беларусаў не эвалюцыйна! Адкуль жа ў многіх такі страх да рашучых дзеянняў і заклікі да памяркоўнасці (чытай: абыякавасці)? Худчэй за ўсе - ад уздзеяння старых, заскарузлых светапоглядаў. Такія чыноўнікі памяркоўнікі знешне згаджаюцца на паэтапны перавод на беларускую мову спачатку дзіцячых устаноў, а потым - школы. Пры гэтым Вышэйшую школу, праўдамі і няпраўдамі, заклікаюць пакуль што не чапаць. Яны, пэўна, цешаць сябе надзеяй на вяртанне былых імперскіх часоў, калі ўсё нацыянальнае вымяталася дачыста. З такім падыходам, безумоўна, надзённых праблем мы не вырашым. Але ж ёсць, на наш погляд, выхад: неабходна ва ўсіх сферах выхавання і навучання пачаць неадкладна, мэтанакіравана ствараць беларускамоўнае інфармацыйнае асяроддзе.

Праўда, на сённяшні дзень у гэтым лёсавырашальным працэсе няма сістэмы, а пануе стыхія, якая вядзецца энтузіястамі, шчырымі і апантанымі адраджэнцамі. Радасці мала, што дзяржаўна-чыноўніцкія структуры адкрыта не выступаюць супрацьь перабудовы сістэмы адукацыі. Патрэбны канкрэтныя актыўныя дзеянні з іх боку, каб выканаць свой канстытуцыйны абавязак. А так? - вунь што атрымоўваецца: у адных раёнах ёсць бела-

рускамоўныя дашкольныя ўстановы, але няма беларускіх першых класаў у бліжэйшых школах, у другіх - наадварот - ёсць беларускія школы, але няма беларускамоўных дашкольных устаноў.

Зрухаў і ў вышэйшай школе амаль што нябачна. Да гэтага часу няма нават мэтанакіраванай дзяржаўнай праграмы па рэальнаму пераводу працэса адукацыі і выхавання на дзяржаўную беларускую мову: дзе ж тыя пастановы Урада, ці адпаведныя загады Міністэрства, у якіх былі б вызначаны дакладныя тэрміны пераводу навучання на дзяржаўную мову? А, між тым, набліжаецца прыход у ВНУ выпускнікоў сярэдніх школ, дзе выкладанне прадметаў вялося на беларускай мове. Гэта - маладыя людзі з высокай нацыянальнай свядомасцю, і яны запатрабуюць выканання свайго канстытуцыйнага права - прадаўжэння навучання ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах на роднай мове. Нажаль, вышэйшая школа, як бачна, пакуль што не спяшаецца выкідваць на сметнік састарэлую коўдру антыбеларускасці. Сярод выкладчыкаў і асабліва кіроўнага корпуса ВНУ пануе крытычна небяспечная антыбеларуская настроенасць. Таму і не дзіўна, што ўдзельная вага выкладчыкаў карэннай нацыі даведзена да мізэрна недапушчальнага ўзроўню. Ёсць ВНУ, дзе на пасадах ад рэктара да загадчыка кафедры няма аніводнага беларуса. Мы не супраць таленавітых людзей іншых нацыянальнасцей. Але ж ці можна ўявіць сабе такую ж сітуацыю, скажам, у ВНУ Масквы, Берліна ці Тэль-Авіва? Вядома ж - не.

Вось і беларусы патрабуюць не больш за іншых, бо адказна ўяўляюць трагічны стан беларускай мовы і хочуць жыць, як цывілізаваныя людзі. Таму ўсе адмоўныя з'явы, якія замаруджваюць наша нацыянальнае Адраджэнне, трэба цывілізавана выпраўляць. Само сабой зразумела - неадкладна.

Пры абранні на пасады кіраўнікоў ВНУ, факультэтаў, кафедраў у якасці асноўных крытэрыяў павінна быць здольнасць, падрыхтаванасць спецыяліста і жаданне добрасумленна выконваць палажэнні Законаў Рэспублікі Беларусь "Аб мовах" і "Аб адукацыі". Мэтазгодна аддаваць прыярытэт маладым выкладчыкам, якія маюць адпаведную кваліфікацыю і вызначаліся прынцыповасцю пры выкананні як грамадзянскіх абавязкаў, так і заканадаўства ў галіне адукацыі і рэгулявання моўных працэсаў. Пэўна, і прысваенне навуковых званняў дацэнтаў і прафесараў трэба праводзіць толькі пасля прадстаўлення аўтарскіх тэкстаў лекцый па асноўнай дысцыпліне на беларускай мове. Безумоўна, і пры павышэнне кваліфікацыі выкладчыкаў таксама неабходна скіраваць іх работу на падрыхтоўку канкрэтных вучэбна-метадычных распрацовак на беларускай мове.

Каб выканаць як мае быць Законы "Аб мовах" і "Аб адукацыі" трэба,

на наш погляд, з 1-га верасня 1994 г. на першых курсах пачаць выкладанне ўсіх прадметаў па кожнай спецыяльнасці на беларускай мове. Тады, праз 5-6 гадоў, сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы падрыхтуюць менавіта такіх спецыялістаў, якіх чакае наша грамадства на прадпрыемствах, у арганізацыях і ўстановах Рэспублікі Беларусь.

Гэтаму, канешне, паспрыяе і кампутарызацыя навучальнага працэсу, укараненне новых інфармацыйных тэхналогій. Толькі яны, у беларускай нацыянальнай сістэме адукацыі, павінны быць на дзяржаўнай беларускай мове. Як лічаць спецыялісты, заможна будуць жыць тыя народы, мовай якіх "гавораць" кампутары.

Такім чынам, мы бачым, што жыць і працаваць неабходна дзеля выратавальнага паскоранага і поўнага адраджэння нашай дзяржавы, беларускай нацыі, роднай Бацькаўшчыны. А здзейсніць усё гэта зможам толькі шляхам пераводу ўсёй сістмы адукацыі і выхавання на дзяржаўную беларускую мову.

Старшыня Менскай гарадской рады
Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны
прафесар Мікола Савіцкі.

## Не Савет, а Рада

6 студзеня "Настаўніцкая газета" надрукавала для абмеркавання праект статута Савета дырэктараў школ. Такі грамадскі выканаўчы орган можа, а, галоўнае, павінен многа зрабіць для адраджэння і станаўлення беларускай нацыянальнай школы. Сёння яскрава выявілася роля дырэктара школы ў гэтым працэсе. Выконваючы дзяржаўныя (службовыя) функцыі па выкананні законаў “Аб адукацыі” і “Аб мовах”, дырэктар можа спрыяць, а можа і тармазіць "Адраджэнне беларускай школы як па змесце, так і па духу" (словы Міністра В. Гайсёнка).

У статусе дырэктароў школ неабходна прафесійна карыстацца беларускай тэрміналогіяй у рэчышчы адраджэння беларускай культуры, вяртання да нашай гісторыі. Слова "Савет" неабходна замяніць на вяртанае да ўжытку гістарычнае роднае беларускае слова "Рада". Як гучыць і па форме і па змесце: "Статут Рады дырэктараў школ". Дырэктары радзяцца паміж сабой і радзяць падначаленым, жыхарам горада.

Першы раздзел статута "Задачы Рады" прапаную дапоўніць пунктам:

*“1.Рада дырэктараў адказвае за нацыянальнае Адраджэнне беларускай школы, за выкананне Законаў "Аб мовах" і "Аб адукацыі", "Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных*

*моваў у Беларусі".*

Другі раздзел "Правы Рады" дапоўніць:

*"2.4.Выказваць недавер службовым асобам, дырэктарам школ, настаўнікам, якія тармозяць працэс Адраджэння і станаўлення беларускай нацыянальнай школы".*

Дадатковага юрыдычнага асэнсавання патрабуе палажэнне пректа аб тым, што *"рашэнні агульнага сходу маюць прававую сілу".*

Старшыня Менскай гарадской Рады
ТБМ імя Ф. Скарыны
прафесар Мікола Савіцкі.
1993 год.

## Пракуратура абараняе парушальнікаў закона

У Менску ў снежні 1993 г. праходзіла міжнародная канферэнцыя "Адукацыя 21 стагоддзя". Аргкамітэт прыняў рабочымі мовамі расейскую і ангельскую. Мае просьбы, як удзельніка канферэнцыі, прыняць рабочай мовай і дзяржаўную мову Беларусі - беларускую, былі груба праігнараваны. Падкрэсліваю, што я не выступаў супраць рабочых моў расейскай і ангельскай, а прасіў на роўных прызнаць і беларускую, як гаспадыню ў сваёй хаце, як галоўны падмурак нашай дзяржаўнасці, суверэннасці.

Я звярнуўся з афіцыйным і адкрытым лістом у адпаведныя дзяржаўныя ўстановы, у тым ліку і да генеральнага пракурора Беларусі Васіля Шаладонава. Ад апошняга атрымаў адказ-адпіску начальніка ўпраўлення М. Купрыянава, у якой вуснамі пракурора вымаўляецца і рукой напісана: *"Беларуская мова ў цяперашні час міжнароднай не з'яўляецца. У ходзе канферэнцыі ні Вам, ні іншым удзельнікам не забаранялася выступаць на беларускай мове".*

Дык што ж, шаноўны пракурор, можа і за гэта я павінен Вам дзякаваць? Так кляп не затыкалі, не зацуглівалі, але маю мову-маці зняважылі ў яе роднай хаце - не прызналі роўнай сярод роўных. Пракурор сваю адпіску завяршае так: *“Пракуратура не знаходзіць падстаў для прыняцця па Вашай заяве мер пракурорскага рэагавання".*

Калі пракуратура не рэагуе на такое, то антыбеларускія арганізатары шматлікіх канферэнцый, якія чамусьці ў Беларусі аб'яўляюцца амаль усе міжнароднымі (каб тэзы выдаваць на расейскай мове) будуць і на далей ігнараваць здаровы сэнс і Законы дзяржавы Беларусь. Нагадаем асноўныя зіх:

1. Артыкул 68, частка чатыры Канстытуцыі Беларускай ССР: *"Дзяр-*

*жаўнай мовай Беларускай ССР з'яўляецца беларуская мова"*;

2. Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, артыкул 1 *"... дзяржава ўсталявала дзяржаўнасць беларускай мовы"*, артыкул 9 *"... дзяржава забяспечвае функцыянаванне беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця"*;

3. Закон "Аб адукацыі", артыкул 6 - мовай выхавання і навучання з'яўляецца беларуская мова;

4. Закон "Аб мовах". Як вядома з 1 верасня 1993 г. уведзены ў дзеянне ў поўным аб'ёме артыкулы 27" Мова ў сферы навукі", 28 "Мова ў сферы культуры", 29 "Мова сродкаў масавай інфармацыі".

Дык ці павінна пракуратура кантраляваць выкананнне згаданых законаў?

Старшыня Менскай гарадской Рады
ТБМ імя Ф. Скарыны
прафесар Мікола Савіцкі.

## У абарону роднай мовы

Менская гарадская Рада Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны ўважліва сочыць за работай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. На сваім паседжанні Рада абмеркавала ход дыскусіі па артыкулах аб дзяржаўнасці беларускай мовы і аб дзяржаўнай сімволіцы нашай роднай Беларусі. Мы абураны ходам абмеркавання гэтых артыкулаў.

Горка і прыкра бачыць сярод Народных дэпутатаў Вярхоўнага Савета нашай незалежнай дзяржавы сучасных Мураўёвых і Суворавых. Мы хочам зразумець пазіцыю і матывы тых дэпутатаў, якія імкуцца пазбавіць беларускую нацыю асновы асноў жыццядзейнасці і натуральнага развіцця. Шчыра кажам Вам, што ў здаровым агульначалавечым сэнсе зразумець прыхаваны духоўны генацыд для беларускай нацыі не можам.

Вы часта на трыбуне і каля мікрафонаў гаворыце правільныя словы аб тым, што хочаце пабудовы свабоднай дзяржавы Беларусь, далучэння яе да супольнасці краін свету. І разам з тым хочаце канчаткова пазбавіць беларусаў іх Боскай мовы, якую глумілі каланізатары на працягу 300 апошніх год. Вашай пазіцыі па гэтых пытаннях няма апраўдання, і ні Бог, ні гісторыя Вам не даруюць. Вашы прозвішчы Вы ўласнай рукой сёння пішаце ў гісторыю беларускай нацыі, але якім колерам, з якім знакам? Спадзяёмся на Ваш інтэлект і разважлівасць. Разам з тым, мы патрабуем паважлівага стаўлення да права кажнага народа ствараць, развіваць роднамоўнае інфармацыйнае асяроддзе і жыць у ім. Уявіце сабе, што хтосьці адабраў у японцаў

іх родную японскую мову, альбо ў рускіх іх расейскую мову. Ці маглі б гэтыя народы, як і іншыя, мець тое, што яны маюць, чым здзіўляюць народы іншых краін. Дык чаму ж для беларускага народа некаторыя яго народныя дэпутаты імкнуцца ў Канстытуцыю закласці духоўны генацыд?

Нагадаем, артыкул 68, часткі чацвёртай Канстытуцыі Беларускай ССР (якой мы дагэтуль карыстаемся), і які канстатуе: *"Дзяржаўнай моваі Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі з'яўляецца беларуская мова"*. Не ламіцеся ў адчыненыя дзверы, а перанясіце існую канстытуцыйную норму ў новую Канстытуцыю і паказвайце прыклад яе выканання.

Мы спадзяёмся на Ваш цвярозы Розум і ўдумлівы, адказны падыход пры прыняцці новай Канстытуцыі Беларусі. Упэўнены, што многія з Вас хочуць актыўна ўдзельнічаць не толькі ў прыняцці новай Канстытуцыі, але і надалей браць удзел у палітычным жыцці Рэспублікі Беларусь у бліжэйшыя гады.

30 лістапада 1993 г.

Ад імя Менскай гарадской Рады
Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны
яе старшыня,
прафесар Мікола Савіцкі.

## Удакладненне ці рэформа?

Сёння ў Беларусі амаль поўнасцю адсутнічае беларускамоўнае інфармацыйнае асяроддзе. Сучаснае пакаленне атрымала сямейнае, дашкольнае і школьнае выхаванне і навучанне ў чужародным рэальна існым інфармацыйным асяроддзі. Як вынік, мы адчуваем сябе дыскамфортна ў натуральным беларускамоўным асяроддзі. Напрыклад мяккае беларускае ***Л*** (*плян*, *кляс*) ці ***З*** і ***С*** (*кузьня*, *сьнег*) мы не розумам і прафесійнасцю адмаўляем, а псіхалагічна. Наша вуха з дзяцінства было пазбаўлена натуральнага беларускага моўнага камертона, уласцівага толькі беларускай мове.

Цікава ці ёсць хоць адна сям'я элітнай інтэлігенцыі, якая б жыла ў поўным беларускамоўным бытавым і прафесійным асяроддзі? Калі ёсць, то аб ёй трэба ведаць усёй Беларусі: паказваць па тэлебачанні, пісаць, расказваць. Ці шмат беларускіх пісьменнікаў жывуць поўнасцю ў роднамоўным асяроддзі? У сценах Дома пісьменнікаў трэба добра прыслухацца на якой мове больш гамоняць: на беларускай ці расейскай.

Прафесіяналы беларускай мовы і літаратуры, зыходзячы з рэалій жыцця, таксама не здолелі стварыць у сценах Акадэміі Навук, дзе жыве

акадэмічная навука аб беларускай мове поўнацэннага беларускамоўнага асяроддзя. Для іх натуральная беларуская гаворка, якая не знішчана так званай рэформай правапісу 1933 г., успрымаецца дыскамфортна. Гэта рэальнасць і не віна навукоўцаў Акадэміі навук. Сярод іх ёсць мужныя людзі, якія здолелі выжыць пад прэсам нагляду за "нацдэмамі". Дзеля чого гэта пішацца? А дзеля таго, каб вырашаючы жыццядзейнае пытанне адраджэння беларускай нацыі, вяртання і ўнармавання натутальнай, не перарванай сілай, беларускай мовы беларусам - усе каму не абыякавы лёс роднай беларускай мовы ўлічвалі і гэтыя аб'ектыўныя абставіны, і зыходзілі не толькі з уласнага ўспрымання беларускага слова. Вяртанне да страчанай натуральнай беларускай мовы ні ў якім разе нельга разглядаць як вяртанне некуды назад.

Класічным прыкладам існай моўнай інтэлігентнай недарэчнасці можа быць творча-моўная сітуацыя ў Беларускім акадэмічным тэатры імя Я. Купалы. Аб гэтым шчыра і мужна сказала акторка тэатра Зоя Белахвосцік. Там любяць *"рэпетыцыю пачынаць па-руску, па-руску рабілі эцюды. Тлумачылі проста: маўляў, не можам на нязвыклай, неўжытковай мове свае пачуцці па-акцёрску ... занатаваць, зафіксаваць натуральна. І толькі, перапрашаю, агораўшы вобраз, паступова браліся за аўтарскі тэкст"* (ЛІМ № 37 "З тымі, каго люблю..."). Гледзячы спектаклі, слухаючы актораў у гістарычных сценах слыннага тэатра на штучнай, ненатуральнай беларускай мове, я імкнуўся кожны раз знайсці нейкае апраўданне гэтаму, але дадумацца, уявіць тое, што адкрыла нам Зоя Белахвосцік нармальным мысленнем і з мінімальнымі патрабаваннямі да сябе і да іншага чалавека проста немагчыма. Па-чалавечы цяжка ўявіць творчыя асобы, якія гвалцяць самі свой талент, не паважаюць спажыўцоў свайго таленту. А як зразумець галоўнага і іншых рэжысераў галоўнага нацыянальнага тэтра Беларусі, якія не карыстаюцца беларускай мовай? Гэта трагедыя, што для галоўнага рэжысера тэатра і группы актораў начале з шаноўным Мікалаем Яроменкам беларуская мова на сцэне з'яўляецца толькі тэхнічным сродкая майстэрства, а не асновай творчага жыцця, творчай тэхналогіі. Гэтую недарэчнасць нельга схаваць нават высокім талентам.

Непрыемныя прыклады прыводзяцца дзеля таго, каб Дзяржаўная камісія, разглядаючы ўсе прапановы і парады, рэагавала на іх не праз існы моўны камертон, а ў нейкім сэнсе навукова і гістарычна абстрагавалася ад рэальнай моўнай сітуацыіі на Беларусі. Падзяляю класічную тэзу аб тым, што мова жывая з'ява і развіваецца па сваіх законах. Гэта так, але толькі ў натуральных умовах.

Сучасны стан беларускай мовы поўстагоддзя складваўся, фармаваў-

ся, развіваўся ва ўмовах не натуральных. Падцверджаннем гэтаму з'яўляецца новыя архіўныя звесткі. Прыкладам бальшавіцкага генацыду на Беларусі з'яўляецца пісьмо сакратара ЦК КП(б) Беларусі П. Панамарэнкі таварышу Сталіну 21.11.38 г. (ЛІМ № 41, 1993, "За парадай да "бацькі" Сталіна"). Беларуская мова павінна была першай знікнуць і зліцца "в единую".

Рэальны стан моўнай сітуацыі ў Беларусі і месца беларускай мовы ў жыцці грамадства, у гістарычным працэсе адраджэння нацыі патрабуе смелай, поўнай, а не палавінчатай рэформы беларускага літаратурнага правапісу. Замаруджванне з правядзеннем рэформы правапісу тармозіць працэс адраджэння. Мова народа, дзяржаўная мова з'яўляецца грунтам нацыянальнай палітыкі дзяржавы ў самым глыбокім і шырокім сэнсе. Мова аўтахтоннага народа з'яўляецца першаасновай унутранай і знешняй палітыкі дзяржавы. Партыі, грамадскія арганізацыі і рухі антыбеларускага накірунку гэта добра разумеюць і таму так моцна імкнуцца трымаць цуглі, скіраваныя супраць вяртаньня беларусам беларускай мовы.

Вярнуць беларусам літаратурны правапіс, рэфармаваны на грунце нашых гістарычных каранёў, лепшых здабытках мовазнаўства ўсіх часоў - задача вялікага гістарычнага значэння. Моўная энергія ў беларускага народа захавалася і захоўваецца навечна.

Старшыня Менскай гарадской рады
Таварыства беларускай мовы
імя Ф. Скарыны,
прафесар Мікола Савіцкі.
*Газета “Звязда” № 217 ад 24 лістапада 1993 г.*

## Цярплівасць не рабская, а гераічная

У адным інтэрв'ю старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч заявіў, што *"мы пакуль што толькі ўмоўна існуем як нацыя"*. Хочацца зразумець сказанае, але ні з гістарычнага, ні з навуковага, ні з бытавога ракурсаў не ўспрымаецца гэтая тэза. А яна ж будзе выкарыстана тымі, хто не ўспрымае праблемы адраджэння, суверэннасці, дзяржаўнасці беларусаў.

Агульнавядома, што нацыі існуюць аб'ектыўна, гістарычна. Беларуская нацыя належыць да найбольш старажытных. Наша культура, навука развіваліся самабытным шляхам і зрабілі важкі ўплыў на развіццё культур суседніх народаў, беручы і ад іх усё карыснае.

Можна было б так адчувальна не рэагаваць на прыведзеную тэзу, каб у далейшых адказах мы бачылі канкрэтныя дзеянні нашага ўраду па выспяванні беларускай нацыі, па "пераводзе" яе ад "умоўнага існавання" да рэальна цывілізаванага. На жаль, мы бачым толькі канстатацыю рэзервацыйнага стану аўтахтоннага насельніцтва Беларусі. Тое, што з перыядычных выданняў, якія адтрымліваюць датацыю ўраду, 92 працэнты рускамоўныя і журналісты *"па-руску гавораць і пішуць лепш, чым па беларуску"* вядома ўсім, хто быў ў Беларусі нават праездам. Нас, беларусаў, цікавіць, чаму дзяржава фактычна вядзе антынацыянальную палітыку. Лепшы доказ - згаданыя 92 працэнты. Узнікае лагічнае пытаньне: навошта беларусам такі Урад, які не забяспечвае натуральнае, цывілізаванае развіццё нацыі?

Выданне газет для 10 міліёнаў беларусаў на іх роднай мове, забеспячэнне школьнікаў-беларусаў падручнікамі на роднай мове, наогул стварэнне роднамоўнага, нацыянальнага беларускага асяроддзя ў грамадстве, у сродках масавай інфармацыі для Урада Рэспублікі Беларусь пакуль не вырашальная праблема. Улічваючы гэта, можа, беларусам звярнуцца па дапамогу да супольнасці свету, да ААН па абароне правоў цэлай нацыі ў адпаведнасці з нормамі і законамі разьвіцця цывілізацыі, з Дэкларацыяй аб правах чалавека?

Адраджэнне беларускай нацыі патрабуе адкінуць штампы, якімі надзялілі беларусаў нашы заваёўнікі, якія ўвайшлі ў шырокі ўжытак і не маюць рэальнага сэнсу. На першае месца ставіцца такая рыса беларусаў, як талерантнасць. Так, беларусы цярплівыя, але гэта цярплівасць не рабская, а геранічная: тры стагоддзі нашы заваёўнікі і з захаду, і з усходу праводзілі палітыку па асіміляцыі беларусаў; імкнуліся і працягваюць сёння пераварыць беларуса альбо ў рускага, альбо ў паляка. І вось у гэтых умовах беларус застаўся беларусам. Гэта і ёсць гераізм вышэйшага гатунку. Ганаровымі сведкамі былі ёсць і будуць нашы духоўныя апосталы сярэднявечча і нашага часу. Нагадаем рух моладзі "Талака" за нацыянальнае адраджэнне ў 80-я гады і БНФ "Адраджэньне".

Беларуская талерантнасць - гэта пакуль што не асэнсаваная іншымі народамі форма барацьбы на гінетычным, інтэлектуальным і фізічным узроўнях за сваё выжыванне і захаванне беларускай нацыі. Наша талерантнасць - гэта не рабская цярплівасць, а мужная высакародная цярплівасць у барацьбе на працягу стагоддзяў, *"каб людзьмі звацца"*. Беларус стагоддзямі ідзе па цярністым шляху да сваёй заранычкі - незалежнай, поўнасцю самастойнай дзяржавы, у якой жыццё будзе наша беларускае, як у Расеі - расейскае, у Нямеччыне - нямецкае, у Японіі - японскае. І як мы пабудуем Дзяржаву Беларусь, тады нашу нацыянальную рысу талерант-

насць народы свету будуць вывучаць як беларускі феномен (ёсць жа японскі феномен). А пакуль, беларусы, яднайцеся і талерантна змагайцеся за дасягнення палітычнай і эканамічнай свабоды, самастойнасці, беларускай гістарычнай дзяржаўнасці.

Старшыня Менскай гарадской рады
ТБМ імя Ф. Скарыны;
прафесар Мікола Савіцкі,
1993 год.

## Зварот да грамадскасці Беларусі

Мы, навукоўцы, педагогі і выкладчыкі ВНУ і тэхнікумаў Рэспублікі Беларусь, - удзельнікі Першай нацыянальнай канферэнцыі па праблемах беларускай навуковай тэрміналогі (4-5 траўня 1994 г.) цалкам падтрымліваем Зварот XI з'езда Саюза пісьменнікаў Беларусі да беларускага народа.

Выказваем сваю прафесійную занепакоенасць станам і перспектывамі Адраджэння беларускай нацыянальнай сістэмы выхавання і навучання. Найвялікшую пагрозу мы бачым у дзеяннях пэўных уладных колаў нашай краіны, якія імкнуцца ліквідаваць дзяржаўнасць Беларусі.

Першым крокам гэтай змовы з'яўляецца падпісанне ў Маскве дагавора аб аб'яднанні грашовых сістэмаў Беларусі і Расеі.

Мы асуджаем здраду будаўніцтву суверэннай Рэспублікі Беларусь!

Прынята на заключным пленарным паседжанні

Старшыня Аргкамітэта
Язэп Стапановіч
Старшыня Менскай гарадской рады ТБМ
прафесар Мікола Савіцкі,
г. Менск, Дом настаўніка, 5 траўня 1994 г.

## Зварот да Міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь

Мы, навукоўцы, выкладчыкі сістэмы выхавання і навучання ў ВНУ нашай краіны: удзельнікі Першай нацыянальнай канферэнцыі па праблемах беларускай навуковай тэрміналогіі (4-5 траўня 1994 г.) адзначаем станоўчыя зрухі да адраджэння нацыянальнай сістэмы адукацыі. Агульнавядома, што першыя здабыткі ў гэтай справе дасягнуты ў асноўным дзякуючы

самаахвярнай працы выкладчыкаў-энтузіястаў. Але сёння мы не бачым дакладна акрэсленай і вызначанай скіраванасці як Міністэрства адукацыі, так і кіраўніцтва ВНУ на паспяховае і эфектыўнае выкананне Закона "Аб мовах" у вызначаныя тэрміны і ў поўным аб'ёме, а таксама Закона "Аб адукацыі" і 17 артыкула Канстытуцыі нашай краіны.

Да тае пары, пакуль вышэйшая школа ў дзяржаве Беларусь, не стане беларускамоўнай нельга спадзявацца на паспяховае адраджэнне беларускай нацыі, беларускай культуры, выканання Закона "Аб мовах".

Беларуская нацыянальная культура гістарычна фармавалася шмат у чым як культура адукацыйная. Адукацыя - традыцыйны, выпрабаваны шлях развіцця, а значыць, і адраджэння нашай культуры. Ігнараваць яго - значыць свядома чыніць перашкоды беларускаму нацыянальнаму адраджэнню.

Мы патрабуем ад Вас загадам па Міністэрстве вызначыць канкрэтныя дзеянні як самога Міністэрства, так і ВНУ дзеля рэальнага, мэтанакіраванага пераводу выкладання і выхавання на дзяржаўную беларускую мову. Згодна з Законам "Аб мовах", не пазней 2000 г. усе ВНУ абавязаны зрабіць першыя выпускі спецыялістаў па ўсіх спецыяльнасцях, выхаваных і навучаных у беларускамоўным прафесійным асяроддзі. Прайшло ўжо амаль 4 гады, як прыняты Закон "Аб мовах", а зроблены мізэр. Час патрабуе ад усіх нас канкрэтнай работы і выразна акрэсленай дзяржаўнай пазіцыі ў будаўніцтве Беларускай дзяржавы і аднаго з вызначальных яе падмуркаў - нацыянальнай сістэмы выхавання і навучання.

Прынята на заключным пленарным паседжанні.

Старшыня Аргкамітэта<br>
Язэп Стэпановіч;<br>
Старшыня Менскай гарадской рады ТБМ<br>
прафесар Мікола Савіцкі,<br>
г. Менск, Дом настаўніка, 5 траўня 1994 г.

## Каму верыць?

Старшыня Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб на пытанне "прамой лініі" Івана Тышко з Віцебска: "Калі большасць прадстаўнікоў вышэйшых уладных структур загавораць па-беларуску?", сказаў, што Закон "Аб мовах" выконваецца згодна з тэрмінамі яго ўвядзення і знаходзіцца на кантролі ў Прэзідыуме Вярхоўнага Савета. Хочацца верыць дзяржаўным словам,

шаноўны Старшыня, і бачыць сказанае Вамі ў жыцці. Але ж факты гавораць аб іншым. Нагадаем рэальныя факты, літару і сэнс закона "Аб мовах". Ён прыняты 26 студзеня, а ўведзены ў дзеянне з 1 верасня 1990 г.

Для паступовага ўвядзення артыкулаў Закона ва ўсе сферы грамадскага жыцця ўстаноўлены тэрміны ад 3 да 10-ці гадоў. 1 верасня 1993 г. споўнілася 3 гады з дня ўвядзення ў поўным аб'ёме сямі артыкулаў: 11. Мова дакументаў, 27. Мова ў сферы культуры, 28. Мова сродкаў масавай інфармацыі, 31. Мова аб'яў і паведамленняў, 32. Мова маркіроўкі тавараў, 35. Мова асабовых імёнаў. Скора ўжо споўніцца 4 гады, але ж ніводзін з названых артыкулаў не дзейнічае не толькі ў поўным аб'ёме, а проста сабатуецца чыноўнікамі ўсіх рангаў.

Тэрмін ад 3-х да 5-і гадоў устаноўлены для ўвядзення ў дзеянне артыкулаў 4,7,12 (валоданне дзяржаўнай мовай службовымі асобамі, мова актаў органаў дзяржаўнай улады кіравання, мова з'ездаў, канферэнцый) таксама будзе сарваны, калі не прымяняць законадаўчую і ўладную волю ды адказнасць кіраўнікоў. Бацька адказвае за выхаванне сям'і, а кіраўнікі дзяржавы - за выхаванне нацыі, а ва ўмовах Беларусі і выратаванне яе ад поўнай асіміляцыі і знікнення.

Ну, а як справы ў сферах жыцця для якіх вызначаны тэрмін уводу Закона ў 10 год? Такі ж самы, драматычны. Толькі адзін прыклад. Праз 10 гадоў (у 2000 г.) усе вышэйшыя навучальныя ўстановы, як мінімум, павінны здзейсніць першыя выпускі студэнтаў выхаваных і навучаных у поўным беларускамоўным інфармацыйным асяроддзі. Для гэтага трэба не пазней 1994 -1995 навучальнага года пачаць выкладанне ўсіх прадметаў на ўсіх першых курсах на беларускай мове. Прайшло ж ужо амаль 4 гады, а вышэйшая школа спіць пад рускамоўным панцырам. Разам з тым добра вядома, што без пераводу функцыянавання вышэйшай адукацыі на беларускую мову затармозіцца адраджэнне і сярэдняй школы. Ствараецца свядома ці несвядома інтэлектуальны сацыяльны выбух.

Не выконваецца ў ВНУ і артыкул 6 закона "Аб адукацыі", дзе мовай выхавання і навучання вызначана беларуская мова. Працэс нацыянальнага адраджэння, вяртанне беларусам іх роднай і дзяржаўнай мовы трэба не фармальна трымаць "на кантролі ў Прэзідыуме Вярхоўнага Савета", а тэрмінова прыступіць да канкрэтных дзеянняў, даць ацэнку канкрэтным кіраўнікам, а не хлусіць сабе і шырокаму колу чытачоў. Тады і старшыня Савета Міністраў В. Кебіч не будзе выступаць па тэлебачанні за так званае двумоўе, ігнаруючы 17 артыкул Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Атрымоўваецца: спадар Кебіч парушае Канстытуцыю, спадар Генеральны Пракурор гэтага не заўважае.

Рэальны аналіз ходу выканання Закона дадзены ў дакладзе старшыні камісіі Вярхоўнага Савета па культуры, гісторыі і захаванні гістарычнай спадчыны Ніла Гілевіча, які надрукаваны ў "Народнай газеце". Ацэнка працэсу вяртання беларусам беларускай мовы ў двух старшынь дыяметральна процілеглая. Каму ж павінен верыць масавы чытач?

Старшыня Менскай гарадской Рады
ТБМ імя Ф. Скарыны
прафесар Мікола Савіцкі.

## На пярэдадні 5-х угодкаў Менскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны

Актывісты і ўсе прыхільнікі адраджэння беларускай культуры і яе асновы - беларускай мовы - рыхтуюцца адзначыць 27 чэрвеня 1994 г. юбілей: пятую гадавіну ўтварэння грамадска-культурнай і асветніцкай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Гарадская Рада ў сваёй дзейнасці шырока выкарыстоўвала прафесіяналізм і прыязнае стаўленне да нашых мерапрыемстваў па вяртанні беларусам іх роднага слова старшыні Рады ТБМ Заводскага раёна, намесніка старшыні прафкама МАЗ-а. Найбольш значныя і запамянальныя мерапрыемствы мы правялі разам з раёнай Радай, якую ўзначальвае намеснік старшыні прафкама МАЗ-а Мікола Лавіцкі. Нажаль, не ўсе намечаныя святочна-юбілейныя мерапрыемствы мы зможам правесці.

Адну з трох пасад намесніка старшыні прафкама МАЗ-а прафкам вырашыў скараціць. Гэта з першага погляду ўнутранае пытанне жыцця калектыву, але ж улічваючы страты для арганізацыйнай культурна-асветніцкай работы як у раёне, так і ў горадзе (аб МАЗ-е не можам нічога гаварыць) мы лагічна праявілі цікавасць да матываў скарачэння менавіта пасады намесніка аргавіка па культуры. Удакладнілі наступнае: на сёння ў заводакірауніцтве пры выкананні службовых функцый паўсядзённа карыстаецца дзяржаўнай, беларускай мовай толькі адзін супрацоўнік, менавіта М. Лавіцкі. Яшчэ раз пераканаліся ў тым, што добра ведалі, як многа зрабіў і робіць для адраджэння беларускага слова на аўтазаводзе, дапамагаючы кіраўніцтву завода ў выкананні закона "Аб мовах", спадар Лавіцкі, адзін са старэйшых і вопытных актывістаў прафсаюза.

Мяркуем, што адбылася нейкая недарэчнасць, якая наводзіць на роздум. Важнасць і далікатнасць выканання заканадаўчых актаў аб

беларускай мове вымагае асабліва ўважлівых і адказных adносінаў да дзеяў, якія так ці інакш адсоўваюць лічаныя адзінкі спецыялістаў-прафесіяналаў ад магчымасці актыўна і эфектыўна спрыяць адраджэнню беларускай культуры. Мы далёкія ад думкі выступаць у абарону М. Лавіцкага як асобы, але абараняцца ад наступу на павольнае ажыўленне беларускай мовы, культуры, наш статутны абавязак. Зыходзячы з гэтага, мы звярнуліся да старшыні першаснай суполкі ТБМ завода спадара Дзмітрыева, які сказаў, што скарачэнне менавіта гэтай адзінкі не з'яўляецца нечаканасцю, а пацвярджэннем правадзімай палітыкі наступу на дэмакратыю, націск на свядомых людзей. Ён выказаў слушную думку: адзінае, што яшчэ звязвала свабодныя прафсаюзы з прыадміністрацыйным прафсаюзам - гэта адраджэнне беларускай мовы, а цяпер і гэтую нітачку разарвалі. Выказванне заслугоўвае ўважлівага асэнсоўвання. Ім было выказана неразуменне, як можа "весці" культуру ў наш час чалавек, які сам не валодае беларускай мовай.

А што ж сказаў сам Мікола Лавіцкі? Здзіўляе не столькі скарачэнне пасады па арганізацыйна- і культурна-масавай рабоце, а тое, што сам старшыня ўзяўся весці гэтыя пытанні, не ўспрынімаючы іх па сваім светапоглязе. У мяне з т. Дыбаль ніколі не было адзінства па пытаннях адраджэння беларускай мовы. Напрыклад першы загад-пастанову аб зацверджанні мерапрыемстваў па выкананні Закона "Аб мовах" т. Дыбаль адмовіўся падпісаць, у той час, як дырэкцыя падпісала і выказала падзяку. Ад сябе дадамо, што генеральны дырэктар М. Лаўрыновіч і яго намеснікі В. Жыгала, А. Манькоўскі з'яўляюцца сябрамі Таварыства беларускай мовы. Вядома добрае стаўленне да ТБМ імя Ф. Скарыны тэхнічнага дырэктара Г. Ісаевіча. На заводзе арганізаваны курсы для супрацоўнікаў па вывучэнні беларускай мовы. На гэтым фоне прафкаму, на нашу думку, належыла б знайсці варыянт скарачэння, які б не аслабіў першыя парасткі на МАЗ-е і ў раёне па выкананні Закона "Аб мовах", развіцці культуры.

Закончыў свае разважанні Мікола Лавіцкі так: існыя ўмовы і бачная інфантыльнасць цэхавых прафактывістаў, вымусілі мяне прасіць прафкам пагадзіцца з прапановай старшыні, бо мая барацьба выглядала б, як адстойванне ўласнага месца, за тлусты кавалак заўкамаўскай зарплаты.

Цяпер ім ніхто не будзе дакучаць беларускай мовай, ды і не толькі мовай. Менавіта завяршальныя словы спадара Лавіцкага паклікалі Мінскую гарадскую Раду выступіць у абарону пачаўшагася і незваротнага аб'ектыўнага працэсу адраджэння беларускай мовы, культуры, а не асобы Лавіцкага.

Ён мужны, сумленны, спецыяліст сваёй справы, і абарона яго асобы

(ведаючы яго па сумеснай працы) была б успрынята ім як абраза. Гэтага мы не хочам. Менская гарадская Рада ТБМ імя Ф. Скарыны разлічвае і на далейшае плённая супрацоуніцтва з адміністрацыяй і прафкамам МАЗ-а на ніве адраджэння беларускай мовы і культуры.

Старшыня Менскай гарадской рады
ТБМ імя Ф.Скарыны
прафесар Мікола Савіцкі.
*1994 год.*

**Рэктару БДЭУ Раману Карсеку**

У адпаведнасці з Пастановай Савета Міністрау Беларусі ад 27 жніўня 1992 г. №523 "Аб рэспубліканскай праграме пераходу Рэспублікі Беларусь на прынятую ў міжнароднай практыцы сістэму ўліку і статыстыкі" і дагавора № 93-1018 ад 15 красавіка 1993 г. паміж БЭУ і Дзяржкамстатам Рэспублікі Беларусь калектыў універсітэта прыступіў да падрыхтоўкі падручнікаў і дапаможнікаў. Гэта вельмі добра і своечасова, стасуецца з умацаваннем і станаўленнем нацыянальнай сістэмы вышэйшай адукацыі ў Дзяржаве Беларусь.

Пры гэтым выклікае трывогу тое, што згаданую Дзяржаўную праграму пачалі выконваць без дакладна акрэсленай пазіцыі рэктарата па выкананні Законаў і здаровага прафесійнага сэнсу. У кожнай самастойнай Дзяржаве вучэбны працэс арганізуецца і вядзецца на дзяржаўнай мове, мове карэннай нацыі. Калі мы не памыляемся, толькі адзінкі аўтараў рыхтуюць рукапісы на беларускай мове. Па гэтым пытанні мы ўносілі канкрэтныя прапановы на агульным універсітэцкім сходзе выкладчыкаў у жніўні 1993 г.

Просім Вас у адпаведнасці з Законамі "Аб адукацыі" і "Аб мовах" сфармуляваць і замацаваць загадам рэктара практычныя патрабаванні да аўтараў і рукапісаў - рукапісы павінны прадстаўляцца на беларускай мове. Усім добра вядома, што ў адпаведнасці з Законам "Аб мовах" універсітэт, як мінімум, у адпаведнасці з вызначанымі тэрмінамі ўводу гэтага Закона ў дзеянне павінен у 1999 г. зрабіць першы выпуск эканамістаў, выхаваных і навучаных поўнасцю ў беларускамоўным прафесійным асяроддзі.

Старшыня Менскай гарадской Рады
Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны
прафесар Мікола Савіцкі,
кафедра інфармацыйных тэхналогій.
1 сакавіка 1994 г.

# Свята, але...?

14 сакавіка 1994 года ва ўрачыстай абстаноўцы адзначалася 30 -годдзе Радыётэхнічнага інстытута і яго прадстаўленне ў новай якасці: Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі. Экспанавалася змястоўная выстава дасягненняў калектыва ва ўсіх накірунках яго дзейнасці. Адбыўся вялікі святочны канцэрт.

На ўрачыстым сходзе слаўны калектыў віншавалі 21 прамовец. Выступілі намеснік старшыні Савета Міністраў М. Дзямчук, міністр адукацыі В. Гайсёнак, рэктары ВНУ, кіраўнікі навуковых і прамысловых калектываў. Добра разумею святочнасць неабходнага мерапрыемства, аднак нельга не звярнуць увагу на злабадзённасць у жыцці ВНУ, а менавіта, на ўжыванне беларускай мовы як дзяржаўнай. Нагадаем, што з 1 верасня 1993 г. уведзены ў дзеяння артыкулы 27 " Мова ў сферы навукі", 28 "Мова ў сферы культуры", 29 "Мова сродкаў масавай інфармацыі" закона "Аб мовах". Гэта добра вядома ў сістэме адукацыі. Тым больш выклікаюць здіўленне парушэнні, а дакладней ігнараванні законаў Беларусі і прафесійных абавязкаў некаторых выступоўцаў. Толькі сем прамоўцаў на афіцыйным дзяржаўным мерапрыемстве карысталіся дзяржаўнай беларускай мовай.

Добры прыклад павагі да Законаў, норм культуры, прафесійнай адказнасці паказалі прадстаўнікі ўраду прафесары М. Дзямчук і В. Гайсёнак. Яны выступалі без тэкстаў на добрай беларускай літаратурнай мове. На жаль, рэктар універсітэта прафесар Ільін прачытаў па тэксту даклад не на дзяржаўнай мове. Адкрываў жа ён сход на добрай беларускай мове. Узнікае пытанне: што гэта - палітыка ці выпадковасць. Агульна вядома, што асноўныя прынцыпы навуковай і народнай педагогікі акумуляваны ў шырока ўжываемым выслоўі: "Рабі, як я ".

Неабачлівыя паводзіны гаспадароў свята дазволілі госцю з Масквы на ўрачыстасці зняважліва паставіцца да беларускай мовы, культуры. Намеснік старшыні ВАКа Расеі Міхаіл Расолаў з гонарам агаласіў, што ён беларус, аднак *"в этом зале мне особенно хочется говорить на русском языке, языке Пушкина ..."*. Далей прамоўца сцвярджаў, што толькі расейская мова з'яўляецца элементам культуры, сродкам аб'яднання народаў і пры гэтым ані слова аб ролі і месцы нацыянальнай культуры і яе асновы - мовы ў падрыхтоўцы інжынерных кадраў для дзяржавы Беларусь. Цікава, як бы ўспрыняла ўніверсітэцкая аўдыторыя Масквы, каб рускі з гонарам пачаў сцвярджаць, што беларуская ці нямецкая мова - шлях да культуры, аснова для аб'яднання навук і народаў? Незразумела: гэта было прыватнае ці

афіцыйнае выступленне ад ВАК Расеі? Яно не спрыяе натуральнаму, цывілізаванаму далейшаму развіццю дзвюх суседніх культур, дзяржаў. Мяркую, што павінны быць нейкія межы падкрэсленага плебейства, самапавагі да сябе, да нацыянальнай культуры свайго народа. Шкада, што ніхто з прызідыўма ў прыстойнай, святочнай форме не адвеў палітычную хмару з блакітнага беларускага неба нацыянальнага адраджэння.

Старшыня Менскай гарадской рады
Таварыства беларускай мовы
імя Ф.Скарыны,
прафесар Мікола Савіцкі.

## Ухвала "Вечарыны беларускага слова" Менскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны

11 сакавіка 1994 г. Дом літаратара, Менск

Мы, удзельнікі і прыхільнікі дзяржаўнага слова ў дзяржаве Беларусь, разам са сталічнай Радай ТБМ імя Ф. Скарыны, ухваляем настойлівыя і няўрымслівыя намаганні сяброў Таварыства, рупліўцаў адраджэння беларускага слова, скіраваныя на пашырэнне сфер ужытку мовы карэннай нацыі ва ўсіх галінах грамадскага, культурнага, эканамічнага і палітычнага жыцця роднай сталіцы - горада Менска.

З асаблівай увагай мы сочым за найглыбейшым укараненнем роднай мовы беларусаў у асяроддзе культуры, у дзіцячых садках, школах, у асяроддзі вышэйшых навучальных устаноў. Усё часцей чуюцца ў гарадскім транспарце абвесткі на беларускай мове, ужо можна пачуць родную мову на вуліцах сталіцы, беларуская мова прыжываецца ў паасобных дзяржаўных установах. Як роднай стала для ўсіх яе жыхароу Беларусь, так і беларуская мова, як дзяржаўная, павінна паважацца і ўжывацца на ўзроўні павагі і выканання Канстытуцыі дзяржавы. Ужыванне на службе дзяржаўнай мовы спрые росквіту нацыянальных культур усіх нацыянальных меншасцяў, што жывуць сярод беларусаў, у тым ліку, і рускай. Адной з адзнак культурна выхаванага і законапаслушнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь сёння павінна стаць свабоднае валоданне дзяржаўнай мовай - мовай беларускага народа.

Удзельнікі вечарыны выказваюць унутраннае ўзрушэнне і задаволенасць у сувязі з прыняццем у Канстытуцыі Беларусі артыкула аб статусе дзяржаўнасці беларускай мовы. Беларускі народ праз вякі пранёс

вернасць, не аддаў яе на згубу. Таму прафесійнае валоданне беларускай мовай - яскравая адзнака патрыятызму, вернасці высокім ідэям адраджэння і чалавечай годнасці, імкнення служыць роднай Бацькаўшчыне.

Лічым неабходным праводзіць "Вечарыны беларускага слова" штогод, на прадвесні, якое, мы ўпэўнены, стане прадвеснем духоўнага і культурнага адраджэння і росквіту працавітай і таленавітай нацыі Цэнтральнай Еўропы - беларусаў.

Старшыня Менскай гарадской рады
ТБМ імя Ф. Скарыны,
прафесар Мікола Савіцкі.

## Хлусня

Газэта "Звязда" 28 траўня надрукавала адказы старшыні Вярхоўнага Савета Мечыслава Грыба на пытаньні "прамой лініі". На пытанне Івана Тышко з Віцебска, калі большасць прадстаўнікоў вышэйшых уладных структур загавораць па-беларуску, мы атрымалі адказ, што Закон "Аб мовах" выконваецца згодна з тэрмінамі яго ў вядзення і знаходзіцца на кантролі ў Прэзідыуме Вярхоўнага Савета. Як хочацца верыць вашым дзяржаўным словам, шаноўны Старшыня, і бачыць сказанае вамі у жыцці! Але ж факты гавораць аб іншым. Нельга паверыць, што ў Прэзідыуме не ведаюць аб тэрмінах уводу ў дзеянне асобных артыкулаў і ўсяго закона ў дзеянне, тым больш, што гэтае пытанне нядаўна разглядалася на Прэзідыуме Вярхоўнага Савета.

Да чытача давожу рэальныя факты, літару і сэнс Закона "Аб мовах". Ён прыняты 26 студзеня, а ўведзены ў дзеянне з 1 верасня 1990 г. Для паступовага ўвядзення артыкулаў Закона ва ўсе сферы грамадскага жыцця ўстаноўлены тэрміны ад 3 да 10-ці гадоў.

1 верасня 1993 г. споўнілася 3 гады са дня ўвядзення ў поўным аб'ёме сямі артыкулаў: 11. Мова дакументаў, 27. Мова ў сферы культуры, 28. Мова сродкаў масавай інфармацыі, 31. Мова аб'яў і паведамленняў, 32. Мова маркіроўкі тавараў, 35. Мова асабовых імён. Скора ўжо споўніцца 4 гады, але ж ні водзін з названых артыкулаў не дзейнічае не толькі у поўным аб'ёме, а проста сабатуецца чыноўнікамі ўсіх рангаў.

Тэрмін ад 3-х да 5-і гадоў устаноўлены для ўвядзення ў дзеянне артыкулаў 4,7,12 (валоданне дзяржаўнай мовай службовымі асобамі, мова актаў органаў дзяржаўнай улады кіравання, мова з'ездаў, канферэнцый) таксама будзе сарваны, калі не прымяніць законадаўчую і ўладную волю і адказнасць кіраўнікоў. Бацька адказвае за выхаваньне сям'і, а кіраўнікі

дзяржавы - за выхаванне нацыі, а ва ўмовах Беларусі і выратаванне яе ад поўнай асіміляцыі і знікнення.

Ну, а як справы ў сферах жыцця, для якіх вызначаны тэрмін уводу Закона ў 10 год? Такі ж самы, драматычны. Толькі адзін прыклад. Праз 10 гадоў (у 2000 г.) усе вышэйшыя навучальныя ўстановы, як мінімум, павінны зрабіць першыя выпускі студэнтаў выхаваных і навучаных у поўным беларускамоўным інфармацыйным асяроддзі. Для гэтага трэба не пазней 94 - 95 года пачаць выкладанне ўсіх прадметаў на ўсіх першых курсах на беларускай мове. Прайшло ж ужо амаль 4 гады, а вышэйшая школа спіць пад рускамоўным панцырам. Разам з тым, добра вядома, што без пераводу вышэйшай адукацыі на беларускую мову затармозіцца адраджэнне і сярэдняй школы.

Ствараецца свядома ці несвядама інтэлектуальны сацыяльны выбух. Не выконваецца ў ВНУ і артыкул 6 закона "Аб адукацыі", дзе мовай выхавання і навучання вызначана беларуская мова.

Працэс нацыянальнага адраджэння, вяртанне беларусам іх роднай і дзяржаўнай мовы трэба не фармальна трымаць " на кантролі у Прэзідыуме Вярхоўнага Савета", а тэрмінова прыступіць да канкрэтных дзеянняў, даць ацэнку канкрэтным кіраўнікам, а не хлусіць сабе і шырокаму колу чытачоў. Тады і старшыня Савета Міністраў В. Кебіч не будзе выступаць па тэлебачанні за так званае двухмоўе, ігнаруючы 17 артыкул Канстытуцыі. Атрымоўваецца: спадар Кебіч парушае Канстытуцыю, спадар Генеральны Пракурор не заўважае. Звярніце ўвагу, што адказнасць устаноўленая законам.

Старшыня Менскай гарадской рады
ТБМ імя Ф.Скарыны,
прафесар Мікола Савіцкі.

## Абаронім свае правы

Газета "7 дней " 17 верасня ў рубрыцы "Писатель и время" надрукавала інтэрв'ю М. Чаргінца "Не могу идти против совести". Назва артыкула і фотаздымак пісьменніка ў генеральскай уніформе (генерал-лейтэнант) разлічаны на ўзмацненне натацыйнага тону і зместу.

Чаму ж нас вучыць шаноўны пісьменнік? Жыць па сумленні? Не, Вы сваім аўтарытэтам хочаце пераканаць чытача ў тым, што гвалтоўнае на працягу апошніх 200 год пазбаўлення беларускага этнасу яго роднай, Боскай мовы ёсць быццам бы нормай. Для пісьменніка такая пазіцыя не даравальна. На спецыфічнае пытанне Ірыны Кавалёвай аб тым, які настрой у асяроддзі літаратараў пасля IX з'езду, Вы адказваеце, што "наблюдается

тенденция групповщины, противостояния". І самае дзіўнае, што ў гэтым вінаваты не хто іншы, а адносіны беларускіх пісьменнікаў да дзяржаўнай (беларускай) мовы.

Генерал-пісьменнік пераносіць асабісты духоўны і інтэлектуальны стан, уласную інтэлігентнасць на ўсіх сваіх калег па таленту і ўсіх жыхароў Беларусі. Прызнаўшы свае нежаданне карыстацца беларускай мовай, Вы дазволілі сабе зняважыць, як я мяркую, пісьменнікаў (без указання іх прозвішчаў), якія пішуць на беларускай мове. Мо, Вы гэтага і не хацелі, але змест інтэрв'ю гаворыць аб гэтым. Не мая справа абараняць гонар нацыянальна свядомых пісьменнікаў, я абараняю свой гонар чытача.

Вы, пісьменнік Дзяржавы Беларусь, генерал міліцыі М. Чаргінец, можаце заняць ганаровае месца ў кнізе рэкордаў Гінеса за тое, што пісьменнік, які дзесяцігоддзямі жыве (не ведаю, мо і нарадзіліся тут) у краіне і ганарыцца тым, што не ведае дзяржаўнай мовы (мовы карэннага этнасу). "Назовите мне сегодня неполноценным белорусом из-за незнания языка, я, конечно же обижусь".

Сапраўды ёсць чым ганарыцца?! Такім чынам, Вы не толькі сябра хаўрусу пісменнікаў Беларусі, але яшчэ і грамадзянін беларус. Уявіце, шаноўны пісьменнік, што творца Расеі, Нямеччыны ці іншай краіны з такім гонарам гаворыў бы і друкаваў гэты алагізм? Вас пужае тое, што "писатели лезут в политику", а самі дэманструеце класічны прыклад шавіні-стычнага, манкуртскага палітыканства. Генеральскае Ваша пытанне да калег па таленту: "Ужасаешся: ты же интеллигент, к чему призываеш, к крови?" Я, як адносна пастаянны чытач твораў беларускіх пісьменнікаў, сачу за іх творчым і грамадскім жыццём, але такое чытаю ўпершыню менавіта ў Вашым інтэрв'ю. Вось да чаго можа прывесці, нават творчую асобу, нялюбасць і неўспрынящце мовы, як асновы нацыянальнай культуры, карэннага этнасу дзяржавы, у якой праходзіць Ваша жыццядзейнасць. Лічу гэта Вашай асабістай трагедыяй таму, што я старэйшы па узросце ў свой час вырваўся з манкурства і ніякіх цяжкасцей, апрача духоўнай асалоды і ўзбагачэння не адчуваў.

Грамадзянская і палітычная пазіцыя пісьменніка-генерала грунтуецца на тым, каб "подсказывать найболее правильное направление развития общества", у абразе найбольш кваліфікаваных функцыянераў Урада В. Кебіча, якія працуюць у Кабінеце Міністраў Прэзідэнта, "лизоблюдами", пужаеце паўтарэннем на Беларусі расейскага дзікунства вакол Белага дома ў Маскве, што Вы абараняеце інтарэсы аж "пятой части населения рэспублики".

Вы заяўляеце, што хочаце быць "чистым перед своей совестью".

Гэта добра, але ж вельмі мала. Пісьменнік, на маю думку, як выхавацель чалавечых душаў, у першую чаргу павінен дбаць аб сваім сумленні перад чытачамі. Каму ж выхоўваць, ратаваць беларускі этнас ад поўнай і завершанай асіміляцыі як не пісьменнікам, усім носьбітам таленту? Сумленне - паняцце самага вышэйшага кшталту і ўжываць яго публічна трэба адказна і сціпла, асабліва творчай асобе. Цікава, а ці падтрымалі Вы змест і дух гістарычнага значэння "Зварот 12 з'езду саюза пісменнікаў Беларусі да беларускага народа"? Ці Вы лічыце яго заклікам "к крови"?

Старшыня Менскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны,
прафесар кафедры
інфармацыйных тэхналогій БДЭУ
Мікола Саваіцкі.

## Няўжо і памру ў няволі?

Пражыў ужо 60 гадоў. З самага маленства і да апошніх дзён на працягу ўсяго жыцця цярплю знявагу, абразу ў сябе на Радзіме толькі за тое, што я беларус. Фізічна мяне ніхто не зневажаў, а вось духоўны панцыр ахутвае мяне моцна. 60 гадоў пражыў у духоўнай і інфармацыйнай рэзервацыі. Апошняе слова нясе страшны сэнс, і я не адзін год думаў, ці так гэта, мо эмацыяльна ўспрымаю рэальнае жыццё-быццё ў маёй роднай дзяржаве. Ці памыляюся я? Вось толькі некаторыя мазкі з жыццёвай палітры. У вясновы нядзельны дзень у Заходняй Беларусі, дзесьці ў пяцігадовам узросце з бацькам везлі з лесу галлё на дровы. Мяркую ў той дзень было свята канстытуцыі Польшчы. Паліцыянт на кані сустрэў нас і пачаў лаяцца і біць нагайкай бацьку за тое, што ён не святкуе. Крычаў і патрабаваў: "Муў быдла па-польску". Гэтая жахлівая сцэна не адну ноч на працягу многіх гадоў не давала мне спакою: раз'юшаны конь і нагайка пагражала мне і бацьку.

У савецкі час, як прыйшлі "другія бальшавікі" я баяўся таго, што бацькі вадзілі мяне ў царкву, таго, што я вераючы хрысціянін, што за гэта могуць быць непрыемнасці ў школе. У час вайны (падвойнай акупацыі Беларусі) вучыўся ў беларускай школе пакуль яе не спалілі і не забілі настаўніцу. Сярэднюю школу закончыў, бачачы як яна з кожным годам мэтанакіравана ператваралася ў расейскамоўную. У ВНУ быў пазбаўлены фізічна магчымасці вучыцца на роднай мове. І школа, і ВНУ мяне вучылі і выхоўвалі так, як быццам да 1917 года ў Беларусі амаль нічога не было і толькі пасля 1917 года ўзышло сонца і пачалося райскае жыцце. Ці верыў я гэтаму? Асновай веры, светапогляду з'ўляецца інфармацыя. Я быў

пазбаўлены магчымасці чытаць, а значыць і ведаць глыбокія, змястоўныя гістарычныя карані беларускай дзяржаўнасці, гісторыі і культуры. У мяне не было інфармацыйнага падмурка для здаровага гонару і адчування сябе роўным сярод роўных.

Мае дзеці не мелі фізічнай магчымасці вучыцца на роднай беларускай мове, бо ў Менску не было аніводнай беларускай школы, як няма яе і сёння ў поўным прафесійным і адукацыйна-выхаваўчым сэнсе: назавіце школу, дзе калектыў настаўнікаў і вучняў у сценах школы жыве ў натуральным поўным беларускамоўным асяроддзі? Такога няма!

З мяне здзекаваліся калегі-манкурты па працы: "Аддай сваю Настулю (мая дачушка) ў беларускую школу ў Гайнаўку на Беласточчыне". У той час там існавалі беларускія школы і гімназія. Назавіце краіну, нават тую, якая знаходзіцца пад няволяй, дзе б не было фізічнай магчымасці выхоўваць і вучыць дзетак на мове карэннага этнасу?

У 1988 годзе пачалося трэцяе Адраджэнне беларускай культуры. Дзякуючы асветніцкай дзейнасці БНФ, я, прафесар савецкай сістэмы выхавання і навучання, далучыўся да першакрыніц факталагічнай гісторыі свайго народа. Як ні дзіўна, але факт, толькі ў 1986 г. я падпольна прачытаў ксеракопію кніжкі філосафа Бярдзяева (забароненае прозвішча ў СССР). Я асэнсаваў абмежаванасць навукоўцаў самай "прагрэсіўнай сістэмы адукацыі" і пачаў чытаць тое, што павінен быў чытаць і вывучаць у дзяцінстве і юнацтве.

У 1991 годзе пачаў выкладаць прадмет" Інфарматыка і вылічальная тэхніка" на беларускай мове, але да гэтага два гады кіраўніцтва не дазваляла мне гэта рабіць досыць цывілізаванымі спосабамі. Назавіце мне краіну дзе такое магчыма? Ніхто з калег кафедры пакуль не пачаў выкладанне на беларускай мове. Кіраўніцтва маёй альма-матэр ад рэктара і ніжэй не заўважаюць маёй ініцыятывы, а дакладней ігнаруюць прапановы асобных выкладчыкаў-энтузіястаў па станаўленні беларускай вышэйшай школы як па духу, так і па змесце. Сёння, калі ў новай Канстыўтуцыі Беларусі ўрачыста запісана: *"Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь з'яўляецца беларуская мова"*, - у адпаведнасці з Законам "Аб мовах" з 1 верасня 1993 г. дзяржаўнае справаводства павінна весціся на дзяржаўнай мове, чыноўнікі падкрэсленаабразліва гэта ігнаруюць. Звярнуўся ў камісію па прыватызацыйных чэках "Маёмасць" Ленінскага раёна, і ў мяне грамадзянка Н. Ісакава катэгарычна адмовілася прыняць заяву на беларускай мове. Яна ж адмовілася напісаць на заяве і матывы адмовы. І толькі пад рэзкім пратэстам з майго боку, пасля тэлефонных кансультацый з чыўноўнікамі сказала: "Сделаем в данном случае компромис". З чым кампраміс? Пасля гэтага атрымаў сардэчны

прыступ. У гэтай дзяржаўнай установе на мяне крычалі, што я нацыяналіст, фашыст і ... У якой краіне такое магчыма? Я разумею практычныя цяжкасці некаторых служачых, але ж не сустрэў выпадку, каб дзяржслужбовец папрасіў прабачэнне за сваю неадпаведнасць (уявім службоўца ў Нямеччыне ці Расеі, які на службе не карыстаецца нямецкай ці расейскай мовай !) і ветліва прыняў наведвальніка.

Адсутнічае элементарная павага да Канстытуцыі, Законаў Беларусі і з боку першых і ніжэйшых дзяржаўных асобаў. Пры выкананні дзяржаўных функцый яны не карыстаюцца дзяржаўнай мовай.

Дзе такая недарэчнасць ёсць? Ну, а раз гаспадар не паважае сябе, дык і госці калі-нікалі дазваляюць зневажліва ставіцца да беларускай дзяржавы, яе народа. Толькі адзін прыклад: 24 красавіка 1994 года на урачыстым сходзе і святочным канцэрце, прысвечаным 200-м угодкам Вызвольнага паўстання 1794 г. выступіу пасол Францыі ў Беларусі К. Жаліф. Пасля прывітання на французскай мове перайшоў (чытаў па паперцы) на вельмі дрэнную расейскую мову. Зала з задавальненнем паслухала б і зразумела б тое ж самае прачытанае і па беларуску. Як бы адрэгавалі ўлады і грамадскасць Францыі, каб пасол Нямеччыны ў Францыў на афіцыйным мерапрыемстве выступаў на расейскай мове?

Добры прыклад культуры і палітыкі там жа падала пасол Польшчы ў Беларусі пані Э. Смулэк. Яна выступіла на добрай літаратурнай беларускай мове. Гэта і ёсць прыклад павагі да беларусаў, разумення і падтрымка нашага Адраджэння. Хаця пані Э. Смулэк магла гаварыць і па польску, так як моўных праблем на змястоўным узроўні паміж беларусамі, палякамі, украінцамі, рускімі, славакамі няма.

У якой краіне свету дзяржаўную мову можна пачуць толькі "пад зямлёй"? Толькі ў Менску ў метро. Там абслугоўваюць пасажыраў толькі на беларускай мове. І пакуль невядома ніводнага выпадку, каб хто небудзь адчуў дыскамфорт, ці не даехаў па патрэбным адрасе.

Пры адсутнасці дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі па Адраджэнні і выратаванні беларускай нацыі існуе рэальная пагроза знікнення беларусаў як этнасу. Дык ці памру я вольным у вольнай дзяржаве Беларусь? Я поўнасцю веру ў адраджэнне беларускай нацыі і шчаслівы тым, што маю магчымасць працаваць на дасягненне роўнасці, волі і незалежнасці роднай Беларусі. Асабіста мне, чалавеку сталага ўзрост, дапамог абудзіцца, стаць у шэрагі адраджэнцаў Беларускі Народныў Фронт.

Старшыня Менскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны,<br>прафесар Мікола Савіцкі.

## Разлічваем на здаровы сэнс

Ход дыскусіі ў Вярхоўным Савеце Беларусі па артыкулах праекта Канстытуцыі аб беларускай мове і аб дзяржаўнай сімволіцы выклікае здзіўленне. Горка і прыкра бачыць сярод Народных дэпутатаў Вярхоўнага Савета нашай незалежнай дзяржавы сучасных Мураўёвых і Суворавых. Хочацца зразумець пазіцыю і матывы тых дэпутатаў, якія імкнуцца пазбавіць беларускую нацыю асновы асноў жыццядзейнасці і натуральнага развіцця.

Шчыра кажам Вам, што ў здаровым агульначалавечым сэнсе зразумець прыхаваны духоўны генацыд для беларускай нацыі немагчыма. Вы часта на трыбуне і каля мікрафонаў гаворыце правільныя словы аб тым, што хочаце пабудовы свабоднай дзяржавы Беларусь, далучэння яе да супольнасці краін свету. І разам з тым хочаце канчаткова пазбавіць беларусаў іх Боскай мовы, якую глумілі каланізатары на працягу 300 апошніх год. Вашай пазіцыі па гэтых пытаннях няма апраўдання, і ні Бог, ні гісторыя Вам не даруе. Вашы прозвішчы Вы ўласнай рукой сёння пішаце ў гісторыю беларускай нацыі, але якім колерам, з якім знакам? Спадзяёмся на Ваш інтэлект і разважлівасць. Разам з тым патрабуем паважлівага стаўлення да права кожнага народа ствараць, развіваць роднамоўнае інфармацыйнае асяроддзе і жыць у ім. Уявіце сабе, што хтосьці адабраў у японцаў іх родную японскую мову, ці ў рускіх іх расейскую мову. Ці маглі б гэтыя народы мець тое, што яны маюць, чым здзіўляюць народы і ншых краін. Дык чаму ж для беларускага народа некаторыя яго народныя дэпутаты імкнуцца ў Канстытуцыю закласці духоўны генацыд?

Нагадаем артыкул 68, частка чацвёртая Канстытуцыі Беларускай ССР (якой мы дагэтуль карыстаемся), які канстатуе:

*"Дзяржаўнай мовай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспуб-лікі з'яўляецца беларуская мова"*. Не ламіцеся ў адчыненыя дзверы, а перанясіце існую канстытуцыйную норму ў новую Канстытуцыю і паказвайце прыклад яе выканання.

Спадзяёмся на Ваш цвярозы Розум і ўдумлівы, адказны падыход пры прыняцці новай Канстытуцыі Беларусі. Упэўнены, што многія з Вас хочуць актыўна ўдзельнічаць не толькі ў прыняцці новай Канстытуцыі, але і надалей браць удзел у палітычным жыцці Рэспублікі Беларусь у бліжэйшыя гады.

Старшыня Менскай гарадской рады
Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны,
прафесар Мікола Савіцкі.

# Аб развіцці навуковай тэрміналогіі

***Анатацыя.*** *Выносіцца на абмеркаванне ўзаемазвязаннае кола пытанняў па надзённай і важнай у навуковым і практычным сэнсе праблеме ўдасканалення і развіцця навуковай тэрміналогіі па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы на беларускай мове ва ўмовах увядзення ў дзеянне новай Канстытуцыі Беларусі, законаў "Аб адукацыі" і "Аб мовах". Паказваюцца практычныя вынікі работы аўтара па гэтай праблеме.*

Вучэбна-выхаваўчы працэс сёння ў вышэйшай школе амаль не закрануты ідэяй і духам нацыянальнага адраджэння. Першыя досыць плённыя вынікі і дасягненні асобных выкладчыкаў-самаахвярнікаў заціснуты, удушаюцца пануючым рускамоўным панцырам. Вызваліцца з яго вышэйшай школе Беларусі і ўсёй сістэме адукацыі без мэтаскіраванай, актыўнай дзяржаўнай палітыкі стварэння, аднаўлення беларускай нацыянальнай школы амаль немагчыма. Шэрагу кіраўнікоў адукацыі, на наш погляд, бракуе разумення і хацення адрадзіць беларускую нацыянальную вышэйшую школу. Наадварот, у гэтым асяроддзі мусоліцца антынавуковая, антыпедагагічная тэза: на беларускай мове нельга развіваць навуку і весці падрыхтоўку кадраў.

Яны свядома выступаюць супраць аб'ектыўных законаў развіцця і захавання моўнага ландшафту свету, законаў моўнай экалогіі. Аўтар практычнымі справамі імкнецца разбураць разам з калегамі энтузіястамі з іншых ВНУ штамп аб непрыдатнасці беларускай мовы для развіцця навуковай тэрміналогіі. Тры гады выкладаю прадмет "Інфарматыка і вылічальная тэхніка" на беларускай мове ў эканамічным універсітэце. Падрыхтаваў і выдаў "Руска - беларуска - ангельскі слоўнік па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы", падрыхтаваў да выдання (выйдзе у свет у 1994 г. у выдавецтве "Універсітэтскае") вучэбны дапаможнік "Эканамічная інфарматыка і вылічальная тэхніка" на беларускай мове памерам 16 аркушаў.

Тэарытычная праца і практычны вопыт яскрава пераконваюць у адсутнасці якіх бы там ні было аб'ектыўных, тэарытычных перашкодаў для правядзення навуковых работ і выкладання на беларускай мове. Існуе адна праблема, навязаная нам сілай: аднялі ў беларусаў іх родную мову і нежаданне большай часткі кіраўнікоў іншых нацыянальнасцяў рэальнага адраджэння беларускай нацыі. Пры распрацоўцы тэрміналогіі ўлічваю гістарычныя традыцыі і здабыткі 20 - 30-х гадоў; пошук, аналіз і ўжыванне народных тэрмінаў і замацаванне іх у якасці ўдакладненных тэрмінаў замест

штучных русізмаў, неалагізмаў; патрабаванне да стварэння вузка-спецыяльнай тэрміналагічнай сістэмы; стварэнне асновы банка звестак беларускай тэрміналогіі; максімальна шырокія кансультацыі і сумесная праца з мовазнаўцамі беларускай літаратурнай мовы, якія стаяць на прагрэсіўных навуковых і палітычных пазіцыях. На жаль самаахвярных мовазнаўцаў вельмі бракуе.

Развіваць навуковую тэрміналогію ў наш час з улікам рэальнай сітуацыі неабходна і можна толькі абапіраючыся на маладую навуку, якая атрымала назву моўнай экалогіі. Прадметам гэтай навукі з'яўляецца захаванне, а не звужэнне, моўнай разнастайнаці свету. Асноўныя прынцыпы моўнай экалогіі сфармуляваны В. Гумбальтам: "шляхам разнастайнасці моў непасрэдна абагачаюцца нашы веды пра свет і тое, што пазнаецца намі ў гэтым свеце; адначасова пашыраецца для нас і дыяпазон чалавечага існавання". Эўрыстычная вартасць нацыянальнай мовы і тэрміналогіі, створанай у яе асяроддзі, адкрывае новыя магчымасці ў развіцці навукі. Тэрміналогія па інфарматыцы павінна развівацца на беларускай мове ў дзяржаве Беларусь, а выкарыстанне замежных тэрмінаў - адыгрываць дадатковую ролю. Кожны чалавек павінен глядзець на свет уласнымі вачыма.

Беларуская навуковая тэрміналогія павінна развівацца ад беларускай мовы, абапіраючыся на класічныя прынцыпы тэрмінатворчасці, і не ў якім разе не механічным перакладаннем тэрмінаў з расейскай мовы на беларускую. Беларуская культура мае ўласную агульнанавуковую тэрміналогію. Найважнейшая задача ўсіх, хто мае так ці інакш дачыненне да тэрміналогіі, пазбегнуць шэрага калькаванага перакладу з расейскай мовы (прыклад сучасная казённа-газетная мова, мова тэлебачання).

У пошуку беларускага самабытнага і трапнага тэрміну заслугоўвае ўвагі навукова-метадычная пазіцыя грамадскасці і ўрадаў Францыі і Нямеччыны. Яны пільна сочаць на дзяржаўным узроўні за захаваннем самабытнасці і адметнасці сваіх моваў і абараняюць іх ад англамоўнай экспансіі. Пры распрацоўцы тэрміна вельмі важна абапірацца на мовазнаўчыя навуковыя прынцыпы і заканамернасці развіцця беларускай мовы, ведаць і улічваць асаблівасці беларускага словаўтварэння (глядзіце П. Сцяцко "У мовы - свае законы", ч. Полымя, № 1, 1993). Напрыклад: не *праграміраванне*, а *праграмаванне*; не *камп'ютэр*, а *кампутар*. Трэба захоўваць эстэтычную каштоўнасць тэрміна. Разам з тым, неабходна ўлічваць рэальна існы камертон сучаснай беларускай мовы, скалечанай так званай рэформай правапісу 1933 г. Два пакаленні беларусаў выхаваны і навучаны ў штучным, не натуральным моўным гучанні беларускага слова і таму псіхалагічна не гатовы ўспрыняць натуральнае роднамоўнае гучан-

не. Нягледзячы на тое, што слова *кампутар* на старабеларускай мове - *кампутар*; на грэцкай - *camputar*; на лацінскай - *computare*; на ангельскай - *camputa*, скалечаны камертон беларускага слова русіфікаванай калькай *"камп'ютар"* не хоча прызнаваць эстэтычнае, мілагучнае старабеларускае слова *"кампутар"*.

Тормазам у развіцці беларускай навуковай тэрміналогіі з'яўляецца двухтомны акадэмічны руска-беларускі слоўнік. Для рэдактараў, выхаваных у рускамоўным асяроддзі, ён з'яўляецца пракруставым ложам, забаронай на вяртанне і ўвядзенне любога слова (тэрміна) у натуральнай беларускай мове. Ад гэтага слоўніка трэба як мага хутчэй адмовіцца, але ці здольны калектыў акадэмічнага інстытута мовы заняць пазіцыю ў суладдзі з патрабаваннем часу - вось пытанне? Крыніца беларускай мовы невычарпальная для тэхнічнага словаўтварэння.

Тэрмін павінен быць эстэтычным і мілагучным: ёсць небяспека, што зрусіфікаванасць беларускай мовы і страта натуральнага яе камертона, некаторыя аўтары прымяраюць "вуха" толькі да расейскай мовы. Тут неабходна актыўнае давядзенне да шырокай аўдыторыі навуковых асноў мовазнаўцамі. Спыніць скептытызм і адмоўнае стаўленне да беларускай мовы ў адпаведнай частцы выкладчыкаў, навукоўцаў і пераадолець штучны псіхалагічны бар'ер у рэальна існай сітуацыі магчыма толькі шляхам правядзення цывілізаванай палітыкі ўрада Беларусі.

Гістарычная практыка вяртання амаль страчанай роднай мовы ўсімі народамі, якія прайшлі ці праходзяць гэты трагічны шлях сваей гісторыі, вымагае не зацягваць прынясце правапісу, адпавядаючага законам развіцця моваў наогул і адметнасцей канкрэтнай мовы. На вялікі жаль, адмена рэпрэсіўнай рэформы беларускага правапісу 1933г. зацягваецца, калектыў інстытута мовы акадэміі навук Беларусі, выхаваны і навучаны ў асяроддзі "наркамаўкі", і не хоча вырвацца з яе путаў. Адцягванне на не вызначаны тэрмін вяртання ў натуральнае беларускамоўнае асяроддзе беларускага літаратурнага правапісу стварае перашкоды для плённага развіцця беларускай навуковай тэрміналогіі і ўсяго працэсу нацыянальнага адраджэння беларускай нацыі, яе культуры.

Пакуль што не вырашаны на дзяржаўным узроўні, на першы погляд, дробязныя пытанні: адсутнічае драйвер для апрацоўкі інфармацыі на беларускай мове, не вырашаны пытанні кодавай табліцы. Разам з тым, апошнім часам усё часцей ужываецца навуковы тэзіс: *"Жыць тым нацыям - мовамі якіх загавораць кампутары"*. Беларуская мова настолькі багатая, мае такія глыбокія гістарычныя карані, што ў самым блізкім часе сучасныя

інфармацыйныя тэхналогіі будуць "размаўляць" на ёй.

Мікола Савіцкі
к.э.н.,прафесар, БДЭУ.
28.11.2000 г.

## Жывіце стоячы, мой любімы артыст!

Народны артыст Беларусі Мікалай Яроменка браў, на дзіва, не па ўзросте і прафесіі актыўны ўдзел у палітычнай кампаніі па выбарах Прэзідэнта дзяржавы Беларусь. Актыўнасць і ўзровень кампетэнтнасці чалавека любой прафесіі звяртае на сябе ўвагу і адпаведнае ўспрыманне асобы і яго ідэй. Што ж мы ўбачылі і пачулі з вуснаў майстра тэатральнай сцэны і кінапляцоўкі? Гучаў набіўшы аскоміну лейтматыў: "Без Расеі беларусы загінуць", - і ўсё астатняе вакол вядомай пазіцыі так званага славянскага сабора і саюза афіцэраў.

Мы за дружбу з Расеяй, але на роўных, узаемапажлівых, узаемавыгадных дачыненнях, мы супраць імперскай палітыкі да нас ад каго б яна не сыходзіла. Тэлегледачы ўбачылі самазадаволеную асобу, слухаючы якую ўзнікала пытанне, а ці любіць і ці паважае прамоўца зямлю і культуру народа, ад імя якога носіць ганаровае званне. Мне вельмі цяжка і балюча пісаць тое, што пішу. Я працаваў у Віцебску і ўжо ў тыя часы палюбіў Вас як артыста. Але ісціна даражэй за ўсё, і я павінен прызнацца, што Ваша імперская пазіцыя і патэтычнае з тэлеэкрана: "Я коммунист и умру стоя", - выклікае, мякка кажучы, здзіўленне. Навошта ж так? Прыналежнасць да той ці іншай партыі - гэта асабістая справа чалавека. Жывіце лепш стоячы і дарыце асалоду беларускаму гледачу, спрыяйце яго нацыянальнаму і культурнаму адраджэнню. Памром так, як наканавана лёсам, а не марксісцкай ідэалогіяй.

Але Вы пэўна адчуваеце, што беларускі глядач не хоча быць рабом сваёй гістарычнай імперыі і ўспрымае, адчувае прафесійную фальш Яроменкі-акцёра: Народны артыст Беларусі не ўмее свабодна, прафесійна гаварыць на дзяржаўнай беларускай мове і робіць гэта падкрэслена высокамерна. Успрымаю гэта, як знявагу. Мяркую, што нельга з тэлеэкрана гаварыць з тэлеглядачамі, як з заўзятарамі футболу. Вашы здабыткі на пасадзе старшыні балельшчыкаў футболу Беларусі добра вядомыя.

Вы адчуваеце недарэчнасць сваей пазіцыі і дзеянняў і па-гэтаму шырока прапагандуеце сваю радаслоўную, імкнучыся паказаць Вашу беларускасць і "звышінтэрнацыяналізм". Разам з тым, агульнапрызнана, што важна не нацыянальнае паходжанне, а жыццёвая пазіцыя чалавека,

асабліва для работнікаў культуры, навукі, адным словам - інтэлігентаў.

Давайце разам уявім сітуацыю, у якой-небудзь краіне свету, дзе б артыст нацыянальнага тэатра, у якім працуе ўсё творчае жыццё, не карыстаўся б дзяржаўнай мовай па-за сцэнай? Я добра разумею, што ў гэтым Ваша не віна, а бяда, трагедыя. Мы ўсе жылі па навязаных таталітарным рэжымам правілах гульні. Але ж час змяніўся. Калі да 90-ых гадоў не змаглі жыць у беларускамоўным творчым, прафесійным асяроддзі, дык ужо ж прайшло чатыры гады, як прыняты закон "Аб мовах", а цяпер і 17-ы артыкул Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, у якім замацавана навечна адзіная дзяржаўная беларуская мова.

Вось у гэтых умовах і патрэбен творчы талент і арганізацыйныя здольнасці старшыні тэатральных дзеячоў Беларусі для адраджэння беларускай мовы, культуры і захавання беларускага этнасу на гістарычнай яго зямлі. А што робіце Вы? Так, Вы пішаце ўласнае імя ў сузор'і дзеячоў беларускай культуры, але якім колерам, якім пахам, задумайцеся, калі ласка?

Калі цяжка ўскочыць на прыступку цягніка беларускага Адраджэння, дык хоць не тармазіце ягоны пакутлівы, але няспынны і ўпэўнены рух да стварэння натуральнага беларускамоўнага бытавога і прафесійнага асяроддзя, як у Расеі - рускамоўнае, у Нямеччыне - нямецкае і г.д. Шкада, што Ваша палітычная пазіцыя і неўспрыманне, не на словах, а на справе, правоў беларусаў жыць у асяроддзі сваёй Боскай, роднай мовы і культуры, засланяюць добрыя здабыткі на сцэне тэатра і кіно. Жадаю Вам добрага здароўя і творчых поспехаў на ніве беларускай культуры.

Старшыня Менскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны,<br>прафесар кафедры інфармацыйных тэхналогій БЭУ<br>Мікола Савіцкі,<br>28.11.2000 г.

## Максім Багдановіч - зарука нашай духоўнасці

Нарадзіўся пад Стральцом. Бессмяротная трагедыя М. Багдановіча працягваецца: занядбана беларуская мова народа, існуе нацыянальная раз' яднанасць творчай інтэлігенцыі і нацыянальна свядомых беларусаў, няведанне і бяда ў неразуменні, чым можна і неабходна ганарыцца беларусу; у нашым небе няма сучаснага Бога, які мог бы нас навучыць: Бог пачуе толькі тады, як мы загаворым з Ім на роднай мове. Царква ў Беларусі павінна быць беларускамоўнай. Нас дабраслаўляе бессмяротны дух М. Багдановіча ў барацьбе за адраджэньне Бацькаўшчыны, роднай мовы, беларускай культуры. Яго душа, ягоны боль раствораны на вякі-

вечныя. М. Багдановіч - зарука нашай духоўнасці. Без М. Багдановіча і ўсіх нашых асветнікаў мы, беларусы, у сваім родным нацыянальным доме, выглядаем бяздомкамі.

Сімвал М. Багдановіча вітае над Беларуссю і заклікае да незалежнасці, да духоўнасці, да вятраньня да сваіх гістарычных каранёў, да нашых беларускіх напеваў. Сваім потам і крывёю беларускі народ заваяваў права на незалежнасць дзяржаўную, духоўную. Будзем радавацца і ганарыцца тым, што маем свайго апостала нацыянальнага духу і, узяўшыся разам за рукі, будзем падымацца на крылах нашай нацыянальнай духоўнасці.

М. Багдановіч ёсць чалавек трагічнай долі, але ён - найвядомейшы паэт свету. Ён наймалодшы па ўзросце, але ён - патрыярх нашага нацыянальнага духу. М. Багдановіч ёсць Праметэй беларускага народа, Праметэй ніколі і нікім непакоранай Беларусі. Ён наш духоўны бацька і настаўнік. Увесь сэнс жыцця М. Багдановіча - служэнне адзінай нацыянальнай беларускай ідэі. Ён сумленне беларускага народа. Напалеон марыў перанесці ў Парыж касцёл святой Ганны, а М. Багдановіч перанёс найвышэйшую духоўную ўзнёсласць у паэзію. Паэзія М. Багдановіча заклікае ўкрыжаваную Беларусь падымацца з калень.

Кожны чалавек, кожны народ мае сваю аўру. М. Багдановіч заклікаў і сёння кліча будзіць і ўмацоўваць, ахоўваць у еднасці беларускую аўру. Ён тытан беларускага нацыянальнага духу, узор нацыянальнага інтэлігента. Адышоў ад нас М. Багдановіч маладым. Такі ягоны лёс. Можа, гэта і добра, бо яго месца было б на Калыме, альбо ў Курапатах. М. Багдановіч служыў нашай гістарычнай мэце - Незалежнасці. Жывучы за межамі роднай Беларусі, ён застаўся беларусам духоўна і інтэлектуальна. Запытаемся самі ў сябе, а як пачуваем мы?

Так склаўся лёс, што магілка М. Багдановіча знаходзіцца не на зямлі яго продкаў, а ў Ялце. Нияк няёмка пісаць, але руская культура амаль не датыкнулася да творчасці Багдановіча.

Калі параўнаць народы былой імперыі СССР, то Беларусь знаходзіцца пасярэдзіне гэтай мерзлаты. Дух і талент М. Багдановіча актыўна вызваляе свой народ Беларусі з духоўнага рабства.

Прафесар Мікола Савіцкі.
28.11.2000 г.

**Мой Прэзідэнт**

Самае вялікая і прыкрая непаўнацэннасць чалавека на фоне і ў кантактах з іншым - гэта Яго бязмоўнасць ў роднай мове свайго народа,

якому служыш. З адраджэннем беларускай мовы, дзяржаўнасці з'явілася патрэба і жаданне ведаць гісторыю і культуру свайго народа. Людзі ўспомнілі, нанава даведаліся аб месцы і ролі роднага слова ў развіцці чалавека як асобы. Добрыя здабыткі ў вяртанні беларусам іх боскай, роднай мовы, як асновы асноў культуры і светапогляду вядомыя грамадскасці.

З прыняццем Канстытуцыі ўмацаваліся юрыдычныя і маральныя падставы спадзявацца на паступовае тармажэнне і спыненне забойчага працэсу для беларускага этнасу: поўнай асіміляцыі шляхам русіфікацыі. На вялікі жаль, наш першы Прэзідэнт вельмі небяспечна, мабыць, і не свядома, затармазіў пайшоўшы натуральны працэс вяртання беларусам нашай роднай мовы, а значыць і культуры ў шырокім сэнсе. Без нацыянальнай культуры брама ў клуб сусветнай культуры зачынена.

Хочацца ганарыцца Прэзідэнтам сваей дзяржавы і з гонарам гаварыць - гэта мой Прэзідэнт, як кожны француз у свой час называў Шарля дэ Голя. Аднак толькі ў двух момантах мы бачылі і чулі спадара Лукашэнку сапраўды Прэзідэнтам дзяржавы Беларусь: калі на беларускай мове ён у час інаўгурацыі чытаў тэкст прысягі і даклад у філармоніі на ўрачыстасцях дня Незалежнасці Беларусі.

З якім уздымам, надзеяй, удзячнасцю ўспрынялі Ваш вобраз Прэзідэнта Беларусі. Беларуская мова з Вашых вуснаў, магчыма Вы самі гэтага не адчуваеце, на парадак раскрыла і ўзмацніла Вашу інтэлігентнасць. З Вашых вуснаў беларуская мова гучыць правільна, натуральна, мілагучна.

Каб я быў Прэзідэнтам дзяржавы Беларусь, то перад прыняццем прысягі, паклаўшы руку на Канстытуцыю, папрасіў бы ў народа прабачэння за часовыя цяжкасці ў карыстанні пры выкананні канстытуцыйных абавязкаў мовай карэннага этнасу дзяржавы. Пры гэтым назваў бы тэрмін з якога на службе карыстаўся б дзяржаўнай мовай (гэта намнога прасцей, чым назваць тэрмін запуску вытворчасці на ўсіх прадпрыемствах). Пры гэтым, патрабаваў бы, як Прэзідэнт, ад усіх дзяржаўных структураў і чыноўнікаў выконваць 17 артыкул Канстытуцыі і законы "Аб мовах" і "Аб адукацыі". Такія б словы не затармазілі б, а наадварот паспрыялі б нармальнаму працэсу адраджэння беларускай мовы і культуры.

Будзе крыўдна, і я ўспрыму як асабістую абразу, калі ў кнігу рэкордаў Гінеса будзе ўнесена прозвішча першага Прэзідэнта Беларусі за тое, што ён не карыстаўся на службе мовай карэннага этнасу дзяржавы, а ўжываў толькі яе адзінкавыя словы ў іранічным сэнсе. Не дазволіць гэтай ганебнай акцыі можаце толькі Вы, шаноўны Аляксандр Лукашэнка - першы ўсенародна трыумфальна абраны Прэзідэнт. Сведчу аб гэтым як намеснік Старшыні Менскай гарадской выбарчай Камісіі па абранні першага

Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Што ж патрэбна для пасяховага адраджэння беларускай мовы і культуры? Беларускай культуры для пасяховага адраджэння і развіцця на нацыянальным гістарычным грунце патрэбны добры дрэнаж, як для забалочанага поля. Сёння на кожным кроку сутыкаюцца ў спалучэнні культура і безкультур'е. Такая сітуацыя стрымлівае нацыянальнае адраджэнне. Як сведчыць гістарычны вопыт, без яснай, адкрытай дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі Урада развіцце гэтага працэсу амаль што не магчыма.

Прэзідэнту і Ураду трэба, як і па іншых пытаннях, да канца вызначыць сваю пазіцыю і смела выказваць сваю думку ў адносінах да права і абавязку стварэння дзяржавай умоў для ўсталявання беларускамоўнага інфармацыйнага асяроддзя ў Беларусі. Калі глядзець глыбока і ў перспектыве, то гэта ёсць асноўная, лёсаносная праблема для беларусаў і ўсяго этнасу.

Прэзідэнт і Урад мусяць мець дакладную пазіцыю па двух пытаннях: што больш за ўсё страшней, што больш небяспечна для дзяржавы Беларусь; што ёй перш за ўсё неабходна?

Без выхавання беларускай нацыі на яе гістарычным і культурным грунце Прэзідэнтам і дзяржаўнымі структурамі спадзявацца на эфектыўнае выкананне праграмы выхаду з эканамічнага і маральнага крызісу ёсць блюзнерства. Але ж бацька мусіць клапаціцца і несці адказнасць за выхаванне сям'і, яе духоўнасці, а не толькі дбаць аб смачнай ядзе. Разумны, выхаваны бацька імкнецца схаваць свае недахопы ад дзяцей, вучыць іх усяму лепшаму. Дрэнны той бацька, які не хоча асэнсаваць свае недахопы (што з'яўляецца натуральнай з'явай - няма ідэальных людзей) і імкнецца пры дапамозе дзягі і перніка навязаць і прывіць іх сваім дзецям. Незайздросны лёс у такіх дзяцей.

Выхаваць нацыю ў яе роднамоўным інфармацыйным асяроддзі і правесці яе цераз поле крызісаў ёсць найважнейшая гістарычная задача Прэзідэнта і ўсіх жыхароў Беларусі. А гэта можна зрабіць толькі ўразуменнем месца і ролі роднай мовы для кожнага народа. Між іншым, мы - беларусы - нічога новага, асабліва не робім і не патрабуем. Мы паўтараем аб'ектыўны шлях іншых народаў, якія па розных, незалежных ад іх абставінах, амаль страцілі родную мову, а пасля ўразумення яе ролі для самазахавання адрадзілі яе (іудзеі, чэхі, пакістанцы і інш.).

Нам неабходна як мага хутчэй падтрымаць і развіваць здабыткі па вяртанні беларускай мовы ў школы і амаль з нуля пераводзіць выхаванне і навучанне на беларускай мове ў вышэйшай школе. Рашучыя заданні Прэзідэнта міністру адукацыі ў педагагічным універсітэце павінны быць

скіраваны не на тармажэнне ажыўлення беларускай школы, а на актывізацыю Кабінета міністраў па практычным забеспячэнні здаровага сэнсу і выканання Канстытуцыі, Закона "Аб мовах", да цывілізаванага спынення ганебнага працэсу русіфікацыі і асіміляцыі.

Моладзь і бацькі ўзбуджаны некарэктнымі выказваннямі Прэзідэнта аб ролі і месцы беларускай мовы ў жыцці грамадства. На маю думку, Прэзідэнт павінен супакоіць усе слаі грамадства. Пара ўсім зразумець аксіёму: мова ёсць шкілет нацыянальнай дзяржавы, духоўнасці і моцы нацыі.

Дыктатура палітыкі над культурай, мовай карэннага этнасу дзяржавы амаральна. Не разуменне гэтага ёсць вялікая рызыка падарваць усе шчырыя памкненні і жаданні Прэзідэнта. Таму неабходна актыўна выступаць супраць шавінізму, рэзервацыйнай палітыкі і практычных захадаў ад каго б яны не зыходзілі. Абывацельская ідэалагема, што ва ўмовах эканамічных цяжкасцей не да мовы народа, а галоўнае накарміць народ (але ж людзі - не жывёла) шкодная і небяспечная. Толькі нацыянальнасвядомая, патрыятычна выхаваная нацыя, як сведчыць вопыт іншых народаў, здольная адраджаць і развіваць сваю культуру і авалодваць сучаснымі тэхналогіямі.

Час не церпіць. Паралельна (думаю, перш-наперш) з распрацоўкай і прыняццем праграмы выхаду з зканамічнага крызісу павінна быць распрацавана і пад кантролем і кіраўніцтвам Прэзідэнта актыўна выконвацца праграма выхаду з крызісу культуры, маралі, духоўнасці. Ні аб якім кампрамісе з шавінізмам, імперскай ідэалогіяй не можа быць гаворкі.

Спадзяюся, што Прэзідэнт праз сучасныя сродкі масавай інфармацыі аб'явіць стратэгічны і тактычны лозунг: прапануем і патрабуем выканання праграмы па вяртанні беларусам іх роднай мовы, культуры. Гэтая праграма і дзеі прадыктаваныя не палітычнымі інтарэсамі, а аб'ектыўнымі законамі развіцця нацый і іх культур. Не дапусціць адкату па нацыянальным адраджэнні, па аднаўленні беларускай школы - задача гістарычнага значэння. Час крытычны. Мы не можам дазволіць рэакцыйным сілам выкарыстаць момант эканамічнага крызісу, фактычны стан нацыянальнай свядомасці, адлучэнне беларусаў ад кіроўных пасад для спынення працэсу адраджэння беларускай мовы, культуры з мэтай поўнай іх асіміляцыі.

Роля інтэлігенцыі ў гэтай святой справе вызначальная. Не дазволім змяць сябе ў гэты час, не будзем замыкацца ў кут сваіх асабістых інтарэсаў. Заняць шчырую, культуралагічную сваю пазіцыю, пераадольваючы страх і ўціск зрусіфікаваных чыноўнікаў дапаможа нам шчырасць першага Прэзідэнта.

Дзівакамі выглядаюць шаноўныя ветэраны, якія ўздымаюць

антызаконнае, амаральнае пытанне аб так званым двухмоўі ў Беларусі. Хто выступае супраць беларускай мовы ў дзяржаве Беларусь, той выступае супраць яе незалежнасці, дзяржаўнасці. Двухмоўе - гэта шлях да расейскага аднамоўя, да канчатковай страты беларусамі іх роднай мовы, гэта - смерць нацыі. Добра ведама, што за выключэннем інтэлігенцыі насельніцтва ва ўсіх краінах аднамоўнае ў роднай мове, яно карыстаецца адной мовай. Двухмоўе, як даказана навукай, стрымлівае псіхалагічна-інтэлектуальнае развіццё дзяцей. Вывучэнне замежных моваў ёсць іншае пытанне. Калі, не дай Бог, будзе законам уведзена двухмоўе, то кілбасы больш не стане, але беларусаў у свеце стане менш на 10 мільёнаў. І усё ж жыла, жыве і будзе вечна жыць беларуская мова і яе носьбіт - беларускі народ! Хутчэй за справу!

Старшыня Менскай гарадской рады<br>Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны,<br>прафесар кафедры інфармацыйных тэхналогій<br>Беларускага эканамічнага ўніверсітэта<br>Мікола Савіцкі,<br>2000 год.

## Намесніку Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь прафесару М.І. Дземчуку

У вышэйшай школе, калі не лічыць чыноўніцкую імітацыю, больш менш практычных дзеянняў па паступовым, але мэтанакіраваным і добра спланаваным пераводзе працэсу выхавання і навучання на беларускую мову пакуль што няма. І, бадай, самае страшнае (менавіта страшнае) тое, што паступае інфармацыя аб пачаўшымся адкаце назад ад першых парасткаў нацыянальнага Адраджэння ў вышэйшай школе.

У сувязі з гэтым прашу ВАС і ўношу прапанову ў самы бліжэйшы час прапанаваць міністру Адукацыі прафесару В. Гайсёнку зрабіць неабходныя практычныя дзеянні па выкананні Заканадаўчых Актаў і проста здаровага чалавечага і прафесійнага сэнсу.

На маю думку трэба прааналізаваць і прыняць рашэнне:

**Першае:** Як выкананы рэктарамі ВНУ Загад міністра Адукацыі №171 ад 03.07.92 г. "Аб дадатковых мерах па выкананні Закона "Аб мовах" і Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы" ( сэнс загада: атэстацыя кіраўніцтва на валоданне і прафесійнае карыстанне беларускай мовай ...).

Другое: Трэба тэрмінова выдаць Загад Міністру Адукацыі,а мабыць Пастанаву Савета Міністраў аб пераводзе з 1 верасня 1994 г. навучання ва ўсіх ВНУ на ўсіх першых курсах на беларускую мову з тым, каб не сарваць выканання Закона аб Мовах, гэта значыць, у 2000 годзе зрабіць першы выпуск спецыялістаў выхаваных і навучаных у беларускамоўным прафесійным асяроддзі. Трэба не размовы (яны трэба), а практычныя дзеянні ўладных адказных Асобаў. І гэта так проста і так танна: выдай Загад у адпаведнасці з Законамі і ў адпаведнасці з імі патрабуй яго выканання ад самых адукаваных, самых культурных людзей Дзяржавы. Паспяшацца трэба і таму, каб рэктараты заклалі ў дакументы па прыёме на новы навучальны год змест гэтага загада.

Трэцяе: У значнай частцы навукоўцаў выклікала, мякка кажучы, здіўленне атрыманая "Анкета научного работника для ВАК". Гэта прыклад грубага парушэння і ігнаравання Законаў з боку дзяржаўных службоўцаў высокага рангу. Ёсць інфармацыя аб тым, што падрыхтавана і іншая дакументацыя ВАК Беларусі не ў суладдзі з Законамі і логікай выратавання беларускай нацыі ад поўнай асіміляцыі.

Старшыня Менскай гарадской рады
ТБМ імя Ф. Скарыны,
прафесар Мікола Савіцкі,
2000 год.

## Паразважаем разам

Дзяржаўная камісія па ўдакладненні правапісу беларускай літаратурнай мовы незалежна ад вынікаў яе высілкаў ужо ўвайшла ў гісторыю дзяржаўнага рэгулявання беларускай літаратурнай мовы. Прозвішчы шаноўных сяброў камісіі таксама ўжо зафіксаваны гісторыяй. І вось тут камісіі і кожнаму яе сябру прадастаўлены шчаслівы гістарычны шанец заняць пачэснае месца ў вектары развіцця беларускай літаратурнай мовы, а можа і больш важна: ва ўмацаванні дзяржаўнасці і сапраўднай незалежнасці нашай маці-Радзімы.

Я - не прафесійны мовазнавец, але праблемы вяртання беларусам роднай мовы, якую адабралі нашы заваёўнікі з усходу і захаду, настолькі актуальныя, што дазваляю сабе наступныя разважанні.

У Беларусі поўнасцю адсутнічае беларускамоўнае інфармацыйнае асяроддзе. Сучаснае пакаленне і мы з вамі, шаноўныя сябры камісіі, атрымалі сямейнае, дашкольнае і школьнае выхаванне і навучанне ў чужародным рэальна існым інфармацыйным асяроддзі. Як вынік гэтай

пачварнасці мы адчуваем сябе дыскамфортна ў натуральным беларускамоўным асяроддзі, напрыклад, калі знаходзімся ў асяродку маладых мовазнаўцаў начале з Вінцуком Вячоркам ці інтэлігентаў і не толькі іх, якія захавалі ў эміграціі натуральнасць развіцця беларускай мовы. Напрыклад, мягкае беларускае Л (*плян, кляс*) ці З і С (*кузьня, сьнег*) мы не розумам і прафесійнасцю адмаўляем (калі-нікалі нават са здзекам), а чыста псіхалагічна. Наша вуха з дзяцінства было пазбаўлена натуральнага беларускага моўнага камертона, уласцівага толькі беларускай мове.

Мне не вядома ні адна сям'я элітнай інтэлігенцыі, якая б жыла ў поўным беларускамоўным бытавым і прафесійным асяроддзі. Калі такая сям'я ёсць, то аб ёй трэба ведаць усёй Беларусі: паказваць па тэлебачанні, пісаць, расказваць. Ці шмат беларускіх пісьменнікаў жывуць поўнасцю ў роднамоўным асяроддзі? У сценах Дома пісьменьнікаў трэба добра прыслухацца на якой мове больш ідзе гамонка: на беларускай ці расейскай.

Акадэмічныя прафесіяналы беларускай мовы і літаратуры, зыходзячы з рэалій жыцця, не здолелі стварыць у сценах, дзе жыве акадэмічная навука аб беларускай мове поўнацэннага беларускамоўнага асяроддзя. І для іх натуральная беларуская гаворка, якая не знішчана так званай рэформай правапісу 1933 г., успрымаецца дыскамфортна. Гэта рэальнасць і не віна навукоўцаў Акадэміі навук. Сярод іх ёсць мужныя людзі, якія здолелі выжыць пад прэсам нагляду за "нацдэмамі".

Дзеля чого гэта пішацца? А дзеля таго, каб, вырашаючы жыццёноснае пытанне Адраджэння беларускай нацыі - вяртанне і ўнармаванне натутальнай, не перарванай сілай, беларускай мовы беларусам, шаноўная Дзяржаўная камісія ўлічвала і гэтыя аб'ектыўныя абставіны, і зыходзіла не толькі з уласнага ўспрымання беларускага слова.

Вяртанне да страчанага натуральнага жыцця ні ў якім разе нельга разглядаць як вяртанне некуды назад. Адзін знаёмы трапіу ў турму не па заслужаным учынку на 20 год. Пры выхадзе на волю, свабоду, як ён казаў, фактычна вярнуўся ў сёняшяе жыццё, але ён бачыў сябе вольным, якім ён быў 20 год таму. Ён злучыў перарваную свабоду ў адзінае нармалёвае жыццё.

Класічным прыкладам існай моўнай інтэлігентнай недарэчнасці можа быць творча-моўная сітуацыя ў Беларускім акадэмічным тэатры імя Я. Купалы. Аб гэтым шчыра і мужна сказала акторка тэатра Зоя Белахвосцік. Там любяць *"рэпетыцыю пачынаць па-руску, па-руску рабілі эцюды. Тлумачылі проста: маўляў, не можам на нязвыклай, неўжытковай мове свае пачуцці па-акцёрску ... занатаваць, зафіксаваць натуральна. І толькі, перапрашаю, агораўшы вобраз, паступова браліся за аўтарскі*

*тэкст"* (ЛІМ №37 "З тымі, каго люблю..."). Гледзячы спектаклі, слухаючы актораў у гістарычных сценах слыннага тэатра на штучнай, ненатуральнай беларускай мове, я імкнуўся кожны раз знайсці нейкае апраўданне гэтаму, але дадумацца, уявіць тое, што адкрыла нам Зоя Белахвосцік, нармальным мысленнем і з мінімальнымі патрабаваннямі да сябе і да іншага чалавека проста не магчыма. Па-чалавечы цяжка ўявіць творчыя асобы, якія гвалцяць самі свой талент, не паважаюць спажыўцоў свайго таленту. А як зразумець галоўнага і іншых рэжысёраў галоўнага нацыянальнага тэтра Беларусі, якія не карыстаюцца беларускай мовай? Гэта трагедыя, што для галоўнага рэжысёра тэатра і групы актораў начале з шаноўным Мікалаем Яроменкам беларуская мова на сцэне з'яўляецца толькі тэхнічным сродкам майстэрства, а не асновай творчага жыцця, творчай тэхналогіі. Гэтую недарэчнасць нельга схаваць нават высокім талентам.

Згаданыя прыклады прыводзяцца дзеля таго, каб Дзяржаўная камісія, разглядаючы ўсе прапановы і парады, рэагавала на іх не праз існы моўны камертон, а ў нейкім сэнсе навукова і гістарычна абстрагавалася ад рэальнай моўнай сітуацыіі на Беларусі.

Падзяляю класічную тэзу аб тым, што мова жывая з'ява і развіваецца па сваіх законах. Гэта так, але толькі ў натуральных умовах. Сучасны стан беларускай мовы поўстагоддзя складваўся, фармаваўся, развіваўся ва ўмовах не натуральных. Беларуская мова павінна была першай знікнуць і зліцца "в единую" ў адпаведнасці з палітыкай КПСС.

Сучасны стан моўнай сітуацыі ў Беларусі і месца беларускай мовы ў жыцці грамадства, у гістарычным працэсе Адраджэння нацыі патрабуе смелай, поўнай, а не палавінчатай рэформы беларускага літаратурнага правапісу. Замаруджванне з правядзеннем рэформы правапісу тармозіць працэс Адраджэння. Мова народа, дзяржаўная мова з'яўляецца грунтам нацыянальнай палітыкі дзяржавы ў самым глыбокім і шырокім сэнсе. Партыі, грамадскія арганізацыі і рухі антыбеларускага накірунку гэта добра разумеюць і таму так моцна імкнуцца трымаць цуглі, скіраваныя супраць вяртання беларусам беларускай мовы.

Вярнуць беларусам літаратурны правапіс, удакладнены на грунце нашых гістарычных каранёў, лепшых здабыткаў мовазнаўства ўсіх часоў - задача вялікага гістарычнага значэння. Моўная энергія ў беларускага народа захавалася і захоўваецца навечна.

БДЭУ, кафедра інфарматыкі і
вылічальннай тэхнікі,
прафесар Мікола Савіцкі,
2000 год.

## Нацыянальнай адукацыі патрэбны дзяржаўны падыход

Трагічная рэальнасць: Беларусь стала суверэннай дзяржавай, беларуская мова згодна з Законам аб мовах стала дзяржаўнай, а значная частка гонару нацыі - кіраўнікоў і выкладчыкаў ВНУ адмоўна адносіцца да поўнага пераходу на дзяржаўную мову выхавання і выкладання.

Навукай даказана, а гісторыя развіцця сусветнай культуры пацвердзіла, што недаацэнка нацыянальнай мовы ў адукацыі, тым больш дзяржаўнай, вядзе да маральнага ўпадку грамадства і змяншэння энергіі думкі, што за кожнай мовай стаіць пэўная свая сістэма прыёмаў мыслення.

Адраджэнне і станаўленне беларускамоўнай вышэйшай школы для кіраўніцтва і выкладчыкаў ВНУ - не нейкая абстракцыя, а паўсядзённая рэальнасць. Рэктар, дэкан, загадчык кафедры, выкладчык як асоба з'яўляецца арганізатарам і натхняльнікам перш-найперш свайго ўласнага адраджэння, а затым ад яго (уласнага) - да адраджэння беларускай вышэйшай школы. Мы, супрацоўнікі ВНУ - пачынальнікі стварэння беларускамоўнай вышэйшай школы.

Паставім вельмі простае жыццёвае пытанне: ці ёсць у свеце якаянебудзь нацыя, якая развівае і рэгулюе моўныя працэсы, зыходзячы ў першую чаргу не з інтарэсаў карэннай нацыі, а з інтарэсаў грамадзян нацыянальных меншасцяў? Не, і яшчэ раз не. Мову нацыі развівае і захоўвае яе носьбіт - карэннае насельніцтва дзяржавы.

Ступень асіміляцыі беларусаў дасягнула крытычнага ўзроўню, за якім можа пачацца знікненне беларускай нацыі. Выратаванне магчыма толькі шляхам Адраджэння, якім прайшлі многія народы. Беларусы тут нічога новага не адкрываюць, а толькі паўтараюць гаротны лёс іншых народаў, напрыклад чэхаў, пакістанцаў і інш.

Калі мы будзем адраджаць беларускую вышэйшую школу з улікам гістарычных імперскіх інтарэсаў іншых нацый, то не быць беларускай школе ні па духу, ні па змесце. Але ж грамадскасць ведае (гэта ўпершыню было надрукавана ў "Настаўніцкая газета" 4.03.92 г.) з вуснаў Міністра адукацыі Беларусі, што *"ў нас адсутнічае нацыянальная школа, нацыянальная не толькі па мове, а і па духу, змесце"*. Дык ці лагічна ў гэтых варунках пры Адраджэнні беларускай школы на першае месца ставіць як галоўнае - *"свабоду выбару, свабоду самавызначэння"*?

Свабоду для каго? - для тых, хто ніколі не лічыў Беларусь за самастойную дзяржаву, а беларускі народ за самастойны народ са сваёй мовай, гісторыяй, культурай. На самай справе гутарка ідзе аб свабодзе ад абавязкаў паважаць правы беларусаў пабудаваць незалежную Дзяржаву на сваёй

Бацькаўшчыне і жыць у роднамоўным інфармацыйным асяроддзі. Тыя, хто нас асіміляваў мелі і маюць свабоду выбару дужэйшага і яны вызначыліся, што для іх беларуская мова не патрэбная. У іх свае нацыянальныя інтарэсы, гэта натуральна, але яны не супадаюць з нацыянальнымі інтарэсамі беларусаў. Мо, хопіць танцаваць пад чужую мелодыю і не свой танец?

Навошта ствараць "тэарытычныя" праблемы пры вырашэнні пытання аб мове ў выхаваўчым і адукацыйным працэсе? Чаму для беларусаў павінны існаваць нейкія ўнікальныя ўмовы, а не агульнапрынятыя, натуральныя: кожны народ у сваёй Бацькаўшчыне мае права, а дзяржава абавязана забеспечыць выхаванне і навучанне асобы на роднай мове. Стварэнне беларускамоўнага інфармацыйнага асяроддзя ў поўным аб'ёме жыццядзейнасці насельніцтва на тэрыторыі Беларусі - галоўны канстытуцыйны абавязак усіх дзяржаўных структур.

Чалавечы розум можа ўсе абгрунтаваць, нават не жаданне нейкай часткі рэктараў пры выкананні службовых і прафесійных абавязкаў карыстацца беларускай моваі у поўным аб'ёме, а зводзіць яе да дэкарацыі пры адкрыцці паседжанняў, урачыстых сходаў. Мне цяжка ўявіць навукоўца (рэктар, дэкан, загадчык кафедры, прафесар, дацэнт), які не здольны пры жаданні і ўнутранай інтэлектуальнай патрэбе за год, ну, максімум за два гады паставіць курс лекцый і астатні комплекс вучэбна-выхаваўчага працэсу на беларускай мове.

А прайшло ўжо 3 гады з моманту прыняцця Закона "Аб мовах" і год - Закона "Аб адукацыі". Сам быў, "як усе", поўнасцю "рускамоўным". Спатрэбілася каля году на канцы шостага дзесятка жыцця, каб у поўным аб'ёме выкладаць інфарматыку і вылічальную тэхніку на беларускай мове.

Перакананы, што мова - гэта аснова нацыянальнай палітыкі дзяржавы. І любыя навуковыя абгрунтаванні моўнай сітуацыі ў Беларусі не на карысць натуральнага адраджэння беларускай мовы, беларускай школы - гэта палітыка мэтанакіраваная: для адных - адцягнуць час, мо ўсё вернецца, як было, для другіх - вялікая палітыка з 300-гадовай гісторыяй.

Адказным супрацоўнікам Міністэрства адукацыі зроблена вельмі важнае афіцыйнае прызнанне, што *"кіраўнікі ВНУ яшчэ не сталі размаўляць на дзяржаўнай мове"*. Зрабіўшы гэта прызнанне і разумеючы недарэчнасць сітуацыі, далей зроблена спроба апраўдаць гэтую ненармальнасць тым, што *"для актыўнага валодання мовай патрэбна бесперапынная практыка"* і для гэтага дастаткова карыстацца дзяржаўнай мовай *"на нарадах, паседжанях, канферэнцыях і г.д."*. Што тычыцца бесперапыннай практыкі, дык ужо тры гады рзктары ў адпаведнасці са згаданымі Законамі павінны былі практыкавацца. А, мо, ім хто-небудзь забараняў?

Не зразумела таксама, як рэктар можа выступаць у дыскусіях на канферэнцыях на дзяржаўнай мове, калі ён ёю не валодае? Пэўна маецца на ўвазе здольнасць сказаць некалькі сказаў пры адкрыцці канферэнцыі, Рады.

Гістарычны момант патрабуе з боку Урада і Міністэрства адукацыі адэкватных падыходаў пры прызначэнні асобаў на пасады рэктараў. Жыццё паказвае, што як мага хутчэй неабходна правесці атэстацыю рэктараў усіх ВНУ. Пасады рэктараў маюць права займаць навукоўцы, якія здольны не толькі на працягу 2-3 год закласці арганізацыйна-метадычныя і навуковыя асновы беларускай вышэйшай школы, але і актыўна ўплываць і спрыяць развіццю ўсёй сістэмы выхавання і навучання ў Рэспубліцы Беларусь. Рэктараў у сучасных умовах трэба прызначаць, а не выбіраць.

Прасцей сказаць, што гэта экстрэмізм, альбо параўнаць з прыёмамі мінулых часоў, але ж адвяргаючы ці не заўважаючы наш натуральны падыход, мы свядома ці несвядома прызнаем у нечым сваю непаўнавартаснасць у параўнанні з калегамі з Расеі, Нямеччыны, Ізраіля. Ці мае права на жыццё пытанне аб тым, ці павінен рэктар у Тэль-Авіве прафесійна валодаць ідзіш (іўрыт), у Маскве - рускай, у Берліне - нямецкай мовамі?

Аб атэстацыі. Для таго, каб усе маладыя, таленавітыя навукоўцы-выкладчыкі праз 1-2 гады выкладалі свае прадметы на беларускай мове, дастаткова маленькая дробязь, якая не каштуе ні граша з боку Урада і Міністэрства адукацыі - уключыць у палажэнне аб прысваенні навуковых званняў дацэнта і прафесара толькі адзін дадатковы пункт: *"Прэтэндэнт павінен прадставіць літаратурны тэкст курса лекцый на беларускай мове"*. Гэтым самым будзе закладзены падмурак для выдання дапаможнікаў, падручнікаў, курсаў лекцый на дзяржаўнай мове. Агульнавядома, як узрастае навукова-медадычная актыўнасць выкладчыкаў перад атрыманнем навуковых званняў. Накіраваць яе ў рэчышча стварэння беларускай вышэйшай школы - задача дзяржаўных структур.

Прафесар Мікола Савіцкі,
2000 г.

## Змены і дапаўненні ў закон "Аб адукацыі"

Заўвагі і прапановы на "Праект закона Рэспублікі Беларусь "Об образовании в Республике Беларусь". Азнаямленне з праектам закона, які падаецца як *"унясенні змен і дапаўненняў у закон"*, паказвае што па закладзенай канцэпцыі гэта ніякія не змены і не дапаўненні. Чорным па беламу напісана, што *"праект вызначае прынцыпы дзяржаўнай палітыкі ў сферы адукацыі, ... вызначае асноўныя правы і абавязкі ўдзельнікаў адукацыйнага працэсу"*. Дык якая ж палітыка сучаснага кіраўніцтва Беларусі і якія правы карэннага этнасу - беларусаў на атрыманне адукацыі ў роднай мове?

Палітыка і так званая канцэпцыя, змест і дух "проекта" скіраваны на фарсіраванае завяршэнне поўнай асіміляцыі беларусаў. Па гэтым праекце баларусы павінны стаць родна-бязмоўнымі рабамі "русского языка", рабамі Расеі. Між іншым, шаноўны чытач, ці сустракалі вы рускага чалавека, не камандзіровачнага з Расеі, а які нарадзіўся ў Беларусі і які прыняў мову беларусаў, перайшоў у беларускамоўнае асяроддзе і пагардліва ставіцца да роднай яму рускай мовы і культуры? Я такога не сустрэў. А каб сустрэў, я б яго не паважаў. Дык чаму ж беларусы павінны паважаць людзей, хто паважае толькі сябе і не паважае нас? Дзе ж тут тая роўнасць?

Абмяркоўваны праект у руках сучаснай улады ёсць інтэлектуальны Чарнобыль, які хочуць узарваць не толькі над усёй тэрыторыяй Беларусі, але ў глабальным маштабе. Дух і сэнс праекта скіраваны на поўнае завяршэнне знішчэння рэшткаў беларускамоўнай сістэмы выхавання і навучання.

Базавае паняцце "адукацыя" ў праекце закона (арт. 2) падаецца ў паняццях нейкіх абстракцый, як *"сацыяльна арганізаваны працэс навучання і выхавання"* без арыентацыі на канкрэтны аб'ект гэтага працэсу - асобу. Наогул у праекце паняцце *"асоба"* адсутнічае.

А што ў аналагічным законе Расеі? Там у цэнтры адукацыйны-

выхаваўчага працэсу пастаўлена асоба. *"Пад адукацыяй разумеецца мэтанакіраваны працэс навучання і выхавання ў інтарэсах асобы, грамадства, дзяржавы"*.

Параўнаем палажэнні двух законаў аб мовах навучання і выхавання. У беларускім праекце грамадзянам дэкларуецца права на выбар мовы навучання і выхавання і то з агаворкай: *"...у межах магчымасцей, прадстаўленых сістэмай адукацыі"*. Якая ў нас сістэма і магчымасці пры ўладных асімілятарах добра вядома па статыстычных дадзеных.

У расейскім законе адназначна гарантуецца права на атрыманне адукацыі на роднай мове. Грамадзяне Расейскай Федэрацыі маюць права на атрыманне адукацыі на роднай мове, а таксама на выбар мовы навучання. Правы грамадзян на атрыманне адукацыі на роднай мове забяспечваюцца стварэннем неабходнай колькасці адпаведных адукацыйных установў, класаў, груп, а таксама ўмоў для іх функцыянавання *(арт. 6, п.2)*.

Дзяржава ў адпаведнасці з міжнароднымі дамовамі і пагадненнямі аказвае садзейнічанне ў атрыманні адукацыі на роднай мове прадстаўнікам народаў Расейскай Федэрацыі, якія жывуць паза яе тэрыторыі *(арт. 6, п.4)*.

Пытанне вывучэння дзяржаўных моў рэспублік у складзе Расейскай Федэрацыі рэгулюецца заканадаўствам гэтых рэспублік *(арт. 6 п.6)*.

Дзяржава аказвае дапамогу ў падрыхтоўцы спецыялістаў для здзяйснення адукацыйнага працэсу на мовах народаў Расейскай Федэрацыі, якія не маюць сваёй дзяржаўнасці *(арт. 6, п. 7)*.

Слова да распрацоўшчыкаў "беларускага" праекта: вы ж закон Расеі, як і іншых краін выкарыстоўвалі? Чаму ж вы ўзялі не прагрэсіўныя, цывілізаваныя нормы, а толькі тое, што працуе на выкананне і здзяйсненне інтэлектуальнага злачынства? Праект унёс А. Лукашэнка, але ж распрацоўвалі яго спецыялісты. Як жа трэба страціць пачуццё адказнасці інтэлігента, юрыста-законатворца, педагога, настаўніка, маці, бацькі, бабулі, дзядулі - каб стварыць праект закона, які будзе сякерай у руках забойцаў беларускага этнасу. Як зразумець гэтую нялюдскасць?

Прафесар Мікола Савіцкі.
14.01.2001 г.

**Даруй нам, Максіме!**

16 снежня 2001 года ў Доме літаратара прайшла вечарына прысвечаная 110-м угодкам народзінаў Максіма Багдановіча. Слова пра Паэта бралі літаратары В. Іпатава, А. Вярцінскі, Э. Акулін, С. Законнікаў, Л.

Дранько-Майсюк. Вершы М. Багдановіча чытала Народная артыстка Беларусі М. Захарэвіч. Гучаў цудоўны голас і аповед В. Скарабагатага пра музыку і паэзію. Перакладчык А. Хадановіч чытаў вершы М. Багдановіча на ўкраінскай мове. Завяршыў вечарыну гурт "Менскі гармонік".

Вечарына праходзіла пры абсалютна голай сцэне: без адзінага слоўца, без партрэта Максіма Багдановіча. Такое я бачыў упершыню ў сваім жыцці на падобных мерапрыемствах. На пустой сцэне ўсю вечарыну сядзеў яе вядовец намеснік старшыні Союза пісьменнікаў Навум Гальпяровіч, што стварала трагічна-камічны выгляд. Чамусьці ні ў творчым слове М. Захарэвіч, ні ў песні Э. Акуліна не прагучала "Пагоня". Няўжо дух нябачнага нячысціка на пустой сцэне стрымаў творцаў глыбокага і прыгожага. Сябры саюза пісьменнікаў, трэба дбаць больш і пра сябе, і пра гледачоў гістарычнай залы Дома літаратара, асабліва пры ўшанаванні такіх асобаў, як Максім Багдановіч.

Прафесар Мікола Савіцкі,
снежань 2001 г.

## Праграма дадатковых мер
### *Рэктару Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта, прафесару Раману Карсеку*
### *Старшыні Рады прафесараў універсітэта, прафесару Віктару Стражаву*

На апошнім паседжанні Рады прафесараў універсітэта яе старшыня звярнуўся да прысутных з просьбай уносіць тэмы для абмеркавання.

Зыходзячы са здаровага сэнсу, норм міжнароднага права, Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, ролі і месца прафесуры як у жыцці ўніверсітэта, так і ў жыцці грамадства і ў адпаведнасці з Пастановай Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь N 48 ад 27.08.2001 г. **"Праграма дадатковых мер па павышэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сферы адукацыі"** (праграма дадаецца на адным аркушы) прапаную разгледзець пытанне: **"Абмеркаванне перспектыўнага плана адкрыцця беларускамоўных плыняў на факультэтах універсітэта і беларускамоўных груп на факультэце да-ВНУ-шнай падрыхтоўкі".**

Прывожу дадатковую, добра вядомую Вам інфармацыю.

Вынікі перапісу насельніцтва 1999 г. засведчылі, што 73.7 % ад усяго

насельніцтва назвалі беларускую мову роднай, у тым ліку назвалі роднай мовай беларускую 85,6 % беларусаў. Параўнайце: габрэі назвалі мову сваёй нацыянальнасці роднай толькі 5,4 % і 17,1 % габрэяў назвалі роднай мовай беларускую; 14,3 % украінцаў назвалі роднай мовай беларускую. Ад усяго насельніцтва 36,7 % размаўляюць па-беларуску дома, у тым ліку 41,3 % беларусаў размаўляюць дома па-беларуску, 3,8 % габрэяў і 4,3 % рускіх размаўляюць дома па-беларуску.

Больш за 20 % насельніцтва Беларусі рускай мовай не валодае.

У Мінскай і Гродзенскай абласцях больш за 50 % усяго насельніцтва размаўляе дома па-беларуску і 30 % не валодае рускай мовай.

Таму поўнае задушэнне беларускамоўнай адукацыі ніякай дэмаграфічнай сітуацыяй ці іншай "аргументацыяй" не можа тлумачыцца. Як кіраўнікі не ўваходзьце ў гісторыю ўніверсітэта сучаснымі мураўёвамі-вешальнікамі. У Вас амаль не засталося часу (Вы выгналі мяне з працы за маю любоў да роднага, беларускага - у бліжэйшы час такі ж лёс чакае саміх Вас), але пры жаданні Вы можаце яшчэ ўпісаць у летапіс універсітэта свае прозвішчы не чорным атрамантам.

**Дадатак:** Ксеракопія "Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі", пастанова Мінадукацыі Рэспублікі Беларусь 27.08.2001 г. N 48.

Прафесар Мікола Савіцкі.

## "Правілы чэшскай сям'і"

У 18-м стагоддзі чэшская мова і нацыянальная культура былі амаль поўнасцю знішчаны. Там панавала ўсё нямецкае. Але ў пачатку наступнага стагоддзя чэшская мова пачынае ажываць, дзякуючы намаганням нацыянальна свядомай часткі народа. Цяпер чэхі - данамічная і жыццяздольная еўрапейская нацыя з агульнапрызнаным узроўнем айчынай культуры.

Таму беларусам варта павучыцца ў чэхаў тым сродкам, якія ў свой час забяспечылі выжыванне і развіццё іх культуры, зрабілі магчымым вызваленне яе з задушлівых абдымкаў магутных суседзяў.

Вось, напрыклад, адзін з такіх "выратавальных кругоў". У цяжкія для чэшскай культуры і мовы часы мараўская суполка "Яднота", якая аб'ядноўвала чэшскую свядомую інтэлігенцыю, аддрукавала тысячы лістоў, якія былі разасланы чэхам. У лістах выкладаліся "Правілы чэшскай сям'і". Яны

складаліся з наступных палажэнняў:

**Кожны чэх павінен імкнуцца добра размаўляць па-чэшску, засцерагацца іншамоўных слоў і зваротаў чужой мовы.**

**Чэшскае дзіця павінна трымацца з чэшскімі дзецьмі і гаварыць заўсёды па-чэшску.**

**Бацькі перад тым, як аддаць дзяцей ў школу, павінны навучыць іх дома чытаць і пісаць па-чэшску.**

**Чэшская дзіця павінна хадзіць у чэшскую школу.**

**Маліцца і спяваць у царкве чэх павінен па-чэшску.**

**Чэшская хата павінна быць прыбрана чэшскімі гістарычнымі малюнкамі і партрэтамі.**

**Чэшскае дзіця павінна вучыцца чэшскім прыказкам, вершам, песням, народным танцам і гульням.**

**У кожнай хаце павінны згадваць, шанаваць і трымацца народных звычаяў, святкаваць угодкі гістарычных падзей у Чэхіі.**

**Падчас доўгіх зімовых вечароў супольна чытаць чэшскія кнігі.**

**У кожнай чэшскай хаце павінна быць чэшская газета.**

**Хатнім багаццем павінна быць бібліятэка чэшскіх кніжак.**

**Чэх павінен добра гаварыць па-чэшску не толькі ў сваёй хаце: хай яго мова звініць на вуліцы, у краме, у горадзе - усюды.**

**Чэшскія сем'і павінны сябраваць паміж сабой.**

**Кожны чэх павінен удзельнічаць у аматарскім чэшскім тэатры ці ў народных святах.**

**Чэх павінен сцерагчыся ўсяго таго, што можа зневажаць яго нацыянальнае пачуццё.**

**Чэх павінен купляць пераважна чэшскія вырабы.**

**Чэшская сям'я павінна моцна трымацца сваёй зямлі, не прадаваць яе ў чужыя рукі.**

**Пазыку браць толькі ў чэшскіх банках.**

**Падас перапісаў насельніцтва ўся сям'я павінна запісацца чэхамі.**

* * *

Безумоўна, што зараз у нас крыху іншыя варункі. Але, на маю думку, **"Правілы чэшскай сям'і"** і сёння з'яўляюцца вельмі надзённымі для беларусаў. Дарэчы, яны ў поўным аб'ёме выкладзены ў кнізе выбранных твораў Ядвігіна Ш., выпушчанай "Мастацкай літаратурай" у 1976 годзе.

Генусь Пушчанскі.

## Аб фармаванні мыслення ў дзяцей беларусаў ва ўмовах білінгвізму

Навукай і педагагічнай практыкай даказана, што дыялектычнае мысленне праходзіць праз пэўныя ступені свайго развіцця адпаведна ўзросту. Адмоўныя, а дакладней, шкодныя вынікі дзяржаўная беларуская педагогіка мае пры імкненні вучыць дзетак у дашкольных установах і пачатковай школе ў так званым двухмоўі. Гэта методыка тармозіць разумовае развіццё дзіцяці таму, што яна парушае здзяйсненне натуральнага, паступальнага развіцця логікі мыслення.

Яшчэ педагогіка старажытнай Грэцыі стварыла тэорыю, згодна з якой дзіця ад пачатку свайго жыцця пад сэрцам маці і да 13 год павінна абавязкова чуць родную мову, выхоўвацца ў ёй. Калі гэты натуральна-гістарычны, этнічна-боскі прынцып па нейкіх знешніх абставінах парушаецца, то закладзены прыродай (маці, Богам) талент, ці ў шырокім сэнсе здольнасці чалавека не разаўюцца. Напрыклад, дзіця нарадзілася з патэнцыялам талента паэта, але калі яно будзе выхоўвацца не ў этнічнай, роднай мове, то таленавітага паэта чалавецтва не атрымае. У лепшым выпадку будзе паэт сярэдняй рукі. Падцверджаннем гэтай педагагічнай тэорыі з'яўляецца Таварыства пісьменнікаў Беларусі: за ўсю гісторыю СССР і гады незалежнасці Беларусі з асяроддзя "русскоязычных" беларусаў на літаратурным алімпе не было і няма таленавітага творцы.

Тэорыю педагогікі старажытнай Грэцыі падтрымала і развівала класічная руская дарэвалюцыйная педагогіка начале з вялікім педагогам-дэмакратам Ушынскім К.Д. Ён выступаў за ўсеагульнае абавязковае выхаванне і навучанне дзяцей на роднай мове, у якой **"... одухотворяется весь народ и вся его родина"** (Собр. соч., т. 2, 1948, с. 557). Гэтую педагагічную канцэпцыю падтрымлівае і развівае заходнееўрапейская педагогіка начале з класікам гуманізму Вільгельмам Гумбальдтам. Родную мову народа ён трактуе як *"формирующий орган мысли"*, якая выражае індывідуальны светапогляд народа і тым самым вызначае ўсе духоўныя адносіны чалавека да навакольнага асяроддзя.

На якіх педагагічных падмурках вядзецца выхаванне і навучанне беларускіх дзетак у Беларусі ў 21-м стагоддзі? Як вядома, дыдактыка дае адказ на пытанні: а) чаму вучыць; б) навошта вучыць; в) як вучыць. Тэхналогія навучання з'яўляецца складовай часткай дыдактыкі. Жыццё апошнія сем гадоў яскрава паказвае, што класічныя асновы сусветнай педагогікі ў Беларусі на дзяржаўным узроўні ігнаруюцца. "Узаконенае"

так званае двухмоўе тармозіць інтэлектуальнае развіццё беларускай нацыі. Інтэлектуальна гінуць новыя Купалы, Багдановічы. Нават замежныя мовы дзеці вывучаюць не з апорай на родную беларускую, а на рускую.

Класічным прыкладам антыпедагагічнасці можа быць кніга для дзяцей "Крынічка" (Мінск, "Юнацтва", 2000). Для развіцця дзяцей яна з'яўляецца духоўным Чарнобылем.

Прафесар Мікола Савіцкі,
2002 г.

## Беларуская мова - аснова развіцця айчынай вышэйшай школы

Дык як жа будзем жыць,
Мой мілы пане-браце?
Ці так, як набяжыць,
Ці - спадарамі ў хаце?
На імпартных мазгах
І завазной маралі,
Ці - з верай, што ў вяках
Для нас дзяды стваралі?

*Ніл Гілевіч.*

Спрадвеку кожная нацыя, як вядома, развівалася шляхам фармавання ўласных толькі ёй асабістых рысаў і няспыннага змагання за сваю дзяржаўнасць, а пасля яе атрымання імкнецца да яе ўдасканалення.

Нам, беларусам, будаваць сваю дзяржаўнасць даводзілася ва ўмовах палітычнай залежнасці ад суседніх краін. Вось чаму сёння ў такі шчаслівы і адказны час, калі адкрыліся небывалыя магчымасці для карэннай перабудовы ўсяго ладу жыцця, мы з радасцю і адказнасцю адраджаем сваю дзяржаву, культуру, уласную гісторыю, родную мову.

Адным з асноўных падмуркаў нацыянальнага адраджэння з'яўляецца, на наш погляд, сістэма выхавання і навучання. Пакуль яна не стане ў поўным аб'ёме беларускай як па мове, так і па духу, нельга разлічваць на поспехі ў падрыхтоўцы нацыянальна свядомых спецыялістаў, а значыць, і на адраджэнне нацыі. Інакш кажучы, без паўнавартаснай нацыянальнай сістэмы адукацыі і выхавання станаўленне дзяржаўнасці, незалежнасці немагчыма.

Родная мова з'яўляецца асновай светапогляду, падмуркам для вывучэння і ўспрымання нацыянальнай культуры і далучэння яе да сусветнай. Такім чынам, толькі праз адукацыю, выхаванне, вяртанне да гістарычна-культурных вытокаў беларускага народа можна абудзіць нацыянальную свядомасць людзей. Да таго красамоўныя, гераічныя і трагічныя факты з гісторыі свайго народа міжволі прымусяць задумацца над тым, хто мы такія, дзе нашы карані, гонар і г.д., словам узнікне не толькі "людзьмі звацца", але і натуральная патрэба шукаць сваё месца ў сузор'і народаў свету, іхняй культуры і гісторыі. На такой глебе, безумоўна, з'явіцца і разаўецца самапавага і гонар за сваю гісторыю і культуру. Але ўсё гэта, як сведчыць гісторыя, магчыма толькі ў роднамоўным асяроддзі. Больш таго, жыццё падцвердзіла аксіёму: калі людзі не карыстаюцца роднамоўнымі сродкамі камунікацыі, не думаюць на роднай мове і не адчуваюць сэрцам і ўнутраным голасам сябе ў сувязі з навакольным асяроддзем, яны не ўспрымаюць, як след глыбока, шчыра, усеахопна праблемы сваёй нацыі, родныя нацыянальныя вытокі жыцця ў суладдзі з гістарычнай ментальнасцю народа.

Таму, зыходзячы з рэальнай сітуацыі у Беларусі, адраджэнне нацыі, выхаванне яе ў адпаведнасці з нормамі агульначалавечага развіцця ў роднамоўным асяродку павінна стаяць на першым месцы ў пераліку прафесійных патрабаванняў да выкладчыкаў сістэмы выхавання і навучання.

Выхавацелі і выкладчыкі працуюць на службе ў дзяржавы і абавязаны карыстацца яе мовай. У адваротным стане гэта будуць не службоўцы. Алагічным з'яўляецца стан, калі выкладчыкі, ці, наогул, інтэлігенты, якія жывуць у роднай краіне, не валодаюць прафесійна сваёй дзяржаўнай мовай.

Такім чынам, валоданне дзяржаўнай мовай - гэта свяшчэнны абавязак кожнага выкладчыка і выхавацеля. Больш таго, працэс навучання і выхавання павінен праводзіцца менавіта ў асяроддзі дзяржаўнай мовы, бо такі канстытуцыйны абавязак усіх педагогаў. Ён замацаваны заканадаўчымі актамі. Артыкул 68 Канстытуцыі Беларускай ССР, частка чацвёртая (якой мы да гэтуль карыстаемся): *"Дзяржаўнай мовай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі з'яўляецца беларуская мова"*. У першым артыкуле Дэкларацыі аб дзяржаўным суверынітэце Беларусі, якой нададзены статус Канстытуцыі таксама запісана: *"...дзяржава ўсталявала дзяржаўнасць беларускай мовы"*, а далей, у дзевятым: *"...дзяржава забяспечвае функцыянаванне беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця"*. Законы "Аб адукацыі" (артыкул 6) і "Аб мовах" зноў жа

абавязваюць нас карыстацца роднай, беларускай мовай. Як сведчаць факты, большасць выкладчыкаў выхаваны па-за нацыянальнай гісторыі і культуры, не на роднай мове. Як вынік - яны не ўспрымаюць дзяржаўную мову як неабходную, абавязковую і, такім чынам, свядома ці не свядома з'яўляюцца асноўным тормазам у выхаванні нацыянальнай свядомасці ў студэнтаў. Значыць, без карэннай пераарыентацыі на новыя метады працы высілкі па пераходзе на беларускую мову навучання і выхавання не прывядуць да стварэння жыццяздольнай нацыянальнай школы.

Прызнаем адкрыта: ВНУ знаходзяцца ў стане моўнай і духоўнай рэзервацыі. Працэс беларускамоўнага навучання і выхавання ідзе, вобразна кажучы, пад жалезным рускамоўным панцырам: пануюць рускамоўныя сродкі масавай інфармацыі і нізкая нацыянальная свядомасць інтэлігенцыі ва ўсіх сферах жыццядзейнасці грамадства. Адбываецца гэта і таму, што наша інтэлігенцыя атрымала сямейнае, грамадскае і дзяржаўнае выхаванне і адукацыю, якія былі скіраваны супраць фармавання нацыянальнай свядомасці. Вось чаму, толькі праз адукацыю, паўсядзённую працу над сабой, праз родную мову можна змяніць светапогляды. Трэба памятаць, што асветніцтвам, выхаваннем нацыі заўсёды займалася інтэлігенцыя - гонар нацыі.

Як не цяжка казаць, але трэба падкрэсліць, што большая частка менавіта нашай інтэлігенцыі - надзеі і генератара Адраджэння, будучыні на самай справе аказалася нігілістычнай, інертнай, і ў нейкім сэнсе нават варожай да нацыянальнага адраджэння. Між іншым, уваходзяць у хвалярэз, аб які ў прыватнасці, спатыкаецца і разбураецца рух за нацыянальнае Адраджэнне ў ВНУ, у вызначальнай меры - гэта рэктараты, дэканаты, загадчыкі кафедраў і іншыя структурныя адзінкі. І бяда яшчэ ў тым, што сярод кіроўных асобаў крытычна нізкі працэнт беларусаў. Як сведчыць практыка, кіроўны корпус у ВНУ ў сваёй аснове, за невялікім выключэннем, не ўспрымае як след Законы “Аб мовах” і “Аб адукацыі”, праблемы нацыянальнага адраджэння. Такі адмоўны, непрымальны ў наш час светапогляд па розных прычынах, адны кіраўнікі не хочуць, а другія не могуць змяніць. Дзе ж выйсце? А яно ёсць і, як паказваюць факты, вельмі простае: на пасады рэктараў, дэканаў, загадчыкаў кафедраў у ВНУ ў такіх неспрыяльных умовах трэба назначаць нацыянальна-сведамых навукоўцаў. Гэтага патрабуе аб'ектыўны працэс адраджэння.

Беларусі, як мага хутчэй, неабходна падрыхтаваць вялікую колькасць высокакваліфікаваных на сусветным узроўні спецыялістаў, якія будуць здольныя развіваць і ўмацоўваць суверынітэт нашай краіны, весці па шляху аднаўлення духоўнае жыццё свайго народа, адраджэнне беларускай нацыянальнай самасвядомасці. Хтосьці з павярхоўным поглядам можа сказаць,

што гаворка ідзе аб нацыяналізме. Толькі гэта не так. У Беларусі бяда не ў нацыяналізме, а хутчэй за ўсё ў тым, што яго ў цывілізаваным разуменні вельмі мала, а падчас і зусім няма.

Важна рэальна ацаніць, ці зможа, ці зацікаўлены спрыяць паспяховаму вырашэнню гэтых гістарычных задач выкладчык, ці не абыякава ставіцца ён да праблемы нацыянальнага адраджэння Беларусі? Гэтае палажэнне мае выключнае значэнне пры вырашэнні пытання аб даручэнні выкладчыкам займаць кіроўныя пасады ў сістэме адукацыі. Кожны педагог, які займае ці імкнецца заняць кіроўную пасаду павінен, па меншай меры, праявіць сумленне і сам у сябе спытаць: ці гатоў я спрыяць адраджэнню і станаўленню беларускай нацыянальнай вышэйшай школы; ці буду я генератарам альбо тормазам у пераводзе выкладання на беларускую мову, у адраджэнні беларускай нацыі?

Мы павінны рашуча выказацца супраць пануючай пазіцыі паэтапнага, эвалюцыйнага вяртання роднай мовы беларусам. Адбіралі ж родную мову ў беларусаў не эвалюцыйна! Адкуль жа ў многіх такі страх да рашучых дзеянняў і заклікі да памяркоўнасці (чытай: абыякавасці)? Такія чыноўнікі знешне згаджаюцца на паэтапны перавод на беларускую мову спачатку дзіцячых устаноў, а потым школы. Пры гэтым вышэйшую школу праўдамі і няпраўдамі заклікаюць пакуль што не чапаць. Яны, пэўна, цешаць сябе надзеяй на вяртанне былых імперскіх часоў, калі ўсё нацыянальнае вымяталася дачыста. З такім падыходам, безумоўна, надзённых праблем мы не вырашым. Ёсць толькі адзіны выхад: актыўна ва ўсіх сферах выхавання і навучання пачаць і працягваць мэтанакіравана ствараць беларускамоўнае інфармацыйнае асяроддзе.

На сёння няма ў гэтым лёсаносным працэсе сістэмы, а пануе стыхія, якая вядзецца энтузіястамі, шчырымі і апантанымі адраджэнцамі. Дзяржаўна-чыноўнічыя структуры адкрыта сёння супраць перабудовы сістэмы адукацыі не выступаюць, але і не выконваюць свой канстытуцыйны абавязак. Так, у адных раёнах ёсць беларускамоўныя дашкольныя ўстановы, але няма беларускіх першых класаў у бліжэйшых школах; у другіх, наадварот, ёсць беларускія школы, але няма беларускамоўных дашкольных устаноў.

Зрухаў і ў вышэйшай школе амаль што не бачна. На сёння няма нават мэтанакіраванай дзяржаўнай праграмы па рэальным пераводзе працэсу выхавання і выкладання на дзяржаўную беларускую мову. (Дзе ж тыя пастановы ўрада ці адпаведныя загады Міністэрства адукацыі, у якіх вызначаны дакладныя тэрміны пераводу навучання на дзяржаўную мову? Няма. ) А між тым набліжаецца прыход у ВНУ выпускнікоў сярэдняй школы

з беларускай мовай навучання. Гэта - маладыя людзі з высокай нацыянальнай свядомасцю, і яны будуць патрабаваць і свайго права працягваць навучанне на роднай, беларускай мове. На жаль, вышэйшая школа, як бачна, пакуль што не спяшаецца развітвацца з састарэлай коўдрай антыбеларускасці. Сярод выкладчыкаў і асабліва кіроўнага корпуса ВНУ пануе крытычна небяспечная антыбеларуская настроенасць, а ўдзельная вага выкладчыкаў карэннай нацыі даведзена да мізэрна недапушчальнага ўзроўню. Ёсць ВНУ, дзе на пасадах ад рэктара да загадчыка кафедры няма аніводнага беларуса.

Мы не супраць таленавітых людзей іншых нацыянальнасцей. Але ж ці можна ўявіць сабе такую ж сітуацыю ў ВНУ Масквы, Берліна,Тэль-Авіва. Вядома - не. Беларусы патрабуюць не больш за іншых і адказна ўяўляюць свой трагічны стан. Таму ўсе адмоўныя з'явы, якія замаруджваюць нашае нацыянальнае адраджэнне, трэба цывілізавана выпраўляць.

Пры абранні на пасады кіраўнікоў ВНУ, факультэтаў, кафедраў у якасці асноўных крытэрыяў павінна быць здольнасць, падрыхтаванасць і жаданне добрасумленна выконваць палажэнні Законаў Рэспублікі Беларусь “Аб мовах” і “Аб адукацыі”. Мэтазгодна аддаваць прыярытэт маладым, якія маюць адпаведную кваліфікацыю і вызначаліся прынцыповасцю пры выкананні сваіх грамадзянскіх і прафесійных абавязкаў.

Пэўна і прысваенне навуковых званняў дацэнтаў і прафесараў трэба праводзіць толькі пасля прадстаўлення аўтарскіх тэкстаў лекцый па асноўнай дысцыпліне на беларускай мове. Павышэнне кваліфікацыі выкладчыкаў у поўным аб'ёме, безумоўна, таксама неабходна скіраваць на падрыхтоўку канкрэтных вучэбна-метадычных распрацовак на дзяржаўнай - беларускай мове.

Каб выканаць Законы "Аб мовах" і "Аб адукацыі" трэба ўжо з 1 верасня 1994 г. пачаць выкладанне ўсіх прадметаў на беларускай мове на ўсіх першых курсах усіх спецыяльнасцей. Тады, праз 5-6 гадоў, вышэйшыя навучальныя ўстановы падрыхтуюць канкрэтна такіх спецыялістаў, якіх чакае наша грамадства на прадпрыемствах, у арганізацыях і ўстановах Рэспублікі Беларусь.

Гэтаму паспрыяе і кампутарызацыя навучальнага працэсу, укараненне новых інфармацыйных тэхналогій, толькі яны ў беларускай нацыянальнай сістэме адукацыі павінны быць на дзяржаўнай, беларускай мове, бо, як лічаць спецыялісты, жыць тым нацыям, мовамі якіх "гавораць" кампутары.

Прафесар Мікола Савіцкі,
2003 год.

## Нацыянальная мова як аснова адукацыі

Кожная нацыя ў сваёй гісторыі прайшла альбо праходзіць шлях фармавання дзяржаўнасці ў поўным аб'ёме. Адным з асноўных падмуркаў нацыянальнага адраджэння з'яўляецца школа, ВНУ. Пакуль вышэйшая школа не стане ў поўным аб'ёме нацыянальнай як па мове, так і па духу, не магчыма разлічваць на поспех у падрыхтоўцы нацыянальна-свядомых спецыялістаў, а значыць, і адраджэння сярэдняй школы і дашкольных устаноў. Без паўнавартаснай нацыянальнай сістэмы адукацыі і выхавання станаўленне дзяржаўнасці і рэальная незалежнасць немагчымыя.

Родная мова з'яўляецца асновай светапогляду, падмуркам для вывучэння і ўспрымання нацыянальнай і далучэння да здабыткаў сусветнай культуры. Толькі праз адукацыю, выхаванне, вяртанне да гістарычна-культурных вытокаў беларускага народа можна абудзіць у навучэнца нацыянальна-свядомага грамадзяніна-патрыёта. Усё гэта магчыма толькі ў роднамоўным асяроддзі. У адваротным выпадку, якой бы адукаванасці не быў чалавек, але калі ён не карыстаецца роднамоўнымі сродкамі камунікацыі, не думае і не адчувае сэрцам і ўнутраным голасам сябе і навакольнае асяроддзе на роднай мове, ён не ўспрымае праблемы нацыі, свае прафесійныя праблемы ў суладдзе з этнічнай ментальнасцю нацыі, да якой ён належыць.

Таму, зыходзячы з рэальнай сітуацыі ў Беларусі, адраджэнне нацыі, выхаванне яе у адпаведнасці з нормамі агульначалавечага развіцця ў роднамоўным асяродку павінна стаяць на першым месцы ў пераліку прафесійных патрабаванняў да выкладчыкаў сістэмы выхавання і навучання.

Выхавацелі і выкладчыкі працуюць на дзяржаўнай службе і абавязаны карыстацца дзяржаўнай мовай, інакш што ж гэта за дзяржаўныя службоўцы нацыянальнай дзяржавы? Выкладчык, інтэлігент лаяльны да сваёй дзяржавы, які не ведае дзяржаўнай мовы - ёсць абсурд.

Дзяржаўная мова - гэта абавязковы рыштунак для выкладчыка, выхавацеля. Працэс навучання і выхавання натуральна павінен праводзіцца ў асяроддзі дзяржаўнай мовы - гэта канстытуцыйны абавязак педагога.

Выкладчыкі ў сваёй большасці выхаваны па-за нацыянальнай гісторыяй і культурай, без роднай мовы. Як вынік: яны не ўспрымаюць дзяржаўную мову і свядома ці не свядома з'яўляюцца асноўным тормазам у выхаванні нацыянальнай свядомасці ў студэнтаў.

Без абуджэння нацыянальнай свядомасці выкладчыкаў высілкі па пераходзе на беларускую мову навучання і выхавання не прывядуць да стварэння жыццяздольнай нацыянальнай школы.

Галоўны хвалярэз, аб які разбураецца рух за нацыянальнае адраджэнне беларусаў у сістэме адукацыі - гэта ёсць яе кіроўны корпус.

Важна рэальна ацаніць, ці можа, ці хоча спрыяць паспяховаму вырашэнню гэтых гістарычных задач выкладчык, які не ўспрымае праблемы нацыянальнага адраджэння Беларусі. Гэта палажэнне мае выключнае значэнне для выкладчыкаў, якія займаюць, ці пратэндуюць на пасады кіраўнікоў у сістэме адукацыі.

Мы павінны рашуча выказацца супраць пануючай пазіцыі паэтапнага, эвалюцыйнага вяртання роднай мовы беларусам. Адбіралі родную мову ў беларусаў не эвалюцыйна. Чыноўнікі знешне згаджаюцца на паэтапны пераход спачатку дзіцячых установаў, затым школы. Пры гэтым Вышэйшую школу, барані Божа, пакуль не чапайце. Яны цешаць сябе чаканнем вяртання былых імперскіх часоў. З такім падыходам надзённых праблем не вырашым. Толькі адначасова і актыўна ва ўсіх сферах выхавання і навучання неабходна пачаць і працягваць мэтанакіраванае стварэнне беларускамоўнага інфармацыйнага асяроддзя ў поўным аб'ёме.

На сёння няма ў гэтым лёсаносным працэсе сістэмы, а пануе стыхія створаная энтузіястамі, шчырымі і апантанымі адраджэнцамі. Дзяржаўначыноўніцкія структуры сёння адкрыта супраць не выступаюць, але і не выконваюць свой канстытуцыйны абавязак. Так, у адным раёне ёсць беларускамоўныя дашкольныя ўстановы, але няма беларускіх першых класаў у бліжэйшых школах; у другім раёне наадварот ёсць беларускія школы, але няма беларускамоўных дашкольных установаў.

Пры абранні на пасады кіраўнікоў адукацыі ў якасці аднаго з асноўных крытэрыяў неабходна ўлічваць здольнасць, падрыхтаванасць і жаданне добрасумленна выконваць палажэнні Законаў "Аб мовах" і "Аб адукацыі".

Сістэма выхаваня і навучання арганічна звязана з поўнай кампутарызацыяй. Кампутарызацыя і інфармацыйная тэхналогія павінны ў беларускай нацыянальнай сістэме адукацыі быць на беларускай мове.

Жыць тым нацыям, мовамі якіх гавораць кампутары!

Старшыня Менскай гарадской Рады
ТБМ імя Ф. Скарыны,
Прафесар Мікола Савіцкі.

## А магло ж усё пачацца інакш

У наш час, дзякуючы развіццю цывілізацыі і дэмакратыі, актывізаваўся аб'ектыўны працэс нацыянальнага адраджэння народаў, якія знаходзіліся ці знаходзяцца пад каланіяльным прыгнётам. Пасля юрыдычнага і

фактычнага распаду СССР на Беларусі таксама пачалося (хай сабе і з цяжкасцямі), актывізавалася абуджэнне беларусаў да свайго роднага, нацыянальнага. Аднавілася ў адных свядома ў іншых падсвядома натуральнае жаданне не быць у агульначалавечых нормах у нечым горшым, непаўнавартасным. Самае вялікая і прыкрая непаўнавартаснасць чалавека на фоне і ў кантактах з іншымі грамадзянамі - гэта бязмоўе ў роднай мове. У наш час з'явілася патрэба і жаданне ведаць гісторыю і культуру свайго народа. Людзі ўспомнілі, нанава даведаліся аб месцы і ролі роднага слова ў развіцці чалавека як асобы. Добрыя здабыткі ў вяртанні беларусам іх боскай, роднай мовы, як асновы асноў культуры і светапогляду вядомыя грамадскасці.

З увядзеннем пасады Прэзідэнта былі і ёсць усе юрыдычныя і маральныя падставы спадзявацца на паступовае тармажэнне і спыненне забойчага працэсу для беларускага этнасу: поўнай асіміляцыі шляхам русіфікацыі. На вялікі жаль, наш першы Прэзідэнт ужо ўвайшоў у гісторыю як асоба, якая прымярае і пераносіць свой уласны моўны стан і светапогляд на ўсіх жыхароў Беларусі. Вы, спадар Прэзідэнт, вельмі небяспечна, мабыць і не свядома, затармазілі пайшоўшы натуральны працэс вяртання беларусам нашай роднай мовы, а значыць і культуры ў шырокім сэнсе. Без нацыянальнай культуры брама ў клуб сусветнай культуры зачынена.

Я хацеў бы ганарыцца Прэзідэнтам сваёй дзяржавы Беларусь і з гонарам гаварыць - гэта мой Прэзідэнт, як кожны француз у свой час называў Шарля дэ Голя. На жаль, толькі ў двух момантах мы бачылі спадара Лукашэнку сапраўды Прэзідэнтам дзяржавы Беларусь: калі ён на беларускай мове чытаў тэкст прысягі ў час інаўгурацыі і даклад у філармоніі на ўрачыстасцях Дня незалежнасці Беларусі.

Ці ведаеце, ці ўяўляеце, спадар Лукашэнка, з якім уздымам, надзеяй, удзячнасцю ўспрынялі Ваш вобраз Прэзідэнта Беларусі ў беларускамоўным прафесійным асяроддзі. Гэта былі промні ўзыходзячага сонца, надзея і здаровы гонар. Беларуская мова з Вашых вуснаў, магчыма Вы самі гэтага не адчуваеце, на парадак раскрыла і ўзмацніла Ваш інтэлект, інтэлігентнасць. З Вашых вуснаў беларуская мова гучыць правільна, натуральна, мілагучна.

Думаю, што самыя "прыдзірлівыя" людзі разумеюць асабістыя цяжкасці ў пераходзе на выкананне службовых функцый на беларускай мове і не патрабуюць ад Вас заўтра ж пачаць гаварыць па-беларуску (хаця часу было дастаткова - 5 год працы ў Вярхоўным Савеце). Вы маеце права на адпаведны час. Але каб я быў Прэзідэнтам Дзяржавы Беларусь, то перад прыняццем прысягі, паклаўшы руку на Канстытуцыю, папрасіў бы ў

народа прабачэння за часовыя цяжкасці ў карыстанні пры выкананні канстытуцыйных абавязкаў мовай карэннага этнасу дзяржавы. Пасля гэтага назваў бы тэрмін з якога на службе буду карыстацца дзяржаўнай мовай (гэта намнога прасцей чым назваць тэрмін запусціць вытворчасць на ўсіх прадпрыемствах). Разам з тым, патрабаваў бы, як Прэзідэнт, ад усіх дзяржаўных структураў і чыноўнікаў выконваць 17 артыкул Канстытуцыі і законы "Аб мовах" і "Аб адукацыі". Такія прававыя словы не затармазілі б, а наадварот паспрыялі б нармальнаму працэсу адраджэння беларускай мовы і культуры.

Мне будзе крыўдна, і я ўспрыму як асабістую абразу, калі ў кнігу рэкордаў Гінеса будзе ўнесена прозвішча першага Прэзідэнта Беларусі за тое, што ён не карыстаўся на службе мовай карэннага этнасу дзяржавы, а ўжываў толькі яе адзінкавыя словы ў іранічным сэнсе. Не дазволіць гэтай ганебнай акцыі можаце толькі Вы, шаноўны Аляксандр Лукашэнка - першы ўсенародна трыумфальна абраны Прэзідэнт.

Цікавая акалічнасць: вобраз былой першай дзяржаўнай асобы Мікалая Дземянцея застаўся ў памяці і ўвайшоў у гісторыю, на вялікі жаль, у адмоўным сэнсе толькі таму, што ён да апошняга моманту сваёй дзяржаўнай кар'еры не зразумеў сваё месца ў суладдзі з мовай карэннага этнасу, роднай мовай беларусаў. Зусім іншыя адносіны і ўспрыняцце асобы Мечыслава Грыба, які з першых дзён, як заняў пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета, пачаў карыстацца беларускай мовай. Мы бачылі натуральныя асабістыя цяжкасці ў пераходзе на выкананне дзяржаўных функцый на дзяржаўнай мове, але ніхто не кпіў, наадварот, людзі цешыліся і цешацца, радуюцца разуменню адказнасці, і аўтарытэт М. Грыба, як дзяржаўнай асобы, умацоўваецца, расце давер і павага. Добры прыклад угэтай справе, на жаль не сістэматычна, падае ў асяроддзі Прэзідэнта Лябедзька. Памятаем неаднаразовыя завярэнні на пляцы Незалежнасці на мітынгах Віктара Ганчара - буду карыстацца беларускай мовай.

Што ж патрэбна для паспяховага адраджэння беларускай мовы і культуры? Беларускай культуры для паспяховага адраджэння і развіцця на нацыянальным гістарычным грунце неабходны добры дрэнаж, як для забалочанага поля. Сёння на кожным кроку сутыкаюцца ў спалучэнні культура і бескультур'е. Такая сітуацыя стрымлівае нацыянальнае адраджэнне. Як сведчыць гістарычны вопыт, без яснай, адкрытай дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі Урада развіццё гэтага працэсу амаль што не магчыма.

Прэзідэнту і Ураду трэба, як і па іншых пытаннях, да канца вызначыць сваю пазіцыю і смела выказваць сваю думку ў адносінах да права і абавязку

стварэння дзяржавай умоў для ўсталявання беларускамоўнага інфармацыйнага асяроддзя ў Беларусі. Калі глядзець глыбока і ў перспектыве, то гэта ёсць асноўная, лёсаносная праблема для беларусаў і ўсяго этнасу.

Прэзідэнт і Урад павіны мецць дакладную пазіцыю па двух пытаннях: што больш за ўсе страшней, небяспечна для дзяржавы Беларусь?; што ёй перш за ўсе неабходна?

Без выхавання беларускай нацыі на яе гістарычным і культурным грунце Прэзідэнтам і дзяржаўнымі структурамі спадзявацца на эфектыўнае выкананне праграмы выхаду з эканамічнага і маральнага крызісу ёсць блюзнерства. Але ж бацька павінен клапаціцца і несці адказнасць за выхаванне сям'і, яе духоўнасці, а не толькі дбаць аб смачнай ядзе. Разумны, выхаваны бацька імкнецца схаваць свае недахопы ад дзяцей, вучыць іх усяму лепшаму. Дрэнны той бацька, які не хоча асэнсаваць свае недахопы (што з'яўляецца натуральнай з'явай - няма ідэальных людзей) і імкнецца пры дапамозе дзягі і перніка навязаць і прывіць іх сваім дзецям. Незайздросны лёс у такіх дзяцей.

Выхаваць нацыю ў яе роднамоўным інфармацыйным асяроддзі і правесці яе цераз поле крызісаў ёсць найважнейшая гістарычная задача Прэзідэнта і ўсіх жыхароў Беларусі. А гэта можна зрабіць толькі з разуменнем месца і ролі роднай мовы для кожнага народа. Між іншым, мы - беларусы - нічога новага, асаблівага не робім і не патрабуем. Мы паўтараем аб'ектыўны шлях іншых народаў, якія па розных, незалежных ад іх абставінах, амаль страцілі родную мову, а пасля ўразумення яе ролі для самазахавання адрадзілі яе (іудзеі, чэхі, пакістанцы і інш.).

Нам неабходна як мага хутчэй падтрымаць і развіць здабыткі па вяртанні беларускай мовы ў школы і амаль з нуля пераводзіць выхаванне і навучанне на беларускай мове ў Вышэйшай школе. Рашучыя заданні Прэзідэнта Міністру адукацыі ў педагагічным універсітэце павінны быць скіраваны не на тармажэнне ажыўлення беларускай школы, а на актывізацыю Кабінета міністраў па практычным забеспячэнні здаровага сэнсу і выканання Канстытуцыі, закона "Аб мовах", да цывілізаванага спынення ганебнага працэсу русіфікацыі і асіміляцыі.

Моладзь і бацькі ўзбуджаны некарэктнымі выказваннямі Прэзідэнта аб ролі і месцы беларускай мовы ў жыцці грамадства. На маю думку, Прэзідэнт павінен супакоіць усе слаі грамадства. Пара ўсім зразумець аксіёму - мова ёсць шкілет нацыянальнай дзяржавы, духоўнасці і моцы нацыі.

Дыктатура палітыкі над культурай, мовай карэннага этнасу дзяржавы амаральная. Неразуменне гэтага ёсць вялікая рызыка падарваць усе

шчырыя памкненні і жаданні Прэзідэнта. Таму неабходна актыўна выступаць супраць шавінізму, рэзервацыйнай палітыкі і практычных захадаў ад каго б яны не зыходзілі. Абывацельская тэза, што ва ўмовах эканамічных цяжкасцей не да мовы народа, а галоўнае накарміць народ (але ж людзі - не жывёла) шкодная і небяспечная. Толькі нацыянальна свядомая, патрыятычна выхаваная нацыя, як сведчыць вопыт іншых народаў, здольная адрадзіць і развіць сваю культуру і авалодаць сучаснымі тэхналогіямі.

Час не церпіць. Паралельна (думаю, што перш-наперш) з распрацоўкай і прыняццем праграмы выхаду з эканамічнага крызісу мусіць быць распрацавана і пад кантролем і кіраўніцтвам Прэзідэнта актыўна выконвацца праграма выхаду з крызісу культуры, маралі, духоўнасці. Ні аб якім кампрамісе з шавінізмам, імперскай ідэалогіяй не можа быць гаворкі.

Спадзяюся, што Прэзідэнт праз сучасныя сродкі масавай інфармацыі аб'явіць стратэгічны і тактычны лозунг: прапануем і патрабуем выканання праграмы па вяртанні беларусам іх роднай мовы, культуры. Гэтая праграма і дзеянні прадыктованы не палітычнымі інтарэсамі, а аб'ектыўнымі законамі развіцця нацый і іх культур.

Не дапусціць адкату па нацыянальным адраджэнні, па аднаўленні беларускай школы - задача гістарычнага значэння. Час крытычны. Мы не можам дазволіць рэакцыйным сілам выкарыстаць момант эканамічнага крызісу, фактычны стан нацыянальнай свядомасці, адлучэнне беларусаў ад кіроўных пасад для спынення працэсу адраджэння беларускай мовы, культуры з мэтай поўнай іх асіміляцыі.

Роля інтэлігенцыі ў гэтай святой справе вызначальная. Не дазволім змяць сябе ў гэты час, не будзем замыкацца ў кут сваіх асабістых інтарэсаў. Заняць шчырую, культуралагічную сваю пазіцыю, пераадольваючы страх і ўціск чыноўнікаў, дапаможа нам шчырасць першага Прэзідэнта.

Дзівакамі выглядаюць шаноўныя ветэраны, якія ўздымаюць антызаконнае, амаральнае пытанне аб так званым двухмоўі ў Беларусі. Хто выступае супраць беларускай мовы ў дзяржаве Беларусь, той выступае супраць яе незалежнасці, дзяржаўнасці. Двухмоўе - гэта шлях да расейскага аднамоўя, да канчатковай страты беларусамі іх роднай мовы, гэта - смерць нацыі. Добра вядома, што за выключэннем інтэлігенцыі насельніцтва ва ўсіх краінах аднамоўнае ў сваёй роднай мове, яно карыстаецца адной мовай. Двухмоўе, як даказана навукай, стрымлівае псіхалагічна-інтэлектуальнае развіццё дзяцей. Вывучэнне замежных моваў ёсць іншае пытанне. Калі, не дай Бог, будзе законам уведзена двухмоўе, то кілбасы больш не стане, але беларусаў у свеце стане менш на 10 мільёнаў. І усё ж жыла, жыве і будзе вечна жыць беларуская мова і яе носьбіты - беларускі народ! Хутчэй за

справу!

Старшыня Менскай гарадской Рады ТБМ імя Ф. Скарыны,
прафесар кафедры інфармацыйных тэхналогій БДЭУ
Мікола Савіцкі.

## Гістарычная і дарагая беларусам Прага

Глыбокашаноўны Аляксандр Лукашук! Пісьмова прашу ў Вас і ўсяго калектыву Радыё Свабода прабачэння (цяжка мне падабраць патрэбнае слова для выказвання свайго пачуцця) за тое, што я не змог выканаць да канца ганаровае мне даручэнне - перадаць сувеніры; праяўленне складанасці для Вас. На жаль, перасцярога спадарыні Ганны Сурмач пры першай сустрэчы на вакзале была мной забыта пад уражаннем дабра і свабоды на радыё Свабода і Прагі. Персанальная ўдзячнасць спадарыні Алене Ціхановіч і яе сям'і, спадарыні Ганне Сурмач. Дзякуй Богу, у сумцы, якую злодзеі пакінулі мне, засталася дарагая для мене кашуля-вышыванка, памяць маёй маці, а таксама гальштук ручнога пляцення мастака прафесіянала (у Празе не было нагоды адзяваць касцюм з гальштукам) з выявамі (зверху ўніз): 1)крыж Ярылы; 2) сімвал маці зямлі; 3) сімвал справядлівага чалавека; 4) абярэг ад нячыстай сілы, сурокаў; 5) крыж сімвал веры; 6) сімвал продкаў; 7) складанае сонца (зямля, сонца, хлеб); 8) сімвал маці прарадзіцельніцы.

Сардэчная ўдзячнасць за ўвагу да мяне. Гэта былі шчаслівыя дні ў маім жыцці. Вы прадаставілі мне магчымасць дакрануцца фізічна і духоўна праз 35 год да Прагі, адчуць і параўнаць сябе: Савіцкім - савецкім чалавекам і Савіцкім - сённяшнім. Гэтае адчуванне, параўнанне для мяне асабіста вельмі цікавае і дарагое - самому ўбачыць сябе ў гістарычным часе. Безумоўна цікавае параўнанне і ўспрыманне акупаванай Прагі 1969 года і свабоднай Прагі 2004 года. Незабыўныя для мяне асабіста хвіліны, калі я на каленях, паклаўшы знявечаную сваю галаву на месцы самаспалення Яна Палаха, магілах старшынь Рады БНР Пятра Крэчэўскага і Васіля Захаркі адчуваў тое, што адчуваў, што з'яўляецца асабіста патаемным.

Зычу шчасця і Свабоды творцам Беларускай Свабоды!

P.S. Вечаровая перадача па гісторыі музыкі 27 чэрвеня мне вельмі спадабалася.

Ваш пастаянны слухач
Мікола Савіцкі.
28 чэрвеня 2004 г. Менск.

*"Герой Беларусі - ганаровае званне, вышэйшая ступень адзнакі і дзяржаўная ўзнагарода за выключныя заслугі перад дзяржавай і грамадствам, звязаныя з подзвігам, здзейсненым у імя свабоды, незалежнасці і росквіту Рэспублікі Беларусь".*
*(Беларуская энцыклапедыя, т.5, стр.193.)*

# ЗВАРОТ

**да Героя Беларусі, экс-старшыні Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь Пракаповіча Пятра Пятровіча**

Паважаны Пётр Пятровіч, ваша імя, ваша асоба ўжо ўвайшлі ў сучасную гісторыю Беларусі. Вы актыўна далучыліся, уліліся ў каманду першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, шмат гадоў былі кіраўніком Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь. Ваша карысная дзейнасць для народа будзе адэкватна ацэнена ў гісторыі Беларусі, і Вы зоймеце адпаведнае месца ў галерэі яе дзяржаўных кіраўнікоў на мяжы 20 і 21 стагоддзяў.

Вы адзін з першых ганараваны ў суверэннай Беларусі самым высокім званнем і ордэнам - Герой Беларусі.

Магчыма, гэта ёсць вялікая трагедыя для Вас. Так сталася, што вынікі Вашай тэарэтычнай і практычнай палітыкі сталі катастрофай для жыхароў Беларусі. Не буду прыводзіць Вашы афіцыйныя заявы, якія, адны праз некалькі дзён, іншыя праз два месяцы, аказаліся абманам. Вы кінулі народ у хаос. Разбураны валютны рынак.

Народ паверыў Вам і Ураду і ў гэтых умовах захоўваў у банках беларускія рублі. А ў выніку дэвальвацыі, па дадзеных вядомых эканамістаў, укладчыкі банкаў на рахунках у нацыянальнай валюце страцілі 1,3 мiлiярда долараў. Банкі і дзяржава фактычна канфіскавалі большую частку зберажэнняў насельніцтва. У народа разбурана самае каштоўнае ў сістэме адносінаў ( Народ - Улада) - гэта давер да нашай роднай дзяржавы.

Таму, паважаны Пётр Пятровіч, каб зняць дэвальвацыю з самага высокага ганаровага звання - Герой Беларусі - цяпер, сёння, а не перадаваць гэта рабіць нашым дзецям і ўнукам, - прапаную Вам асабіста здзейсніць сапраўды гераічны ўчынак - адмоўцеся ад гэтай узнагароды. Перакананы, што Вы адчуеце пасля гэтага фізічны, інтэлектуальны і духоўны ўздым. Станеце моцным і здаровым, маральна ачышчаным.

Мікола Савіцкі,
прафесар,
акадэмік Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі.

*У гэтай краіне не маю я Бога,*
*ушчэнт разапселі яго святары:*
*дзе церні павінны насіць - носяць рогі,*
*які ж тагды Бог, калі служкі звяры?*
***Анатоль Сыс.***

## А на каго крыўдаваць? Пытанне Аляксандра Казуліна

Неспадзявана для грамадскасці БДУ, як паведаміла “Народная Воля”, (1.10.2016 г.), "з размахам" адзначыў сваё 95-годдзе. Традыцыйна ўстановы свае юбілеі святкуюць па круглых датах. Парушаюць гэтую традыцыю, калі кіроўная група хоча атрымаць дзяржаўныя ўзнагароды і калі ёсць для гэтага "шалёныя грошы". Хтосьці спяшаецца і не хоча пачакаць пяць год і годна адзначыць, як нацыянальную падзею, 100-годдзе гэтай установы. Стабільнае падзенне эканомікі, дэградацыя беларускай мовы і культуры лагічна ставяць пытанне: "А за якія грошы Рэктарат БДУ, для прыкладу, аплаціў арэнду Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы і балета. Ці гэтыя выдаткі заклалі ў кошт бясплатна-платнай вышэйшай адукацыі пры канстытуцыйнай бясплатнай? Але мяне турбуюць не гэтыя пытанні, а "свідруе мазгі" змест артыкула Марыі Эйсмант "Аляксандр Казулін: "Толькі нядаўна мяне вярнулі ў Галерэю рэктараў". Змешчана гістарычнае фота рэктара 1996 - 2003 гг. Ім быў і ў гісторыі БДУ навекі застанецца доктар педагагічных навук, прафесар Аляксандр Казулін. Масавы чытач скажа, ну і што! Хай застаецца. Але для сучаснікаў і гісторыі БДУ і вышэйшай адукацыі ў Беларусі гэта так і не так. А як, думаем?

Як паведаміў “Народнай Волі” сам былы рэктар 1996 - 2003 гг. на юбілейныя ўрачыстасці БДУ ён не быў запрошаны. Здзіўленая гэтым журналістка спытала: "Вы не жартуеце?" і атрымала інтэлігентны адказ: "Мяне ніколі пасля звальнення з БДУ не клічуць туды ні на якія мерапрыемствы". Ну, запрасілі - не запрасілі?. Можна спаслацца, што хтосьці з арганізатараў забыўся. Але ж адбылося дзікунства ў БДУ, якое не схаваеш ад універсітэтскага брацтва Еўропы, а мо і ўсяго свету. Як успрыняла і будзе ўспрымаць міжнародная сістэма адукацыі факт, які агучыў А. Казулін: *"... пасля 2006 года мой партрэт прыбралі з Галерэі рэктараў, што ў Зале Вучонага савета. ... што Казуліна ў БДУ як быццам і не было. Нядаўна мяне вярнулі ў Галерэю рэктараў"*. Куды ж дзявацца, юбілей БДУ, запрошаны госці, а ў храналогіі імёнаў рэктараў дзірка, зніклі гады 1996-2003? Трэба прымаць гасцей не толькі з усходу, але і з заходніх універсітэтаў. Дамоваў аб супрацоўніцтве з замежнымі ўніверсітэтамі падпісана шмат,

але як паўплывае "вайна з партрэтам былога рэктара А. Казуліна" на іх эфек-тыўнасць для развіцця БДУ і вышэйшай адукацыі ў Беларусі??? І вонкавыя абставіны прымусілі рэктарат ліквідаваць дзірку ў ганебнай гісторыі БДУ. Я б на месцы прафесара А. Казуліна забраў бы партрэт і перадаў у архіў да лепшых часоў.

Педагагічнае пытанне да чальцоў Вучонага савета БДУ: няўжо сярод Вас не знайшлося аніводнай годнай асобы (адэкватнай Вашаму творчаму патэнцыялу), якая б устала і нешта годнае сказала голасна ў абарону былога свайго кіраўніка, калегу, які між іншым здзейсніў у Віцебскай турме самы мужны, самы гераічны вычын людства ўсіх эпох - бестэрміновая вынікoвая галадоўка - у абарону свайго гонару і правоў грамадзян Беларусі? Ён на алтар свабоды і справядлівасці ахвяраваў сваё жыццё. Не за сваё, а за наша. І годна, прыгожа перамог! Нашы нашчадкі мабыць параўнаюць вычын Аляксандра Казуліна з гістарычным вычынам Тадэвуша Рэйтана (1772 г.). Гэты факт у нашай вышэйшай адукацыі, як факел, высвеціў яе глыбокую ўсеагульную дэградацыю. Гэта асобная тэма для патрыятычнай, маральна здаровай, прафесійна адказнай, не халуйскай (халуйства страшней за раб-ства) навукова-педагагічнай грамадскасці. Дарэчы, ёсць жа і Савет рэктараў Беларусі. Яго старшынём, калі не памыляюся, быў у свой час прафесар Аляксандр Казулін. Дзе была і ёсць салідарнасць рэктараў Беларусі?

Калі ўсё што чытаем ў матэрыяле М. Эйсмант праўда (для мяне гэта святая праўда), то як, не з'ехаўшы з глузду, на 16-м годзе 21 стагоддзя ўсё гэта асэнсаваць і, што асабліва важна, растлумачыць, нават пускаючы дым у вочы, універсітэтскай супольнасці свету, не кажучы ўжо аб студэнтах? Для мяне важна зразумець унутраны светапогляд дзейснага рэктара-акадэміка Сяргея Абламейкі. Па якім алгарытме трэба шукаць адказ, каб апраўдаць (а ці можна апраўдаць неапраўданасць) такія адносіны да сваіх папярэднікаў? Прачытаўшы словы А.Казуліна: "Мой партрэт прыбралі з Галерэі рэктараў, што ў Зале Вучонага савета … Казуліна ў БДУ як быццам і не было"- хочацца ва ўвесь голас крычаць словамі паэта, якія прыведзены ў эпіграфе гэтай нататкі..

Мікола Савіцкі, прафесар.

## Божа, уратуй Беларусь ад "расейскага эўрапейца" А. Казуліна

*Адразу (сакавік 2005 г.) пасля абнародавання прафесарам А. Казуліным руху "Воля народа" я выказаў сваю ацэнку яго дзейнасці і накіраваў*

*гэты артыкул у газету "Наша слова". Даведка: за абарону беларускай мовы мяне 5 разоў арыштоўвалі, сядзеў на Акрэсціна, двойчы плаціў штраф (20 000 і 500 000 руб.) - па афіцыйных ацэнках: я - "апазіцыянер". Як не дзіва, але старшыня ГА ТБМ імя Ф. Скарыны А. Трусаў забараніў друкаваць гэты артыкул. Пасля гэтага я звярнуўся з просьбай надрукаваць яго ў газеце "Савецкая Беларусь" (галоўны рэдактар П. Якубовіч, доўга трымалі і не надрукавалі), пасля звярнуўся ў газету "Звязда" (галоўны рэактар "Звязда" Ул. Наркевіч, таксама не надрукавалі). Спадзяюся, што дзеля гістарычнай справядлівасці артыкул надрукуе старшыня культурна-асветніцкага клуба "Спадчына" Анатоль Белы ў асветніцкім альманаху "СКРЫЖАЛІ СПАДЧЫНЫ".*

**Божа, уратуй Беларусь ад " расейскага эўрапейца" А. Казуліна**

У перадавіцы "Наша слова" 23 лютага чытачоў цешаць абманнай прыманкай былога рэктара БДУ аб тым, што ён, як цяпер ужо вядома, хоча стаць чарговым Прэзідэнтам Беларусі, выратуе беларускую мову са смяротных абцугоў дзяржаўнай русіфікацыі.

Шаноўны прафесар А. Казулін, Вам лёс падараваў шанец быць рэктарам БДУ ў гады, калі кіраўніцтва Беларусі на самым высокім дзяржаўным узроўні праводзіла палітыку жорсткай русіфікацыі. Вы кіравалі не шараговым універсітэтам, а флагманам вышэйшай адукацыі і навукі ў Беларусі. БДУ па сваіх параметрах павінен быць нацыянальным, як МГУ у Расеі. А што Вы зрабілі для таго, каб БДУ стаў не толькі па назве, а і па форме і па змесце беларускім, беларускамоўным, як МГУ - рускамоўны? Нічога.

Першыя парасткі беларускамоўнага выкладання, распачатыя на пачатку 90-х гадоў, пры Вас былі не пашыраны, а зведзены да знікнення. Нават на факультэце беларускай мовы і літаратуры не ўсе прадметы выкладаюцца па-беларуску.

У Вас быў шанец заняць пачэснае месца ў гісторыі постацей рэктараў БДУ, побач з першым рэктарам У.І. Пічэтам. Ён не толькі спрыяў станаўленню і адраджэнню беларускамоўнай вышэйшай школы ў Беларусі, але і асабістым прыкладам паказваў, як гэта трэба рабіць. А што Вы?

На гэта здольны толькі чалавек з шырокім культуралагічным даляглядам і глыбокай еўрапейскай культурай, а не камсамольскай. Ні прэзідэнт А. Лукашэнка, ні міністр адукацыі пры Вашых "царскіх лукашэнкаўскіх" паўнамоцтвах не забараняў Вам самому, зыходзячы з самапавагі да сябе, авалодаць, як рэктару БДУ, хоць бы гутарковай мовай народа, які Вы сёння

сабраліся ратаваць і спрыяць паступоваму адраджэнню беларускай мовы, беларускай культуры, беларускай адукацыі. Гэтага ў Вас няма, не было на пасадзе рэктара і не будзе на жаданай пасадзе Прэзідэнта. Вы такая асоба, якая ёсць, і не больш, і не менш. Памятаю, як Вы на пасадзе намесніка міністра адукацыі варожа ставіліся да вяртання беларускай мовы ў сістэму адукацыі. Па гэтых пытаннях я кантактаваў з Вамі як старшыня Рабочай камісіі Вярхоўнага савета. Тое, што Вас у той час "не пусцілі" да пасады міністра адукацыі - дальнабачнае рашэнне ў гістарычным часе. Нават сёння не саромеецеся гаварыць: *"Мы павінны быць эўрапейскімі расейцамі ці расейскімі эўрапейцамі"* (пераклад з расейскай "Наша ніва", № 8, 2005 г.).

А таму Вашы словы ў інтэрв'ю газеце "Народная воля"*: "З беларускай мовай, шчыра прызнаюся, у мяне не вельмі. Але як чалавек адукаваны, я добра разумею, што менавіта мова - гэта душа і сэрца нацыі. Іншая справа, што пад прымусам нічога не зробіш"*, - вымаўлены Вамі пад прымусам асабістых абставін - хачацца быць Прэзідэнтам. Але якім? Прэідэнтам для беларусаў ці для віртуальнага "отечества"? Дарэчы, у агромістым інрв'ю Вы ні разу не ўжылі дарагое кожнаму жыхару Беларусі слова Радзіма, Бацькаўшчына. Гэта не выпадкова, яны для Вас чужыя, мулкія для Вашага светапогляду. Для жыхара Беларусі, які любіць сваю родную Беларусь (як рускі ў Расеі любіць Расею), слова "Отечество", калі не чужое, то халоднае. Адразу пахне імперскасцю, саўковасцю: усё абстрактнае, далёкае ад сэрца, агульчалавечнасці.

Вашым правільным словам у інтэрв'ю: *"Беларуская мова - сімвал нашай дзяржаўнасці, нашай адметнасці ў свеце. Гэта тое, што аб'ядноўвае нацыю"*, - хочацца паверыць, але немагчыма. Правільна сказалі, што *"адной з галоўных гістарычных памылак А. Лукашэнкі будзе прызнана, менавіта, тое, што ён не разглядзеў гэты патэнцыял"*. Вашы словы поўнасцю адносяцца і да Вас. Казулін - рэктар БДУ таксама гэтага не разглядзеў.

Але, як гэта не парадаксальна гучыць, на сёння на беларускім палітычным алімпе не бачна асобы роўнай А. Лукашэнку, які пры разуменні і жаданні мог бы аб'яднаць нацыю на грунце беларускай нацыянальнай ідэі. Гісторыя дае яму шанец самому выправіць недаравальныя перад народам памылкі (але гэта асобная тэма).

Пры жаданні і разуменні загаварыць прыгожа А. Лукашэнку пабеларуску і вярнуць беларускую мову ў жыццё грамадства няма аніякіх цяжкасцей, а для прафесара А. Казуліна гэта - невырашальная праблема. Больш чым за пяць год у мантыі рэктара Вы ні разу не толькі не прамовілі, а нават па паперцы не прачыталі што небудзь па-беларуску. Таму маеце

рацыю, гаворачы іншым і самому сабе: *"Не забывайте об ответственности перед своей совестью, народам и Конституцией…, - потом будет стыдно"*. А можа хопіць Беларусі гэтага "стыдно"?

2005 г. Ветэран, прафесар Мікола Савіцкі.

## Ганарыцца б універсітэту, Беларусі, Прэзідэнту, а не выганяць

Лепшым пісьмовым матэрыялам для патрыятычнага выхавання не толькі студэнтаў, школьнікаў, а ўсёй моладзі нашай мілай Бацькаўшчыны з'яўляецца інтэрв'ю студэнткі 4-га курса Таццяны Хомы і матэрыял журналіста ("Народная воля", №237). Пакуль яшчэ кароткі, але іскрысты, жыццёвы вопыт Таццяны ёсць яркі прыклад, як маладая асоба павінна ставіць перад сабой жыццёвыя мэты і іх дасягаць. Таццяна абрала спецыяльнасць міжнародных эканамічных адносін. З першага заходу не ўдалося. Яна не траціць час, паступае ў педагагічны універсітэт, вучыцца на выдатна, а затым, будучы цвёрдай у сваіх перакананнях, зноў паспяхова паступае ў БДЭУ. Інтэлектуальнай асобе цесна ў рамках сучаснага рэжымнага вучэбна-выхаваўчага працэсу, і яна актыўна далучаецца да культурна-гістарычных каранёў свайго народа, культурна-асветніцкіх мерапрыемстваў студэнцтва.

Радавацца б разам з бацькамі ўніверсітэту, міністэрству, Прэзідэнту А. Лукашэнку таму, што маладую інтэлектуальную асобу з Беларусі заўважылі ў Еўропе, свеце. Дык не ж! Не ўкладваюцца маладыя людзі, накшталт Таццяны Хомы, у пракрустава ложа шуканага і пакуль не знойдзенага афіцыёзам "потриотического воспитания".

Сорамна за кіраўніка прафсаюзнай студэнцкай арганізацыі БДЭУ, які не ведае, ці баіцца сказаць што ведае пра ESIB - "Нацыянальныя студэнцкія аб'яднанні Еўропы" і журналісту заяўляе, вінавацячы Таццяну: "Брала ўдзел у нейнай канферэнцыі маладзёжнай арганізацыі". Шкада, калі кіраўнікі студэнцкіх арганізацый ведаюць толькі БРСМ. Дарэчы колькі дзясяткаў, а можа і сотняў сяброў БРСМ амаль не ходзяць на заняткі, і іх ніхто не адлічвае са спісу студэнтаў (паглядзіце па журналах толькі тыя пропускі, якія адзначаюць старасты груп).

У краіне з дэмакратычнымі прынцыпамі ўніверсітэцкага кіравання Таццяну Хому пасля яе прызнання на еўрапейскім узроўні ганаравалі б, а не бязбожна каралі. Вось вам і педагагічная справядлівасць, педагагічная этыка. Шаноўныя калегі, а дзе ж наш прафесарскі гонар. Былы рэктар Ф.

Баравік у часы КПСС на агульных сходах гаварыў: "На небе ёсць Бог, а на зямлі - прафесар". Пакуль прафесура, у першую чаргу БДЭУ, маўчыць, спіць. Няўжо светлая памяць былога нашага рэктара не абудзіць нас, не верне да самапавагі, педагагічнай адказнасці, да людскасці?

Мы павінны быць гатовымі да падобнай ня людскасці, не лагічнасці, не педагагічнасці. А пачалося падобнае не сёння, раней, але многае прайшло ціха, "без гвалту". Я ведаю, як цяжка перажыць знявагу за любоў да свайго роднага: мовы, культуры беларускай і агульначалавечай. У 2001 годзе былы рэктар БДЭУ Раман Карсека і першы прарэктар Сяргей Гурко таксама без якіх-небудзь тлумачэнняў, не пагаварыўшы са мной, "падпольна" не працягнулі кантракт, і я, адзіны беларускамоўны прафесар кафедры інфармацыйных тэхналогій, у росквіце фізічных і інтэлектуальных сіл у сваім універсітэце і ў Беларусі аказаўся незапатрабаваным. Ужо чатыры гады нідзе не працую.

Пасля выгнання з працы ў Расеі я выдаў дзве кнігі, адна "Экономическая информатика" з грыфам Міністэрства адукацыі Расійскай федэрацыі ў якасці вучэбнага дапаможніка для студэнтаў ВНУ. Пра сябе побач са студэнткай Таццянай напісаў, каб паказаць грамадскасці пра існую сістэму адносін да нацыянальна-свядомых людзей, а не як выпадковасць.

А з якой інтэлігентнасцю, шляхетнасцю гаворыць Таццяна аб студэнтках, якія "заклали" яе? Яна іх, як я ўспрыняў, шкадуе. А можа і праўда, сексотаў нельга паважаць, але трэба іх шкадаваць, бо і ў іх ёсць нейкія пачуцці сораму і граху перад Богам. Спадарыня Таццяна! Вы ўжо скончылі Усебеларускі жыццёвы Універсітэт.

2005 год. Прафесар БДЭУ Мікола Савіцкі.

## Гэта справа святая.
## А-у, а-у, дзе вы ТБМ, дзе ТБШ?

У рубрыцы "Прашу слова" газета "Народная воля" 23 чэрвеня 2005 года надрукавала падборку матэрыялаў трох асоб: 37-мі гадовага вайскоўца Віталя Чырвінскага, настаўніцы школы № 190 Алены Іосіфаўны і народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча пад назвай "Гэта справа святая" з вялізнымі трыма чорнымі кропкамі.

З'ява знішчэння беларускай мовы не новая, яна гістарычная. Апошнія гады нават цывілізавана свядомыя (ну, хоць бы па пасадах у грамадскім жыцці) асобы, грамадскія дзеячы прыціхлі і пагаджаюцца з амаль завершаным разбуральным працэсам беларускамоўнай сістэмы выхавання і навучання, выгнаннем яе з грамадскага жыцця, сучасных СМІ.

Газета "Народная воля" на плошчы 12 на 24 см яшчэ раз ( з перыядычным пастаянствам) патрыятычна-прафесійна ўзняла лёсавызначальную праблему для Беларусі. Ці можна чытаць бяз болю ў сэрцы і адначасова з гонарам і адказнасцю словы вайскоўца, які разам з жонкай выхоўвае двух сыноў: "Людзі быццам звар'яцелі - не хочуць, каб іх дзеці выраслі паўнавартаснымі грамадзянамі сваёй краіны". Ці ёсць дзе ў свеце краіна, апроч нашай роднай і любай Беларусі, каб вайсковец і яго сям'я змагалася за магчымасць практычнай рэалізацыі канстытуцыйных правоў - выхоўваць і вучыць дзетак у роднай мове? Як гэта стасуецца з казённай траскатнёй аб патрыятычным выхаванні? У даным выпадку пытанне ў першую чаргу галоўнакамандаючаму і міністру абароны Рэспулікі Беларусь.

Не меншы патрыятызм, чым сям'я вайскоўца Віталя Чырвінскага, праявіла настаўніца Алена Іосіфаўна. У нашых умовах яна не пабаялася (дакладней пераадолена пануючы ў грамадстве страх) і апублікавала ў газеце нумар тэлефона з указаннем пасады і свайго імя). Мяркую, што так пісаць маю права. У недалёкім мінулым я страціў вельмі многае, змагаючыся за адраджэнне ўжывання беларускай мовы. Застаўся сам на сам ў росквіце тварчай актыўнасці без студэнцкай аўдыторыі. Мо таму так узрушыў подзвіг вайскоўца і настаўніцы, які лучыць іх з прыгожым пісьменствам Ніла Гілевіча.

Ну дык вось! Тэлефаную па тэлефоне 283-61-15, цікаўлюся справамі, ці ўдасцца адкрыць адзіны клас з беларускай мовай навучання ў школе №190, хто і якую дапамогу аказвае. Адказ - аніхто. Самі настаўнікі хадзілі па кватэрах і ўгаворвалі бацькоў аддаць дзетак у беларускамоўны, і ён будзе адчынены. Удакладняю пытанне: а ТБМ, а ТБШ ? Адказ атрымаў горкі але рэальны. Аніякай працы, дапамогі ні ТБМ, ні ТБШ ніколі ў гэтай школе і на яе тэрыторыі не праводзілі. Алена Іосіфаўна Міхалёва ўдакладніла, што пасля публікацыі ў "НВ" было тэлефанаванне з ТБМ!? Вось рэальнае адлюстраванне канкрэтнай працы Менскай гарадской (і не толькі) рады ТБМ. Паважаныя сябры Рэспубліканскай рады ТБМ, востра выспявае патрэба ў няспешным прафесійным аналізе канкрэтнай дзейнасці Таварыства, накіраванай на захаванне і пашырэнне беларускамоўных класаў.

Мікола Савіцкі, беспрацоўны прафесар.

## Дарога ў Еўропу можа быць адчыненай

Барыс Тумар у № 28 (стар.10) 29 ліпеня ў аналітычным артыкуле "Пуцін: беларусы не нацыя" зрабіў выснову, што "дарогу на Захад Лукашэнка лічыць закрытаю. Ніхто не знайшоў для яго варыянту, пры якім яна

адкрылася б". Такі варыянт ёсць. Вось мой адказ на пастаўленае ім пытанне: "Ці існуе для А. Лукашэнкі шлях, якім ён мог бы пайсці на Захад?".

Сучасная гісторыя паказвае, што ўсё станоўчае зробленае Вамі, Аляксандр Рыгоравіч, на пасадзе Прэзідэнта ў кароткім гістарычным часе будзе забыта ў памяці людзей. Але ніколі ні беларускі народ, ні гісторыя не забудуць і не даруюць заняпаду этнічнай мовы беларускага народа (няма мовы - няма нацыі) і адмену гістарычна-дзяржаўных сімвалаў Беларусі: герба "Пагоня" і бел-чырвона-белага сцяга.

Час паказаў памылковасць адмены артыкула 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. і законаў аб дзяржаўнасці беларускай мовы і аб адукацыі. У выніку разбурана беларускамоўная сістэма выхавання і навучання, пачынаючы ад дашкольнай сістэмы і заканчваючы вышэйшай школай. Паступова выгналі беларускую мову з усіх сродкаў масавай інфармацыі і грамадскага жыцця. Усё гэта рэзка затармазіла трэцюю гістарычную хвалю Адраджэння беларусаў як нацыі.

Для спынення татальнай русіфікацыі і асіміляцыі беларускага народа патрэбна моцная асоба, з сучаснымі дыктарскімі рысамі. Роўных А. Лукашэнку ў гэтым сэнсе на палітычным алімпе (апроч З. Пазьняка) няма. А таму выправіць сітуацыю лепш за ўсё самому А. Лукашэнку. Дастаткова публічна перад народам прызнаць свае памылкі, і прасіць у народа дазволіць самому яму іх выправіць, з гарантыяй.

Для гэтага дэкрэтам (ці іншай прававой формай - юрысты знойдуць юрыдычнае абгрунтаванне) вярнуць беларускаму народу, незалежнай дзяржаве Беларусь спрадвечна беларускія і дзяржаўна-гістарычныя сімвалы: герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг.

Абгрунтаванне: прыклад Расеі - вярнула імперскі двухгаловы герб і бела-сіня-чырвоны сцяг, і ўсе дзяржавы былога СССР таксама вярнулі нацыянальныя гістарычныя сімвалы.

Дэ-факта вярнуць беларускаму народу беларускую мову: артыкул 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. - аб адзінай дзяржаўнай беларускай мове; аднавіць выкананне "Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб мовах у Беларускай ССР" 1990 г., і "Дзяржаўную праграму развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР" 1990 г. і выканаць устаноўленыя 10-ці гадовыя тэрміны для паступовага ўвядзення палажэнняў Закона ва ўсе сферы грамадскага жыцця.

Перакананы, толькі А. Лукашэнка, як асоба, калі захоча, можа гэта зрабіць, а значыць адрадзіць беларусаў, "зрабіць" нас нацыянальна свядомымі беларусамі. Для гэтага патрэбна наступнае.

Прэзідэнту ўсе публічныя выступленні здзейсняць па-беларуску (на

першых парах няхай толькі па пісанаму тэксту). Дарэчы, у рэдкіх, але памятных беларускамоўных выступленнях А. Лукашэна глядзеўся намнога выйгрышна, у параўнанні з паўсядзённасцю. Праз пару месяцаў усе чыноўнікі ўладнай вертыкалі загавораць па-беларуску. Тут прыклад бацькі ў самым добрым сэнсе.

Вярнуць усім школам статус беларускамоўных, якім ён быў у свой час нададзены да 1994 г.

Вярнуць народу яго беларускую гістарычную памяць і нацыянальную свядомасць праз асветніцтва з дапамогай усіх СМІ і беларускамоўную сістэму выхавання і навучання. Класічным прыкладам з'яўляецца апошні фестываль у Маладзечне. Два вечары па дзве гадзіны з экрана тэлебачання на высокім прафесійным узроўні была прадэманстравана поўная самадастатковасць сучаснай беларускай музыкі, песні, прыгожага пісьменства.

Весці "свой народ" па шляху еўрапейскай і сусветнай цывілізацыі.

Устанавіць дзяржаўную мяжу з Расеяй, як гэта зроблена з астатнімі суседзямі. Дом з трох сцен - гэта толькі прысценак іншага дома, а не самастойны дом. Беларусь павінна стаць класічна суверэннай Краінай.

Перакананы, што пры выкананні гэтых і іншых лёсавызначальных умоў усе па-сапраўднаму нацыянальна-патрыятычныя, дэмакратычныя партыі і рухі, і галоўнае - Гісторыя Беларусі пагодзяцца нават не на 5, а 10 наступных год прэзідэнцтва А. Лукашэнкі. Руская брація на Беларусі будзе паслухмянай пры А. Лукашэнку і будзе сябе паводзіць так, як паводзяць сябе нацменшасці ў развітых краінах свету.

Чэхія мае сусветна вядомага першага прэзідэнта Томаша Масарыка, якім так ганарацца чэхі і шануе ўвесь свет. А Беларусь, калі захоча (тое што можа ў мяне няма сумненняў) А. Лукашэнка, можа мець свайго Масарыка з унікальным гістарычным імем А. Лукашэнка. Гэта будзе навукова-гістарычным прыкладам не ленінскага "крок наперад - два назад", а "крок назад - дзесяць наперад А. Лукашэнкі". Няхай так і будзе. Дапамажы Бог яму і нам!

18.08.2005 г. Прафесар, ветэтан Мікола Савіцкі.

## А. Казулін страціў патэнцыял нацыянальнага лідара яшчэ будучы рэктарам

У перадавіцы "Наша слова" 23 лютага 2005 г. чытача цешаць абманнай прыманкай былога рэктара ДБУ аб тым, што ён, як цяпер ужо

вядома хоча стаць чарговым прэзідэнтам Беларусі, выратуе беларускую мову са смяротных абцугоў дзяржаўнай русіфікацыі.

Шаноўны прафесар А. Казулін, Вам лёс падараваў шанец быць рэктарам БДУ у гады, калі кіраўніцтва Беларусі на самым высокім дзяржаўным узроўні праводзіла палітыку жорсткай русіфікацыі. Вы кіравалі не шараговым універсітэтам, а флагманам вышэйшай адукацыі і навукі ў Беларусі. А што Вы зрабілі для таго, каб БДУ стаў не толькі па назве, а і па форме і па змесце беларускім, беларускамоўным, як МГУ - рускамоўны? Нічога.

Першыя парасткі беларускамоўнага выкладання, распачатыя на пачатку 90-х гадоў пры Вас былі не пашыраны, а зведзены да знікнення. Нават на факультэце беларускай мовы і літаратуры не ўсе прадметы выкладаюцца па-беларуску.

У Вас быў шанец заняць пачэснае месца у гісторыі постацяў рэктараў БДУ, побач з першым рэктарам У.І. Пічэтам. Ён не толькі спрыяў станаўленню і адраджэнню беларускамоўнай вышэйшай школы ў Беларусі, але і асабістым прыкладам паказваў, як гэта трэба рабіць. А што Вы? На гэта здольны толькі чалавек з шырокім культуралагічным даляглядам і глыбокай культурай, а не камсамольскай. Ні прэзідэнт А.Лукашэнка, ні міністр адукацыі пры Вашых "царскіх лукашэнкаўскіх" паўнамоцтвах не забараняў Вам самаму, з самапавагі да сябе авалодаць, як рэктару БДУ, хоць бы гутарковай мовай народа, які Вы сёння сабраліся ратаваць і спрыяць паступоваму адраджэнню беларускай мовы, беларускай культуры, беларускай адукацыі. Гэтага ў Вас няма, не было на пасадзе рэктара і ня будзе на пасадзе прэзідэнта. Вы такая асоба якая ёсць і не больш і не менш. Памятую, як Вы на пасадзе намесніка міністра адукацыі варожа ставіліся да вяртання беларускай мовы ў сістэму адукацыі. Па гэтых пытаннях я кантактаваў з Вамі як старшыня Рабочай камісіі Вярхоўнага савета. Пагэтаму тое, што Вас у той час "не пусцілі" да пасады міністра адукацыі - дальнабачнае рашэнне ў гістарычным часе. Нават сёння не саромеецеся гаварыць: "Мы павінны быць эўрапейскімі расейцамі ці расейскімі эўрапейцамі" ( пераклад з расейскай "Наша ніва", № 8, 2005 г.)

А таму Вашы словы ў інтэрв'ю газэце "Народная воля": "з беларускай мовай, шчыра прызнаюся, у мяне не вельмі. Але як чалавек адукаваны, я добра разумею, што менавіта мова - гэта душа і сэрца нацыі. Іншая справа, што пад прымусам нічога не зробіш" вымаўлены Вамі пад прымусам асабістых абставін - хачацца быць прэзідэнтам. Але якім? Прэідэнтам для беларусаў ці для віртуальнага "отечества"? Дарэчы, у агромістым інрв'ю Вы ні разу не ўжылі дарагое кожнаму жыхару Беларусі слова Радзіма,

Бацькаўшчына. Гэта не выпадкова, яны для Вас чужыя, мулкія для Вашага светапогляду. Як для жыхара Беларусі, які любіць сваю родную Беларусь (як рускі ў Расеі любіць Расею), слова Отечество калі не чужое, то халоднае. Адразу пахне імперскасцю, саўковасцю: усё абстрактнае, далёкае ад сэрца, агульчалавечнасці.

Вашым правільным словам у інтэрв'ю: "Беларуская мова - сімвал нашай дзяржаўнасці, нашай адметнасці ў свеце. Гэта тое, што аб'ядноўвае нацыю" хочацца паверыць, але немагчыма. Правільна сказалі, што "адной з галоўных гістарычных памылак А. Лукашэнкі будзе прызнана менавіта тое, што ён не разгледзеў гэты патэнцыл". Вашы словы поўнасцю адносяцца і да Вас. Казулін-рэктар БДУ таксама гэтага не разгледзеў.

Але, як гэта не парадаксальна гучыць - на сёння на беларускім палітычным алімпе не бачна асобы роўнай А.Лукашэнка, якая пры разуменні і жаданні можа аб'яднаць нацыю на грунце вышэй сказанага.

Загаварыць прыгожа А.Лукашэнку па-беларуску няма а ні якіх цяжкасцяў, а для прафесара А.Казулін гэта не вырашальная праблеме. Больш чым за пяць год у мантыі рэктара Вы ні разу не толькі не прамовілі, а нават па паперцы не прачыталі што-небудзь. Пагэтаму мае рацыю прафесар, гаворачы іншым і самому сабе: "не забывайте об ответственности перед своей совестью, народам и Конституцией… - потом будет стыдно".

Але, як гэта не парадаксальна гучыць - на сёння на беларускім палітычным алімпе не бачна асобы роўнай А.Лукашэнка, якая пры разуменні і жаданні можа аб'яднаць нацыю на грунце вышэй сказанага.

Для гарантаванага знаходжання на пасадзе Прэзідэнта Беларусі і апраўдання перад гісторыяй і беларускім народам, на маю думку, А. Лукашэнка дастаткова:

1. Вяруць (дыкрэтам ці іншым актам - юрысты гэта зробяць) гістарычныя дзяржаўныя сімвалы: герб пагоня і бел-чырвона-белы сцяг;

2. Вярнуць Закон аб мовах, прыняты камуністычным Вярхоўным саветам і Дзяржаўную праграму аб выкананні гэтага закона і тэрміны выканання Закона і праграмы, а максімальны тэрмін 10 год.

3. Змяніць знешнепалітычныя прыярытэты, жыць ва ўмовах дэмакратыі і рынкавай эканомікі і іншае ўсё агульначалавечае. Абвясціўшы аб гэтым А.Лукашэнка паралізуе ўсіх лідэраў "так званай апазіцыі". А самае галоўнае захавае духоўнае, а магчыма і фізічнае жыццё. Усё будзе забыта, але здзекі над роднай мовай народа і гістарычнымі сімваламі - ніколі. Толькі самавыпраўленне гістарычнай памылкі выратуе А.Лукашэнкі.

Пры жаданні А.Лукашэнка з яго асабістымі якасцямі пры апоры на

інтэлект нацыянальнасвядомага акружэння ўсё гэта можа рэалізаваць. Загаварыць прыгожа А.Лукашэнку па-беларуску няма а ні якіх цяжкасцей, а для прафесара А.Казулін гэта не вырашальная праблема. Больш чым за пяць год у мантыі рэктара Вы ні разу не толькі не прамовілі, а нават па паперцы не прачыталі што-небудзь. Таму мае рацыю прафесар, гаворачы іншым і самому сабе: "*Не забывайте об ответственности перед своей совестью, народам и Конституцией… - потом будет стыдно*".

Мікола Савіцкі.

## Трэці і чацвёрты тэрміны прэзідэнцтва гарантаваны пры ўмове

Сучасная гісторыя паказвае, што ўсё станоўчае зробленае Вамі, Аляксандр Рыгоравіч, на пасадзе прэзідэнта ў кароткім гістарычным часе будзе забыта ў памяці людзей. Але ніколі ні беларускі народ, ні гісторыя не забудуць і не даруюць занепаду этнічнай мовы беларускага народа (няма мовы - няма нацыі) і адмену гістарычна-дзяржаўных сімвалаў Беларусі: герба "Пагоня" і бел-чырвона-белага сцяга.

Час паказаў памылковасць адмены артыкула 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. і законаў аб дзяржаўнасці беларускай мовы і аб адукацыі. У выніку разбурана беларускамоўная сістэма выхавання і навучання, пачынаючы ад дашкольнай сістэмы і заканчваючы вышэйшай школай. Паступова выгналі беларускую мову з усіх сродкаў масавай інфармацыі і грамадскага жыцця. Усё гэта рэзка затармазіла трэцюю гістарычную хвалю Адраджэння беларусаў як нацыі.

Для спынення татальнай русіфікацыі і асіміляцыі беларускага народа патрэбна моцная асоба, з сучаснымі дыктарскімі рысамі. Роўных А. Лукашэнку ў гэтым сэнсе на палітычным алімпе (апроч З. Пазьняка) няма. А таму выправіць сітуацыю лепш за ўсё самому А. Лукашэнка. Дастаткова публічна перад народам прызнаць свае памылкі, і прасіць у народа дазволіць самому яму іх выправіць, з гарантый.

Для гэтага дэкрэтам (ці іншай прававой формай - юрысты знойдуць юрыдычнае абгрунтаваньне) вярнуць беларускаму народу, незалежнай дзяржаве Беларусь спрадвечнабеларускія і дзяржаўна-гістарычныя сімвалы: герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг.

Абгрунтаваньне: прыклад Расеі - вярнула імперскі двухгаловы герб і бела-сіні-чырвоны сцяг, і ўсе дзяржавы былога СССР таксама вярнулі нацыянальныя гістарычныя сімвалы.

Дэ-факта вярнуць беларускаму народу беларускую мову: артыкул

17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. - аб адзінай дзяржаўнай беларускай мове; аднавіць выкананне "Закон Беларускай савецкай сацыялістычнай рэспублікі аб мовах у Беларускай ССР" 1990 г., і "Дзяржаўную праграму развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР" 1990 г. і выканаць устаноўленыя 10-ці гадовыя тэрміны для паступовага ўвядзення палажэнняў Закона ва ўсе сферы грамадскага жыцця.

Перакананы, толькі А. Лукашэнка, як асоба, калі захоча, можа гэта зрабіць, а значыць Адрадзіць беларусаў, "зрабіць" нас нацыянальна свядомымі беларусамі. Для гэтага патрэбна наступнае.

Прэзідэнту ўсе публічныя выступленні здзейсняць па-беларуску (на першых парах няхай толькі па пісанаму тэксту). Дарэчы, у рэдкіх, але памятных беларускамоўных выступленнях А. Лукашэна глядзеўся намнога выйграшна, у параўнанні з паўсядзёншчынай. Праз пару месяцаў усё чынавенства ўладнай вертыкалі загаворыць па-беларуску. Тут прыклад бацькі ў самым добрым сэнсэ.

Вярнуць ўсім школам статус беларускамоўнай, якім ён быў у свой час нададзены да 1994 г.

Вярнуць народу яго беларускую гістарычную памяць і нацыянальную свядомасць праз асветніцтва з дапамогай усіх СМІ і беларускамоўную сістэму выхавання і навучання. Класічным прыкладам з'яўляецца апошні фестываль у Маладзечна. Два вечары па дзве гадзіны з экрана тэлебачання на высокім прафесійным узроўні была прадаманстравана поўная самадастатковасць сучаснай беларускай музыкі, песні, прыгожага пісьменства.

Весці "свой народ" па шляху эўрапейскай і сусветнай цывілізацыі.

Устанавіць дзяржаўную мяжу з Расеяй, як гэта зроблена з астатнімі суседзямі. Дом з трох сцен - гэта толькі прысценак іншага дома, а не самастойны дом. Беларусь павінна стаць класічна суверэннай Краінай.

Перакананы, што пры выкананні гэтых і іншых лёсавызначальных умоў усе па-сапраўднаму нацыянальна-патрыятычныя, дэмакратычныя партыі і рухі, і галоўнае - Гісторыя Беларусі пагодзяцца нават не на 5, а 10 наступных год прэзідэнства А. Лукашэнкі. Руская брація на Беларусі будзе паслухмянай пры А. Лукашэнку і будзе сябе паводзіць так, як паводзяць сябе нацменшасці ў развітых краінах свету.

Чэхія мае сусветнавядомага першага прэзідэнта Томаша Масарыка, якім так ганарацца чэхі і якога шануе ўвесь свет. А Беларусь, калі захоча (тое што можа ў мяне няма сумненняў) А. Лукашэнка, можа мець свайго Масарыка з унікальным гістарычным імем А.Лукашэнка. Гэта будзе навукова-гістарычным прыкладам не ленінскага "крок наперад - два назад", а "крок назад - дзесяць наперад А. Лукашэнкі". Няхай так і будзе. Дапамажы

Бог яму і нам!

Май-чэрвень 2005 г. Прафесар, ветэтан

Мікола Савіцкі

Галоўнаму рэдактару. Паважаны Станіслаў! Спадзяюся, што матэрыял убачыць свет. Нічога крамольнага, на маю думку, у ім няма, што дазволіла б уладам абвінаваціць газету. Мо я памыляюся, але рэальнасць такая, што напісанае мной здзяйсняльна. У крайнім выпадку такі сцэнар мае месца быць хоць бы для роздуму, дыскусіі.

Час ужо паказвае, што адмаўленне надрукаваць артыкул аб Казуліне было памылкай, меркальтыльныя інтарэсы А. Трусава спрацавалі.

Шчыра. Здароўя, натхненняў, здзясненняў!

Мікола Савіцкі.

## Як жыць - дык жыць для Беларусі

**Адказы на пытанні анкеты клуба *Спадчына* прафесара Міколы Савіцкага:**

*1. Што для вас Спадчына?*

- Спадчына майго роду і беларускага этнасу - гэта мой асабісты духоўны і інтэлектуальны здабытак, мая існасць, сэнс майго жыцця, маё шчасце, маё гора і мая радасць. Я ёсць часцінка-пылінка Беларускай Спадчыны.

*2. Што для вас словы Л. Генію́ш "Як жыць - дык жыць для Беларусі. А без яе - зусім не жыць"?*

- Малітва ў паўсядзённым жыцці, кліч і натхненне да дзеянняў у крытычна-адказныя моманты жыцця, недасягальны эталон для паводзінаў.

*3. Як ставіцеся да дэвізу Марціна Лютара: "У апошні дзень свайго жыцця я буду садзіць сад". А што рабілі б вы, каб ведалі, што жывеце апошні дзень свайго жыцця?*

- Зрабіў бы ўсё магчымае і немажлівае, каб сустрэцца з Прэзідэнтам Беларусі А. Лукашэкам і пераканаць яго ў тым, што ўсё станоўчае зробленае ім на пасадзе Прэзідэнта будзе ў кароткім гістарычным часе забыта. Але ніколі ні беларускі народ, ні гісторыя не забудуць і не даруюць наступнае:

1. Здзек над мовай беларускага народа: адмену артыкула 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. і Закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы, разбурэнне беларускамоўнай сістэмы выхавання і навучання, пачынаючы ад дашкольнай сістэмы і заканчваючы вышэйшай школай,

выгнанне беларускай мовы з усіх сродкаў масавай інфармацыі і грамадскага жыцця;

2. Адмену, знявагу і карнае перасследаванна гістарычна-дзяржаўных сімвалаў Беларусі: герба "Пагоня" і бел-чырвона-белага сцяга.

Я б сказаў А. Лукашэнку, што пазбегнуць Міжнароднага суда і захаваць жыццё ў шырокім сэнсе яму магчыма толькі пры адной умове: самому А. Лукашэнку публічна перад народам прызнаць свае памылкі, прасіць у народа дазволіць самому яму іх выправіць, і даць таму гарантыю. Для гэтага дэкрэтам (ці іншай прававой формай - юрысты знойдуць):

- вярнуць беларускаму народу, незалежнай дзяржаве Беларусь адвечныя і дзяржаўна-гістарычныя сімвалы: герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг;

- вярнуць беларускаму народу беларускую мову: артыкул 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. аб адзінай дзяржаўнай беларускай мове, аднавіць выкананне "Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб мовах у Беларускай ССР" 1990 г., і "Дзяржаўную праграму развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР" 1990 г. і выканаць установленыя 10-ці гадовыя тэрміны для паступовага ўвядзення палажэнняў Закона ва ўсе сферы грамадскага жыцця;

- Прэзідэнту ўсе публічныя выступленні здзяйсняць па-беларуску (на першых парах няхай толькі па пісаным тэксце). Праз пару месяцаў усё чынавенства уладнай вертыкалі загаворыць па-беларуску;

- вярнуць усім школам статус беларускамоўных, якім ён быў у свой час нададзены да 1994 г.;

- вярнуць народу яго гістарычную памяць і нацыянальную свядомасць;

- весці "свой народ" па шляху еўрапейскай і сусветнай цывілізацыі;

- устанавіць дзяржаўную мяжу з Расеяй, як з астатнімі суседзямі. Дом з трох сцен - гэта толькі прысценак іншага дома, а не самастойны дом.

Перакананы, што пры выкананні гэтых лёсавызначальных умоў усе нацыянальна-патрыятычныя, дэмакратычныя партыі і рухі, і галоўнае - Гісторыя Беларусі пагодзяцца нават не на 5, а 10 наступных год прэзідэнства А. Лукашэнкі. Чэхія мае сусветна-вядомага першага прэзідэнта Томаша Масарыка, а Беларусь, калі захоча Аляксандр Лукашэнка (тое што ён можа ў мяне няма сумненняў) можа мець свайго беларускага Масарыка.

Прафесар
Мікола Савіцкі.
Менск, 2005-2006 гг.

## Беларусь як суверэнная дзяржава ёсць, а беларускамоўнага глобуса няма

Апошнія месяцы шукаў для ўнучкі ў крамах глобус на беларускай мове. На тэрыторыі Беларусі, дзе мне пашчасціла быць, гэты беларускамоўны інтэлектуальны вучэбны дапаможнік масавага прымянення ў сістэме навучання і выхавання і ў хатнім інтэр'еры знайсці не ўдалося. У сталічных універмагах іх таксама няма. І як сведчыць афіцыйны адказ дырэктара ГУМ-а на мой запіс у кнігу прапаноў, у Беларусі глобус ніколі не вырабляўся і сёння таксама не вырабляецца.

Лічу мэтазгодным газеце даць інфармацыю аб наяўнасці беларускамоўнага глобуса ў знакамітым Гудзевіцкім літаратурна-краязнаўчым музеі, заснаваным А. Белакозам. Нагадаю чытачам і дзяржаўным асобам, якія маюць прамое функцыянальна-дзяржаўнае і прафесійнае дачыненне, што першым геаграфічным глобусам лічыцца глобус, выраблены М. Бехаймам у 1492 г. Няўжо праз пяць стагоддзяў у Незалежнай дзяржаве Беларусь з тысячагадовай дзяржаўнасцю ў 21-м стагоддзі не з'явіцца сучасны беларус, імя якога ў гісторыі Беларусі стане ў шэрагу М. Бехайма? Сорам перад светам ці сорам на ўвесь свет! Мне асабіста сорамна перад маёй унучкай Альжбэтай, сорамна перад усімі дзецьмі Беларусі, сорамна за тое, што не магу нічога зрабіць, каб у іх быў глобус на роднай беларускай мове. Аднак хочацца верыць, што знойдзецца (можа нават за межамі Беларусі) прагрэсіўна-адказны чалавек, які ўкладзе свой капітал і часцінку свайго сэрца для аб'ектыўна запатрабаванай справы захавання беларусаў як нацыі.

Жыццёва простае пытанне да рускамоўнага міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь (ні разу не чуў і не бачыў, каб А.М. Радзькоў пры выкананні службовых функцый ужываў беларускую мову), чынавенства вертыкальнай ідэалогіі, БРСМ-а - няўжо вы не разумееце, што ГЛОБУС на роднай мове, на этнічнай мове, на беларускай мове - такая ж неабходная рэч для дзіцяці, як і БУКВАР на беларускай мове, і калыханка на беларускай мове. Першыя парасткі патрыятызму дзіця ўсмоктвае праз БУКВАР і ГЛОБУС. Не трэба палітыкі? Аднак створаная існай уладай сітуацыя па гэтых праблемах з'яўляецца самай высокай, самай чыстай палітыкай.

Паспрабуйце ўявіць, што ў Расіі не вырабляюцца рускамоўныя глобусы, у Францыі на французскай мове? Так, згодзен - гэтага не можа быць. На такое пытанне рускія, якія жывуць у Беларусі, мне адказвалі прыкладна так: "О чем вы говорите, чушь какую то прете". Дык чаму ж гэта нялюдскасць мае права на жыццё ў незалежнай дзяржаве Беларусь?

Пішу з верай і надзеяй у прафесійную і дзяржаўную адказнасць тых асоб, якія маюць дачыненне, на першы погляд, да незаўважальнай, а на самай справе асноватворнай, важнай дзяржаўнай праблемы. Няўжо ж Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнку ёй займацца?

04.02.2007 г. Прафесар

Мікола Савіцкі.

*Першапачаткова надрукаваны ў "Народнай волі", а ў 2017 г. у "Новым часе", № 31, 25 жніўня пад назвай "Чаму ў Беларусі няма беларускамоўнага глобуса".*

## Эмоцыі ў ацэнцы асобы шкодныя і для асобы, і для справы

Пайшоў другі месяц, як "Народная воля" надрукавала ў рубрыцы "Меркаванне" артыкул прафесара А. Саламонава "На калені Казулін не стане" (19.04.07 г. , № 61-62), але ацэнка дзейнасці прафесара А. Казуліна, якая дадзена ў артыкуле, ніяк не забываецца, "трымае думанне". Доўга аналізаваў дзейнасць экскандыдата ў Прэзідэнты і выношу на суд грамадскасці сваю ацэнку.

Прафесар А. Саламонаў піша, *"што А.Казулін, як сумленны чалавек і як рэктар у рангу міністра, паслядоўна і рашуча заставаўся заўжды верным сынам сваёй БЕЛАРУСКАЙ РАДЗІМЫ, не здольным на здраду ёй"*. Рэальная, практычная дзейнасць А. Казуліна на ўсіх высокіх, лёсавызначальных пасадах для беларускага адраджэння, сведчыць аб адваротным.

Завяршае артыкул прафесар А. Саламонаў сцвярджэннем, што *"беларускі народ, даведаўшыся праўду, назаве А. Казуліна сапраўдным героем сучаснасці, паслядоўнікам Кастуся Каліноўскага. Гэта будзе непазбежна! Бо Бог на свеце ЁСЦЬ"*.

Каб параўноўваць каго-небудзь з сучаснікаў з Кастусём Каліноўскім, як мінімум, неабходна, каб гэтая асоба ставілася да барацьбы за выратаванне Беларусі так, як гэта рабіў Кастусь Каліноўскі і цалкам падзяляў яго філасофію і канцэпцыю.

Апошнія словы Каліноўскага да беларускага народа, з віленскага астрога, былі: *"Ваюй, народзе, за сваё чалавечае і народнае права, за сваю веру, за зямлю сваю родную. Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасліва, калі над табой маскаля ўжо не*

*будзе"*. У двух кароткіх сказах акрэслена, што рабіць і ў чым асноўная небяспека для шчаслівага жыцця. Во прыклад для палітыкаў незалежнікаў-дэмакратаў.

А што ж сказаў рабіць беларускаму народу і якую галоўную небяспеку акрэсліў прафесар А. Казулін?

Аднак, тут неабходна важная заўвага. Перш чым адказаць на пастаўленае пытанне, шчыра схіляю калені перад мужнай асобай прафесара А. Казуліна, які паказаў нам, як трэба бараніць сваю чалавечую годнасць. На сёння ён асуджаны на 5,5 год турэмнага зняволення. 4 сакавіка 2007 г. яго абралі старшынём сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада). Абраную прафесарам А. Казуліным самую мужную, найвышэйшую форму пратэсту супраць беззаконня - галадоўку - ацэньваю як святасць і звышгераічны ўчынак.

Кожны, хто працуе для дабра нацыі, бароніць яе ад пажырання гістарычна небяспечнай імперыяй, будзе адпаведна ацэнены і ўшанаваны. А для гісторыі няхай будзе і мая ацэнка. Тут звяртаюся асабіста да прафесара-палітвязня А. Казуліна.

Шаноўны прафесар, Вам лёс падараваў шанец быць рэктарам у рангу міністра БДУ ў гады, калі кіраўніцтва Беларусі на самым высокім дзяржаўным узроўні праводзіла палітыку жорсткай русіфікацыі. Вы кіравалі не шараговым універсітэтам, а флагманам вышэйшай адукацыі і навукі ў Беларусі. БДУ па сваіх параметрах аб'ектыўна павінен быць нацыянальным, як МГУ у Расеі. А што Вы зрабілі для таго, каб БДУ стаў не толькі па назве, а і па форме і па змесце беларускім, беларускамоўным, як МГУ - рускамоўны? Нічога.

Першыя парасткі беларускамоўнага выкладання, распачатыя на пачатку 90-х гадоў, пры Вас былі не пашыраны, а зведзены амаль да знікнення. Нават на факультэце беларускай мовы і літаратары не ўсе профільныя прадметы выкладаюцца па-беларуску.

У Вас быў шанец заняць пачэснае месца у гісторыі постацяў рэктараў БДУ, побач з першым рэктарам У.І. Пічэтам. Ён не толькі спрыяў станаўленню і адраджэнню беларускамоўнай вышэйшай школы ў Беларусі, але і асабістым прыкладам паказваў, як гэта трэба рабіць. А што Вы?

На гэта здольны толькі чалавек з шырокім культуралагічным даляглядам і глыбокай еўрапейскай культурай. Ні Прэзідэнт А. Лукашэнка, ні міністр адукацыі пры Вашых "царскіх лукашэнкаўскіх" паўнамоцтвах не забаранялі Вам самому, зыходзячы з самапавагі да сябе, авалодаць, як рэктару БДУ, хоць бы гутарковай мовай народа, які Вы сёння сабраліся ратаваць і спрыяць паступоваму адраджэнню беларускай мовы, беларускай куль-

туры, беларускай адукацыі. Гэтага ў Вас няма, не было на пасадзе рэктара і не будзе на жаданай пасадзе Прэзідэнта.

Вы такая асоба, якая ёсць, і не больш, і не менш. Памятаю, як Вы на пасадзе намесніка міністра адукацыі адмоўна ставіліся да вяртання беларускай мовы ў сістэму адукацыі. Па гэтых пытаннях я кантактаваў з Вамі як старшыня Рабочай камісіі Вярхоўнага Савета. Тое, што Вас у той час "не пусцілі" да пасады міністра адукацыі - дальнабачнае рашэнне ў гістарычным часе. Нават сёння не саромеецеся гаварыць: *"Мы павінны быць еўрапейскімі расейцамі ці расейскімі еўрапейцамі"* ( пераклад з расейскай "Наша ніва", № 8, 2005 г.).

У інтэрв'ю газеце "Народная воля" Вы спрабуеце даць самаацэнку: *"З беларускай мовай, шчыра прызнаюся, у мяне не вельмі. Але як чалавек адукаваны, я добра разумею, што менавіта мова - гэта душа і сэрца нацыі"*, але ж там працягваеце: *"Іншая справа, што пад прымусам нічога не зробіш"*. Вымаўлена Вамі пад прымусам асабістых абставін - хачацца быць Прэзідэнтам. Але якім? Прэзідэнтам для беларусаў ці для віртуальнага "отечества"? Дарэчы, у агромністым інтэрв'ю Вы ні разу не ўжылі дарагога кожнаму беларусу слова *Радзіма*, *Бацькаўшчына*. Гэта не выпадкова, яны мулкія для Вашага светапогляду. Для жыхара Беларусі, які любіць сваю родную Беларусь (як рускі ў Расеі любіць Расею), слова *Отечество*, калі не чужое, то халоднае. Адразу пахне імперскасцю, саўковасцю: усё абстрактнае, далёкае ад сэрца, агульна чалавечнасці.

Вашым правільным словам у інтэрв'ю: *"Беларуская мова - сімвал нашай дзяржаўнасці, нашай адметнасці ў свеце. Гэта тое, што аб'ядноўвае нацыю"*, - хочацца паверыць, але немагчыма. Вы правільна сказалі, што *"адной з галоўных гістарычных памылак А. Лукашэнкі будзе прызнаная менавіта тое, што ён не разглядзеў гэты патэнцыял"*. Вашы словы поўнасцю адносяцца і да Вас. Казулін-рэктар БДУ таксама гэтага не разглядзеў.

Больш чым за пяць год у мантыі рэктара ў рангу міністра і старшыні Рады рэктараў Рэспублікі Беларусь Вы ні разу не толькі не прамовілі, а нават па паперцы не прачыталі што-небудзь па-беларуску. Таму маеце рацыю, гаворачы іншым і самому сабе: *"Не забывайте об ответственности перед своей совестью, народом и Конституцией… - потом будет стыдно"*. А мо хопіць Беларусі гэтага "стыдно"?

Веру, што гэты артыкул прыдасць Вам новай мужнасці на шляху, які вядзе да Свабоды і служэння Вашым ідэалам.

2007 год.

Ветэран, прафесар
Мікола Савіцкі.

## Добры прыклад для Прэзідэнта А. Лукашэнкі

Адна з масавых газета "Рэспубліка" (№ 4, 2008 г., 10 студзеня) надрукавала артыкул "Саркази против английского". Ненармальнае становішча роднай беларускай мовы для беларусаў у Беларусі выклікае асаблівую цікавасць да моўнай палітыкі ў Францыі.

Дык што ж стратэгічнае важнае для нас сказаў і якую моўную палітыку праводзіць прэзідэнт Францыі?

А сказаў ён на адной з канферэнцый наступнае: *"На грошы падаткаплатнікаў я не гатовы да вяшчання канала, які гаворыць не па-французску"*. Гаворка ідзе аб канале "France 24", які быў створаны пры прэзідэнце Ж. Шыраку і са снежня 2006 г. пачаў вяшчанне на ангельскай мове.

Саркзі патрабуе, каб узамен існых каналаў у Францыі на арабскай, іспанскай, ангельскай мовах быў створаны новы канал "France Monde" (Францыя-Свет") толькі на французскай мове, магчыма, з субцітрамі на гэтых мовах. Пры гэтым прэзідэнт патрабуе яго стварыць "як мага хутчэй, ва ўсякім выпадку, у гэтым годзе".

Веру ў тое, што лёсавызначальны вопыт Францыі і яе прэзідэнта ў пытаннях абароны і развіцця роднай беларускай мовы для беларусаў у Беларусі вядомы Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь, падзяляецца ім. А ў яго ўменні і жаданні вырашаць самыя складаныя праблемы няма сумневу нават у тых, хто мае іншым погляды на жыццёвыя праблемы.

14 студзеня 2008 г. Сябра рэспубліканскай рады ТБМ,
прафесар Мікола Савіцкі.

## Беларусы ўцякаюць ад сябе саміх
### (на прэзэнтаці ў Сядзібе БНФ "Адраджэньне" кніжкі Анатоля Астапенкі "...ЙГДЗЕ ЗРОДИЛИСЯ И УСКОРМЛЕНЫ СУТЬ ПО БОЗЕ ...")

Гістарычныя стогадовыя паланізацыя і русіфікацыя на дзяржаўным узроўні стварылі ў Беларусі пачварную сітуацыю, дзе ў сябе на гістарычна-этнічнай РАДЗІМЕ беларусы ўцякаюць ад сябе саміх. Што іх спыніць у гэтым дзікунстве? Што іх верне да сябе саміх, да самабытнасці беларусаў? Хто накіруе думкі і пачуцці беларуса да Беларусі?

Адказ на гэтыя пытанні ляжыць на паверхні - гэта можа зрабіць толькі беларуская нацыянальная ідэя і беларускі цывілізаваны нацыяналізм (ствральны нацыяналізм).

Гэтай праблеме і пасвяціў апошнія 20 год свайго творча-інтэлектуальнага жыцця аўтар кніжкі, якія (аўтар і кніжка) сабралі нас сюды - у месца, дзе беларускі дух і Беларуссю пахне.

Анатоль Астапенка закрануў самыя патаемныя балючыя грамадскія думкі і свядомасць беларусаў.

Трывалым падмуркам дзяржаўнасці ёсць агульнанацыянальная ідэя. Без дакладна акрэсленага зместу, сфармуляванага на глыбокім навукова-гістарычным узроўні і разам з тым папулярнай формы, зразумелай на бытавым жыццёвым узроўні, нельга разлічваць на поспех у справе нацыянальнага адраджэння, абуджэння нацыянальнай свядомасці беларусаў і жыццядзейнай інтэграцыі ў Еўропу.

Ролю і месца нацыянльнай ідэі ў гармоніі развіцця грамадства разумеюць і функцыянеры існай улады. Але як яе злавіць за хвост, ці яшчэ за што, яны не ведаюць і аб'ектыўна не зловяць яе, таму што не абапіраюцца на аналіз гістарычных падзей Краіны.

Жыццё сведчыць, што для асэнсавання і тэарэтычнага фармулявання лёсавызначальных паняццяў, як беларуская нацыянальная ідэя і беларускі нацыяналізм патрабуюць ад творцаў гістарычнага, сацыяльнага і дыялектычннага метадаў пазнання. І яшчэ, мабыць, самае галоўнае - аўтар-творца, які дакранаецца да Яе, павінен мець ад Бога, Прыроды сэрца беларуса. Без пачуцця свайго роднага этнасу нельга з любоўю, з Боскай любасцю да беларускага народа, быць карысным для развіцця, пашырэння і паглыблення сваёй роднай нацыянальнай ідэі і свайго роднага нацыяналізму. Таму цалкам падзяляю вельмі важны вывад аўтара: *"Напісаць сапраўдную кнігу пра беларускі нацыяналізм можа толькі беларускі нацыяналіст. …Для гэтага трэба нарадзіцца беларусам"* (стр,18).

Мабыць, упершыню ў саліднай навуковай працы Анатоль Астапенка сказаў аб шкоднасці "новых беларусаў" у беларускім адраджэнні. што яны "*ёсць крыніца антыбеларушчыны і заганнага погляду на многія рэчы ў беларускай прасторы"* (стр. 21).

Кніжка карысна і для навукоўцаў і для масавага чытача. У ёй знітаваны ў часе гістарычныя падзеі, асобы і нацыянальная ідэя, беларускі нацыяналізм.

Мабыць упершыню ў навуковай працы зроблена спроба ацэнкі палітычных падзей у Беларусі на мяжы 20 і 21 стагоддзяў, гістарычнай ацэнкі развіцця палітычнага руху і палітычных лідараў, уключна з Зянонам Пазьняком.

Лічу няўдалую рэдакцыю важнага выказвання: *"Тэорыі беларускага нацыяналізму і беларускай нацыянальнай ідэі няма"* (стр. 5). Тэорыя ёсць,

яна ў сутнасці, беларускасці беларусаў. Трэба гаварыць аб адсутнасці навуковых і навукова-папулярных прац па гэтай тэматыцы ў сувязі з гістарычнымі абставінамі. Ды і сам аўтар там жа сцвярджае, што *"агульная тэорыя, дактрына нацыяналізму ў сусветнай навуцы ёсць"*.

Змест і форма падачы матэрыялу сведчаць аб тым, што аб гэтай кніж-цы, як мінімум, павінен ведаць кожны беларус, а лепш было б, каб яна стала настольнай кніжкай у кожнай беларускай хаце.

06.2010 г. Акадэмік міжнароднай акадэміі навук Еўразіі,
прафесар Мікола Савіцкі.

## Развагі аб ролі інтэлігенцыі ў адраджэнні праваслаўнай аўтакефальнай царквы ў Беларусі

Галоўным у ролі інтэлігенцыі ў гістарычным працэсе развіцця любой нацыі ёсць ідэйнае яе размежаванне ў залежнасці ад адносінаў яе да сацыяльнай ролі: шчыра, у рэчышчы прагрэсу, служыць свайму народу ці быць агентамі рэгрэсу, у якім зацікаўлены нашы знешнія гістарычныя ворагі.

У першапачатковым сэнсе слова інтэлігенцыя выкарыстоўвалася ў лацінскай мове і ўказвала на шырокі спектр разумова-мысліцельнай дзейнасці. З другой паловы 19-га стагоддзя слова пачало выкарыстоўвацца ў адносінах да грамадскай групы людзей з крытычным спосабам мышлення, здольных да сістэматызацыі ведаў і жыццёвага вопыту.

Мера грамадскай свядомасці сапраўднай інтэлігенцыі ёсць яе адносіны да свайго народа. Гістарычна так склалася, што інтэлігенцыя заўжды спагадліва адносілася да этнасу роднай Бацькаўшчыны, імкнулася яму служыць, паляпшаць яго жыццё, паказваць існыя ў краіне абмежаванні ў развіцці культуры, сучасных тэхналогій і эканамічнай адсталасці.

А якая ж сёння рэальнасць у Беларусі? Ужо 26-ты год беларуская інтэлігенцыя зацугляная прэзідэнцкай вертыкаллю. Прадстаўнікі перадавой нацыянальна-свядомай інтэлігенцыі дапамагаюць у пераадоленні гэтых з'яў: вучаць як расцугляцца.

Нацыянальная ідэя аб'ядноўвае інтэлігенцыю, акрэслівае яе адказнасці перад народам за яго культурнае развіццё, паказвае, як пераадолець патрыярхальную абмежаванасць, духоўную спустошанасць. Адзін з духоўных апосталаў беларускага народа Якуб Колас вобразна параўнаў функцыі прагрэсіўнай часткі інтэлігенцыі з роллю балотнай вады ў развіцці біясферы. Прызначэнне інтэлігенцыі - гэта пастаянна і сістэмна спрыяць павышэнню культурнага ўзроўню народа, яго нацыянальнай свядомасці,

быць у авангардзе, унушаць веру ў перамогу справы нацыянальнага адраджэння. Па абмяркоўванай праблеме аўтакефаліі - гэта весці свой народ да юрыдычнага атрымання Томасу для Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай Царквы ад мацеры Цэрквы Канстанцінопальскай. Мяркую, што аўтакефалію нацыянальнай царквы, незалежна ад канфесіі, трэба ўспрымаць і прынімаць як трэцюю маці, Богам даную кожнаму чалавеку ад яго нараджэння (першая мама - якая нарадзіла, другая - родная мова). Такім чынам, у кожнага чалавека ёсць тры Маці: гэта 1) родная маці, якая дала жыццё, 2) для беларуса родная беларуская мова, 3) слова Бога ў роднай мове (нацыянальная царква). На жаль, гістарычна хрысціянская беларуская нацыя чула і засвойвала слова Божае не ў сваёй этнічнай мове. Роднамоўная аўтакефалія ёсць галоўны наш шлях да ўспрымання слова Бога ў максімальна поўным сэнсе. Аўтакефалія ёсць божая зброя ў захаванасці і далейшым развіцці беларускай мовы, беларускай культуры, адраджэнні беларускай ідэнтычнасці, адзін з галоўных гарантаў рэальнага суверэнітэту.

Кожны інтэлігент у паўсядзённай сваёй місіі асветніцтва свайго народа павінен памятаць аб стратэгіі і тактыцы агрэсіўнага суседа з усходу Расейскай імперыі, сфармуляванай ва Указе царыцы Кацярынай II аж у далёкім 1796 годзе і, як паказаў час, практычна рэалізуецца і цяпер. Вось квінтэсэнцыя гэтай стратэгіі ў арыгінале:

*"…Великое Княжество Литовское впредь именовать только Белой Русью, а народ её белорусами, чем на века привяжем её к России. Замирить Белую Русь силой невозможно. Эту миссию мы возложим на русского чиновника, русского учителя, русского попа. Именно они отнимут у белорусов не только их язык, но и саму память про самих себя".*

Гармонія суб'ектаў народ-інтэлігенцыя. У гістарычным часе народ і інтэлігенцыя развіваюцца адэкватна існуючым умовам. Развіццё грамадства ідзе па спіралі ад ўздыму да заняпаду. Уздым (нацыянальнае адраджэнне) адбываецца пасля культурнага "выспявання" этнасу і самой яго інтэлігенцыі. У гэты гістарычны час народ культурна разумее неабходнасць рэвалюцыйна-эвалюцыйнага нацыянальнага абагачэння - нацыянальнага адраджэння. Яно патрабуе агульнага нацыянальнага разумення. Эфектыўнае адраджэнне адасобленых кампанентаў агульнага працэсу магчымы толькі тады, калі народ саспеў для агульнанацыянальнага адраджэння.

Тэма нашай канферэнцыі ахоплівае вельмі важную кампаненту беларускага адраджэння: Беларуская праваслаўная аўтакефалія. Сёння ў Рэспубліцы Беларусь чвэрць стагоддзя пануе пажыццёвая аўтакратыя А. Лукашэнкі і яго прэзідэнцкай вертыкалі, і рэальная пагроза паглынання

нас у пашчы Расейскай сучаснай імперыі. Паўстае пытанне: ці саспеў беларускі народ для адказнага разумення неабходнасці і гатоўнасці да цэлага, поўна маштабнага адраджэння? Толькі глыбокі аналіз стану грамадства Беларусі за апошнюю чвэртку стагоддзя пакажа нам: куды прывёў за 25 год беларусаў першы Прэзідэнт. Напрыклад ад вялікай рускай культуры ён ўзяў толькі сучасную расейскую папсу. І толькі, убачыўшы і асэнсаваўшы, да якой катастрафічнай мяжы прыйшоў беларускі народ, можна будзе актывізаваць працэс сёння, ці працаваць і чакаць лепшых часоў, каб здзейсніць трэццяе наша нацыянальнае адраджэнне.

Што трэба рабіць? Дзеля гэтага ў першую чаргу неабходна паступова ўрэзаць (адкінуць) расейскі інфармацыйны кантэнт і пачынаць заканадаўча пашыраць беларускі, еўрапейскі, усіх краін сумежжа: Украіна, Польшча, Літва, Латвія, Эстонія. Ключавая праблема дзяржаўных беларускіх СМІ - гэта аднапазіцыйны погляд на любыя падзеі, з'явы. Любая пазіцыя павінна быць прадстаўлена, як мінімум, двума пунктамі погляду. Да інфармацыі чалавек адносіцца, як да паветра, яно якое ёсць такім ён і дыхае, але ж яно можа быць атручаным. Трэба распрацаваць Закон аб ахове беларускай інфармацыйнай прасторы. Трэба адрадзіць беларускую мову ў статусе канстытуцыйнай адзінай дзяржаўнай мовы. Для гэтага трэба толькі вярнуць да жыцця Закон аб мовах 1990 года, які ўпершыню ў гісторыі назваў беларускую мову адзінай дзяржаўнай у Беларусі.

Так званая беларуская стабільнасць - гэта захоўваць без зменаў тую сітуацыю, якую маем, якая ёсць. Рэальнасць сёння такая, што наша мроя і жаданне ў атрыманні Томасу аўтакефаліі знаходзіцца ў руках Прэзідэнта А. Лукашэнкі (пакуль ён пры ўладзе). На дзяржаўным узроўні рэалізуецца гістарычная стратэгія Расейскай імперыі (памятаем указ Кацярыны). І ў гэтых умовах трэба актывізаваць, выспельваць народ як да агульнанацыянальнага адраджэння, так і да адраджэння Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Час, калі беларускі народ будзе гатовым прыняць розум і сэрцам і актыўна аб'яднацца для дасягнення нашай гістарычнай духоўнай мэты залежыць ад інтэлігенцыі, ад нацянальна свядомай эліты. Гэты гістарычны працэс магчымы толькі пры сімфанічнай гармоніі ўлады - народа - інтэлігенцыі па выхаванні спеласці народа да стану разумення адраджэння, як цэлага, а не частковага працэсу. Усе павінны бачыць блізкую і далёкую будучыню, а не працягваць мучыцца ў цемры сучаснага. Трэба палюбіць адраджэнне, як сваё роднае, цэлае.

Народ як аб'ект, а не суб'ект у масе сваёй пасіўны. Народ для ініцыятыўнай нацыі стваральнай інтэлігенцыі ёсць аб'ект для вырошчвання спелай нацыі. Акадэмік Язэп Лёсік ва ўзаемным адзінстве "народ - нацыя" мета-

фарычна параўноўваў народ так: *"Глыба мармуру праяўляе хараство, калі над ёй папрацуе сіла творчая - скульптар-мастак, і праявіць у ім сваю думку-ідэю"*. Народ піша сваю гісторыю сам, але пад нечым кіраўніцтвам і галоўным яго настаўнікам і выхавацелям (лакаматывам) ёсць нацыянальная свядомая інтэлігенцыя.

Такім чынам, для дасягнення рэальнага адраджэння беларускай праваслаўнай аўтакефаліі пачынаць трэба з самаарганізацыі самой інтэлігенцыі вакол асобаў пакліканых Богам. Інтэлігенцыя для народа ёсць яго розумам, духам, яго асабістым інстынктам жыцця. Тварцом волі, нацыянальнага характару і светапогляду свайго народу ёсць патрыятычная інтэлігенцыя. Творчыя здабыткі інтэлігенцыі народ прымае. Сёння ў Беларусі інтэлект інтэлігенцыі ў значнай ступені скіраваны не на карысць павышэння свядомасці беларускага народа. Таму патрэбны час для асэнсавання ролі і месца аўтакефальнай БПЦ ў асяроддзі самой беларускай інтэлігенцыі. І толькі пасля таго ісці ў народ для актыўнага асветніцтва і адэкватных дзеяў. Гістарычную Беларускую аўтакефальную праваслаўную царкву беларускі народ прыме і падтрымае, як сваю родную Маці. Гісторыя вучыць, што прымусовае абмежаванне народа ў духоўным і культурным жыцці прыводзіць да катастрофы. Як ноч змяняецца днём, так і на змену чужароднаму маскоўскаму праваславію з Божай ласкі і падтрымцы Праваслаўнай цэрквы Украіны, якая атрымала Томас ад мацеры Царквы Канстанцінопальскай, на беларускім небе засвеціць знічка Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы!

Памажы, Божа! З Богам за святую справу!

Менск, 26.07- 16.08.19 г. Мікола Савіцкі, прафесар, акадэмік Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі.

## Дзякуй тэлеканалу АНТ за "Навагодні аганёк"

Беларусы, радуйцеся і ганарыцеся! Упершыню за 18-ці гадавое кіраванне Рэспублікай Беларусь А. Лукашэнкам тэлеканал АНТ падараваў жыхарам Беларусі цалкам беларускамоўны "Навагодні аганёк". На жаль, у святочную праграму не ўпісваліся, знешне сімпатычныя і інтэлігентныя "русскоязычныя", вядоўцы. На працягу 2 гадзін і 15 хвілін з вуснаў выканаўцаў, як бясконцая крынічка, гучалі толькі беларускія песні. І ў гэты час забыліся няспынныя нявыкананыя просьбы да Прэзідэнта, высокіх чыноўнікаў і змаганне за родную і першую дзяржаўную беларускую мову, культуру. Упэўнены, што беларусы, якія паўсядзённа карыстаюцца беларускай мовай і якія ў сэрцы носяць, паважаюць і шануюць яе, дзве гадзіны былі на

небе разам з Богам.

Маё ўспрыманне гэтай важнай падзеі: кіраўніцтва АНТ, стваральнікі і ўдзельнікі навагодняга аганька, нарэшце, па добраму прафесійна раззлаваліся і рашылі самім сабе, як прафесіяналам, даказаць, а тэлегледачам паказаць, што тэлебачанне ў Беларусі можа і павінна быць як ва ўсіх краінах - нацыянальным, што пара спыніць гуманітарную катастрофу з беларускай мовай - асновай беларускай культуры, асноўнага гаранта і абаронца сапраўднага суверэнітэту.

Удзельнікі навагодняга аганька яскрава і пераканаўча прадэманстравалі і пацвердзілі поўную самадастатковасць сучаснай беларускамоўнай эстрады - асновы сучаснай шоў індустрыі. Нашы спевакі, нашы прыгажуні ні ў чым не ўступаюць расейскай папсе. На жаль, наш Прэзідэнт адкінуў, уласнаручна разбурыў сцяну (мяжу) з Расеяй. І наш Дом-Беларусь застаўся трысценам, а ён па законах фізікі і архітэктуры не прыдатны для нармальнага жыцця. Трысценак заўжды прыляпляюць да іншага дома, які мае чатыры сцяны. Гэта параўнанне даю ў сувязі з тым, што ўжо 18 гадоў ні на тэлеэкранах, ні на тэатральных сцэнах нашых палацаў і арэнаў мы амаль не бачым артыстаў з суседніх краін: Украіны, Польшчы, Літвы, Эстоніі. А таму і параўнаць нашу эстраду з імі няма магчымасці.

Мае прапановы і просьба да кіраўніцтва Белтэлекампаніі і АНТ.

Абавязкова паўтарыць і не адзін раз "Навагодні аганёк" на АНТ-2013 і прапанаваць яго іншым каналам. Рэкламныя моманты, дзеля эканоміі, часу трэба зняць. Памятаем, Прэзідэнт аб'явіў 2014 год "годом бережливости".

Дзеля абуджэння здаровага гонару і самапавагі - усім дэпутатам абедзвюх Палат на чале з іх кіраўніцтвам у поўным складзе арганізаваць культпаход на прагляд "Навагодняга аганька" на АНТ-2013.

І яшчэ: па коштах квіткоў на пераспелых пенсіянераў расейскай шоўэстрады, якім аддадзены ўсе лепшыя сцэны, для 80 працэнтаў жыхароў Беларусі канцэрты недаступныя. У той час, нават народныя і заслужаныя артысты Беларусі рады ў гады выступаюць на тэлеканалах і тэатральных сцэнах. Што ўжо казаць пра маладую рунь. А яна такая сакавітая, такая надзейная для творчага буяння і росквіту. Толькі не трэба яе дратаваць і зневажаць. Згадаем для прыкладу прарыў і прызнанне, на вялікі жаль, за мяжой Яўгена Літвінковіча, Уладзіміра Дзмітрука. А для гэтага ад адпаведных чыноўнікаў патрабуецца так мала - чэсна, як патрабуе Прэзідэнт, выконваць свае абавязкі перад народам, і так многа - палюбіць адпаведна сваёй пасадзе, асабістай інтэлігентнасці беларускую культуру, мову.

12.01.2013 г. Прафесар Мікола Савіцкі.

# ДУХОЎНЫ СКАРБ

**Газета "Народная воля" № 91 (3832), 19 лістапада 2013 г.**
**Помнікі - сапраўдным нацыянальным героям, месца істуканаў акупацыйнай улады - на сметніках гісторыі, 3 снежня 2013 г.**

Сёлетні і наступны гады для Беларусі асаблівыя. 175 год з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага. 150-годдзе вызвольнага паўстання (1863-1864) і 150 год з дня пакарання Народнага героя расійскімі царскімі ўладамі ў Вільні.

У той час, калі патрыятычныя сілы Беларусі імкнуцца годна адзначыць вышэйпералічаныя юбілейныя даты, шавіністычныя хаўруснікі, якія гуртуюцца вакол сайта Imperia, паставілі перад сабой мэту не толькі сарваць святкаванне, але і прадоўжыць фальсіфікаваць і перакручваць гістарычныя факты нашага роднага краю, дэзінфармаваць грамадства і ў першую чаргу моладзь, студэнцтва. Некаторыя ж заўзятары антыбеларускай кампаніі выкладаюць у рэгіянальных універсітэтах, працуюць у афіцыйных газетах і часопісе "Беларуская думка".

Аднак падчас дыскусіі апаненты выглядаюць вельмі слаба і бляклa. Па ўсім відаць, што яны - змагары з беларушчынай толькі з-за вугла. Тым не менш факт распальвання антыбеларускай істэрыі гэтай групоўкай у інтэрнэце і часопісе "Беларуская думка" прымушае нас выказацца па набалелых гістарычных пытаннях.

Не паўстанцы і Каліноўскі са зброяй, шыбеніцамі і гвалтам прыйшлі ў Масковію наводзіць свае беларускія парадкі, а наадварот. У нашу краіну не раз урываліся маскоўскія князі, цары і царыцы і разбуралі яе жытло, дамы, замкі, хрысціянскія храмы. Але да XVII стагоддзя Вялікае Княства Літоўскае было вялікай і моцнай дзяржавай і магло пастаяць за сябе, даць адпор любым заваёўнікам. Масква ж вельмі часта ў паходах на Беларусь аб'ядноўвалася з татарскімі ханамі. І тады нашым ваярам было яшчэ цяжэй у войнах. Але нашы прашчуры доўгія стагоддзі былі на пярэднім плане ў адбіванні агрэсіі з Усходу. І выстаялі ажно да 1772-1795 гадоў.

У 1514 годзе шматтысячная маскоўская арда перайшла межы ВКЛ. Былі захоплены Смаленск, Мсціслаў, Крычаў, Дуброўна, Друцк. 80-тысячнае войска стаяла пад Оршай, гатовае захапіць усё Вялікае Княства. Па загадзе вялікага князя маскоўскага войскі Чаляднiна, Булгакава-Голіцы везлі пад Оршу дзясяткі вазоў з вяроўкамі, каб усё беларускае войска звязаць і прыгнаць, як быдла, у Маскву для расправы. Але атрымалася наадварот. Пад зверхніцтвам Вялікага гетмана Канстанціна Астрожскага беларускія

рыцары ўшчэнт разбілі няпрошаных гасцей: 40 тысяч забітымі, 5 тысяч палоннымі, астатніх гналі да Смаленска.

У 1563 годзе пачалася новая вайна Масковіі за прыбалтыйскія землі (Лівонію). Цар Іван Жахлівы даў загад сваім ваяводам выпальваць Літву і ісці на Менск і Наваградак. 16 гадоў цягнулася акупацыя Полаччыны.

У 1654 годзе новы Маскоўскі цар паслаў на ВКЛ 100-тысячнае войска. Беларусь зноў уся была акупаваная. Цар наказваў ваяводам на сваім шляху ўсё паліць і разбураць, а каб болей панішчыць, назад ісці іншымі дарогамі. Тады ваявода Трубяцкой адказваў цару: *"Вокруг Слуцка мы велели все выжечь, а, идучи дорогой до Слонима, села, и деревни, и хлеб, и сено на обе стороны жгли и людей побивали и разоряли совсем без остатку, а в Клецке в городе людей всех побили"*. Маскоўскі цар вазамі пастаўляў у Беларусь запарожскім казакам гарэлку за іх удзел у вайне.

Гэтая вайна доўжылася 13 гадоў. У ёй загінуў кожны другі наш жыхар. У час гэтай вайны 2 лютага 1661 года ў Магілёве было ўзнята, мо, першае паўстанне супраць захопнікаў, у выніку чаго ўдалося вызваліць горад ад маскавітаў. Кіраўніком паўстання быў Язэп Левановіч.

Падчас гэтай крывавай вайны 300 тысяч беларусаў вывезлі ў Маскву. Частку нашых нявольнікаў прадавалі персам, туркам у вечнае рабства па 3 рублі за душу. Значную колькасць палонных разабралі маскоўскія памешчыкі, а асноўная частка ў цёмнай Маскве адчыняла школы, тэатр, пачалі друкаваць кнігі, стваралі майстэрні, дзе рэзалі з дрэва скульптуру, выраблялі кафлю, будавалі палацы для цара, адлілі Цар-гармату...

Нехта Шымаў прапануе ў Беларусі паставіць помнік цару-бацюхну. Цікава, якому? Мо таму, які ў Клецку перабіў усіх жыхароў? Ён жа пазнішчаў большасць жыхароў у Полацку, Віцебску, Мсціславе, Магілёве. Ці, можа, Івану Жахліваму, які не толькі перабіў палову жыхароў Полацка, вывез унікальную бібліятэку з Сафіі Полацкай і сваіх жонак жыўцом клаў у труну і тапіў у сажалцы? Ці, можа, Пятру І, які ўласнаручна забіў полацкіх святара і манахаў у Сафіі, загадаў узарваць наш першы храм і знішчыў Полацкі, Віцебскі, Аршанскі і Смалянскі замкі? Альбо таму, хто задушыў свайго бацьку-цара? Ці тым царам, якія загубілі тысячы беларускіх жаўнераў падчас захопніцкіх войнаў Расіі?

Наперадзе былі паўстанні пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі і Т. Ваўжэцкага ў 1794 годзе (абодва народжаны ў Беларусі). А генерал Я. Ясінскі быў заўзятым патрыётам ВКЛ.

У 1830-1831 гадах наша нацыянальная патрыётка капітан Эмілія Плятар узняла нямала маладых паўстанцаў на чарговую барацьбу з царызмам.

Пасля канчатковага захопу царскай Расіяй усіх літоўскіх (беларускіх) земляў ВКЛ у 1795 годзе маскоўскі ўрад браў з жыхароў Літвы-Беларусі грабежніцкі падатак серабром у чатыры-пяць разоў большы, чым у самой Расіі. Былі ўведзены рэкруцкія наборы, чаго раней наша краіна зусім не ведала. Паўмільёна вольных сялян расійскія ўлады зрабілі прыгоннымі і раздалі памешчыкам. Беларускія гарады пазбавілі самакіравання (Магдэбургскага права).

У сукупнасці ад набору 1782 года (першы набор) і да 1812 года ў маскоўскім войску было звыш 220 тысяч беларусаў-ліцвінаў. Многія з іх загінулі ў паходах Суворава, пад Аўстэрліцам, у Прусіі, на расійска-турэцкіх войнах і ў іншых бітвах. У 1812 годзе з беларускіх земляў у расійскае войска было выстаўлена больш за 130 тысяч жаўнераў.

У час войнаў, а таксама пасля паўстанняў 1830-1831, 1863-1864 гадоў у Маскву, С.-Пецярбург і іншыя гарады Расіі цягнуліся па дарогах ланцугі вазоў з нарабаваным дабром, якое асядала ў сховах генералаў і фельдмаршалаў, але галоўнае - у царскіх палацах. Гэта было дзяржаўнае рабаўніцтва. Так знікалі скарбы з палаца Льва Сапегі, з замкаў Радзівілаў у Міры, Нясвіжы, з замкаў у Вільні, Полацку, Любчы, Гародні, Ляхавічах і іншых замкаў, палацаў, храмаў... Так зніклі дзяржаўныя скарбы: архіў ВКЛ - Літоўская метрыка за амаль увесь час існавання дзяржавы, якая цяпер знаходзіцца ў маскоўскіх і піцерскіх музеях, сотні слуцкіх паясоў, начынне з золата і серабра і іншыя каштоўныя рарытэты, а таксама вялікая колькасць жывапісу, графікі, скульптуры і іншыя скарбы. Такім жа выпрабаваным шляхам, напэўна, знік і Крыж Еўфрасінні Полацкай ужо ў добрых вучняў - савецкіх нашчадкаў цароў-імператараў.

Але царызм учыніў самае страшэннае злачынства супраць нашага этнасу - мільёны жыхароў Беларусі былі выселены ў Сібір, на Далёкі Усход і ў іншыя месцы на пасяленне і катаргу. Многія былі пазбаўлены жыцця. Толькі шчаслiўчыкам пашанцавала апынуцца ў эміграцыі ў Парыжы і іншых гарадах Еўропы. У Беларусі мясцовым жыхарам займаць хоць якія дзяржаўныя пасады было забаронена. Для такой працы ў нашу краіну прывозілі (з мэтай культурнага ўціску і русіфікацыі) прадстаўнікоў цэнтральных карэнных рэгіёнаў Расіі. І Кастусь Каліноўскі не змог у Беларусі ўладкавацца на працу. Віленскі ўніверсітэт царызм зачыніў у 1832 годзе, на наступны год пасля паўстання, як рассаднік вальнадумства (нацыяналізму, па сённяшняй тэрміналогіі). У 1839 годзе была ліквідавана Уніяцкая царква - носьбіт нацыянальнага духу і культуры.

Такім быў пярэдадзень паўстання 1863-1864 гадоў. У Вялікім Княстве Літоўскім паўстанцы пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага ўзнялі народ

супраць бесчалавечнай палітыкі царызму ў нашай краіне, супраць здзекаў на нацыянальнай, палітычнай, культурнай, адукацыйнай, гаспадарчай падставах, супраць гвалту, які чыніў маскоўскі царызм на нашай зямлі.

У паўстанні ўзялі ўдзел лепшыя прадстаўнікі нашага народа ўсіх саслоўяў: магнаты, шляхта, мяшчане, гараджане, сельскія жыхары, сяляне, святары розных канфесій. Не браць удзел у паўстанні было непрыстойна, немагчыма. Людзі змагаліся за сваю краіну, за свой народ.

У шэрагах паўстанцаў змагаліся прадстаўнікі беларускай (літоўскай) інтэлігенцыі: пісьменнікі (у іх ліку Францішак Багушэвіч, Арцём Вярыга-Дарэўскі, Мікалай Караткевіч), мастакі Міхал Андрыёлі, Казімір Альхімовіч, Альфрэд Ромер, Генрых Дмахоўскі (загінуў у баі) і іншыя, а таксама Каміла Марцінкевіч, дзед будучага славутага кампазітара Дзмітрыя Шастаковіча, бацька Надзеі Крупскай Канстанцін, бацька Аляксандра Грына Сцяпан Грынеўскі, браты Кастравіцкія - бацькі Каруся Каганца і Гіёма Апалінэра. Паўстанцам спрыяў Дунін-Марцінкевіч.

У паўстанчым войску змагаліся цэлыя роды-фаміліі. Гонар ім і слава! Вечнай будзе памяць тых, хто аддаў свае жыцці за волю нашага народа за яго гонар!

"Імперыялісты" з сайта Imperia і мы таксама моўчкі ходзім каля помнікаў тэрарыстам Леніну, Свярдлову, Калініну, Дзяржынскаму, па вуліцы Валадарскага, Мяснікова і іншых. Вядома ж, нельга рабіць выгляд, што тапаніміку нельга мяняць. Крыважэрцам месца на сметніках гісторыі, а не ў цэнтры гарадоў. Фелікс Дзяржынскі - вынаходнік і заснавальнік канцлагераў у СССР - у практыцы вядомы як жорсткі забойца. Свярдлоў ва ўласным сейфе захоўваў 100 кг нарабаванага ў людзей золата і срэбра. Вуліцы, названыя імем ката і злодзея, ёсць па ўсёй Беларусі. Уладзімір Ленін атрымаў каля ста мільёнаў марак ад нямецкага ўрада для падрыхтоўкі і правядзення рэвалюцыі, разбурыў Расію, давёў яе да краху, галечы і голаду, а ў 1920 годзе на яго загад была разгромлена Беларуская Народная Рэспубліка і яе абаронцы - Слуцкі збройны чын. Калінін, апрача іншага, не быў супраць прапановы Берыі расстраляць у Катыні і іншых месцах польскіх афіцэраў, сярод якіх было шмат і беларусаў. Імёнамі гэтых і іншых тэрарыстаў названы вуліцы, плошчы, усталяваны помнікі, мемарыяльныя шыльды і іншае. Дык гора-гісторыкі не чапаюць гэтай тэмы. Гора-гісторыкі і "палітолагі" (нехта ж іх трымае на працы) з гэтым станам згодны і не выступаюць супраць, а знайшлі сабе занятак гадзіць там, дзе часова прыжыліся. Але нашай гісторыі і нашых герояў ім не ўдалося зганіць.

Адносна польскасці Кастуся Каліноўскага вось такі факт. Вёску Мастаўляны - радзіму Кастуся Каліноўскага - тав. Сталін перадаў Польскай

Народнай Рэспубліцы ў 1950 годзе. Так што, відаць, псеўдагісторыкі і палітолагі не толькі не чытаюць важных кніг і дакументаў, але і не цікавяцца аб'ектыўнай гісторыяй Беларусі. Гэта варта было б ведаць і Я. Новіку, які дарэдагаваў "Гісторыю Беларусі" да абсурду, што ўжо жывога матэрыялу і фактаў не засталося.

У кожнага народа ёсць імёны - сінонімы словам ВОЛЯ, БРАТЭРСТВА. У балгараў - гэта Хрыста Боцеў, у венграў - паэт Шандар Пецёфі, у італьянцаў - Джузэпэ Гарыбальдзі, у палякаў - Шыман Канарскі, у расіян - Герцэн, Дабралюбаў, у башкіраў - Салават Юлаеў. У беларусаў такім нацыянальным героем - змагаром за волю роднага народа стаў Кастусь Каліноўскі - правадыр паўстання 1863-1864 гадоў на Беларусі-Літве...

У паўстанцаў быў пароль: "Каго любіш?" - "Люблю Беларусь!" Наш славуты герой на вечным спачыванні пад гарой Гедзіміна ў Вільні. Там яго вечная магіла. Туды заўжды 22 сакавіка ідуць людзі, каб ушанаваць памяць Кастуся Каліноўскага. Гэта сімвалічна.

І так будзе заўсёды. Кастусь Каліноўскі стаў сімвалам ВКЛ-Беларусі. Занадта дарагі гэты сімвал нашай нацыі. З ім звязана станаўленне нашай дзяржавы на новым этапе яе развіцця. З імем Каліноўскага знітавана наша літаратура, мастацтва, палітыка, культура ў цэлым.

У час Другой сусветнай вайны ў Беларусі дзейнічалі партызанскія атрады імя Кастуся Каліноўскага. Беларускімі мастакамі і скульптарамі створана вялікая галерэя вобраза Каліноўскага і гісторыі паўстання. Кампазітар Д. Лукас напісаў оперу "Кастусь Каліноўскі". Многія нашы паэты, кампазітары стварылі кантаты і хоры на тэму Кастуся Каліноўскага. Самае ўзвышанае і па-мастацку адухоўленае - раман Уладзіміра Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім", драма "Кастусь Каліноўскі", паэма Аркадзя Куляшова "Хамуціус"... Дык што, гаспада-таварышы? Вы замахнуліся на самае святое, што ў нас ёсць. Стоп! Вам далей дарогі няма! Няхай кіраўнікі ўніверсітэтаў і іншых устаноў разгледзяць пытанне пра адпаведнасць вашага знаходжання на працы.

На жаль, антыбеларускія групоўкі не абмежаваліся паклёпам на Кастуся Каліноўскага. Яны пашыраюць нападкі на вялікіх асоб беларускай гісторыі і культуры. Так, пры абмеркаванні некаторых скульптурных праектаў на БТ выступіў член гэтай кампаніі супраць пабудовы помніка каралю Міндоўгу ў Навагрудку. І вось ужо зараз пачалі "кукарэкаць" супраць установкі помніка вялікаму князю ВКЛ Альгерду ў Віцебску. Конны манумент ужо адліты ў бронзе, і ўлады горада рыхтуюцца да яго ўсталявання і адкрыцця. Але... Прадстаўнікі нейкай расійскай грамадскасці ў Віцебску нібыта напісалі паклёпніцкі ліст Прэзідэнту Беларусі поўны непісьменных,

бязглуздых выказванняў адносна Альгерда з патрабаваннем не ўсталёўваць помнік вялікаму князю. Вось прадстаўнікі так званай "грамадскасці", якія падпісалі гэты ліст: Цярэшчанка, Кавалёў, Ісакаў, Зубакоў, Серада, Тарасевіч, Лябёдка... Іх дзейнасць не што іншае, як элементарная здрада. І гэтую з'яву трэба разглядаць праз прававыя нормы, якія могуць ацаніць такую дзейнасць як антыбеларускую.

Помнік Альгерду ў Беларусі-Літве - гэта найважнейшая культурная і палітычная акцыя нашага часу. Дай Бог ёй ажыццявіцца і надаць нашаму народу аптымізму і гістарычнай перспектывы існавання.

Міндоўг, Альгерд і Каліноўскі - driving ключавыя фігуры літоўскай (беларускай) гісторыі.

Першаму выпала роля стварыць Літоўскае каралеўства ў вярхоўі Нёмана са сталіцай у Наваградку. Міндоўг каранаваўся на караля Літвы - старажытнай Беларусі. Ён разбіў ушчэнт татараў пад Гомелем і Мазыром і цалкам прадухіліў акупацыю нашай краіны Літвы татара-мангольскімі войскамі.

Вялікі князь Альгерд завяршыў фарміраванне тэрыторыі ВКЛ у этнічных межах Беларусі-Літвы, пасяхова стрымліваў напады нямецкіх ордэнаў і, галоўнае, ушчэнт разбіў орды трох татарскіх ханаў, вызваліў Украіну ад татарскага ярма ў 1362 годзе.

Кастусь Каліноўскі ўзняў свой народ на вызвольнае паўстанне супраць маскоўскай акупацыі нашай Бацькаўшчыны. Ён змагаўся за нашу будучыню, за аднаўленне нашай дзяржаўнасці.

Помнікі гэтым героям, найважнейшым асобам нашай гісторыі, павінны замяніць істуканаў акупацыйнай улады: Суворава, Леніна, Свярдлова, Калініна і іншых - якім ужо няма месца ў нашай прасторы, у нашым жыцці і нашай памяці.

Аўтары артыкула:

Алесь СМАЛЯНЧУК, прафесар, доктар гістарычных навук,

Леанід ЛЫЧ, прафесар, доктар гістарычных навук,

Мікалай КРУКОЎСКІ, кандыдат філалагічных навук, прафесар, доктар філасофскіх навук,

Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ, прафесар, доктар гістарычных навук,

Міхась ГУРЫН, прафесар, доктар гістарычных навук,

Мікола САВІЦКІ, прафесар, акадэмік Міжнароднай акадэміі Еўразіі,

Эдуард АГУНОВІЧ, сябра БСМ, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі,

Аляксей МАРАЧКІН, мастак, сябра Беларускага саюза мастакоў,

Мікола КУПАВА, сябра Беларускага саюза мастакоў,

Алесь ШАТЭРНІК, сябра Беларускага саюза мастакоў,
Эдвард ЗАЙКОЎСКІ, кандыдат гістарычных навук,
Юрась ГУБАРЭВІЧ, першы намеснік старшыні руху "За Свабоду".

## Дапамажыце знайсці адказ!?

Лунае, нескароны,
На векавых вятрах
Наш, ад крыві чырвоны,
Ад болю белы, сцяг.
Ул. Някляеў.

16 жніўня гэтага года "Народная воля" ў рубрыцы "Сітуацыя" змясціла ўнікальнае фота, на якім прыгожая, шляхетная 69-гадовая жанчына паказвае рукой на паўструхлелае сваё лецішча і ўсёй сваёй плоццю кажа: "БЯРЫЦЕ, ТОЛЬКІ АДЧАПІЦЕСЯ, ДАЙЦЕ СПАКОЙНА ДАЖЫЦЬ !". На фотаздымку Ніна Багінская. Хто яна? Сярэднестатыстычная беларуска. Аднак яна не простая, а яна "залатая рыбка" ў віры нашага паўсядзённага жыцця-змагання на сваю чалавечую годнасць, за элементарныя правы жыць кожнаму чалавеку ў традыцыях свайго народа. А гэта значыць любіць, шанаваць і ганарыцца гістарычнай культурай свайго народа, яго спрадвечнымі святынямі, якія перадаюцца аўтаматычна з пакалення ў пакаленне. І сярод іх 700-гадовы герб Пагоня і, кажучы словамі паэта, наш ад крыві чырвоны, ад болю белы сцяг.

Ніна Багінская - ёсць, ці можа будзе для нашых нашчадкаў, вобразам змагара за адраджэнне Беларусі, за родную мову, нашу беларуска-еўрапейскую культуру, за ўсё сваё роднае і дарагое, за тое што так паважаюць, і шануюць, і годна ганарацца ўсе нацыі і народы на планеце Зямля. За больш чым два апошнія дзесяцігоддзі змяняліся формы і метады барацьбы з небеларускай уладай, змянялася яе актыўнасць, а Ніна Багінская не мянялася. Яна абрала для сябе зброю барацьбы адэкватную яе светапогляду і свайго ўзросту, фізічнага стану. Тут, мяркую, да месца, у добрым сэнсе, а не ў саркастычным, ужыць тэрмін "стабільная стабільнасць"

Яна сама зрабіла звычайны кіёк з дрэўца, пашыла нацыянальна-дзяржаўны бел-чырвона-белы сцяг і, як царкоўны вернік, больш за 20 год бярэ ўдзел ва ўсіх імпрэзах, культурна-гістарычных мерапрыемствах, у палітычных мітынгах АСАБІСТА. Яна ніколі не прамаўляе, не заклікае, карацей, - маўчыць. Яна прыходзіць, прыгожа-годна, як святую рэліквію, дастае бел-чырвона-белы сцяг, прымацоўвае, як швачка нітку да іголкі, яго

да палкі і эстэтычна ўздымае яго ў паветра. Калі ўважліва падзівіцца на яе ў готы момант, то можна заўважыць, як злучаюцца ў адзінае цэлае: чалавек-жанчына і бел-чырвона-белы сцяг. І бачым у гэтым вобразе глыбокі філасофскі, патрыятычна-выхаваўчы чын. Падзівіцеся на фота, якое змяшчалася ў шматлікіх выданнях: пустая гістарычная плошча, абмытая крывёй змагароў-патрыётаў за Беларусь, і адзінокі, узнёслы вобраз жанчыны з кійком у руках, на якім "лунае, нескароны, на векавых вятрах наш ад крыві чырвоны, ад болю белы, сцяг". Ён ахоўвае яе і Беларусь, кожнага з нас.

Дык што дрэннага зрабіла гэта жанчына мінчукам, гарадскім уладам, нарэшце, Прэзідэнту? Дапамажыце, шаноўныя чытачы, знайсці адказ на гэтае запытанне. За што сучасная сталічная ўлада хоча атрымаць на дурніцу ў гарадскі бюджэт 75 мільёнаў? Няўжо не сорамна, хоць бы перад сваімі сем'ямі, дзецьмі, унукамі. У руках Ніны Багінскай не кактэйль Молатава, не вогнепальная зброя, нават не палка, а тонкі кіёчак-ляска са святыняй беларусаў на палатне. Дык што ж у руках Ніны Багінскай? А гэта наша пераможная зброя - нашы гістарычныя святыні. Ва ўсе часы за святыні і памерці ёсць вялікае шчасце і гонар. Гэтыя якасці Бог дае толькі абраным ім асобам. Я цешуся, што мне пашчасціла крочыць у бязмернай грамадзе пабач з гэтай АСОБАЙ як Ніна Багінская. Будзем працягваць, пакуль будзе моц, збіраць, як рабілі дагэтуль, ягады ды грыбы! З замілаваннем!

Мікола Савіцкі, прафесар.

## Не хачу быць у кагорце "Кладбище талантов"

Я жыву, дзякуй Богу, у дзевятым дзясятку свайго шляху. Змястоўны артыкул Валерыя Карбалевіча "Кладбище талантов" (“Народная воля”, 21 кастрычніка 2016 г.) яшчэ раз паклікаў мяне аглянуцца на пражытае. Гэта ж жах! Аказваецца ўсё жыццё праходзіла пад акупацыямі розных форм. Я ж ужо зведаў аж пяць акупацый.

Нарадзіўся на Глыбоччыне пад акупацыяй Польшчы, 17 верасня 1939 года ноччу з'явіліся чырванаармейцы; я пайшоў у школу пад акупацыяй бальшавікоў з рускамоўным Букваром. Прыходзяць немцы і навучанне пачынаецца па-беларуску. Але толькі што там-сям паявіўшыся савецкія партызаны паляць першую маю школу ў вёсцы Бабуліна, школу пераводзяць у вёску Чашкі, але і там у хуткім часе тыя ж партызаны яе паляць. Пасля гэтага вучоба спынена аж да прыходу "другіх бальшавікоў". Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны пачалося жыццё, якое добра памятаюць і ведаюць сучасныя мае суайчыннікі. Дык вось, шаноўны чытач, усё маё пражытае жыццё прайшло пад рознымі формамі акупацыі

нашай роднай Беларусі. Лічу самай шкоднай для чалавецтва моўную акупацыю. Як не дзіва, аднак гістарычны факт, пры гітлераўскай акупацыі я вучыўся ў беларускамоўнай школе і часткова ў часы БССР, ну, а вышэйшая - поўная супольная русіфікацыя.

Роздум па тэме артыкула "Кладбище талантов". Змястоўна і своечасова, нават з запазненнем падымаецца праблема людзей, якія пазбаўляюцца права на прафесію таму, што маюць уласную грамадзянскую пазіцыю, а гэта пераважна творча-стваральныя асобы і існыя патрыёты Беларусі. Іх паштучна і невялікімі групкамі рэжым выключае з жыццядзейнасці грамадства. А іх жа не адзінкі і не дзясяткі за амаль чвэрць стагоддзя. Многія ўжо адышлі ў вечнасць і аб не каторых нават іх родныя дзеці і ўнукі ачмураныя "стабільнай стабільнасцю" ( чытай В.Карбалевіча - "деградация и мертвящий застой") і акупацыяй ідэалогіі "русского мира" жывуць з апустошанымі душамі, без элементарнай асабістай годнасці і здаровага гонару, у першую чаргу за сябе, а потым за свой род, за свой народ. Грамадства амаль не мае сістэмнага маніторынгу аб імёнах суайчыннікаў, нават тых, што названы ў артыкуле В. Карбалевіча. Гэта патрэбна не ім - змагарам за родную мову, беларускую культуру, за беларускую незалежнасць, за годнае жыццё ў сваім беларускамоўным грамадстве з любоўю і павагай да моў і культур усяго сусвецця ЗЯМНОЙ КУЛІ. Яны шчаслівыя тым, што здзейсніліся і захаваліся як асобы, не сталі халуямі. Патрабуецца мужнасць, каб да канца жыцця застацца нават незаўважанай грамадствам асобай і не здрадзіць самому сабе. Яны заслугоўваюць павагу і іх жыццёвы шлях будзе выкарыстаны ў выхаваўчы-асветніцкай рабоце, калі не сучаснікамі, дык нашымі нашчадкамі. Яны ёсць гістарычны фактлагічны матэрыял для выспявання беларускай нацыі. Трохі баюся, ці маю я маральнае права разважаць на гэтую тэму? Меркаваць чытачам. Дзеля самазаспакаення прывяду толькі адзін штрых з асабістага жыцця.

У Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце на кафедры інфармацыйных тэхналогій адзіны выкладаў 10 год вучэбныя прадметы пабеларуску, пісаў і выдаваў вучэбна-метадычную літаратуру па-беларуску, імкнуўся прыгарнуць студэнтаў да беларускай культуры, гістарычнай спадчыны. Стараўся быць для студэнтаў прыкладам актыўнага ўдзелу ў культурным і грамадскім жыцці. *Пастаянна насіў і цяпер нашу на грудзях бел-чырвона-белы сцяг. Аказваецца, і гэта запарушвала вочы адміністрацыі. Аднойчы заходжу ў кабінет да тагочаснага рэктара Рамана Карсекі (разам на адной плыні вучыліся ў ВНУ), і замест размовы па справе ён, зрабіўшы звыш уладарны выгляд, сваімі пальцамі бярэ за бел-чырвона-белы сцяжок на маім лацкане і пытаецца: "А что это у тебя?"*

*Я ў адказ: "Сцяг пад якім кляўся верна, аддана і карысна служыць беларускаму народу Прэзідэнт Лукашэнка". У адказ: "Ну, смотри!"*. І 30 жніўня 2001 года без якой-небудзь размовы са мной я па пошце атрымаў паведамленне з запрашэннем у аддзел кадраў забраць працоўную кніжку. Там апошні запіс: "Уволен с работы в связи с истечением срока трудового договора, ст. 38 ТК РБ". Прайшло ўжо 15 год і, наколькі мне вядома, ні разу, нідзе не было інфармацыі не толькі па вядомым формам абароны маіх правоў на прафесію, а і даступнага інфармавання ў першую чаргу навукова-педагагічнай супольнасці, а таксама грамадства Беларусі. Гэта не мне і падобным ахвярам трэба, а грамадзянам Беларусі, каб задумвацца як мы жывём і што ў нас наперадзе. Я асабіста за гэтыя 15 год ні разу не пашкадаваў, што не стаў на калені перад акупантамі і калабарантамі. Працаваць жа не па прафесіі не дазваляюць мае маральныя прынцыпы. Даў сабе зарок: да той пары, пакуль не дам адказ маці, якая перад ўдзелам у змагарных акцыях (дарэчы і сама брала ўдзел пакуль фізічна магла) заўжды пыталася: "Калі ж Вы знойдзеце сваю Беларусь!?" А таму я не хачу быць у кагорце "Кладбище талантов"". Мае пабрацімы і на тым свеце не мерцвякі. Прапаную, хоць са спазненнем скласці, накшталт спісу палітвязняў, спіс "Пантэон асобаў, якія не падзялялі афіцыйныя ідэалагічныя пастулаты часоў Прэзідэнта 1994 - 20… гг.". Да месца могуць быць і "Чорныя кнігі 1994 - 2024 гады" для інтэлігенцыі, для прадпрымальнікаў і бізнесу, для кіраўнікоў дзяржпрадпрыемстваў і г.д. Могуць быць разнастайныя формы. Галоўнае не ўпусціць час, захаваць факты і толькі факты для гісторыі. Час бяжыць як свечка гарыць. Тое, што можна пачуць сёння і зафіксаваць, заўтра ўжо можа стаць немагчымым. Запрашаю прафесіяналаў-патрыётаў і фундатараў да працы.

2016 г. Мікола Савіцкі, прафесар.

## Беларусь і Украіна - не Расея

Беларусь - Украіна! Яны - не Расея. У сваіх цывілізацыйных шляхах прайшлі праз адну вялікую сярэдневечную дзяржаву - Вялікае Княства Літоўскае (ВКЛ). Нашы мовы роднасныя. Узаема зразумелых словаў аж 84 адсоткі! Сучаснікам нашых краін трэба памятаць пры будаўніцтве сучасных міждзяржаўных адносінаў паміж сабой, што, найвялікшае гістарычнае няшчасце, і ворагі нашы адны і тыя ж. Нашы нацыянальныя сэрцы: украінскага і беларускага народаў стагоддзямі дзяўблі і працягваюць дзяўбці два арлы. Адзін арол з усходу дзяўбе і каркае, што украінец - гэта не ўкраінец, а нейкі рускі другога гатунку; што беларус - гэта не беларус, а друга-

радны рускі. Дзяржаўным арлам дапамагаюць маскоўскае праваслаўе.

Нашы народы шмат страцілі за апошнія дзесяцігоддзі па вяртанні этнічных моў украінцаў і беларусаў і ўмацаванні свядомасці. Мова ёсць гранітны подмурак свядомасці. Расея груба навязала нам так званае двухмоўе, якое ўкаранілася ў душы і сэрцы нашых народаў. Важнейшая выратавальная праблема абуджэння нацыі, гэта на ментальным узроўні вырваць "двухмоўе", якое ёсць спосабам знішчэння нацыі.

Няведанне сваёй мовы, культуры, гісторыі аблягчае разбуральна-смяртэльнай дзейнасці "русского мира" на нашых нацыянальных нівах.

Правесці чыстку настаўнікаў і выкладчыкаў ВНУ. Сярод іх ёсць асобы, якія выступаюць за двухмоўе і свядома займаюцца русіфікацыяй. Двухмоўе, як яго разумеюць ідэолагі "руского мира" ёсць прымусовая каланізацыя. Толькі на дзяржаўным узроўні можна спыніць гэтую катастрафічную навалу. Дзяржава павінна рабіць рашучыя крокі і не ўваходзіць у дыскусіі з імперскай ідэалогіяй "руский мир". Талерантнасць да русіфікацыі не дапушчальная. У Беларусі нельга глядзець скрозь пальцы на грубае, антызаконнае парушэнне Закона "Аб мовах" (роўнасці моў). Дэкаланізацыя, дэрусіфікацыя (адмена русіфікацыі) - лёсавызначальныя праблемы для Беларусі і Украіны.

Звярнуцца да моладзі. Моладзь наш крэатыў. Выхаваць пазіцыю: на тэрыторыі сваёй роднай Бацькаўшчыне не пераходзіць у зносінах на рускую мову.

На апошняй афіцыйнай сустрэчы ў Кіеве прэзідэнты Беларусі і Украіны дамовіліся аб тым, што ў памежных раёнах Беларусі этнічныя ўкраінцы змогуць вывучаць сваю мову, а беларусы ва Украіне - сваю.

Прэзідэнт Пётр Парашэнка заявіў: "Я ўзняў пытанне пра аднаўленне вывучэння ўкраінскай мовы ў Берасцейскай і Гомельскай абласцях. Мы працягваем супрацоўніцтва дзеля вывучэння беларускай мовы ў Кіеўскім нацыянальным універсітэце, адкрываем курсы ў Ірпені ды іншых паселішчах Украіны". Гэта пазітыўны палітычны жэст, які безумоўна, станоўча паўплывае на катастрафічную моўную сітуацыю ў Беларусі.

Адначасна цікавая сітуацыя з колькасным станам беларусаў. Як сведчыць статыстыка беларусы "ўсыхаюцца" як у сябе на радзіме ў Беларусі, так і ва Украіне. Так, у 2001 годзе ва Украіне пражывае 275,8 тысяч беларусаў альбо 0,6% ад агульнай колькасці насельніцтва. У параўнанні з 1989 годам іх колькасць скарацілася на 37,3%. Таксама цікава, што беларусы жывуць не ў памежных абласцях, а на поўдні і ўсходзе Украіны.

Нацыянальная і моўная палітыка ва Украіне ўмацоўвае веру і гонар беларусаў. Як прыемна ўсведамляць: у Кіеве ўжо восем гадоў працуе

Цэнтру беларускай мовы і культуры. А ў Менску такога няма. З 2009 года дзейнічае міжурадавае пагадненне аб супрацоўніцтве ў галіне культуры і адукацыі паміж Кіеўскім нацыянальным універсітэтам імя Тараса Шаўчэнкі і Міністэрствам адукацыі Беларусі. У Кіеўскім нацыянальным універсітэце імя Шаўчэнкі ажыццяўляецца факультатыўнае навучанне па спецыяльнасці "беларуская мова і літаратура, украінская мова і літаратура, ангельская мова”. У той жа час пры Інстытуце філалогіі, які ёсць падраздзяленнем універсітэта, ад 2009 года працуе Цэнтар беларускай мовы ды культуры. Ён створаны пры кафедры славянскай філалогіі.

Па інфармацыі Міністэрства адукацыі і навукі Украіны ніхто з беларусаў ці беларускай дыяспары не звяртаўся да іх з ініцыятывай арганізаваць вывучэнне беларускай мовы ды гісторыі для іх дзетак. А таму ў Кіеве няма школ з беларускаю моваю навучання або з яе факультатыўным вывучэннем. Аднак заслугоўвае ўвагі вопыт гімназіі за 27 кіламетраў ад сталіцы - у Ірпені - з паглыбленым вывучэннем замежных моваў, у тым ліку і беларускай. Яна мае дачыненні з беларуска-славянскай гімназіяй № 36 імя Івана Мележа ў Гомелі. Сорамна, што ў Гомелі закрылі факультатыў па вывучэнні ўкраінскай мовы. Да ведама беларусаў: у гімназіі Ірпеня вывучаюць 14 замежных моваў, у тым ліку і беларускую. З гэтага года  будуць уводзіць беларускую мову як факультатыў з першага ці другога класа, а з пятага - будзе прапаноўвацца на выбар як другая замежная мова. На жаль, у гімназіі вучыцца каля 2 тысяч дзяцей, але вывучэнне беларускай мовы абіраюць нямногія. І не дзіўна, бо, як сказала дырэктар Ірпенскай гімназіі, "у горадзе няшмат беларусаў, а вывучэнне беларускай мовы абіраюць менавіта дзеці ўкраінцаў". Ва Украіне жыве цікаўнасць да вывучэння беларускай мовы, нягледзячы на цяперашнія абмежаваныя магчымасці. Большая цікаўнасць да беларускай мовы ва Украіне мае прыйсці з Беларусі. Беларусам трэба ўсвядоміць, якім выдатным багаццем мы валодаем.

Іван Сталярчук, рэдактар аддзела культуры штотыднёвіка "Країна" ды "Газети по-українськи", вывучаў беларускую мову самастойна і сцвярджае, што, беларуская мова дапамагла яму вывучыць польскую. На яго слушную думку развіццём беларускай мовы найперш трэба займацца ў Беларусі. Гэта праблема не беларускай дыяспары ва Украіне. Заслугоўвае ўвагі яго прафесійнае выказванне: *"Беларусы, якія прыязджаюць ва Украіну вельмі хутка асімілююцца з украінскім грамадствам. І беларускай дыяспары ва Украіне гэта не вельмі патрэбна. Праблема ў тым, што ў самой Беларусі беларуская мова знаходзіцца ў нейкім гета, на жаль, не ў апошнюю чаргу з-за дзяржаўнай палітыкі. Украінцы ці этнічныя беларусы тут маглі б зацікавіцца мовай, калі б адчувалі магутную*

*культурную хвалю менавіта з Беларусі. Асаблівай перспектывы я не бачу, бо, напрыклад, на Валыні, у памежжы, вывучаюць польскую мову, бо ведаюць, што без яе ў Польшчы нікуды. Калі я быў у Беларусі, то я свядома спрабаваў размаўляць на беларускай мове ў крамах, і былі выпадкі, калі да мяне ставіліся агрэсіўна. Мне вельмі хацелася б, каб беларусы свядома прыйшлі да беларускай мовы - і на дзяржаўным, і на асабістым узроўні".*

Нацыянальныя мовы мусяць развівацца і пры падтрымцы дзяржавы, і пры падтрымцы грамадскасці. Польская аграмада больш актыўна вывучае польскую мову, таму што многія імкнуцца ў Еўропу, і гэта больш выгадна. Цікавасць і да беларускай мовы і да беларускай гісторыі адназначна ёсць. Было б жаданне. Добра, што кіраўнікі дзвюх краін выступілі з такой ініцыятывай.

Прыемна адзначыць актыўную і пазітыўную работу, якую праводзіць у Беларусі Пасольства Украіны, асабіста Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Украіны ў Рэспубліцы Беларусь Ігар Кізім і першы сакратар Марыя Гуцала. Назавём для прыкладу толькі Міжнародную навукова-практычную канферэнцыю "Мова як фактар захавання нацыянальнай ідэнтычнасці: беларуска-украінскі кантэкст" (25 мая 2017 г.), ініцыятарам і арганізатарам якой яны былі. Суарганізатарамі былі: Цэнтр даследавання беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, Беларускі дзяржаўны універсітэт, Нацыянальная бібліятэка Беларусі.

Тэкст падрыхтаваны сумесна з Пасольствам Украіны ў Беларусі.

11.08.2017 г. Мікола Савіцкі, прафесар.

*"Не знать язык страны проживания может*
*гость, идиот или оккупант,*
*насаждающий свой язык"*
*(Цытата прыпісваецца Карлу Марксу)*

## Этнамова альбо родная мова - стваральнік і гарант суверэннасці нацыянальнай дзяржавы

Найстрашнейшай бядой беларусаў апошнія дзесяцігоддзі ёсць свядома здзейсненае прэзідэнцкай вертыкаллю амаль татальнае вытурэнне беларусаў са сваёй прыроднай моўнай і нацыянальна-культурнай нівы. Не баімся памыліцца ў сваіх падліках: на ёй на рускае прыпадае не менш як 90 працэнтаў, а на беларускае - жабрацкія 10 працэнтаў. У гэтых экстрэмальных умовах нельга захаваць беларускі народ ад этнічнага вымірання. У

аснове гэтай палітыкі ляжыць глыбока, усебакова прадуманая жорсткая дзяржаўная русіфікацыя беларусаў. Незвычайную агрэсіўнасць набыла яна пасля правядзення ў маі 1995 года рэферэндуму, згодна з якім рускую мову юрыдычна ўраўнялі з беларускай, а ў лістападзе 1996 зноў праз рэферэндум рускай мове надалі статус другой дзяржаўнай. Пытанне мовы адносіцца да тых, якія на рэферэндум не выносяцца.

На практыцы вынікаў ні першага, ні другога рэферэндумаў улады не прытрымліваліся. Яны рабілі ўсё, каб толькі руская мова абслугоўвала ўсе сферы грамадскага жыцця. Адным словам - Беларусь накрыла суцэльная русіфікацыя. На працягу апошніх больш як 20 гадоў беларуская мова і дня не знаходзілася ў статусе фактычна дзяржаўнай! За гэты час ніхто з пяцёркі самага высокага рангу палітыкаў не зрабіў на беларускай мове аніводнага публічна-службовага выступлення! Па сутнасці ўсё палітычнае кіраўніцтва краіны з дня ў дзень груба парушала і сёння парушае канстытуцыйнае палажэнне аб абавязковым выкарыстанні беларускай мовы ў сваёй практычнай дзяржаўнай дзейнасці. Лічым, што гэта з'яўляецца адным з самых сур'ёзных палітычных злачынстваў з боку тых, хто надзелены ўладай і адказны за этнічнае здароўе нацыі!

На вялікі жаль, знявага ўладамі дзяржаўнай беларускай мовы не выклікае асэнсаванага супраціву з боку беларускага народа. Супраць яго антынацыянальнай культурна-моўнай палітыкі выступаюць толькі адзінкі не да канца асіміляваных, стойкіх, шчырых беларускіх патрыётаў. Іх высілкаў не хапіла, каб выратаваць краіну ад унутранай і знадворнай рускай культурна-моўнай асіміляцыі. Нацыянальна-зняважаная чынавенствам суверэнная Рэспубліка Беларусь практычна згубіла сваё этнакультурнае аблічча. Улады ўсяляк стараюцца не выносіць на публічнае абмеркаванне дадзенае архідалікатнае пытанне.

Можна смела сцвярджаць: сваёй заганнай нацыянальнай палітыкай улады Беларусі, прывялі беларускую мову на ГАЛГОФУ. Галоўнае, адметнае, самабытнае багацце дзяржаўнага народа Рэспублікі Беларусь раскрыжавана.

Калі дзяржава і надалей будзе ўсяляк стрымліваць увядзенне беларускай мовы ў афіцыйнае жыццё, то народ мае права на сваё самавыратаванне. Сёння беларускі моўны нігілізм уяўляе галоўную рэальную пагрозу не толькі для захавання беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці, але і суверэнітэту краіны. На ўсёй постсавецкай прасторы пазіцыі "русского мира" нідзе не вызначаюцца такой трываласцю, як у Рэспубліцы Беларусь, падрываючы яе дзяржаўныя асновы. Гэта негатыўна ўплывае на яе імідж у цывілізаваным свеце, які шануе краіны з самабытным, арыгінальным

этнакультурным жыццём, а не тыя, што анямелі ў роднай мове. У гісторыі Еўропы не знайсці народа, акрамя беларукага, мову якога сама дзяржава не пускае ў афіцыйную сферу. Наша сучасная культура з яе таўшчэразным напластаваннем усяго рускага пакідае Беларусь без будучыні, пераўтварае яе ў нацыянальным плане ў бясплодную пустыню.

Нацыя без нацыянальнай культуры не можа быць багатай, калі чужое пануе над уласным.

З кожным днём беларусы аддаляюцца ад нацыятворчага працэсу, бо дзяржава іх усё больш і больш русіфікуе, упарта не пускаючы ў афіцыйнае жыццё беларускую мову. І самае страшнае, што ёй не даюць месца ў дашкольнай, школьнай сістэмах выхавання і навучання, сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай школе. Тут масава рыхтуюцца новыя пакаленні рускамоўнай інтэлігенцыі, амаль зусім няздольныя быць носьбітамі беларускага нацыянальнага духу.

Нялёгка змяніць сітуацыю пры страшэнным дэфіцыце сапраўдных нацыянальных лідараў сярод палітыкаў, асабліва высокага рангу. Шараговыя ж бязродныя функцыянеры не ў стане ўзняць народ на самаадданае змаганне за этнічнае выжыванне. Ужо стала гістарычным фактам, што сярод 2500 дэлегатаў V Усебеларускага народнага сходу не знайшлося аніводнай патрыятычна смелай асобы, якая не збаялася б ушчэнт разнесці неадпаведную карэнным інтарэсам Бацькаўшчыны дзяржаўную культурна-моўную палітыку, паказаўшы, што апошняя вядзе не толькі да поўнага размывання нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў, але і да страты палітычнага суверэнітэту краіны. А некалі ж былі у нас палітыкі-патрыёты, гатовыя прыняць нават смерць, каб толькі родны край не стаў жаданай здабычай для чужой дзяржавы. Згадаем тут пра гераічны вычын пасла (дэпутата) ад Наваградскага ваяводства Тадэвуша Рэйтана, які мужна супраціўляўся спробам вальнага Сойма Рэчы Паспалітай зацвердзіць здрадніцкі акт аб першым падзеле Рэчы Паспалітай (1772 г.). Дамагчыся такога паслу-патрыёту не ўдалося. Тады ён, каб перашкодзіць паслам пакінуць залу пасяджэнняў, лёг крыжам ля дзвярэй і на ўвесь голас закрычаў: "Забіце мяне, затапчыце, але не забівайце Бацькаўшчыны!" А меў жа ён тады трохі больш за 30 гадоў! А колькі сапраўдных беларускіх нацыянальных герояў, прычым высокаадукаваных для свайго часу, улілося і самаахвярна змагалася ў 1863-1864 гадах у шэрагах нацыянальна-вызвольнага паўстання на чале з Кастусём Каліноўскім! Сёння нам вельмі патрэбны такія героі-патрыёты, без якіх нельга разлічваць на поспех нацыянальна-культурнага адраджэння беларускага народа, захаванне дзяржаўнага суверэнітэту яго Бацькаўшчыны.

Галоўнай прычынай нашага незайздроснага сацыяльна-эканамічнага становішча, неўтаймаванай карупцыі трэба шукаць найперш у сур'ёзных непаладках, поўнай дэзарганізацыі этнакультурнага жыцця краіны, у здэфармаванай нацыянальнай свядомасці народа. Усякі этнічна зацюканы народ, дый яшчэ ўласнай дзяржавай, не можа быць актыўным у любой сферы грамадскай дзейнасці, у тым ліку і ў сацыяльна-эканамічнай.

Для беларусаў лёсавызначальнай праблемай нумар адзін ёсць этнакультурная. У нашыя дні страшэннай нацыянальнай дэградацыі беларусаў адбываецца вымушаны іх зыход са сваёй культурна-моўнай нівы на чужую. Беларусы не па сваёй волі сёння жывуць пераважна не сваімі, а рускімі культурна-моўнымі каштоўнасцямі, нават робяць істотны ўнёсак у іх стварэнне, папулярызацыю на беларускай зямлі, атрымліваючы за гэта не толькі зарплату, але і ўрадавыя ўзнагароды. У дзяржаўным сектары эстрады ёсць асобы, якія і за 20-30 гадоў сцэнічнай дзейнасці не выканалі аніводнай беларускамоўнай песні і з гонарам ставяць сабе гэта ў вялікую заслугу. Спадзявацца, што ў такой экстрэмальнай сітуацыі сам народ выкараскаецца з глыбокай асіміляцыйнай ямы, ніяк не даводзіцца. Тут тэрмінова патрэбная адпаведная нацыянальна-культурная, моўная палітыка дзяржавы, калі яна не на словах, а на справе жадае быць суверэннай, мець этнічна самастойную нацыю, а не адрынуты ад роднай мовы народ. Аб'ектыўная рэальнасць вымагае ад Прэзідэнта адмовіцца ад далейшага працягу сваёй русіфікатарскай палітыкі і пачаць шлях паступовага, але новага адраджэння беларусаў.

Першы Прэзідэнт сучаснай незалежнай Беларусі А. Лукашэнка ў гісторыю ўвойдзе альбо як зацяты русіфікатар беларусаў, або як стваральнік беларускай нацыі, беларускай нацыянальнай дзяржавы. Шанс яшчэ ёсць. Для гэтага для пачатку так мала трэба зрабіць: вярнуць 17 артыкул першай Канстытуцыі, якая надала статус адзінай дзяржаўнай беларускай мовы.

Этнічная мова - душа народа. Без роднай мовы, роднай песні, адукацыі на роднай мове народ становіцца нацыянальна пасіўным. Беларусаў свядома трымаюць у такім стане. Ствараецца шкодная "ідэалогія", што беларусы няздатныя на вялікія здзяйсненні, у тым ліку і ў культурна-тэхналагічнай і сацыяльна-эканамічнай сферах. На час распаду СССР беларусы, па віне партыйных і савецкіх органаў з'яўляліся яго найбольш зрусіфікаваным народам. У гэтых умовах роля Прэзідэнта і Урада лёсавызначальная для стварэння неабходных умоў для свайго самабытнага этнакультурнага развіцця. Прэзідэнцкая вертыкаль тут ні ў чым не дапамагла тытульнай нацыі. І самае страшнае, недаравальнае - не забяспечыла яе роднай мове статусу рэальна дзяржаўнай. Адсюль усе нашыя бясконцыя беды з рэзкім зніжэннем нацыянальнай самасвядомасці, дэградацыі

беларускай этнічнай ідэнтычнасці. Зараз мы куды менш падобныя на адмысловую нацыю, чым чвэртку стагоддзя таму з-за сур'ёзных хібаў дзяржаўнай палітыкі. Беларусы на сваёй роднай Зямлі практычна цалкам апынуліся па-за ўласным культурна-моўным асяроддзі (ніве). Яны сталі аратымі і сейбітамі чужога ім рускага культурна-моўнага поля.

Насуперак элементарнай логіцы, палітыкі, якія ўлетку 1994 года прыйшлі да ўлады і сутыкнуліся амаль з поўнай адсутнасцю беларускай мовы ў афіцыйным жыцці, што непазбежна вяло яе да смерці, не сталі карэнным чынам мяняць такое катастрафічнае становішча, а наадварот спынілі эфектыўную беларусізацыю і пачалі суцяшаць народ варожымі байкамі, нібыта руская мова - гэта спрадвеку яго родная мова. А паколькі, як пераканаўча сведчыць сусветны досвед, са стратай роднай мовы немінуча гіне яе прыродны носьбіт - нацыя. Падтанцоўваючы ідэалогіі "русского мира", нашы гора-палітыкі пачалі ўбіваць у галовы беларусаў несусветную хлусню, што яны - адзіны з рускім народ. Палітыкамі, дзяржаўнымі ідэолагамі не дапускалася аніякага публічнага аспрэчвання гэтых афіцыйных фальсіфікацый. У такой абсурднай сітуацыі спынілася на дзяржаўным узроўні рэгуляванне моўнага працэсу. Для абслугоўвання ўсіх сфераў афіцыйнага жыцця Прэзідэнт палічыў, што дастаткова адной толькі рускай мовы. І чвэртку стагоддзя таму і сёння толькі гэтай мовай і карыстаецца чынавенства, з якога бяруць прыклад усе катэгорыі службоўцаў. Як вынік такой заганнай палітыкі, сучаснае становішча беларускай мовы - аварыйнае, катастрафічнае. Праўда не бязвыхаднае, калі да выпраўлення яго падысці па-дзяржаўнаму, а не самапасам. На сесіях Нацыянальнага сходу ніколі не ўзнімалася пытанне, як забяспечыць беларускай мове статус дзяржаўнай не толькі на словах, а і на практыцы. Калі ж будзе непадзельна панаваць руская мова, то беларуская мова немінуча загіне, а разам з ёю і сам беларускі народ. Беларусы будуць мець перспектыву толькі ў сапраўднай нацыянальнай дзяржаве, дзе ва ўсіх сферах грамадскага жыцця вольна пануюць культура і мова карэннага народа - законнага гаспадара гэтай дзялкі еўрапейскай тэрыторыі.

Заканамерныя спадзяванні нацыянальных патрыётаў, што з абвяшчэннем Беларусі суверэннай дзяржавай будзе нарэшце спынена русіфікацыя яе тытульнага народа, не спраўдзіліся. Кволая надзея на этнічны рэнесанс існавала толькі, калі ў краіне функцыянавала (шкада, што так нядоўга) парламенцкая сістэма кіравання. Улетку 1994 года ўсімі праўдамі і няпраўдамі яе замяніла прэзідэнцкая сістэма кіравання і праз праведзеныя ёю ў маі 1995 і лістападзе 1996 г. рэферэндумы ўдалося вярнуць русіфікацыю

ў колішняе звыклае для яе рэчышча. Сёння дастаткова важкіх падстаў сцвярджаць, што ў суверэннай Беларусі ўлады куды больш паспяхова ажыццяўляюць культурна-моўную русіфікацыю яе карэннага насельніцтва, чым гэтага ўдавалася дамагацца царызму і бальшавікам. Незаменныя страты беларусаў у сваёй нацыянальнай самабытнасці шмат каго хвалююць з прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, але ж зусім не кранаюць душы палітыкаў, асабліва самых высокіх катэгорый. Яны нібыта зацыкліліся на сваіх "гістарычных" дасягненнях у русіфікацыі ўласнага народа і іншага кірунку для нацыянальнай палітыкі не хочуць бачыць. А дарэмна, бо пры страце этнакультурнай самабытнасці людзі перастаюць быць перакананымі, актыўнымі носьбітамі дзяржаўнага суверэнітэту. Пры любым зручным моманце яны, не задумваючыся, могуць гужам пацягнуцца да краіны, культуру і мову якой засвоілі, выкінуўшы на задворкі свае ўласныя каштоўнасці.

У Беларусі трагедыя: народ пасіўна назірае, у яго проста на вачах гіне родная мова. Зараз нават сярэднестатыстычны беларус выдатна разумее небяспеку панавання ў яго краіне "русского мира", бо гэта немінуча вядзе не толькі да страты яе этнакультурнай самабытнасці, але і дзяржаўнага суверэнітэту. Тут шмат чаго залежыць ад таго, якую сацыяльную ролю ў краіне адыгрывае яе тытульная беларуская мова. У гэтых умовах (гэта праўда) з вуснаў Прэзідэнта А. Лукашэнкі прагучала ў СМІ: *"Я вас заклинаю* (падкрэслена намі - *Л.Л., М.С.*) *и прошу: не отказывайтесь от русского языка. Потому что вы откажетесь от своего родного"*. На практыцы ж з-за бязмежнага панавання рускай мовы ў грамадскім жыцці краіны ўжо мільёны беларусаў страцілі роднае беларускае слова. У дашчэнту зрусіфікаванай Беларусі руская мова суправаджае беларуса ад дзіцячага сада да заканчэння вышэйшай школы, гэта значыць, усё самастойнае жыццё, аж да самай смерці.

Прыведзеныя вышэй словы Прэзідэнта ніяк не стасуюцца з тым, што больш за сотню гадоў таму сказаў свайму дарагому народу, любай Бацькаўшчыне яе слаўны Вяшчун Францішак Багушэвіч: *"Не пакідайце ж беларускай мовы, каб не ўмёрлі"*. Пад напорам русіфікатараў не паслухалі свайго Апостала, таму беларуская мова і апынулася ў такім трагічным стане. Калі ўлады, як і сёння, у абслугоўванні ўсіх сфераў афіцыйнага жыцця будуць выкарыстоўваць толькі рускую мову, беларуская мова немінуча загіне. Трагічны "асобны беларускі шлях" паказвае свету, што афіцыйнае двухмоўе вядзе да фактычнага аднамоўя і вымірання адной з іх і яе нацыі.

Практычны шлях да спынення лінгвацыду ў Беларусі ёсць, гэта:

набрацца смеласці і публічна заявіць, што адсутнасць беларускай мовы ў афіцыйным жыцці, камунікатыўных зносінах паміж людзьмі выклікана непрадуманымі майскім 1995 і лістападаўскім 1996 г. рэферэндумамі, у выніку якіх пайшлі пад нож ўсе дасягнутыя ў адраджэнні беларускай мовы досыць пазітыўныя набыткі пасля прыняцця 26 студзеня 1990 года самага знакавага за ўсё XX стагоддзе Закона "Аб мовах у Беларускай ССР". Усе еўрапейскія ўнітарныя краіны, а Рэспубліка Беларусь належыць да іх, у якасці дзяржаўнай выкарыстоўваюць толькі мову тытульнага насельніцтва, не прызнаючы аніякага афіцыйнага двухмоўя, таму іх родныя мовы, не ў прыклад беларускай, квітнеюць, не зведваюць аніякай пагрозы заняпаду.

Леанід Лыч, прафесар,
Мікола Савіцкі, прафесар.

Прафесар А. Краўцэвіч сваім цыклам "Загадкі беларускай гісторыі" падняў навукова-асветніцкі ўзровень Белсата на пачэсную акадэмічную вышыню. Маем прыклад: спецыяліст займае сваё прафесійнае месца. Уявіце, як хутка і эфэктыўна ўздымалася б нацыянальная свядомасць і годнасць беларускага народа, каб яго цыкл пусцілі на каналы БТ! А як бы выйграў Прэзідэнт А. Лукашэнка, каб такая асоба была каля яго кансультантам, а не ў "выгнанні" з універсітэта!? Адумайцеся, вертыкальшчыкі!

17.11.2018 г. Мікола Савіцкі.

## Насустрач 14-му з'езду ТБМ

Прапаную уключыць у парадак 14-га з'езда наступнае пытанне: "Аб адмене звання "Ганаровы старшыня ТБМ". Гаворка ідзе не аб персаналіях, а аб захаванні гонару брэнда ТБМ. Праект пастановы просты і кароткі: *"Адмяніць рашэнне 13 з'езда ТБМ аб званні "Ганаровы старшыня ТБМ"*.

На 13 з'ездзе ТБМ было абноўлена высокае нязменнае на працягу 17 гадоў яго кіраўніцтва. Як вядома, кіраўнікі некаторых палітычных партый, пакідаючы пасады, якія займалі іх дзесяцігоддзямі, аб'яўлены "ганаровымі кіраўнікамі партый". І што мы маем? "Ганаровыя ёсць, а прызнаных народам маральных аўтарытэтаў (лідэраў) у сённяшняй нашай рэвалюцыйнай сітуацыі няма. Ёсць пасмешышча не толькі з кіраўнікоў, а і з партый. Нягледзячы на катастрафічную сітуацыю з беларускай мовай і адсутнасць больш-менш значных вынікаў, якімі можа ганарыцца беларускі народ, дэлегаты мінулага з'езда ТБМ таксама ўганаравалі гэтым тытулам і нашага тагачаснага старшыню. Адбылося гэта ў спешцы без глыбокага

абмеркавання мэтазгоднасці ўвядзення такога ганаровага тытула, не распрацавалі палажэнне, не ўнясліі патрэбныя змены у статут ТБМ. Калі ўводзіць такое званне, то ў ім павінна быць прапісана: кім прысвойваецца (Радай, з'ездам, …), каму (ад шараговага сябра да старшыні), за што (ці за даўгалецце, ці за пералік канкрэтных здабыткаў). У дзейным статуце ТБМ адсутнічае інфармацыя аб званні "Ганаровы старшыя ТБМ".

Коратка аб агульнацыяльным фоне. Так склалася, што за апошнюю чвэрць стагоддзя Таварыству беларускай мовы імя Францішка Скарыны не ўдалося сканцэнтраваць нашу працу на лёсавызначальных праблемах выратавання беларускай нацыі ад поўнай асіміляцыі. Вынікі яе катастрафічныя. Нязменнае 17-гадовае кіраўніцтва ТБМ паступова, незаўважна прыняло правілы гульні, прапанаваныя Прэзідэнтам і яго вертыкаллю. За гэты час ТБМ незаўважна прыйшло да сённяшняга шчыгрынавага стану: зніклі прадметныя камісіі, скарацілася колькасць арганізацый, напрыклад, з 9 раённых сталічных Рад на паперы засталося толькі 6. Ну, а лакмусавай паперкай ёсць колькасць падпісчыкаў пры неаднаразовым апублікаванні шасці, а апошняе семі тысяч сяброў.

Сітуацыя вымагае змяніць стратэгію і тактыку дзейнасці ТБМ.

Мае прапановы: стратэгію і тактыку дзейнасці ТБМ неабходна сканцэнтраваць пад лёсавызначальнымі лозунгамі:

Адзінай дзяржаўнай мовай у Беларусі, як і ў шмат-шмат моўнай Расеі, мусіць быць толькі беларуская! Дэрусіфікацыя жыццядзейнасці беларускага грамадства і ў першую чаргу асветы ўсіх узроўняў.

"Беларуская мова ў Беларусі не толькі для беларусаў, а для ўсіх яе грамадзян!" Без ведання беларускай мовы гістарычнымі мігрантамі (рускія, яўрэі, татары і іншыя), згодна гістарычнай сусветнай практыкай, апошнія не могуць поўнавартасна інтэгравацца ў грамадскае жыццё Беларусі, а будуць заставацца патэнцыйнымі пятымі калонамі. Жывы прыклад: страта Украінай Крыма і вайна на Данбасе. Ва ўмовах панавання афіцыйнай ідэалогіі "рускго мира" і рускага крыміналітэту асіміляцыйная русіфікацыя ёсць стратэгічная пагроза рэальнай суверэннасці Беларусі.

У цэнтр дзейнасці паставіць праблему аб адзінай дзяржаўнай беларускай мове. Змагацца за аднаўленне закона "Аб мовах" 1990 года і адпаведных прававых актаў па яго выкананні. Будзем мэтанакіравана рухацца да беларускамоўнага жыццёвага асяроддзя ў Беларусі.

Спыненне смяротнага працэсу русіфікацыі трэба разглядаць як абарону суверэнітэту нашай дзяржавы Рэспубліка Беларусь.

Я не магу абмазгаваць, як можна ўводзіць ганаровае званне, каму б там не было, калі мы ТБМ-эмаўцы прышлі да сённяшняга фактычнага

стану.

А што мы зрабілі каб давесці беларусам смяртэльную каланіяльную дзяржаўную ідэалагічную канцэпцыю, сфармуляваную Прэзідэнтам А. Г. Лукашэнкам у канцы 1994 г.: "*Люди, которые говорят на белоруском языке, не могут делать ничего, кроме как разговарывать на белоруском языке, потому, что по-белорусски нельзя выразить что-то большое. Белорусский язык - бедный язык. В мире существует только два великих языка - русский и английский"*. Вось яна моўная дзяржаўная паліыка ў Рэспубліцы Беларусь. Ці пачуў беларускі народ голас ТБМ у абарону яго годнасці і развянчанне імперскіх пастулатаў?:

05.10.20 г. Мікола Савіцкі, прафесар.

**Заўвага па-за тэкстам**. 5 студзеня гэтага года я сустрэўся з сябрам інсультам. Дзве бальніцы. Каб не парушаць прадпісанняў медыкаў, я марыў давесці мае прапановы праз "Наша слова" да дэлегатаў з'езда і на ім не дыскутаваць. Гэта аказваецца немагчыма. Таму, каб заставацца як мага даўжэй чытачом "Нашага слова" і цешыцца нашымі агульнымі здабыткамі на ніве ТБМ, паведамляю высокаму кіраўніцтву ТБМ і Рэдкалегіі газеты: прафесар Мікола Савіцкі не зможа ўдзельнічаць у рабоце 14 з'езда. Гэты тэкст дасылаецца на адрас Сядзібы ТБМ і Рэдкалегіі "Нашага слова" .

05.10.20 г. Мікола Савіцкі, прафесар.

## Асіміляцыя

Прэзідэнт А. Лукашэнка, як класічны аўтарытарны кіраўнік суверэннай краіны Рэспубліка Беларусь павінен публічна, як ён гэта ўмее, аб'явіць беларускаму народу, што рэферэндум 1995 года па моўным пытанні быў праведзены з парушэннем - моўнае пытанне адносіцца да тых, якія на рэферэндум не выносяцца. Прызнаць: давесці беларускаму народу і цывілізаванаму свету, што за часы першага Прэзідэнта ў Беларусі праводзілася дзяржаўная палітыка па змяненні этнічнай і культурнай ідэнтычнасці беларусаў і зліцця іх з рускім этнасам. Адначасна заявіць, што рэальная дзяржаўная палітыка за апошнюю чвэрць стагоддзя памылкова была скіравана на сціранне этнічных і культурных адрозненняў карэннага этнасу Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі і трагічнае для беларускай нацыі задуманае фарміраванне монаэтнічнай супольнасці з розных самабытных этнасаў.

Па сферах дзеяння, у якіх праводзіцца асіміляцыя, вылучаюць моўную, культурную і этнічную асіміляцыю.

Канчатковай мэтай моўнай асіміляцыі ёсць знікненне роднай этнічнай мовы (роднай маці) і засваенне чужой інаэтнічнай мовы і прызнанне яе "мачыхай".

Этнічная асіміляцыя - успрыманне этнасам іншай культуры, змена этнічнай і культурнай ідэнтычнасці і зліццё з іншым этнасам - можа разглядацца як від нацыянальнай палітыкі, накіраванай на сціранне этнічных і культурных адрозненняў і фармаванне монаэтнічная супольнасці. Напрыклад: асіміляцыя этнічных меншасцяў, у тым ліку імігрантаў (тое ж што і натуралізацыя): італьянцаў, рускіх і прадстаўнікоў іншых этнічных груп, якія перасяліліся ў ЗША; асіміляцыя карэнных малалікіх народаў буйным народам (рускімі карэлаў, французамі - брэтонцаў і інш.).

Культурная асіміляцыя - тое ж, што акультурацыя.

Па спосабе праходжання дадзеных працэсаў асіміляцыя можа быць натуральнай і сілком:

- натуральная асіміляцыя адбываецца шляхам акультурацыі, адаптацыі да ўмоў іншамоўнага і іншакультурнага атачэння, міжэтнічных шлюбаў (тое ж, што і натуралізацыя);

- гвалтоўная асіміляцыя адбываецца шляхам гвалтоўнага абмежавання або забароны на ўжыванне этнічнай мовы. Ажыццяўляецца мясцовымі ўладамі ў сферы школьнай адукацыі і іншых сферах грамадскага жыцця; накіравана на паскарэнне працэсу асіміляцыі.

Тэрмін "асіміляцыя" часцей ўжываецца ў значэнні "гвалтоўная" і нясе негатыўную ацэнку ("асімілятарскай моўная палітыка"). Для нейтральнай або станоўчай ацэнкі з'явы аддаецца перавага тэрмінам "натуралізацыя", "інтэграцыя".

2022 г. Мікола Савіцкі, прафесар.

## Мінская гарадская Рада таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны

### А Р Г К А М І Т Э Т

**па падрыхтоўцы ўстаноўчай канферэнцыі Мінскай гарадской Рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны**.

Старшыня аргкамітэта: Краўчанка П.К., сакратар гаркама КПБ, намеснікі старшыні: Гаўрош Н.В., дацэнт МДПІ імя Горкага, Зэкаў Анатоль Мікалаевіч, нам. рэдактара газеты "Чырвоная змена", Шушкевіч С.С., прарэктар БДУ імя Леніна, народны дэпутат СССР.

### У С Т А Н О Ў Ч А Я   К А Н Ф Е Р Э Н Ц Ы Я

Месца і час правядзення Устаноўчай канферэнцыі: г. Мінск, 30 верасня 1989 года.

Колькасць удзельнікаў - 305 чалавек.

Сацыяльны склад - творчая і навукова-тэхнічная інтэлігенцыя: 70%, рабочыя і службоўцы: 30%. Прысутнічалі дэлегаты ад Заводскага, Кастрычніцкага, Ленінскага, Маскоўскага, Фрунзенскага, Партызанскага, Цэнтральнага, Савецкага, Першамайскага раёнаў г. Мінска.

Старшыня Устаноўчай канферэнцыі Пётр Краўчанка, сакратар Мінскага гарадскога камітэта КПБ.

Сакратар Устаноўчай канферэнцыі Валянціна Раманцэвіч.

### М І Н С К А Я   Г А Р А Д С К А Я   Р А Д А ТБМ
### імя Ф. Скарыны

Дэлегаты Устаноўчай канферэнцыі 30 верасня 1989 года абралі Раду Мінскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны ў складзе 80 чалавек.

**Склад Рады:**

Адамовіч С.В., Андраюк С.А., АгуновічЭ.К., Арочка М.М., Арлоў У.А., Авяр'янаў Ю.І., Барысевіч А.А., Бартлава В., Белы А.Я., Варанецкі В.І., Вецер Э.І., Войцік В.В., Вольскі А.В., Валкавец П.М., Гамзовіч Р.С., Гаўрош Н.В., Грыгор'ева В.Ю., Гурыновіч А.В., Гутарчык С.Я., Гучок Я.С., Грыцкевіч А.П., Далідовіч Г.В., Дамашэвіч У.М., Дайнэка Л.М., Жарскі І.М., Захарэвіч М.Г., Зэкаў А.М., Іпатава В.М., Казлоўскі І.І., Конан У.М., Клімовіч У., Клышка А.К., Краўчанка П.К., Лаўрэль Я.М., Лецка Я.Р., Ліпень Л.А., Лозка А.Ю., Лягчылаў А.К., Лыч Л.М., Марачкіна І., Мароз У.В., Махнач Р.В., Малько М.У., Наліваеў А.А., Мікалайчанка А.С., Новік У.У., Нямковіч В.А., Пpановіч А.І., Прыймак Ж.Н., Прыма Г.С., Рагуля А.А., Рагойша В.П., Раманцэвіч В.К., Салавей Л.М., Саханькоў В.А., Суша А.М., Саламевіч І.У., Сёмуха В.С., Свяцкая В.А., Свістуновіч А.В., Сітніца Р., Ткачоў М.А., Трусаў А.А., Хадыка Ю.В., Хацько С.П., Цесакоў К.Д., Цмыг М., Чарняўскі І.М., Шарыпа П.П., Шавыркін М.М., Шырко В.А., Шушкевіч С.С., Шынкевіч А.Р., Філончык Г.В., Яшкевіч А.М., Ярмаліцкі М.А.

Старшынёй Мінскай гарадской рады ТБМ імя Ф.Скарыны абраны Грыцкевіч А.П., загадчык кафедры гісторыі СССР, БССР і замежных краін Мінскага інстытута культуры, узначальваў Раду з 30 верасня 1989 г. па 8 лютага 1992 г.;

наменікамі абраны: Дайнэку Л.М., пісьменніка, Жарскага І.М., рэктара Беларускага тэхналагічнага інстытута, Лыча Л.М., доктара гістарычных навук, Чарняўскага І.М., археолага.

Сакратарыят: Новікаў У.У., інжынер ВА"Альфа"; Гучок Я.С., супрацоўнік выдавецтва "Народная асьвета"; Цмыг М.Г., навуковы супрацоўнік Беларускага тэхналагічнага інстытута; Леўшын Я.А., студэнт.

8 студзеня 1990 г. у дакуменце "Рэгістрацыйны ліст", падпісаны наменікам старшыні Мінскай гарадской Рады ТБМ І.М.Жарскім і сакратаром Устаноўчай канферэнцыі В.К. Раманцэвіч запісана: "Просіць сакратарыят Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны зарэгістраваць яе сяброўства ў Таварыстве". Там жа паведамлялася: "Мінская гарадская Рада ТБМ мяркуе браць удзел у працы сталых камісій Таварыства: школьная, арганізацыйна-прапагандысцкая, візуальных сродкаў, тапанімічная, вышэйшай школы, рэдакцыйная.

08.01.1990 г. Мінская гарадская Рада ТБМ імя Ф. Скарыны зарэгістравана. Сакратар Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны Міхноўскі М.У.

11.01.1990 г. зарэгістравана Выканаўчым камітэтам Мінскага гарадскога савета народных дэпутатаў.

Выраблена пячатка і штэмпель з найменаваннем Рады.

Згодна з пратаколамі архіва паседжанняў Мінская гарадская Рада ТБМ імя Ф. Скарыны ў адпаведнасці з задачамі бягучага часу займалася вылучэннем кандыдатаў у народныя дэпутаты Беларускай ССР і мясцовых Саветаў народных дэпутатаў. Сярод вылучаных ад ТБМ імя Ф. Скарыны кандыдатаў у дэпутаты Беларусь атрымала ў Вярхоўным савеце 12 склікання, гарадскіх і раённых саветах шэраг дэпутатаў. Многія з іх выраслі ў вядомых палітыкаў і грамадскіх дзеячаў: Зянон Пазьняк, Алег Трусаў, Яўген Цумараў, Пятро Садоўскі і іншыя.

Ішло змаганне за адзіную дзяржаўную беларускую мову. Праводзіліся разам з грамадскасцю шматысячныя мітынгі.

21 сакавіка 1990 г. пры Мінскай гарадской Радзе ТБМ імя Ф.Скарыны быў створаны тэатр Беларускай бардаўскай песні і паэзіі "Сябрына".

21 верасня 1990 г. для арганізацыі гаспадарчай дзейнасці з мэтай атрымання грашовых прыбыткаў для ТБМ ствараецца на вытворчай базе Беларускага тэхналагічнага інстытута малое прадпрыемства па вытворчасці сувеніраў і тавараў народнага спажывання ў беларускім нацыянальным стылі.

Наладжвалася і праводзілася супрацоўніцтва паміж Радай і Беларускімі грамадска-культурнымі таварыствамі ў Польшчы, ЗША, Канадзе, Францыі, Англіі, Ватыкане, горадзе Севастопалі.

Старшыня Мінскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны, прафесар Анатоль Грыцкевіч быў камандзіраваны ў Лондан тэрмінам на 30 дзён у кастрычніку 1991 г. Мэта паездкі - удзел у канферэнцыі "Унія на Беларусі". Наведванне гарадоў Лондан, Кэмбрыдж, Оксфард. У гэтым жа годзе тэрмінам на 30 дзён - у Італію, Ватыкан (сімпозіюм прадстаўнікоў культурнага свету Еўропы).

8 лютага 1992 г. адбылася Мінская гарадская канферэнцыя ТБМ імя Ф. Скарыны. Прысутнічала 220 чалавек. Канферэнцыя разгледзела пытанне "Выбары новага складу рады". Пастанавілі: "Увесці ў склад гарадской рады 25 чалавек: усіх старшынь раённых радаў ТБМ, БДУ, Акадэміі навук і

персанальна: І.І. Акуліна, А.Я. Белага, А.Н. Каралёва, Я.М. Лаўрэля, В.Г. Жака, М.І. Савіцкага, В.К. Раманцэвіч, Н.С. Сармант, Г.Г. Сокалава-Кубая, Д.М. Макарэвіч, А.А. Шамака, В.Н. Кошалева, Дзядзюлю, М.Я. Лавіцкага.

8 лютага 1992 г. на паседжанні Мінскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны яе старшынём абраны прафесар М.І. Савіцкі; намеснікамі: Н.С. Сармант і Я.М. Лаўрэль. (пратакол № 1, 08.02.92 г.).

Мінскую гарадскую раду ТБМ імя Ф. Скарыны ўзначальваў з 8 лютага 1992 г. па 23 верасня 1997 г. прафесар, акадэмік Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі Мікола Савіцкі.

Для аператыўнага вырашэння бягучых пытанняў 18 лютага 1992 г. (пратакол № 3) было створана бюро рады ў складзе: М. Савіцкі, Н. Сармант, Я. Лаўрэль, В. Раманцэвіч.

Былі зацверджаны камісіі: арганізацыйна-прапагандысцкая, адукацыйная, аўдыёвізуальныя сродкі, тапанімічная, выдавецкая, кантроль за выкананнем закона “Аб мовах”.

Значная ўвага ўдзялялася стварэнню на гарадскім транспарце моўнага асяроддзя на беларускай мове (пратакол № 6, 31.03.92 г.).

Імкнуліся актывізаваць першасныя суполкі ТБМ і ствараць новыя ва ўстановах і прадпрыемствах.

У той час папулярнай формай уздзеяння і ўзаемасувязі з дзяржаўнымі структурамі былі Звароты. Рада актыўна выкарыстоўвала гэтую форму зносінаў са старшынём Вярхоўнага Савета, Міністрам адукацыі і інш.

Надзённым было пытанне аб выкананні закона “Аб мовах” у дзіцячых установах, школах, ВНУ, арганізацыях і прадпрыемствах.

24 кастрычніка 1992 г. у памяшканні Палаца Мінскага аўтазавода праведзена канферэнцыя "Выкананне закона “Аб мовах” у г. Мінску" пад лозунгам "Спыніць русіфікацыю". Прысутнічалі 270 чалавек: 110 - настаўнікаў, 15 - намеснікі дырэктароў, 36 - вышэйшая школа, 14 - студэнты, школьнікі, 13 - гарадское і раённыя упраўленне адукацыі, 2 - святары праваслаўны і каталіцкі, 5 - пенсіянеры, 59 - іншыя. Ухвала канферэнцыі надрукавана ў газеце "Добры вечар" за 16.11.92 г. Канферэнцыя прыняла Зварот да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Праводзіліся раённыя канферэнцыі. Але дабіцца плённай працы ўсіх раённых Рад не ўдалося, а Рада Савецкага раёна, якую узначальваў тагачасны вучоны сакратар Інстытута беларускай мовы і літаратуры Акадэміі навук, фактычна спыніла дзейнасць, і давялося фактычна арганізоўваць яе

наноў. Такая наша беларуская рэальнасць, і яе саромецца не трэба, а рабіць адпаведныя высновы трэба.

8 лютага 1993 г. у Педагагічным інстытуце праведзены сход грамадскасці г. Мінска для абмеркавання пытанняў "Аб забеспячэнні вучняў падручнікамі па комплексе прадметаў на беларускай мове ў сярэдняй школе" і "Аб хадзе выканання “Закона аб мовах” і “Закона аб адукацыі". Прысутнічала (пратакол сходу) 74 чалавекі: прадстаўнікі аўтарскіх калектываў па падрыхтоўцы падручнікаў на беларускай мове, прадстаўнікі Савета міністраў, міністэрства адукацыі і інфармацыі, прадстаўнікі гарадскога ўпраўлення адукацыі, выдавецтваў, сродкаў масавай інфармацыі.

Мінская гарадская рада ТБМ імя Ф. Скарыны актыўна змагалася супраць прыняцця і вынясення на рэферэндум пытання аб наданні "русскому языку" статусу другой афіцыйнай дзяржаўнай мовы (звароты да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і іншыя формы).

Пастаянна Рада рупілася аб актывізацыі падпіскі на газету "Наша слова".

Гарадская Рада ТБМ імя Ф. Скарыны 16 лістапада 1993 г. (пратакол №30) прыняла пастанову аб выключэнні са складу членаў Таварыства Вячаслава Кебіча, старшыні Савета Міністраў рэспублікі. У склад ТБМ Кебіч быў прынародна прыняты падчас другога з'езда гэтай арганізацыі. Матывы: старшыня Савета Міністраў пры выкананні службовых функцый амаль не карыстаецца дзяржаўнай мовай, роднай мовай беларускага народа, чым парушае дзейную Канстытуцыю, Дэкларацыю аб дзяржаўным суверынітэце Беларусі, законы аб мовах і адукацыі. Гэтым самым Вячаслаў Кебіч не служыць прыкладам для грамадзян Беларусі па выкананні законаў. Інфармацыя аб гэтым друкавалася ў газетах.

Рада займала актыўную пазіцыю ў дыскусіі ў сродках масавай інфармацыі і ўзаемадачыненнях з Вярхоўным Саветам і іншымі органамі ўлады аб статусе адзінай дзяржаўнай беларускай мовы і дзяржаўнай сімволіцы.

Сябры Рады бралі актыўны прафесійны ўдзел у канферэнцыі (снежань 1993 г.) аб рэформе правапісу. 21 снежня 1993 г., пратакол № 32. Канкрэтныя прапановы "Зберагчы нацыянальны дух мовы" (на 5 старонках машынапіснага тэксту) былі дасланы ў камісію па правапісу. З грунтоўным дакладам на канферэнцыі выступіў сябра рады Я.М. Стапановіч.

Гарадская Рада перыядычна заслухоўвала справаздачы старшыняў раённых Радаў Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.

11 красавіка 1994 г. Мінская гарадская Рада ТБМ у Доме літаратара

правяла "Вечарына беларускага слова". Са сцэны гучалі вершы Янкі Купалы і іншых паэтаў. Увесь вечар прысутных весяліў сваімі фальклёрнымі песнямі ансамбль выкладчыкаў БДУ "Тутэйшая шляхта". Тут жа можна было набыць папулярную беларускую літаратуру, кнігі па гісторыі і культуры Беларусі.

Сябра рады Мікола Лавіцкі па рашэнні Рады распрацаваў і забяспечыў каляровае друкарскае выданне: "Ліст падзякі Мінскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны", якім ганаравалі асоб, якія плённа працавалі на ніве Адраджэння беларускай мовы, культуры і гістарычнай памяці.

Праводзілі тэматычныя круглыя сталы сумесна з гарадскім упраўленнем народнай адукацыі па праблеме захавання дасягнутых здабыткаў па нацыянальным адраджэнні ў сістэме адукацыі; аб ходзе выканання закона “Аб мовах” і інш.

23 снежня 1994 г.(пратакол №43 ад 20.12.94г.) у Доме літаратара праведзены круглы стол "Беларуская школа на шляху Адраджэння". Бралі ўдзел у рабоце (па рэгістрацыі) 51 чалавек. Сярод іх: кіраўніцтва і супрацоўнікі ўпраўлення адукацыі Мінгарвыканкама, старшыня камісіі па адукацыі Мінгарвыканкама, інспектар Мінгарвыканкама па выкананні закона “Аб мовах”, дэпутаты гарсавета, кіраўнікі раённых аддзелаў адукацыі, дырэктары і завучы школ, дырэктары гімназій, загадчыкі дзіцячых садкоў, метадысты і выхавацелі дашкольных устаноў, настаўнікі, загадчыкі кафедраў і выкладчыкі ВНУ, навукоўцы з Нацыянальнага інстытута адукацыі, пісьменнікі, навукоўцы з Акадэміі навук, журналісты, старшыня бацькоўскага камітэта і інш. Прыняты Зварот да міністра адукацыі і навукі Васіля Стражава. Была прынята Ухвала круглага стала.

6 чэрвеня 1995 г. праведзена канферэнцыя "Аб захаванні беларускай школы". Выступоўцы: В. Навуменка (БДУ), В. Вячорка (БНФ, выкладчык), М. Крукоўскі (прафесар), А. Шамак (педістытут), Г. Вашчанка (гарвыканкам), М. Савіцкі (прафесар), А. Глушко (Задзіночанне беларускамоўных студэнтаў), Ніл Гілевіч (народны паэт), Л. Лыч (прафесар), Ул. Арлоў (пісьменнік) і інш.

Канферэнцыя прапанавала і канстатавала (асноўнае з архіва):

Знішчэнне беларускай мовы - гэта знішчэнне этнасу - беларускамоўныя школы трэба зберагчы;

Ствараць групы падтрымкі ў школах і дашкольных установах;

Дамагацца роўнасці моў - таму, што пастаўлена мэта адабраць у беларусаў беларускую мову, адабраць гістарычную памяць;

Звяртацца ў міжнародныя сродкі;

Беларускамоўных было 135 школ, але зараз захаваць хаця б 30 школ;

стварыць нацыянальны ўніверсітэт;

Ствараць камітэты нацыянальнага выратавання;

Выказвацца аб незаконнасці рэферэндума;

Звяртацца ў Юнэска аб дапамозе ў абароне беларускай мовы.

Падрыхтаваць пісьмовую заяву ад студэнтаў беларускамоўных плыняў, каб закончыць адукацыю на беларускай мове

Рада 23.05.95 г. (пратакол № 48) абмеркавала пытанне "Аб формах работы ва ўмовах пасля рэферэндума". Адзначылі, што рэферэндум перажываўся беларусамі вельмі цяжка. Адразу стала менш паразумення ў працы з "вертыкаллю". Патрэбна больш, чым калі асветніцкая работа сярод моладзі: яны - будучыня нацыі, а ім няма куды дзецца, няма перспектывы ў жыцці. За кім пойдуць маладыя - той пераможа. Атрымалася так, што мова - гэта палітыка, а ТБМ у свой час гэтага не даацаніла, цяпер зразумелыя цяжкасці. Дабівацца, каб была ў Беларусі хаця б адна ВНУ нацыянальная. Трэба пераходзіць на форму мітынгаў. Ладзіць вечарыны беларускага слова, далучацца да беларускай культуры. Праводзіць на беларускай мове гутаркі ў школах. Агітаваць Тэатр юнага гледача, які яшчэ ні разу не адступіўся ад беларускага слова, быць трыбунай слова для моладзі. У будучым, відаць, трэба будзе стварэнне партыі.

6 чэрвеня 1995 г. праведзена канферэнцыя сумесна з БНФ "Аб захаванні беларускай школы". У дыскусіі выступілі Ніл Гілевіч, Ул. Арлоў, прафесары М. Крукоўскі, М. Савіцкі, Л. Лыч, дац. В. Навуменка, выкладчык В. Вячорка, мастак М. Купава, Г. Вашчака (гарвыканкам), старшыня клуба "Спадчына" А. Белы, выкладчык педінстытута А. Шамак, карэспандэнт А. Мікалайчанка. старшыня дзіцячага фонду "Сакавік" М. Міцкевіч, старшыня Задзіночанне беларускіх студэнтаў А. Глушко.

5 верасня 1995 г. (пратакол № 50) гарадская рада ТБМ абмеркавала сітуацыю ў краіне і г. Менску. Выступоўцы адзначылі, што Прэзідэнт даў указ перагледзець падручнікі па гісторыі; пры паступленні ў студэнтаў патрабавалі заявы, на якой мове жадаюць навучацца (большасць была за беларускую мову); на дыпламатычным факультэце недабор беларускамоўнай плыні. Вынікі рэферэндума падтасаваны. Рада прыняла прапановы і меркаванні: сябрам ТБМ зноў трэба перайсці да працы ў калектывах - ТБМ павінна абараняць беларускую мову на месцах; з Таварыствам беларускай школы выпрацаваць сумесны план работы; тлумачыць моладзі аб значэнні сімволікі і мовы для кожнага народа, чалавека; больш цесна

звязацца з усімі беларускамоўнымі настаўнікамі (адрасы, тэлефоны); змагацца за пашырэнне новых беларускамоўных падручнікаў.

19 кастрычніка (пратакол № 52) абмеркавалі "Аналіз тэкстаў дыктовак" на ўступных экзаменах. Адзначылі, што дыктоўкі па беларускай і руской мовах былі вельмі розныя па складанасці. Для беларускамоўных абітурыентаў быў выбраны складаны, незнаёмы ўрывак тэксту. Амаль ў 4 разы беларуская дыктоўка была складаней. Пастанавілі: даводзіць да ведама кіраўнікоў школ, бацькоў аб выніках аналізу дыктовак, растлумачваць несправядлівыя адносіны да беларускай мовы.

6 лютага 1996 г. праведзены пікет "**Не! рускай мове на выпускных экзаменах".**

5 сакавіка 1996 г. (пратакол № 56) праведзена канферэнцыя "Захаванне адзінага моўнага рэжыму ў беларускамоўных навучальных установах сталіцы".

Гарадская рада брала дзейны ўдзел у падрыхтоўцы "Белай кнігі" аб стане беларускай школы". Глядзі кніжку "Аняменне. З хронікі знішчэння беларускай мовы", Вільня, "Gudas", 2000. Там на стр. 276 прыведзена выказванне прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі з выступлення на сесіі Гомельскага гарсавета 1 снежня 1994 г.(газета "Имя", 06.06.97 г.): *"Люди, которые говорят на белорусском языке, не могут делать ничего, кроме как разговаривать на белорусском языке, потому что по-белорусски нельзя выразить что-то большое. Белорусский язык - бедный язык. В мире существует только два великих языка - русский и английский."*

25 лютага 1997 г. разгледзелі пытанне “Аб далучэнні вучняў беларускамоўных класаў да тэатра”.

Справаздачная канферэнцыя мінскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны праведзена 14 сакавіка 1997 г. Па акту прыёма-передачы круглую пячатка і штэмпель Мінскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны Мікола Савіцкі передаў наноў абранаму старшыні прафесару Аляксею Саламонаву.

Мікола Савіцкі, прафесар.

## Хочацца пабачыць прыклад рэктара

Новы 1993 год рэктарат БДЭУ пачаў агалашэннем Загада № 1-А ад 4 студзеня "О состоянии трудовой дисциплины в 1992 году и меры по ее укреплению" (4 старонкі праз 1,5 інтэрвала за подпісамі аж сямі кіраўнікоў). Змест і форма загада пададзены ў лепшых парткамаўскіх традыцыях. Прымаючы Загад да выканання, дазвольце звярнуць увагу на тое, што шаноўны Рэктарат заклікаючы ў загадзе падначаленых да працоўнай дысцыпліны, сам ігнаруе і не выконвае дзяржаўную дысцыпліну, а менавіта Закон "Аб мовах" і "Дзяржаўную праграму развіцця беларускай мовы", Закона "Аб адукацыі" (арт. 6), а таксама загадаў Міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь, напрыклад загад № 171 ад 03.07.92 г. "Аб дадатковых мерах па выкананні “Закона аб мовах” і “Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы".

Загад рэктара напісаны не на дзяржаўнай мове. Тэкст загадана "размножить и выдать экзэмпляр в каждое структурное подраздзеление". Адпаведна кіраўнікі падначаленых структур загадалі азнаёміць кожнага супрацоўніка. Напрыклад, загадчык кафедры інфарматыкі і вылічальнай тэхнікі дадаў ад сябе: "Ознакомить всех преподавателей кафедры под роспись".

Вось тут бы і выкарыстаць, не такую частую магчымасць, калі загад рэктара неабходна ўважліва прачытаць і распісацца кожнаму супра-цоўніку ўніверсітэта. Без варыянтаў загад выдаць на дзяржаўнай мове ў адпаведнасці з дзейнымі законамі Беларусі і нормамі ўніверсітэцкага жыцця ў суверэннай Дзяржаве. Тады сапраўды мы ўбачылі б добрага гатунку прыклад для падначаленых: "Рабіце, як я".

Будзем спадзявацца на лепшае, бо ў загадзе ёсць: "2.1. Организовать с января 93 года правовой всеобуч руководящего состава ежеквартально". Што ж, можа, "правовой всеобуч" кіраўніцтва не пашкодзіць рэктарату шанаваць і выконваць законы Беларусі, разуменню і практычнаму ажыццяўленню праблем нацыянальнага Адраджэння ва ўніверсітэце: стварыць у Беларусі менавіта беларускі ўніверсітэт "як па зместу, так і па духу" (словы Міністра адукацыі В. Гайсёнка).

Прафесар Мікола Савіцкі.

# Беларускую мову ў гарадскі транспарт

## Сумеснае паседжанне дырэктараў аўтобусных паркаў Мінскага прадпрыемства "Мінскаўтатранс" і Менскай гарадской Рады ТБМ імя Ф. Скарыны

г. Мінск, 14 чэрвеня 1993 г.

Абмеркаванне ходу выканання “Закона аб мовах” і мерапрыемстваў па абслугоўванні пасажыраў сталіцы Беларусі аўтобусным транспарце і стварэнні аўдыё-візуальнага асяроддзя поўнасцю на дзяржаўнай беларускай мове.

П А С Т А Н О В А

1. Інфармацыю дырэктараў аўтобусных паркаў г. Мінска аб пераводзе абслугоўвання пасажыраў сталіцы на беларускай мове прыняць да ведама. Адзначыць, што гэта работа праводзіца вельмі марудна. Мерапрыемствы па стварэнні службова-сэрвіснай інфармацыі на аўтобусным транспарце на беларускай мове не выконваецца ў поўным аб'ёме (тэрмін завяршэння гэтай работы - чацвёрты квартал 1992 г. - пісьмо старшыні Гарсавета № 3-565 ад 30.04.92 г.).

2. У адпаведнасці з заканадаўствам Беларусі да 1 верасня 1993 г.да 3-яй гадавіны ўводу ў дзеянне “Закона аб мовах” завяршыць работу па пераводзе службова-сэрвісных аўдыё-візуальных сродкаў на беларускую мову.

3. З мэтай заахвочвання кіроўцаў і іншых работнікаў транспарту па абслугоўванні пасажыраў у асяроддзі аўтамабільнага транспарту на беларускай мове ўключыць у пералік патрабаванняў для атрымання прэміі патрабаванне: "КІРОЎЦА АЎТОБУСА ПАВІНЕН АБСЛУГОЎВАЦЬ ПАСАЖЫРАЎ У РАБОЧЫ ЧАС ТОЛЬКІ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ".

4. Уключыць у раздзел "Культура абслугоўвання пасажыраў" пункт наступнага зместу: "Забараніць у салонах аўтобусаў, кабінах вадзіцеляў вывешваць, наклейваць дзяржаўную сімволіку замежных краін”.

5. Мінская гарадская Рада ТБМ імя Ф. Скарыны гатова спрыяць і аказаць, як грамадская культурна-асветніцкая арганізацыя, магчымую дапамогу ў пачэснай справе: зробім інфармацыйна- візуальнае асяроддзе ў аўтобуснай гаспадарцы сталіцы Беларусі беларускім, так як у Маскве - на рускай мове, у Берліне - на нямецкай мове, у Лондане - на ангельскай мове.

1993 год.

**Генеральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь**
**спадару В. Шаладонаву**
**Старшыні Камісіі Вярхоўнага савета Беларусі па адукацыі,**
**культуры і захаванні гістарычнай спадчыны**
**спадару Н. Гілевічу**
**Міністру адукацыі Рэспублікі Беларусь**
**спадару В. Гайсёнку**

У г. Мінску 14-16 снежня 1993 г. праходзіла міжнародная канферэнцыя "Адукацыя XXI стагоддзя. Праблемы павышэння кваліфікацыі работнікаў адукацыі".

Аргкамітэт зацвердзіў рабочымі мовамі канферэнцыі рускую і ангельскую.

Тэзісы на дзяржаўнай мове не прыніліся і тут жа прапаноўвалася падаваць іх толькі на рускай альбо ангельскай. Удалося дамагчыся, з вялікімі маральнымі стратамі, уключэння (пасля адабрэння зместу даклада "Нацыянальная мова як аснова развіцця вышэйшай школы") тэзісаў майго даклада на дзяржаўнай (беларускай) мове.

Мае тэзісы надрукаваны на беларускай мове. Аднак выступіць на канферэнцыі з названым дакладам я не змог таму, што мае чатырохразовыя просьбы ў час работы канферэнцыі да яе арганізатараў прыняць рабочай мовай разам з рускай, ангельскай і беларускую былі праігнараваныя намеснікам старшыні канферэнцыі рэктарам А. Жуком і прарэктарам па навукова-метадычнай рабоце інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі Б. Пальчэўскім.

У знак пратэсту супраць дыскрымінацыі правоў чалавека і непавагі да законаў Рэспублікі Беларусь я пакінуў работу секцыі № 5, якую ўзначальваў прафесар Б. Пальчэўскі.

У сябе на Радзіме, у сталіцы Беларусі мяне пазбавілі права гаварыць аб прафесійных праблемах адукацыі XXI стагоддзя на дзяржаўнай беларускай мове.

Звяртаюся да ВАС, шаноўныя дзяржаўныя дзеячы Рэспублікі Беларусь: абараніце не толькі мае асабістыя правы, а правы цэлага народа, імя якога беларусы, мець магчымасць гаварыць на дзяржаўнай (для большасці яна ж і родная) мове.

Пытанне: да якой пары большасць кіруючых асоб (у нашым выпадку справа ідзе аб адукацыі) будуць груба, а ў асобых выпадках цынічна ігнараваць законы Рэспублікі Беларусь:

1. Артыкул 68, частка чатыры Канстытуцыі Беларускай ССР:

*"Дзяржаўнай мовай Беларускай ССР з'яўляецца беларуская мова"*;

2. Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, артыкул 1: *"... дзяржава ўсталявала дзяржаўнасць беларускай мовы"*, артыкул 9 *"... дзяржава забяспечвае функцыянаванне беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця"*;

3. Закон "Аб адукацыі", артыкул 6 - мовай выхавання і навучання з'яўляецца беларуская мова;

4. Закон "Аб мовах". Як вядома з 1 верасня 1993 г. уведзены ў дзеянне ў поуным аб'ёме артыкулы 27 "Мова ў сферы навукі", 28 "Мова ў сферы культуры", 29 "Мова сродкаў масавай інфармацыі".

Старшыня Мінскай гарадской Рады
Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны,
прафесар Мікола Савіцкі.

*"Жыць тым нацыям - мовамі якіх загавораць кампутары"*

# МОВА. НАЦЫЯ. ДЗЯРЖАЎНАСЦЬ. НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ. ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ

## Крытычны стан асіміляцыі беларускага народа

Грамадзянскія і патрыятычныя абавязкі беларускага інтэлігента. Стан асіміляцыі і русіфікацыі беларусаў у Беларусі вымагае ад інтэлігента аддаць сябе цалкам нацыянальным інтарэсам Беларусі і пастаянна быць гатовым стаць поплеч сваіх калег, якія больш актыўна змагаюцца за дасягненне святой мэты - поўнай дзяржаўнасці і незалежнасці. Толькі дзяржаўнасць і незалежнасць выратуюць беларускі этнас ад знікнення. Гісторыя іншых народаў і наша пераканаўча паказваюць, што ў падобным становішчы без змагання, самаахвярнай барацьбы нічога не будзе ў нашых рэаліях. Нацыянальна свядомы інтэлігент заўсёды высока арганізаваны і актыўны, пастаянна гартуе сваю ідэйнасць і павышае свой прафесійны і палітычны ўзровень. Ён шырока выкарыстоўвае ўсё добрае і карыснае ў іншых народаў, але павінен сцерагчыся ад адмоўнага ўплыву, які можа прытупіць беларускую ідэйнасць і маральную стойкасць.

Асноўная мэта, якая стаяла перад беларускім народам на працягу стагоддзяў развіцця беларускага этнасу, стаіць сёння і будзе стаяць перад намі на ўсе будучыя стагоддзі, была, ёсць і будзе: служэнне Бацькаўшчыне-

Беларусі. На розных гістарычных перыядах гэтая мэта набывала розныя формы і адценні. Асаблівы характар набывае дасягненне пастаўленай мэты ў нашу экаліптычную эпоху ў гісторыі развіцця грамадства.

Беларус павінен асэнсаваць, ведаць шматвекавую акупацыю Беларусі і змагацца за сваю асабістую незалежнасць, за свабоду свайго народа і памятаць, што адначасна мы змагаемся за свабоду ўсіх народаў свету.

За што і супраць чаго павінен змагацца ў першую чаргу беларускі інтэлігент?

Галоўны лозунг вызначыла гісторыя беларускага народа і ўсіх народаў свету: "Беларусь - супраць акупантаў!" Як і ў гістарычным мінулым, так і ў наш час дыяметральнага супрацьстаяння этнічных інтарэсаў беларусаў і сучасных акупантаў з аднаго боку барыкадаў стаіць самабытная еўрапейская культура беларускага народа, яго патрабаванне быць вольным і незалежным, будаваць свой Пасад у адпаведнасці з уласным жаданнем вярнуць народу этнічна-моўнае інфармацыйнае асяроддзе ў поўным аб'ёме, а з другога - імперскія інтарэсы Расеі і мацнеючай Польшчы.

Гісторыя сведчыць, што Беларусь і Расея - гэта зусім розныя духоўныя, ідэйныя, культурныя, рэлігійныя і нацыянальныя антыподы. Гэта розныя культуры ў сваёй гістарычнай аснове і ў вечна-канечных мэтах. Адна культура скіравана на сілавую (неабавязкова кроўную) асіміляцыю і русіфікацыю, а другая, нягледзячы на тое, што і з'яўляецца ахвярай, але захавала свой генетычны патэнцыял і ва ўмовах дзяржаўнага этнацыду вядзе няроўную барацьбу за сваё выжыванне. Тут да месца нагадаць словы забытага Леніна, які пісаў, што народ, які змагаецца за сваю свабоду, нельга перамагчы. Класічным прыкладам з'яўляецца гераічная перамога ніколі не скоранага чачэнскага народа над Расеяй. Апошнюю вайну ў сваёй гісторыі Расея класічна прайграла Ічкерыі.

Актыўны ўдзел у знішчэнні мовы, культуры і гістарычнай памяці беларусаў прымае расейская праваслаўная царква, якая паставіла хрысціянства на службу імперскай дзяржаўна-палітычнай захопніцкай экспансіі. Тут да месца нагадаць словы святога пісання: *"Пільнуйцеся ад ілжывых прарокаў, якія прыходзяць да вас у авечай адзежы, а ў сярэдзіне - ваўкі драпежныя", Мат.VII,15.*

Гістарычна і каталіцкая царква падтрымоўвала палітыку Польшчы, скіраваную на асіміляцыю беларусаў. І тут дакладней не скажаж як: *"Не можа добрае дрэва радзіць кепскія плады, не дрэва кепскае родзіць плады добрыя", Мат., VII,18.* Як каталіцкая, так і праваслаўная цэрквы разам з палітыкай сваіх краінаў адбіраюць у беларусаў прыродна-боскую першааснову: беларускую мову, якую нам даў Бог. Роля нацыянальнай

інтэлігенцыі ў разуменні гэтай не рэальнай рэальнасці выключна адказная і вымагае актыўных інтэлігентных практычных дзеянняў па выратаванні ў першую чаргу саміх сябе і ўсяго беларускага народа.

### Родная зямля

Кожны беларус і асабліва інтэлігент павінны памятаць, што для нас вечным святым месцам з'яўляецца беларуская зямля, якая атаясамляецца з беларускай дзяржавай. Зямля - аснова духоўнасці, адзін з галоўных чыннікаў беларускай нацыі ў касмічным сэнсе. Менавіта на беларускай зямлі зарадзіліся беларуская мова, слава і веліч нашых продкаў. Наша зямля пакрыта магіламі яе абаронцаў. На ёй, стаптанай і зняважанай нашымі ворагамі, уваскрасаюць мёртвыя з магілаў, нястрымана аднаўляецца культ герояў, нашыя рэальныя гераічныя беларускія міфы.

Асэнсаванне інтэлігенцыяй сваёй адказнасці за развіццё беларускай нацыянальнай ідэі вяртанне да натуральнага беларускамоўнага асяроддзя немагчыма без уразумення шкоднасці сентыментальнасці (на якую ахвочыя заваёўнікі) накшталт: "Квітней Беларусь". Кіналетапіс зафіксаваў 18 кастрычніка 1996 г. пачварнае відовішча: на фоне кафедральнага сабора выстаўлены шэрагі міліцыі і АМАП са шчытамі і дубінкамі супраць гаражан, а насупраць на фоне палаца спорту, акружанага некалькімі "абарончымі" коламі сілавікоў, дзе ў гэты час засядалі так званыя дэлегаты Усебеларускага сходу, на велізарным шчыце красаваўся лозунг "Квітней Беларусь".

### Незалежная нацыянальная дзяржава і інтэлігенцыя

Інтэлігенцыя кожнага народа ў мінулым, сёння і ў будучыні да незалежнай нацыянальнай дзяржавы ставілася як да адзінай формы арганізацыі народа, якая забяспечвае народу аптымальныя ўмовы для ўсебаковага развіцця ўсіх яго духоўных і матэрыяльных сілаў і, безумоўна, - роднай мовы. Без уласнай нацыянальнай дзяржавы, пабудаванай на этнічных землях, народ не можа ўсебакова і гарманічна развівацца. Трэба глыбока зразумець, што без уласнай нацыянальнай дзяржавы народ асуджаны на смерць.

Народ, які не мае нацыянальнай дзяржавы, вымушаны цярпець глумленне з боку сваіх заваёўнікаў. Апошнія, якімі б словамі не прыкрываліся, мэтанакіравана імкнуцца да палітычнага, культурнага, а як вучыць гісторыя непераможнай Чачэніі, і да фізічнага знішчэння падначаленых ім народаў. Пра сказанае сведчыць гісторыя нашага і іншых паняволеных

народаў. Інтэлігент абавязаны добра ведаць і асэнсоўваць гісторыю свайго і іншых паняволеных народаў, займацца асветніцкай дзейнасцю і даводзіць да розуму і сэрца кожнага беларуса, што першай і самай неабходнай умовай жыцця і здаровага развіцця беларускага народа з'яўляецца ўласная незалежная нацыянальная дзяржава. Нацыянальна свядомыя беларусы рашуча адмаўляюць любую іншую форму дзяржаўнасці, якая служыць толькі прыкрыццем маскоўскага імперыялізму. Ідэя ўласнай беларускай нацыянальнай дзяржавы выцякае таксама з глыбінных памкненняў і нацыянальных пачуццяў беларусаў. Мы хочам быць самі гаспадарамі на сваёй зямлі, хочам быць вольнымі і самі на сваёй зямлі і панаваць, і працаваць.

Дзеля дасягнення акрэсленых мэтаў інтэлігенцыя павінна выхоўваць у народа пачуццё нацыяльнага гонару, пачуццё нацыянальнай годнасці, адмысловага беларускага патрыятызму. Сапраўдную і поўную свабоду беларусам можа даць толькі незалежная нацыянальная дзяржава. Свядомае і падсвядомае імкненне народа да свабоды і незалежнасці выцякае з самой прыроды этнасу. Менавіта гэту аб'ектыўную рэальнасць не можа ніхто забіць у народа, ні замяніць нейкім сурагатам. Нават сучасны фізічны генацыд чачэнскага народа, учынены Расеяй, прывёў на вачах усяго свету да паразы імперыі.

Тэорыя і гістарычная практыка сцвярджаюць, што незалежная нацыянальная дзяржава адпавядае не толькі інтарэсам і імкненням карэннага этнасу, а і найбольш поўна адпавядае інтарэсам усіх народаў, усіх жыхароў, якія жывуць у Беларусі. Кожны народ ганарыцца сваёй мовай, культурай, шануе і абараняе іх. Разам з тым, трэба памятаць, што сённяшні стан сусветнай культуры ёсць вынік супольнага ўдзелу ўсіх народаў свету ў яе развіцці. Чалавецтва па праву ганарыцца сваімі агульнымі здабыткамі у развіцці культуры, але мы павінны памятаць, што ў гэтым працэсе бралі удзел усе народы свету. Сёняшні узровень культуры быў бы значна вышэйшы, багацейшы і яшчэ больш разнастайны, каб у гэтым працэсе бралі ўдзел народы, якія былі (а многія і сёння) у няволі, у залежнасці і не змаглі зрабіць свайго поўнавартаснага ўнёску ў агульную скарбонку - культуру. Гэта агульнае палажэнне класічна ілюстрыецца лёсам беларускага этнасу, яго мовы, культуры.

Барацьба за волю і незалежнасць - гэта не толькі жаданне да лепшага матэрыяльнага дабрабыту, а і імкненне браць максімальна магчымы ўдзел у культурным працэсе свайго народа і ўсіх народаў свету. Народ мае найспрыяльнейшыя ўмовы для развіцця свайго патэнцыялу толькі ў сваіх уласных незалежных нацыянальных дзяржавах. Такім чынам, сусветная сістэма вольных нацыянальных дзяржаў акумулюе агульны інтарэс развіцця

чалавецтва як цэльнасці. Развіццё чалавецтва і яго культуры пераканаўча паказалі, што натуральны шлях не праз штучнае, а тым больш насільнае аб'яднанне народаў, не праз зліццё народаў, культур, моваў у штосьці адно пачварнае, а выключна толькі ва ўмовах прадстаўлення поўнай свабоды творчасці, свабоды развіцця ў роднамоўным інфармацыйным асяроддзі. Такое развіццё магчыма толькі ў сістэме незалежных нацыянальных дзяржаў. Хто прыгнятае іншыя народы і не дазваляе ім вольна развівацца, хто знішчае іншыя народы, той падрывае падмурак развіцця чалавецтва ў цэлым, той з'яўляецца ворагам не толькі паняволеных народаў, але і ворагам людзей усяго свету. Збалансаваны ўлік інтарэсаў кожнага народа і чалавецтва як цэльнасці магчымы толькі ў сістэме вольных нацыянальных дзяржаў усіх народаў свету. Таму першачарговай і непасрэднай задачай інтэлігенцыі, усяго насельніцтва з'яўляецца пабудова на этнічных беларускіх землях незалежнай краіны Беларусь.

## Беларускі патрыятызм

Беларускі патрыятызм ёсць стыхійная, прыродная, ірацыянальная з'ява. Ён аб'ядноўвае людзей ад калыскі да смерці ў лоне сваёй нацыі на аснове псіхічна-маральных і светапоглядных адносінаў, якія эбліжаюць сяброў нацыі, яднаюць іх у адзіную вялікую супольнасць. Асноўнымі рысамі беларускага патрыятызму (у адрозненне ад расейскага і польскага) з'яўляюцца жаданне жыць на сваёй Бацькаўшчыне, любоў да роднай зямлі, прыхільнае ўспрыманне беларускай культуры, свабодалюбства, павага да чалавека, шанаванне традыцый, абрадаў.

Выдзелім два віды беларускага патрыятызму: свядомы і падсвядомы. Падсвядомы або стыхійны патрыятызм гэта любоў да роднай прыроды, сваіх землякоў, мовы, традыцый, звычак. Важную ролю пры гэтым адыгрывае прывычка. Чалавек жыве сярод адпаведнага атачэння, прывыкае да яго так, што лічыць яго сваёй часткай.

Родная мова для любога чалавека з'яўляецца асновай патрыятызму і светапогляду, яна захоўвае і перадае традыцыі свайго народа. Беларуская мова для беларуса ёсць самы каштоўны скарб і спосаб самазахавання як інтэлектуальнай асобы. Выдатны педагог К.Ушынскі сцвярджаў, што мова ёсць скарбніца народа, у якой адлюстравана прырода, у асяроддзі якой ён жыве, светапогляд і вера народа. Ён пісаў, што страта мовы для народа раўназначна знішчэнню нацыянальнасці (этнасу). Выбітны філолаг Пацебня ў вядомай працы "Мова і мысленне" даказаў, што паміж роднай мовай, мысленнем і псіхікай паводзінаў існуе моцная арганічная повязь. Нават

падсвядома любоў беларуса да Беларусі, беларускай мовы выцякае з таго, што беларус арганічна зросся з роднай прыродай, сваімі зямлякамі, сям'ёй, роднымі, суседзямі, з нацыянальнымі традыцыямі, светапоглядамі і боскай першаасновай - роднай мовай. Стыхійная любоў да роднага краю, мовы ўласціва большасці людзей, яна ёсць грунт свядомай любові да Бацькаўшчыны, актыўнага і стваральнага патрыятызму.

Для пераходу ад падсвядомага да свядомага патрыятызму неабходна са здаровым гонарам адчуць сваю прыналежнасць да канкрэтнай нацыі і асэнсаваць адметнае адрозненне ад іншых нацый (чым васілёк адрозніваецца ад ружы). Чалавек, які дакладна ведае асаблівыя рысы свайго народа, яго гісторыю, культуру, асэнсаваў неабходнасць вярнуцца і жыць у роднамоўным асяроддзі і ёсць свядомы патрыёт.

Кожны народ, як і асобны чалавек, мае пазітыўныя і негатыўныя рысы, амаль кожны народ мае ў сваёй гісторыі цёмныя яе старонкі. Але сапраўдны патрыёт любіць і бароніць Бацькаўшчыну ў цэлым, а не адварочвацца ад яе толькі таму, што яго народ мае (ці яму знешняй сілай прышчэплены) нейкія негатыўныя рысы, ці дапускаў нейкія памылкі ў сваёй гісторыі.

Сапраўдны патрыёт не абмяжоўваецца пасіўнай любоўю да свайго краю, народа, да яго сучаснага і мінулага, да яго мовы і культуры. Ён актыўна працуе для свайго народа, прагнучы вярнуць родную мову народа, падняць яго культуру і дабрабыт, перамагчы яго адмоўныя рысы і весці да самаўдасканалення. Ён бароніць гонар Беларусі, калі хто-небудзь ганьбіць яе, і мае сваю адказнасць за сваё прызначэнне.

Самаахвярная любоў да Бацькаўшчыны-Беларусі з'яўляецца найвышэйшай формай патрыятызму. Гэта выражаецца ў тым, што чалавек для дабрабыту свайго народа церпіць мукі і нават ідзе на смерць.

Ва ўмовах татальнай русіфікацыі ўсіх сфераў грамадскага жыцця, разбурэння беларускамоўнага інфармацыйнага асяроддзя, недапушчэння беларускамоўнага выкладання ў ВНУ патрабуецца назваць галоўнага ворага знішчэння беларускай нацыі. Гэта неабходна дзеля таго, каб выратаваць беларускі этнас ад рэальнага этнацыду і ведаць, з кім весці барацьбу. Мы павінны добра ведаць метады гэтай ганебнай палітыкі "раздзяляй і валодай", прысваенне сабе ўсіх каштоўных здабыткаў паняволенных народаў, матэрыяльнае і культурнае рабаўніцтва. Гістарычна найнебяспечнейшая для беларусаў палітычная ідэя Расеі - Федэрацыя, ідэя місіянства Расеі над Беларуссю, ідэя адзінства славян, ідэя "адзінай першаснай рускай народнасці".

## Беларускі нацыяналізм

Патрыятызму для паспяховай барацьбы за незалежную Беларусь недастаткова. Важным элементам у гэтым працэсе належыць беларускаму нацыяналізму. Нацыяналізмам лічыцца вышэйшы інтэлектуальны і этнічны ўзровень грамадскага ўдзелу кожнага чалавека ў барацьбе за волю і дзяржаўнасць свайго народа. Менавіта нацыяналізм з патрыётаў робіць сапраўдных змагароў за лёс свайго народа.

Адрозніваюць два аспекты нацыяналізму: светапоглядны і этычны. Светапоглядны нацыяналізм успрымаецца, разумеецца, тлумачыцца супольным жыццём праз прызму і з пазіцый сваёй нацыі. Ён пастаянна спрыяе росту і велічы сваёй нацыі, а калі яна знаходзіцца ў няволі, то светапоглядны нацыяналізм прапануе ідэі для палітыкі, якую неабходна праводзіць, каб нацыя стала вольнай і пабудавала сваю дзяржаву. Этычны нацыяналізм выхоўвае ў людзей гатоўнасць да ўсіх відаў самаахвяр, нават уласнага жыцця, дзеля свабоднага развіцця сваёй нацыі. Запавет беларускага нацыяналіста: ніхто больш любові не мае, як чалавек, які ахвяруе жыццё за сваю нацыю. Ідэялогія беларускага нацыяналізму выпрацавана ўсімі пакаленямі развіцця нацыі.

Інтэлігенту, як і кожнаму этнічнаму жыхару, даюць магчымасць у бесперапыннай барацьбе рэалізаваць свой духоўны і творчы патэнцыял родная мова, культура, вера, традыцыі, звычаі. Для беларускага народа спрадвеку характэрна імкненне да духоўнага росту, жаданне пазнаць сваю нацыянальную гісторыю. Без гэтай рысы мы, беларусы, ва ўмовах стогадовых прыгнётаў і этнацыду, асіміляцыі даўно б зніклі як нацыя. А мы жывём і, як вучыць наша крывава-гераічная гісторыя, будзем вечна жыць. Як перамагалі ўсіх нашых душыцеляў у мінулым, так пераможам і сённяшніх і, захаваўшы, выратаваўшы родную беларускую мову, захаваем сябе як этнас. Інтэлігенты, будзем моцна трымаць сцяг незнішчонасці беларускай нацыі.

## Апора на ўласныя сілы

Адраджэнне адабранай і прыглушанай нацыянальнай свядомасці беларусы могуць здзейсніць толькі ўласнымі сіламі і невычэрпным патэнцыялам народа. Інтэлігенцыі перш-наперш трэба самой адраджаць беларускасць і прафесійна даводзіць да народа ролю і змест нацыянальнай ідэі ў развіцці народаў, цывілізацыі. Гэта трэба давесці да такой ступені, каб беларуская нацыянальная ідэя стала іх верай, іх духоўнасцю. Толькі пасля

гэтага беларус будзе актыўна змагацца за самога сябе, стане не толькі носьбітам, але стваральнікая роднай беларускай мовы, культуры. У народа ўваскрэснуць захаваныя на генетычным узроўні непераможныя нікім сілы. Кожны народ бязмежна верыць у сваю нацыянальную ідэю, якая з'яўляецца арганізатарам і гарантам перамогі за выжыванне, вызваленне з чужароднага моўна-інфармацыйнага асяроддзя.

Нацыянальная ідэя ўмацоўвае волю беларускай нацыі у барацьбе за шчаслівае жыцце, за пабудову ўласна незалежнай дзяржавы, за эфектыўнае развіцце нацыянальнай культуры. Без усведамлення і ўспрымання сэрцам і розумам нацыянальнай ідэі немагчыма выхаваць здаровую нацыю, якая здольная абараніць сябе сама, без яе немагчымы гераічныя і нават патрыятычныя ўчынкі, ні інтэнсіўнае жыццё. Пакуль жыве нацыя жыве і нацыянальная ідэя. Воля нацыі ёсць гістарычная з'ява, яна існуе толькі ў жывых духам людзей.

Адраджэнне нацыі, як вывяржэнне вулкана, выходзіць з яе самой, з яе ўнутранных якасцей і патэнцыялу. Вельмі важна, каб эліта нацыі - інтэлігенцыя падрыхтавала сябе прафесійна і духоўна да выканання сваёй ролі ў пераходзе нацыі ў новы час яе жыцця. Інтэлігенцыя сваім жыццём набліжае дзень, які стане гістарычным.

Нацыянальная ідэя і, безумоўна, родная мова яднае інтэлігенцыю і народ у адно цэлае і непераможнае. Інтэлігенцыю і народ аб'ядноўвае і ўмацоўвае нацыянальная дзяржава - асноўны чыннік для захавання і развіцця нацыі па законах і маралі свабоднага свету. Нацыянальную ідэю і дзяржаву мы разглядаем як стваральную прагрэсіўную сілу. Аб негатыўных з'явах нацыяналізму мы ў гэтым артыкуле не гаворым.

Нацыянальнае адраджэнне беларусаў ёсць рэвалюцыя, а не клубная дыскусія. У любой рэвалюцыі асноўнай сілай з'яўляюцца кадры, а для духоўнай, культурнай рэвалюцыі - інтэлігенцыі. Ад "якасці" інтэлігенцыі, яе маралі, палітычнай спеласці і галоўнае веры ў нацыянальную ідэю свайго народа залежыць поспех альбо часовая параза ў рэвалюцыйным працэсе. На жаль, беларуская інтэлігенцыя, як усім добравядома, выхавана ў чужароднай ідэалогіі, маралі, па-за роднамоўнага асяроддзя. У Беларусі за апошнія стагоддзі ў асяроддзі інтэлігенцыі насільна ўмацавалася так званая пятая калона і мімікрыя. Гэтыя інтэлігенты, не без выключэння, не без добрых прыкладаў, у сваёй масе не з'яўляецца абаронцамі беларускай нацыянальнай ідэі, мовы, культуры, усей беларускай нацыі. Аб гэтым не прынята па інэрцыі савецкіх часоў гаварыць адкрыта, але гэта рабіць трэба і рабіць цывілізавана, на інтэлектуальным грунце.

Нацыянальнасвядомая інтэлігенцыя ў Беларусі ў меншасці. Але ж

ва ўсе часы развіццё цывілізацыі перамагала меншасць, якая ўзброена перадавымі, прагрэсіўнымі ідэямі. Сіла і моц інтэлігенцыі не ў колькасці, а ў яе якасці. Тая частка інтэлігенцыі, якая прыстасоўваецца да ўмоў духоўнай акупацыі ці антынароднай палітычнай кан'юнктуры лёгка адракаецца ад сваіх пазіцый. Яркім прыкладам з'яўляецца дзейнасць настаўніка Дыляна, які да прыходу А. Лукашэнкі да ўлады займаў пасаду старшыні Мінскага гарадскога аддзела адукацыі і спрыяў адкрыццю новых беларускіх класаў (у першых беларускіх класах вучылася больш за 50 адсоткаў вучняў), а пасля назначэння Прэзідэнтам на пасаду намесніка міністра адукацыі і навукі амаль зліквідаваў беларускія класы ў сталіцы. У 1996 г. у першых так званых беларускамоўных класах праз слёзы, пратэсты бацькоў толькі 12 адсоткаў пачалі вучобу па-беларуску. Думаю, што гэты прыклад стане класічным у гісторыі беларускага адраджэння. Ён паказвае, як лёгка і па-здрадніцку меняе інтэлігенцыя сваю пазіцыю ў залежнасці ад абставін. Ядром гецэрагентнасці беларускай інтэлігенцыі з'яўляецца мімікрыя і пятая калона.

Характар і вартасць інтэлігента асабліва яскрава праяўляецца ў канкрэтных справах на пераломах гістарычнага і рэвалюцыйнага працэсу. Ва ўмовах духоўнай рэзервацыі беларусаў у Беларусі настаўніку беларускай мовы і літаратуры, каб быць беларусам (жыць 24 гадзіны ў суткі у роднамоўным беларускім асяроддзі), патрабуецца мужнасць, а можна казаць, і подзвіг.

Нацыянальнасвядомы інтэлігент павінен:

- усприымаць сваё прафксійнае прызначэнне і жыццё як гераічны подзвіг дзеля практычнага выратавання беларускай мовы, культуры;
- служыць нацыянальнай ідэі;
- быць шчырым і адказным выканаўцам ідэй вялікіх духоўных апосталаў беларускай нацыі;
- помніць, што Беларусь паклікала нас да інтэлектуальнай, творчай працы для яе адраджэння, росквіту і магутнасці;
- апостальскі дух святой Ефрасіні Полацкай і іншых патрабуе ад нас не слёз, не спачування, не пасіўнага роздуму, а мужных і актыўных творчых дзеянняў;
- найчысцейшай любоўю для нас ёсць зняважаная і прыніжаная беларуская нацыя;
- асалоду ў жыцці атрымоўваць ад няспыннага імкнення да вяршынь духа, ідэі і дзеянняў;
- быць верным нацыянальнай ідэі і не здавацца хоць бы супраць цябе было наваколле;

- пастаянна папаўняць веды па гісторыі, культуры;
- усвядоміць, што кожны з нас адказны за лёс усёй беларускай нацыі;
- помніць, што найбольшае злачынства гэта шкодзіць сваёй Нацыі;
- усвядоміць, што асабістым ворагам кожнага інтэлігента з'яўляецца той, хто зняважае яго нацыю;
- памятаць, што самай пачэснай рысай з'яўляецца мужны характар і прафесійная адказнасць;
- перамагае той, хто мае духоўную сілу: слабых топчуць - моцных паважаюць;
- падаць братэрскую руку таму, хто хоча ўласнага выратавання і нацыі.

Паняцці беларуская нацыянальная ідэя, светапогляд, беларускі нацыяналізм цесна паміж сабой звязаны. Кожны чалавек мае ўласны светапогляд, які залежыць ад узроўня яго інтэлектуальнага развіцця і інтэлігентнасці ў лепшым сэнсе гэтага слова. Светапогляд ёсць цэлая сістэма поглядаў на жыццё, грамадства, на прыроду. Нацыя ўяўляе своеасаблівы жывы складаны арганізм, які ў працэсе жыццядзейнасці развіваецца і квітнее і разам з тым пастаянна змагаецца з сіламі, якія скіраваныя супраць яе. І як толькі нацыя спыняе барацьбу, яна перастае жыць поўнавартасна і можа загінуць, падвяргаючыся пастаяннай асіміляцыі, гэта значыць раствараючыся ў арганізме іншай. Для беларускай нацыі асноўная небяспека на працягу стагоддзяў зыходзіць ад рускай нацыі. Нацыя не ёсць арганізм сёняшняга дня, а ёсць еднасць тых пакаленняў, што жылі ў мінулым і што жывуць сёння і будуць жыць у будучым.

## Этнічная мова

Найважнейшы чыннік пры вызначэнні нацыі з'яўляецца яе этнічная мова. Мова адыгрывае найвялікшую ролю ў жыцці нацыі, а таму і барацьба за захаванне і развіццё беларускай мовы ёсць барацьба за беларускую нацыю. Не трэба звяртаць увагі на абвінавачванне нас у так званых "сілавых" метадах адраджэння, аб якіх крычаць русіфікатары і асімілятары. У беларусаў няма аніякіх праблем у згвалтаванні саміх сябе. У беларуса (як людзей любой іншай нацыянальнасці) у генах, у сэрцы жыве родная боская мова. І як толькі змякчаецца асіміляцыйны прэс, як траўка з пад асфальту, ажыўляецца, пашыраецца сфера ўжытку беларускай мовы ў Беларусі. Гэта добра падцвярджае кароткі перыяд адраджэння ад самаразбурэння СССР і да "прышэсця Лукашэнкі".

Найважнейшым у вызначэнні нацыі з'яўляецца ўсвядамленне сваёй

нацыянальнай адметнасці і непаўторнасці.

Нацыя пры доўгатэрміновых неспрыяльных, рэзервацыйных умовах можа нават як бы знікнуць, але гэта яшчэ не смерць нацыі. У такіх абставінах нацыя страчвае свае адметныя прыкметы, але як толькі з'явяцца спрыяльныя ўмовы (напрыклад дзяржаву ўзначаліць асоба з сучасным цывілізаваным мысленнем, якае будзе разумець: што добра, а што злачынна) і нацыя зноў ажывае на грунце назапашанага пласта нацыянальнай культуры і нацыянальнай гісторыі. Такім чынам, гарантам для нармальнага жыцця і развіцця любой нацыі з'яўляецца свая незалежная нацыянальная дзяржава.

Чалавек без роднай мовы не свабодны чалавек, ён раб таго народа, у чыім моўным асяроддзі жыве. Беларуская нацыянальная ідэя і беларускі нацыяналізм выхоўваюць (адных свядома, іншыш падсвядома) чалавека-творцу, а не чалавека-раба. Для нацыянальнасвядомай асобы найвышэйшай каштоўнасцю з'яўляецца нацыя, і толькі ў шчасці нацыі яна бачыць сваё асабістае шчасце. У свабодным свеце існуе толькі адзінаправільная сістэма нацыянальных краінаў, змацаваная прававымі нормамі міжнародных адносінаў. Там няма "старэйшых братоў", няма малодшых халуёў, няма "славянскага адзінства", няма паняволеных, на дзяржаўным узроўні асіміліруемых народаў.

Беларускі нацыяналізм ёсць абарона беларускай нацыі і галоўная духоўная зброя ў яе змаганні за самавыяўленне, развіццё, росквіт. Гісторыя беларускага нацыяналізму такая ж старажытная, як і беларуская нацыя. Інтэлігенцыі вельмі важна на грунце краін заходняй дэмакратыі давесці ў першую чаргу да беларусаў чалавечы, еўрапейскі сэнс словаў нацыяналізм і нацыяналіст, ачысціць іх ад бальшавіцкага антычалавечага сэнсу. Заўважым, што ў мінулыя часы гэтыя глыбокія паняцці называліся інакш, але сэнс не меняўся.

У той час, калі мы паклікалі нацыю да адраджэння, да стварэння найдэмакратычнейшых структураў у грамадстве, нашы ворагі называюць беларускіх нацыяналістаў за гэта фашыстамі. Мы адкрыта кажам беларускаму народу, абапіраючыся на гістарычныя факты і толькі факты, што Масква ні царская, ні савецкая, ні салжэніцынская ніколі прыхільна да беларусаў не стаяла з пазіцыі нашага права на жыццё ў вольнай, незалежнай Беларусі.

Беларускі нацыяналізм - гэта прадукт беларускай духоўнасці. А таму толькі праз адраджэнне беларускай духоўнасці можна пабудаваць і абараніць незалежную дзяржаву Беларусь. Працэс адраджэння беларускай духоўнасці (з улікам рэальнасці) доўгі, але сёння яго трэба актывізаваць: скінуць рабскія путы і стаць барацьбітом за сябе, за нацыю, Дзяржаву. Пакуль

большасць насельніцтва не гатовая да гэтага. Але ж гісторыя вучыць, што грамадства спрадвеку пабудавана і развівалася так, што ёсць тыя, якіх трэба весці, але ж ёсць і тыя, якія здольныя і прафесійна прызваныя весці іншых. Якасць заўжды вяла за сабой колькасць. Якасць інтэлігенцыі вызначаецца элітарнасцю (не блытаць з "адарванасцю") і арыстакратычнасцю духу.

Не трэба саромецца нацыянальнай ідэі, цывілізаванага паняцця нацыяналіст. І як не ўспомніць словы вялікай Лесі Украінкі: "Толькі той ненавісці не знае, хто цэлы век нікога не любіу". Любоў беларускага нацыяналіста да сваёй роднай Беларусі бязмежная гэдак сама, як і рускага да Расеі і немца да Нямеччыны. Яркім прыкладам служэння нацыянальнай ідэі і хрыстовага змагання за яе з'яўляецца гераічны подзвіг нашага ідэйнага і духоўнага апостала Кастуся Каліноўскага. Успрымем яго словы "з-пад шыбеніцы": *"Ваюй, народзе, за сваё чалавечае і народнае права, за сваю веру, за зямлю сваю родную. Бо я табе з пад шыбеніцы кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасліва, калі над табой маскаля ўжо не будзе".*

**Нацыя - інтэлігент**

Нацыя ёсць найвышэйшая грамадская катэгорыя, якая з'яўляецца асновай развіцця і росквіту як асобы, так і гарантам развіцця чалавецтва. Любая нацыя з'яўляецца бясцэнным прыродным, аб'ектыўным, боскім дарам чалавецтву.

Нацыю нельга замяніць нейкім штучным палітычным утварэннем, накшталт федэрацыі ці канфедэрацыі, якія зыходзяць з таталітарна-дыспатычнага верхавенства імперыі.

Інтэлігенту важна прафесійна ўсвядоміць, што ніхто не можа жыць па-за межамі існавання і жыццядзейнасці сваёй нацыі, незалежна ад светапогляду, сацыяльнага паходжання, інтэлектуальнага развіцця. Нацыя з'яўляецца адзінствам і пераемнасцю ўсіх пакаленняў. Найважнейшым фактарам духоўнага і ідэйнага адзінства пакаленняў з'яўляецца нацыянальная ідэя.

Толькі той народ падымаецца на вышэйшую ступень свайго развіцця і становіцца свабоднай нацыяй, які смела ўступае на шлях барацьбы за сваю грамадска- палітычную адметнасць, за годнае месца ў сукверцці іншых вольных народаў, за суверэннасць, за сваё існаванне. Аб'ектыўная і трагічная рэальнасц: той народ, які пад удушэннем знешняй больш моцнай нацыі становіцца інертным, безыніцыятыўным і абыякавым да самога сябе, паступова траціць самапавагу да сябе, грэбуе роднай мовай, сваёй нацыя-

нальнай верай, і адначасова абыякавы да светлых і трагічных старонак роднай мінуўшчыны, да сваіх нацыянальных герояў і духоўных апосталаў, якія змагаліся і аддалі сваё жыццё за волю і шчасце беларускага народа. Такі народ хірэе і пераўтвараецца ў этнічную масу, становіцца рабом знешніх сілаў і ўрэшце можа знікнуць духоўна і фізічна.

Інтэлігенцыя з'яўляецца арганічнай часткай нацыі, якая па сваім прызначэнні павінна стаць ініцыятарам і генератарам усяго нацыянальна-грамадскага жыцця. Кожны інтэлігент павінны ўсвядоміць, што за ім стаяць мільёны суграмадзян і за ўсіх іх ён нясе адказнасць перад нацыяй у цэлым. Інтэлігент жыве і працуе для сябе і адначасна для ўсёй нацыі. Глыбіня пачуцця патрыятызму ёсць адна з прыгожых рысаў.

Духоўная, маральная і фізічная моц народа складаецца з сумы духоўных, маральных і фізічных сілаў кожнага грамадзяніна і ў першую чаргу інтэлігента.

Духоўна-маральны стан кожнага інтэлігента ёсць аснова здароўя нацыі.

Беларуская нацыянальная ідэя - гэта задачы і мэты, якія ставіць перад сабой нацыя на розных этапах свайго гістарычнага развіцця. За гэтыя мэты і задачы нацыя пастаянна змагаецца. Стан развіцця нацыі, яе пад'ёмы і спады адэкватны развіццю творчых сілаў інтэлігенцыі і разуменню ёю свайго прызначэння.

04.12.97 г. Прафесар Мікола Савіцкі.

## Старшыні суда Ленінскага раёна горада Гродна, Суддзі, які вынес рашэнне 26.01.99 г. у кабінеце № 37 па маёй заяве

Ісцец: САВІЦКІ Мікалай Іванавіч,
220028, Мінск, вул. Маякоўскага, дом 152, кв. 80
тэл. хатні 221-71-50,тэл. працоўны 249-19-81

Адказчык: Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт
імя Янкі Купалы
230023, Гродна, вул. Ажэшка, 22

26 студзеня 1999 года суд Ленінскага раёна г. Гродна разгледзеў маю іскавую заяву да Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я.Купалы "О ПОНУЖДЕНИИ К ИСПОЛНЕНИЮ ОБЯЗАТЕЛЬСТВА".

Па прапанове Адказчыка суддзя прапанаваў міравое пагадненне. Я пайшоў насустрач. Былі абгавораны ўмовы і ўнесены ў пратакол судовага паседжання і падпісаны абедзвюма бакамі. Суддзя заявіў і запэўніў мяне, што ён (суд) бярэ кантроль за выкананнем ГДУ імя Я. Купалы ў поўным аб'ёме пералічаных абгавораных умоў Міравога пагаднення. Суддзя прапанаваў гэты тэрмін да 01.03.99 г., а я пайшоў на ўступкі і прапанаваў тэрмін да 01.04.99 г. Гэты тэрмін запісаны ў Міравым пагадненні. Але па стане на 20.04.99 г. ГДУ імя Я. Купалы ўмовы Міравога пагаднення, якія сам прапанаваў, не выканаў.

Прашу суд у прававым русле давесці справу да завяршэння.

Заўвага. Я аднёсся з павагай да слоў суддзі, паверыў у яго адказнасць і не папрасіў суддзю, а сам ён чамусьці не растлумачыў прававыя вынікі міравога пагаднення (выключаецца магчымасць паўторнага разгляду ў судзе той жа спрэчкі). Не хачу верыць, што гэта была "лавушкай" для мяне. Спадзяюся, што папяровай валакіты і шуму ў сродках масавай інфармацыі не будзе. Я аб гэтым гаварыў у судзе. Мяркую, што ГДУ імя Я. Купалы ў гэтым зацікаўлены не менш. Заўвагу пішу і ў сувязі з тым, што суд істцу (мне) не выдаў выканаўчы ліст для прымусовага выканання.

Ісцец Мікола Савіцкі.

20 красавіка 1999 г.

## Як цяжка быць беларусам у Беларусі!?

Гэтае адчуванне ў мяне даўно, яно ўжо назапашанае гадамі, але гэтыя радкі я пішу пад уражаннем апошняга званка ў Беларускім нацыянальным ліцэі, куды, апрача яго выпускнікоў, прыйшла невялікая колькасць людзей, каму не абыякавы лёс нашай Бацькаўшчыны.

Праводзілася гэтае мерапрыемства 31 мая 2004 года не ў памяшканні ліцэя, а на вузкім тратуары, на санцапёку, каля сцяны дома на вуліцы Кірава,21, дзе раней размяшчаўся ліцэй і дзе вучыліся гэтыя прыгожыя і разумныя хлопцы і дзяўчаты, і адкуль іх выгналі ўлады ў пачатку гэтага навучальнага года. Іх нават у двор сваёй школы не пусцілі. І калі гэтыя мужныя юнакі заспявалі гімн сваёй акадэміі, нельга было стрымаць слёз.

Дзе ж гэта ў свеце яшчэ ёсць такое, каб у сваёй роднай дзяржаве так здзекаваліся над грамадзянамі карэннай нацыі, якія захацелі атрымаць адукацыю на сваёй роднай мове, глыбей пазнаць свае карані, сваю гісторыю і культуру, якую яны атрымалі ў спадчыну, і якую яны імкнуцца развіваць.

Цяжка гэта было бачыць. А яшчэ цяжэй асэнсоўваць, што наша дзяржава, нашы чыноўнікі, якіх мы абралі, не зацікаўлены, каб у Беларусі гу-

чала родная мова, родныя напевы, каб яе грамадзяне адчувалі сябе роўнымі сярод роўных, каб у дзяржаўных установах, паліклініках, крамах не ставіліся да цябе абразліва, калі ты звярнуўся з просьбай на беларускай мове.

І міліцыянер, які сёння прысутнічаў на гэтым свяце і не дазваляў хаця б на паўкроку саступіць з тратуара на праезджую частку вуліцы, як мне думаецца, клапаціўся перш за ўсе аб тым, каб не перашкодзіць руху аўтамабіляў, а не аб тым, што яны могуць збіць якога-небудзь беларуса (па іх разуменні "нацыяналіста"). Чым менш людзей, што хочуць беларусамі звацца, тым лепш для нашай акупацыйнай улады, якая імкнецца хутчэй завершыць духоўна генацыд беларускага народа.

Цяжка, ох як цяжка быць беларусам у Беларусі! Адна толькі надзея, што ёсць яшчэ хлопцы і дзяўчаты, якія імкнуцца дайсці да беларускай Беларусі.

Прафесар Мікола Савіцкі.

## "Наша слова" - прапагандыст, агітатар і адукатар (выступленне на IX з'ездзе ТБМ)

Кожны квартал як мінімум апошнія пяць гадоў галоўны рэдактар нашай газеты друкуе падрабязную аналітычную справаздачу аб выніках падпіскі на адпаведны квартал на "Наша слова". Досыць часта хваліць Сакратарыят і рэдакцыю, для прыкладу: *"Мы можам з задавальненнем канстатаваць, што падпіска вырасла ва ўсіх абласцях"* (№ 37, 2003 г.), *"Намаганнямі Сакратарыяту ТБМ ...падпіска значна вырасла"* (№ 30, 2001 г.), *"У гэтым квартале адбыўся рост колькасці падпісчыкаў ... на 21 асобнік паднялася падпіска ў Менску, у чым вялікая заслуга ў першую чаргу адказнага сакратара ТБМ Ірыны Марачкінай"* (№ 3, 2005 г.) і так у кожнай квартальнай інфармацыі. Чытай і радуйся!

Але паглядзім, што адбываецца на самай справе за апошнія 5 гадоў. Звесткі аб падпісцы ўзяты з газеты "Наша слова".

| Вобласць: | 2000 г. | 2001 г. | 2002 г. | 2003 г.,4кв. | 2004 г. | 2005 г., 3кв. | 2005 г., 4кв. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Берасцейская | 109 | 157 | 113 | 124 | 58 | 63 | 75 |
| Віцебская | 134 | 180 | 201 | 141 | 119 | 109 | 124 |
| Менская | 783 | 586 | 593 | 381 | 334 | 374 | 364 |
| Гомельская | 67 | 144 | 212 | 120 | 85 | 66 | 80 |
| Гарадзенская | 299 | 295 | 278 | 214 | 170 | 146 | 158 |
| Магілёўская | 199 | 91 | 96 | 66 | 66 | 48 | 59 |
| Усяго па РБ: | 1580 | 1453 | 1493 | 1006 | 832 | 807 | 860 |

Шаноўныя дэлегаты з'езда, сябры ТБМ, паглядзіце ўважліва на лічбы табліцы і зрабіце свае высновы. За апошнія 5 год назіраецца тэндэцыя паступовага спаду. За перыяд ад VIII (4-ы квартал 2003 г.) да IX з'езда (4-ы квартал 2005 г.) колькасць падпісчыкаў зменшылася з 1006 да 860 альбо на 15 %. Адбылося зніжэнне па ўсіх вобласцях, па Віцебскай і Менскай на 17%.

Я цвёрда веру, што наша газета можа і павінна быць самаакупнай, гэта значыць мець 5-ці тысячны тыраж толькі за кошт падпісчыкаў. Аб'ектыўныя падставы гэтаму.

Матывацыя першая: толькі ў Менску працуе каля 1500 настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры, а колькі іх у Беларусі? Па дадзеных Міністэрства адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь працуе каля 12 тысячаў настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры, з іх з вышэйшай адукацыяй 95,2%, сярэднеспецыяльнай 4,5 %. Газета "НС" можа і павінна стаць газетай цікавай для настаўнікаў і вучняў, і галоўная - запатрабаванай імі.

Матывацыя другая: гарантам таму ёсць надрукаваны ("Наша слова", № 41, 2005 г.) даклад на IX з'ездзе старшыні ТБМ А.Трусава, дзе ён прывёў лічбу: "У шэрагах ТБМ налічваецца 7 тысяч грамадзян Беларусі і каля 300 замежных грамадзян". Аб якой станоўчай рабоце з сябрамі (нашым войскам !) можна гаварыць, калі з 7 тысяч падпіска склала аж 860 асобнікай на IV квартах гэтага года. Цікава было б ведаць колькі з 860-ці ёсць сябры ТБМ?

Матывацыя трэцяя: колькасць студэнцтва ў Беларусі, якія абралі спецыяльнасць "беларуская мова і літаратура" складае некалькі тысяч. Нават сціплае адлюстраванне на старонках газеты праблем, якімі жыве студэнцтва прыхіліць іх да "Нашага слова".

Матывацыя чацвёртая: класічная арганізацыйная работа з патэнцыйна-гарантаванымі падпісчыкамі - сябрамі ТБМ. Калі з 7 тысяч сяброў (веру ў рэальнасць надрукаванай лічбы) не падпісаць 5 тысяч, то гаварыць аб эфектыўным выкананні Статутных палажэнняў і правільных гучных выказванняў няма сэнсу.

Матывацыя пятая: 12 тысяч настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры. Адкрыйце, ахвяруйце адну старонку газеты, напрыклад пад рубрыкай "Цікавае для настаўніка і вучня", і колькасць падпісчыкаў сярод гэтай праслойкі грамадзянскай супольнасці будзе пашырацца і пашырацца.

Матывацыя шостая: некалькі тысяч студэнтаў толькі філалагічных факультэтаў. Разумею, праблема газетнай плошчы, але можна асвятляць, для прыкладу самую цікавую інфармацыю па курсавых і дыпломных работах.

Па маёй ацэнцы патэнцыйная колькасць прафесійна-інтэлектуальных грамадзян, якія могуць стаць падпісчыкамі газета "Наша слова" 20 - 30 тысяч. Каб напіцца са студні, трэба спачатку апусціць пустое вядро, набраць вады, выцягнуць вядро, і толькі тады - пасалодзіць душу і сэрца. Артыкулы газеты павінны біць у нос чытачу пералічаных груп, і ён сам будзе шукаць "Наша слова". А на першых парах трэба працаваць і не толькі ў кабінетнах (у якасці прыкладу: А. Анісім - старшыня Мінскай гарадской рады і намеснік старшыні А. Трусава 1 і 9 лістапада будзе чытаць лекцыю "Як стварыць суполку ТБМ". Цікава колькі там будзе слухачоў?

Асноўным, ці галоўнейшым крытэрам ацэнкі нашай работы павінна стаць гарантаваная колькасць падпісчыкаў для забеспячэньня самаакупнасці газеты.

Мы з прафесарам А. Саламонавым, у час нашай актыўнай дзейнасці ў ТБМ і калі "Наша слова" яшчэ не ўзяўся выратоўваць Станіслаў Суднік (яго подзвіг будзе ацэнены ў часе), прапаноўвалі розныя варыянты для прафесійнага зацікаўлення газетай. Нас не пачулі. Кожны дэлегат з'езда, падпісчык і творча адказная асоба можа прапанаваць свой пункт гледжання для дасягнення пяцітысячнага тыражу. Зробім "Наша слова" люстэркам жыццядзейнасці ТБМ і любімай газетай беларускамоўнага чытача шырокага дыяпазону.

05.09 - 27.10 2005 г. Прафесар Мікола Савіцкі.

## ЗВАРОТ "Аб радыёстанцыі Deutsche Welle"

Канцлеру Федаратыўнай Рэспублікі Германія,
у Бундастаг Федаратыўнай Рэспублікі Германія,
у Бундасрат Федаратыўнай Рэспублікі Германія,
да палітычных партый Германіі,
у Фонд Адэнаўэра

Шаноўны спадар Канцлер, шаноўнае Спадарства!

Мы, сябры культурна-асветнага клуба "Спадчына" і ТБМ імя Ф. Скарыны разам з прысутнымі жыхарамі г. Старыя Дарогі і гасцямі з іншых гарадоў і вёсак, якія сабраліся на адкрыццё мемарыяльнага ансамбля "Героям Грунвальда" выказваем шчырую ўдзячнасць ураду і грамадскім арганізацыям за дапамогу і спрыянне ў ліквідацыі наступстваў Чарнобыльскай катастрофы і ўсталяванні дэмакратыі ў Беларусі. Мы цэнім дзейнасць Нямецкага адукацыйнага цэнтра IBB (Менск, Беларусь).

З'яўляючыся прадстаўнікамі шырокага зрэзу беларускай грамадскасці, мы вымушаны звярнуцца да Вас у сувязі з пачаткам у кастрычніку г. г. вяшчання на Беларусь Радыёстанцыі Deutsche Welle на рускай мове. Мы падтрымліваем шырокі голас беларускай грамадскасці: просьбы весці перадачы на роднай мове беларусаў - беларускай, і пратэсты супраць вяшчання на расейскай мове, якая вядзе да знікнення беларускай нацыі шляхам татальнай русіфікацыі. Беларусам будзе прыкра, калі да гэтай ганебнай палітыкі імперскай Расеі далучыцца паважаная Deutsche Welle. Просім ставіцца да беларусаў, як да украінцаў і вяшчанне на Беларусь весці на беларускай мове, як на Украіну - на украінскай.

Калі наша просьба-пратэст не будуць пачутыя і ўважаныя, то мы аб'явім байкот:

- слуханню радыёстанцыі Deutsche Welle;
- тым газетам, якія дадуць рэкляму радыёстанцыі Deutsche Welle;
- усім мерапрыемствам, якія праводзіць амбасада Федаратыўнай Рэспублікі Германія ў Беларусі;
- нямецкім таварам,
- ніякай падтрымкі дзеянняў ў Беларусі амбасады Федаратыўнай Рэспублікі Германія.

Нашы народы помняць аб пакце Молатаў-Рабентроп. Верым, што адносіны паміж Федаратыўнай Рэспублікай Германія і Расеяй не будуць спрыяць татальнай русіфікацыі беларусаў і страты нашай дзяржаўнасці. Прыкра будзе, калі нам давядзецца змагацца і з заходняй русіфікацыяй. Спадзяёмся на разуменне і спрыянне высокага кіраўніцтва Нямецкай Рэспублікі.

З павагай, удзельнікі адкрыцця мемарыяльнага ансамбля "Героям Грунвальда".

Старыя Дарогі, 1 кастрычніка 2005 г.

## Беларускую справу трэба любіць (выступленне на Х з'ездзе ТБМ 25.10.2008 г.)

Скажам дзякуй дзейнаму кіраўніцтву ТБМ за дзейнасць у сучасных рэаліях. Але ці знайшло ТБМ эфектыўныя арганізацыйна-метадычныя метады ў сваёй пачэснай дзейнасці? Пытанне, па якім неабходна аргані-

заваць дыскусію на старонках "Нашага слова".

На мінулым з'ездзе я гаварыў аб стане з падпіскай на газету "Наша слова" і ўносіў аж шэсць матывацый, выкананне якіх, тады на маю думку, павінны былі дазволіць дасягнуць самаакупнасці - 5-ці тысячнага тыражу. Закончыў выступ зваротам да дэлегатаў з'езда, падпісчыкаў і творчых асобаў прапанаваць свой пункт гледжання для дасягнення 5-ці тысячнага тыражу. На жаль, той мой выступ застаўся пустым звонам, на яго ніхто не адгукнуўся.

А стан з падпіскай на газету "Наша слова" проста катастрафічны. Мяркуйце самі: на 4-ы квартал мы сабралі аж 952 падпісчыкаў, у тым ліку ў 2-х міліённым горадзе, сталіцы знайшлі толькі 271-го падпісчыка, а ў Менску працуе 1500 настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры. З 2004 -га года ўсталявалася стабільныя лічбы ў дыяпазоне 800 - 1000 экзэмпляраў.

Ва ўмовах мізэрнай колькасці беларускамоўных газет і часопісаў у Беларусі не выкарыстанне магчымасцяў афіцыйна зарэгістраванага органа друку ёсць прафесійная і грамадзянская абыякавасць.

Аб ашчадным выкарыстанні газетнай плошчы. Ці трэба змяшчаць ксеракопі дастаткова шматлікіх дакументаў з дзяржаўных установаў цалкам, якія з'яўляюцца ў працэсе перапіскі старшыні А. Трусава з чынавенствам? Мяркую, што фотаздымкаў у некаторых артыкулах магло б быць менш без зніжэння інфарматыўнасці матэрыяла.

Рэдакцыя газеты амаль не праводзіць дыскусій па актуальных пытаннях дзейнасці ТБМ. Просяцца на старонкі газеты новыя рубрыкі. З дзейсных можна адзначыць карысную рубрыку прафесара П. Сцяцко, рэгіянальныя матэрыялы Лідчыны, рубрыку для юбіляраў.

Лічу, што асноўная інтэлектуальная частка рэдкалегіі павінна быць ў Менску, а ў Ліду перасылаць гатовы макет нумара. Тады ў мінчан не ўзнікне жаданне адкрыць другую ці трэцію газету. Маўляў, "Нашым словам" займаецца Станіслаў Суднікаў, ну і хай сабе.

Аб тым, што усе ведаем, але па розных прычынах не хочам гаварыць, не хочам прызнаць рэаліі. ТБМ - жывы арганізм, які павінен працаваць штодня. Усе падзяляюць тэзу, што нельга ўявіць паспяховай дзейнасці грамадскай арганізацы без яе структураў, без добра пастаўленай кадравай работы, без вучобы кадраў. Некаторыя раённыя арганізацыі ТБМ існуюць віртуальна.

Асобна трэба гаварыць аб дзейнасці Менскай гарадской арганізацыі. Яе дзейнасць праводзіцца з пятай часткай (2 млн. жыхароў сталіцы) насельніцтва Беларусі. Хацеў бы памыляцца, але аб яе дзейнасці не чуваць. Нават дэлегатаў на гэты з'езд не змаглі годна вылучыць. Жыццё паказала,

што аб'ядпанне ў адной асобе, якой бы яна прыгожай не была, старшыні гарадской рады і намесніка старшыні ТБМ Беларусі не на карысць больш менш эфектыўнай рабоце гарадской рады.

Паслухаем, успрымем і будем помніць словы заснавальніка ТБМ Ніла Гілевіча:

Беларускую справу
Трэба, хлопцы, рабіць -
Не цяп-ляп, а на славу.
Справу трэба любіць!
Цяпам-ляпам, паспешна
Мы і цэлым гуртом
Не збудуем належна
Беларускі наш дом.

Сябра рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф.Скарыны,
прафесар Мікола Савіцкі.

## Чалавек 2012 года

Каб было ў Беларусі ганаровае званне "Чалавек Года", то яго б свядомыя і паважаючыя сябе беларусы назвалі б гераічны чын вучаніцы, якая са сваімі бацькамі змагаецца за канстытуцыйнае права атрымаць адукацыю на роднай мове. Гэта імя вучаніцы - Ялінка Салаўёва - адзіная школьніца ў адзіным беларускамоўным класе школы №1 у абласным горадзе Магілёве разам з бацькамі на працягу года змагалася за магчымасць вучыцца і выхоўвацца ў роднай, дзяржаўнай беларускай мове. Пакуль што ёй на працягу года не ўдалося пераканаць Прэзідэнта і чынавенства спыніць на дзяржаўным узроўні зняважлівае стаўленне да беларускай мовы ў Беларусі. Ялінка (дзіця-анёл) на працягу года здзяйсняла выратавальны чын супраць наўмыснай асіміляцыі беларусаў у Беларусі. А гэта па мерках ААН (ЮНЭСКА) лічыцца этнацыдам. Дзіця-школьніца сваім прыкладам паказала ўсім беларусам, што ў Беларусі адбываецца гуманітарная катастрофа.

27 снежня 2012 г. Прафесар Мікола Савіцкі.

## Цікавы гістарычны артэфакт нематэрыяльнай культуры

У сярэдзіне 1990-х гадоў прэзідэнт Расеі Барыс Ельцын наведаў Акадэмію Навук Беларусі. Сярод беларускіх акадэмікаў, за выключэннем

віцэ-прэзідэнта Радзіма Гарэцкага, усе выступалі на "русском языке". Праігнараваў халуйскі беларускую мову і прэзідэнт БАН Л.М. Сушчэня. Суправаджаў Барыса Ельцына -віцэ-прэзідэнт Расейскай АН, акадэмік Ул.М. Кудраўцаў, ён гаварыў на беларускай мове. Публічны павучальна-здзеклівы эфект быў ашаламляльны. Сорам усім беларускім акадэмікам і беларускай уладзе.

Прафесар Мікола Савіцкі.

## Мамы, таты, бабулі і дзядулі, радуйцеся!

Выйшаў у свет і паступіў па падпісцы (індэкс 00142, кошт 10 тыс.) першы нумар новага беларускамоўнага каляровага часопіса "БУСЯ". Тыраж 3037 экз. Заснавальнік: рэдакцыя вядомага часопіса "Вясёлка". Часопіс друкуецца на мелаванай паперы. Галоўным рэдактарам ёсць вядомы дзіцячы пісьменнік Уладзімір Ліпскі.

Лічу, што "БУСЯ" - часопіс для дзетак кожнай беларускай сям'і. Гэта чытанка-маляванка для дашкольнікаў. Такі часопіс сем'і і выхавацелі дашкольных установ чакалі даўно. Адпаведна ўзросту пасля часопіса "БУСЯ" пераходзім да часопіса "Вясёлка". На вялікі жаль і неразуменне, і здзіўленне, на сёння, гэта адзіныя беларускамоўныя часопісы ў дзяржаве Беларусь.

Прыемна, што першы нумар адчыняецца казкай вядомай і любімай чытачамі паэтэсы Раісы Баравіковай і Уладзіміра Ліпскага "Чароўныя літары". Змешчана цудоўная "Калыханка" Сяргея Грахоўскага. Добры прафесійны густ мастакоў-афарміцеляў Валянціны Чэпік, Віталя Дударанка і Уладзіміра Жука.

Шчаслівай дарогі на творчым шляху, праз гушчары і зараслі суцэльнай русіфікацыі на гістарычнай ніве беларусаў! На сёння на нашым хмурным небе ТОЛЬКІ дзве зоркі "Буся" і "Вясёлка". Яны дапамагаюць беларускім дзеткам не аслепнуць і захавацца беларусамі.

03.10.2013 г. Мікола Савіцкі,

прафесар, дзядуля трох унучак.

## Аб чым гавораць лічбы 17050 і 10750?

У цэнтральнай кнігарні сталіцы на адлегласці 20 - 30 метраў на двух самастойных стэндах прадаюцца адрыўныя календары на 2014 год. Чытач скажа, ну дык і добра, прадаюцца, хай сабе прадаюцца. І я так спачатку

ўспрыняў. Але ж, вось гэта наша беларускае *але*! Нават павярхоўнае думанне над убачанымі лічбамі прыводзіць у здранцвенне, узнікае пытанне: няўжо гэта праўда? А калі праўда, то што гэта, чаму так?

Лічбы 17050 і 10750 маюць глыбокі, лёсавызначальны сэнс для беларускай нацыі. Яны паказваюць, на першы погляд, як з драбніц складаецца русіфікацыйная магутная інфармацыйная коўдра, якой накрылі ўсю тэрыторыю Беларусі. Мяркуйце самі. На адным стэндзе-вітрыне выставілі толькі два календары: адзіны беларускамоўны "Родны край" і рускамоўны "Провославный календарь", а на другім стэндзе-вітрыне астатнія 20 розных рускамоўных календароў. Бачыце, якая павага да адзінага беларускамоўнага календара "Родны край". Выставіць на індывідуальную вітрыну ў адзіноце "Родны край", значыць дэманстраваць рэзервацыю беларускай мовы, а ён і так выдатна бачны любому наведвальніку крамы. Паставіць усе календары разам? Яшчэ горш. Дык знайшлі выхад: побач з "Родны край" паставілі рускамоўны "Провославный календарь".Тут як бы "роўнасць" і адначасна падтэкставы напамін - "тое, што не зрабіў рускі штык, даробіць руская школа і рускае праваслаўе".

Нецярплівы чытач не дачакаецца сэнсу лічбаў 17050 і 10750 у назве. Давожу - гэта кошты аднаго асобніка ў беларускіх рублях: "Родны край" каштуе 17050 руб., а "Провославный календарь" і ўсе (УСЕ - вось рынкавая беларуская салідарнасць!) каштуюць 10750 руб. Няўжо не сорамна чынавенству вертыкалі ад самай макаўкі да дырэктара кнігарні? У размове з сімпатычнай прадавачкай адчуў яе бездапаможнасць за дыскрымінацыю беларускай мовы, за рэзервацыйнае становішча адзінага беларускамоўнага адрыўнога календара на 2014 год.

Вось вам беларусы роўнасць: колькасная (1 да 20-ці) і рублёвая (17050 і 10750). У якой суверэннай краіне ў падобнай сітуацыі падобныя суадносіны лічбаў магчымы і ці здольны іх успрыняць, асэнсаваць здаровы розум чалавека, у якога ёсць элементарная здаровая самапавага і мінімальны гонар і адказнасць за свой асабісты лёс, за лёс сваіх дзяцей, унукаў, за свой род, за Бацькаўшчыну? Шукаем адказы разам. Толькі разам - Народ сіла.

А можа пішу аб календары "Родны край" занадта эмацыйна? Шаноўны чытач! Дапамажы мне, і не толькі мне, асэнсаваць: у якім стане мы жывём, што з намі робіцца (зрабілі)? Як нам выбіцца з русіфікатарскага балота спачатку на сцежку, а затым і на ліцвінскую шлях-дарогу, па якой мы пойдзем у беларускамоўную Беларусь.

(Газета “Наша слова”, № 48, 27.11.13 г.)

Прафесар Мікола Савіцкі.

# У пошуках дыялогу: безвыніковасць намаганняў схіліць беларускія ўлады да развязвання моўнай праблемы

На апошняй афіцыйнай сустрэчы ў Кіеве прэзідэнты Беларусі і Украіны дамовіліся аб тым, што ў памежных раёнах Беларусі этнічныя ўкраінцы змогуць вывучаць сваю мову, а беларусы ва Украіне - сваю.

Прэзідэнт Пётр Парашэнка заявіў: "Я ўзняў пытанне пра аднаўленне вывучэння ўкраінскай мовы ў Берасцейскай і Гомельскай абласцях. Мы працягваем супрацоўніцтва дзеля вывучэння беларускай мовы ў Кіеўскім нацыянальным універсітэце, адкрываем курсы ў Ірпені ды іншых паселішчах Украіны". Гэта пазітыўны палітычны жэст, які безумоўна, станоўча паўплывае на катастрафічную моўную сітуацыю ў Беларусі.

Адначасна цікавая сітуацыя з колькасным станам беларусаў. Як сведчыць статыстыка беларусы "ўсыхаюцца" як у сябе на радзіме ў Беларусі, так і ва Украіне. Так, у 2001 годзе ва Украіне пражывала 275,8 тысяч беларусаў альбо 0,6% ад агульнай колькасці насельніцтва. У параўнанні з 1989 годам іх колькасць скарацілася на 37,3%. Таксама цікава, што беларусы жывуць не ў памежных абласцях, а на поўдні і ўсходзе Украіны.

Нацыянальная і моўная палітыка ва Украіне ўмацоўвае веру і гонар беларусаў. Як прыемна ўсведамляць: у Кіеве ўжо восем гадоў працуе Цэнтру беларускай мовы і культуры. А ў Мінску такога няма. З 2009 года дзейнічае міжурадавае пагадненне аб супрацоўніцтве ў галіне культуры і адукацыі паміж Кіеўскім нацыянальным універсітэтам імя Тараса Шаўчэнкі і Міністэрствам адукацыі Беларусі. У Кіеўскім нацыянальным універсітэце імя Шаўчэнкі ажыццяўляецца факультатыўна навучанне па спецыяльнасці "Беларуская мова і літаратура, украінская мова і літаратура, ангельская мова”. У той жа час пры Інстытуце філалогіі, які ёсць падраздзяленнем універсітэта, ад 2009 году працуе Цэнтар беларускай мовы ды культуры. Ён створаны пры кафедры славянскай філалогіі.

Па інфармацыі Міністэрства адукацыі і навукі Украіны ніхто з беларусаў ці беларускай дыяспары не звяртаўся да іх з ініцыятывай арганізаваць вывучэнне беларускай мовы ды гісторыі для іх дзетак. А таму ў Кіеве няма школ з беларускаю моваю навучання або з яе факультатыўным вывучэннем. Аднак заслугоўвае ўвагі вопыт гімназіі за 27 кіламетраў ад сталіцы - у Ірпені - з паглыбленым вывучэннем замежных моваў, у тым ліку і беларускай. Яна мае дачыненні з беларуска-славянскай гімназіяй № 36 імя Івана Мележа ў Гомелі. Сорамна, што ў Гомелі закрылі факультатыў па вывучэнні укра-

інскай мовы. Да ведама беларусаў: у гімназіі Ірпеня вывучаюць 14 замежных моваў, у тым ліку і беларускую. З гэтага года ўводзяць беларускую мову як факультатыў з першага ці другога класа, а з пятага мова будзе прапаноўвацца на выбар як другая замежная мова. Нажаль рэальнасць такая, што ў гімназіі вучыцца каля 2 тысяч дзяцей, але вывучэнне беларускай мовы абіраюць нямногія. І не дзіўна, бо, як сказала дырэктар Ірпенскай гімназіі, "у горадзе няшмат беларусаў, а вывучэнне беларускай мовы абіраюць менавіта дзеці ўкраінцаў". Ва Украіне жыве цікаўнасць да вывучэння беларускай мовы, нягледзячы на цяперашнія абмежаваныя магчымасці. Цікаўнасць да беларускай мовы ва Украіне мае прыйсці з Беларусі. Беларусам трэба ўсвядоміць, якім выдатным багаццем мы валодаем.

Іван Сталярчук, рэдактар аддзела культуры штотыднёвіка "Країна" ды "Газети по-українськи", вывучаў беларускую мову самастойна і сцвярджае, што, беларуская мова дапамагла яму вывучыць польскую. На яго слушную думку развіццём беларускай мовы найперш трэба займацца ў Беларусі. Гэта праблема не беларускай дыяспары ва Украіне. Заслугоўвае ўвагі яго прафесійнае выказванне: *"Беларусы, якія прыязджаюць ва Украіну вельмі хутка асімілююцца з украінскім грамадствам. І беларускай дыяспары ва Украіне гэта не вельмі патрэбна. Праблема ў тым, што ў самой Беларусі беларуская мова знаходзіцца ў нейкім гета, на жаль, не ў апошнюю чаргу з-за дзяржаўнай палітыкі. Украінцы ці этнічныя беларусы тут маглі б зацікавіцца мовай, калі б адчувалі магутную культурную хвалю менавіта з Беларусі. Асаблівай перспектывы я не бачу, бо, напрыклад, на Валыні, у памежжы, вывучаюць польскую мову, бо ведаюць, што без яе ў Польшчы нікуды. Калі я быў у Беларусі, то я свядома спрабаваў размаўляць на беларускай мове у крамах, і былі выпадкі, калі да мяне ставіліся агрэсіўна. Мне вельмі хацелася б, каб беларусы свядома прыйшлі да беларускай мовы - і на дзяржаўным, і на асабістым узроўні."*

Нацыянальныя мовы мусяць развівацца і пры падтрымцы дзяржавы, і пры падтрымцы грамадскасці. Польская грамада больш актыўна вывучае польскую мову, таму што многія імкнуцца ў Еўропу, і гэта больш выгадна. Цікавасць і да беларускай мовы, і да беларускай гісторыі, адназначна ёсць. Было б жаданне. Добра, што кіраўнікі дзвюх краінаў выступілі з такой ініцыятывай.

Прыемна адзначыць актыўную і пазітыўную работу, якую праводзіць у Беларусі Пасольства Украіны, асабіста Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Украіны ў Рэспубліцы Беларусь Ігар Кізім і першы сакратар Марыя Гуцала. Назавём для прыкладу толькі Міжнародную навукова-практычную канферэнцыю "Мова як фактар захавання нацыянальнай ідэнтычнасці:

беларуска-ўкраінскі кантэкст" (25 мая 2017 г.), ініцыятарам і арганізатарам якой яны былі. Суарганізатарамі былі: Цэнтр даследавання беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, Нацыянальная бібліятэкі Беларусі.

* * *

**Праект**
**Рэзалюцыя міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Мова як фактар захавання нацыянальнай ідэнтычнасці: беларуска-ўкраінскі кантэкст"**

Цяжкія наступствы русіфікатарскай палітыкі СССР даюць пра сябе знаць і пасля яго распаду. І ў Беларусі, і ва Украіне заставаліся мільёны дашчэнту зрусіфікаваных людзей, адарваных ад сваіх моўна-культурных традыцый, што ўяўляла сабой сур'ёзную пагрозу для захавання нацыянальнай ідэнтычнасці народаў абедзвюх краін. Неадэкватную ёй пазіцыю займаюць улады Расійскай Федэрацыі, многія палітыкі вялікадзяржаўнай арыентацыі не могуць ніяк змірыцца са стратай колішняга рускага ўплыву на неабсяжнай прасторы СССР. У найбольшай ступені гэта адчувалі і адчуваюць на сабе беларускі і ўкраінскі народы. За апошнія дзесяцігоддзі ў Рэспубліцы Беларусь і ва Украіне на ўвесь рост паўстала, да крайнасці абвастрылася праблема нацыянальнай ідэнтычнасці беларускага і ўкраінскага народаў, што не можа заставацца па-за ўвагай іх уладаў, прагрэсіўных станаў грамадстваў.

Спаўна ўсведамляючы вялікую небяспеку сучаснай сітуацыі для лёсу беларускага і ўкраінскага народаў, іх палітычнага суверэнітэту, удзельнікі Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Мова як фактар захавання нацыянальнай ідэнтычнасці: беларуска-ўкраінскі кантэкст" адзначаюць актуальнасць і надзённасць тэматыкі такога фармату і выказваюць удзячнасць яго арганізатарам. Мова ёсць не толькі душа народа, аснова яго культуры, але і надзейны гарант і ідэнтыфікатар суверэнітэту. Як боскае пакаранне народы Украіны і Беларусі знаходзіліся пад шматвяковай паланізацыяй і русіфікацыяй. Што датычыць апошняй, дык гэты антыгуманны, супярэчны нормам цывілізаванага свету працэс працягваецца і ў нашы дні ў суверэнных дзяржавах Украіна і Рэспубліка Беларусь. Для пошукаў эфектыўных спосабаў і сродкаў аслаблення, а ў бліжэйшы час і поўнага спынення ўсіх формаў русіфікацыі, у тым ліку і на дзяржаўным узроўні, ва Украіне і Рэспубліцы Беларусь, удзельнікі канферэнцыі

разам з Пасольствам Украіны ў Рэспубліцы Беларусь

**Канстатуюць:**

25 год незалежнага развіцця дзяржаў Украіны і Беларусі пераканаўча засведчылі шкоднасць для паўнавартаснага нацыянальнага жыцця народа штучна створанага дзяржавай двухмоўя. У нашых краінах дапушчальна цывілізаванае шматмоўе ў побытовым жыцці, міжасобасных зносінах людзей. У афіцыйным жа жыцці ў мэтах абароны і гарантавання рэальнага суверэнітэту дзяржавы павінна быць замацавана ў Канстытуцыі адна дзяржаўная мова - мова карэннага этнасу.

Без этнічнай мовы няма нацыі, а ёсць неідэнтыфікаванае насельніцтва, таму любой цаной трэба захаваць гэтую неацэнную каштоўнасць, сапраўдную святыню.

**Рэкамендуюць:**

У бліжэйшы час распрацаваць канцэпцыю па забеспячэнні ўкраінскай мове ва Украіне і беларускай у Беларусі статусу рэальна дзяржаўнай і няўхільна праводзіць яго на практыцы. Па віне ўладаў у Беларусі беларуская мова даведзена да поўнага заняпаду. З гэтай бядой можа справіцца толькі дзяржава пры актыўнай падтрымцы нацыянальна-свядомых колаў грамадзянскай супольнасці. Дзяржаве неабходна абвесціць людзям, што ў моўнай сферы склалася надзвычайнае становішча, якае пагражае самабытнаму этнакультурнаму развіццю народа, захаванню рэальнага суверэнітэту краіны.

Прасіць адпаведныя дзяржаўныя ўстановы Украіны і Беларусі паскорыць практычную рэалізацыю дамоўленасці паміж іх прэзідэнтамі аб стварэнні ўкраінскага канала ў Рэспубліцы Беларусь. Шырэй з удзелам высокіх палітыкаў, вядомых інтэлектуалаў асвятляць гэтае пытанне ў СМІ.

Зыходзячы з рэальнага жабрацкага стану беларускай мовы ў афіцыйным жыцці краіны падтрымаць прапанову яе нацыянальна арыентаваных людзей аб неадкладным вяртанні Закона БССР "Аб мовах у Беларускай ССР" (26 студзеня 1990 г.) у канстытуцыйнае поле, чаго ён цалкам заслугоўвае.

У сродках масавай інфармацыі праводзіць сталае асветніцтва народа аб выключнай ролі этнічнай мовы, нацыянальнай адукацыі, роднай песні ў жыцці асобы і краіны ў цэлым. Раскрыць поўную абсурднасць і смяротнасць для нацыі дзейнага беларуска-рускага афіцыйнага двухмоўя - вынік шматвекавечнага ўплыву каланіяльнай палітыкі Расіі, СССР.

Міністэрствам, ведамствам Украіны і Беларусі, у кампетэнцыю якіх

уваходзяць пытанні мовы, культуры, адукацыі і выхавання, інфармацыйнага абслугоўвання насельніцтва ўсталяваць паміж сабой сталыя дзелавыя кантакты з мэтай супольнага развязвання лёсавызначальных агульнанацыянальных праблем.

Праект Рэзалюцыі напісаны прафесарамі Л. Лычом і М. Савіцкім.

09 чэрвеня 2017 г.

* * *

Тэкст (адзін на дваіх ці за дваіх) выступаў прафесароў Леаніда Лыча і Міколы Савіцкага на Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Мова як фактар захавання нацыянальнай ідэнтычнасці: беларуска-ўкраінскі кантэкст" 25 мая 2017 года, г. Мінск

**Леанід Лыч,**
**Мікола Савіцкі**

## У пошуках дыялогу: безвыніковасць намаганняў схіліць улады да развязвання моўнай праблемы

У захаванні нацыянальнай ідэнтычнасці кожнага народа ключавую ролю адыгрывае яго родная мова. Калі па якіх-небудзь прычынах яна знікае, з чым па волі ўлады не першы год даводзіцца сутыкацца беларускаму народу, ужо ніщто не выратуе нацыянальную ідэнтычнасць ад поўнай дэградацыі. Калі раней яна руйнавала этнакультурную самабытнасць беларусаў гараджан, дык гадоў 10 таму дабралася і да вяскоўцаў. Такое гаротнае становішча хвалюе ўсіх нацыянальнай арыентацыі людзей, у ліку якіх і аўтары прапанаванага для канферэнцыі матэрыялу. У ім мы ставім за мэту паказаць, як нялёгка ў суверэннай Рэспубліцы Беларусь роднай мове яе тытульнага народа быць па-сапраўднаму дзяржаўнай, выконваць ключавую ролю па захаванні яго нацыянальнай адметнасці.

Калі ў 1993-1994 гадах разгарнулася вострая, бескампрамісная барацьба за прэзідэнцкі партфель, у ёй далёка не апошняе месца займала моўнае пытанне. Не без удзелу Маскоўскага Крамля перамогу атрымалі тыя, хто стаяў за захаванне рускай мовы ў афіцыйным жыцці краіны, як гэта назіралася за савецкім часам. Паводле ж прынятага 26 студзеня 1990 года Закона "Аб мовах у Беларускай ССР" усе сферы грамадскай дзейнасці ў краіне павінны былі абслугоўвацца толькі беларускай мовай, што

дапамагло б ёй нарэшце стаць рэальна дзяржаўнай, дзякуючы чаму здзейснілася б запаветная мара многіх пакаленняў нацыянальнасвядомых беларусаў. Да гонару чыноўніцкага апарату, які функцыянаваў да абрання 10 ліпеня 1994 года Аляксандра Лукашэнкі Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, беларуская мова і сапраўды пачала ўпэўнена набіраць, з поўнай згоды, пры актыўнай падтрымцы народа дзяржаўныя рысы. Многім верылася, што абрыдлая русіфікацыя назаўжды пакінула змардаваны ёю беларускі абшар.

Першачарговай жа задачай Прэзідэнцкай сістэмы кіравання краінай, наадварот, стала неадкладнае спыненне гэтага прагрэсіўнага, цалкам адпаведнага беларускаму нацыянальнаму інтарэсу моўнага працэсу. На пэўны час, прычым не такі ўжо і кароткі, не эканоміка, не матэрыяльны дабрабыт народа, з чым так багата было праблем, а моўнае пытанне заняло вядучае месца ў дзейнасці Прэзідэнцкай вертыкалі. Створаны ёю шматлікі ідэалагічны апарат не ведаў стомы ў навязванні людзям погляду, што рускай мове неабходна забяспечыць тую сацыяльную ролю, якая была ў Савецкай Беларусі. Згаданы вышэй Закон аб мовах характарызаваўся чынавенствам, паслухмянымі яму ідэолагамі як нацыяналістычны, здольны толькі адарваць беларусаў ад вялікага рускага народа. Каб аддаліць людзей ад беларускай мовы - а многія з іх і сапраўды з вялікай радасцю памкнуліся да гэтай незаменнай нацыянальнай святыні, пераадольваючы цяжкія наступствы дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі, уладныя структуры самага высокага рангу, вылілі на яе столькі памыяў, колькі не змаглі іх выплюхнуць царскія русіфікатары за час прымусовага знаходжання Беларусі ў складзе царскай імперыі.

Неўзабаве пасля таго, як была сфармавана Прэзідэнцкая вертыкаль, яе кіраўніцтва заявіла народу пра свой намер правесці рэферэндум. З вынесеных на яго пытанняў галоўным прызнавалася моўнае. У СМІ неаднаразова заяўлялася, што ініцыявана яно самім кіраўніком краіны. Тое ж чулася і непасрэдна з яго вуснаў. Парадокс: за вырашэнне лёсу беларускай мовы ўзяліся асобы, што не валодалі, нідзе і ніколі не карысталіся ёю! Аж калоціць ад думкі, што калі-небудзь такую заганную практыку пастараюцца яшчэ ўвесці прафесійна недасведчаныя і ў медыцыне людзі.

Праведзены 14 мая 1995 года рэферэндум даў Прэзідэнцкай вертыкалі тое, чаго яна так прагна дамагалася: юрыдычна зраўняць у правах рускую мову з беларускай. Праўда, статусам мовы дзяржаўнай рускую не надзялілі. За гэта трэба было яшчэ паваяваць, таму першыя паўтара года пасля майскага рэферэндуму былі часам напружанай дзейнасці Прэзідэнцкай вертыкалі па рэгуляванні моўнага працэсу. А ў лістападзе 1996 года яна

правяла другі рэферэндум, паводле вынікаў якога і рускую мову надзялілі статусам дзяржаўнай. У нашай краіне - краіне з адным тытульным народам - усталявалася, насуперак міжнароднай практыцы, афіцыйнае беларуска-рускае двухмоўе, што адразу паставіла пад рэальную пагрозу будучыню беларускай мовы, бо ў яе, па віне ўсіх масцей русіфікатараў, не было дастатковай практыкі абслугоўвання афіцыйнага жыцця, не мелася неабходнай крытычнай масы носьбітаў сярод палітыкаў, ідэолагаў, інтэлігенцыі. Хібы афіцыйнага беларуска-рускага двухмоўя выйшлі на паверхню ў першыя ж гады яго функцыянавання, аднак зачыншчыкі рэферэндуму не звярталі на гэта ўвагі.

Афіцыйнае беларуска-рускае двухмоўе абавязвала Прэзідэнцкую вертыкаль знізу да верху ў роўнай меры выкарыстоўваць у сваёй дзейнасці і беларускую, і рускую мовы. Парушаць гэтае правіла не меў права нават сам Прэзідэнт краіны, тым больш, будучы галоўным ініцыятарам такой нерэальнай моўнай мадэлі. Пасля аб'яўлення афіцыйнага двухмоўя яна не стала эталонам у дзейнасці ўсіх звёнаў улады і кіравання. Ніводная з іх, мо акрамя толькі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, ні дня не прытрымлівася такой практыкі, груба парушаючы ўстаноўленыя канстытуцыяй нормы. З пункту гледжання літары закона ўся Прэзідэнцкая вертыкаль на чале з яе кіраўніком, падлягала пакаранню і ніякі Міжнародны суд не апраўдаў бы іх.

Не назіралася аніводнага выпадку, каб якія-небудзь уладныя структуры зрабілі хоць адзін крок па ўвасабленні афіцыйнага двухмоўя ў практыку. Яно нязменна заставалася аднамоўным, прычым толькі рускамоўным, як ва ўсходняй суседняй краіне. Самыя высокія эшалоны ўлады Прэзідэнцкай вертыкалі зусім не рэагавалі на такія грубыя парушэнні Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, бо ў іх апаратах проста кішэлі асобы нізкай нацыянальнай свядомасці, а то і нацыянальныя нігілісты, для якіх беларуская мова была косткай у горле.

Аднак дастаткова высокі інтэлект чыноўнікаў - былі ж сярод іх і асобы з навуковымі ступенямі - не даваў ім пэўнага спакою. Яны ведалі, што рана ці позна ім давядзецца адказваць перад народам за такую злачынную практыку: па службе карыстацца выключна толькі рускай мовай, калі афіцыйнае жыццё краіны патрабавала раўналежнага выкарыстання дзвюх моваў і тым больш беларускай, як мовы дзяржаўнага, тытульнага народа краіны. Бо, калі ж мова такога народна не абслугоўвае патрэбы ўладных структур, ён губляе суверэннасць, сірацее ў сваім родным доме.

Шмат думаць, доўга ламаць галаву над выйсцем з гэтай рабаўніцкай для беларусаў сітуацыі не давялося адарваным ад роднай глебы чыноўнікам.

Сярод іх знайшліся сапраўдныя прафесіяналы русіфікатары, у сімвалічна суверэннай Рэспубліцы Беларусь увялі ў тэкст закона “Аб мовах” на першы погляд бяскрыўдную часціну мовы, як ***або, ці***.

Пасля гэтага ва ўсіх эшалонах улады і кіравання ў адпаведнымі з унесенымі ў моўнае заканадаўства праўкамі чыноўнікам дазвалялася карыстацца беларускай ***або (ці)*** рускай мовай. Як і трэба было чакаць, у такой спрыяльнай для русіфікацыі сітуацыі хранічна хворае на нацыянальны нігілізм, дашчэнту абруселае чыноўніцтва адназначна пачало выбіраць для сваёй прафесійнай дзейнасці толькі рускую мову. Калі ў кагосьці мелася жаданне дзеля гэтай мэты выкарыстоўваць беларускую мову, яго ў верхніх эшалонах улады не падтрымлівалі, залічвалі да нацыяналістаў у савецкім разуменні гэтага слова.

У новае XXI стагоддзе беларусы ўваходзілі і ўвайшлі намнога больш моўна пакалечанымі, абакрадзены, прычым ўласнай дзяржавай, чым гэта назіралася сто гадоў таму за царскай уладай.

Учынены Прэзідэнцкай вертыкаллю над тытульнай нацыяй сапраўдны моўны калапс, не мог стацца незаўважаным для народаў краін, створаных на постсавецкай прасторы. У іх кіраўнікоў, дзякаваць Богу, хапіла розуму і волі (Масква ж добра налягала і налягае на іх), каб не ўкараніць у сябе бяздумнага (а больш дакладна: смяртэльнага) беларускага варыянту рэгулявання моўнага працэсу. У аніводнай з краін СНД не практыкуецца і, думаецца, не будзе практыкавацца раўназначнае этнічнай смерці нацыянальна-рускае афіцыйнае двухмоўе!!! За гэта ім трэба нізка кланяцца беларусам, якія таго не разумеючы, прынялі моўную смерць дзеля таго, каб такая катастрофа абмінула іншыя народы, з якімі некалі стагоддзямі супольна пакутавалі ад усіх нягод царскай і савецкай русіфікацыі.

У культурна-моўным плане сучасная Беларусь, як ніколі раней, лёгка даступная, зусім неабароненая ад русіфікатарскага ўздзеяння з боку ўсходняга суседа, бо на яе зямлі, з вялікай ласкі ўласнай дзяржавы, дзякуючы намаганням татальна здэнацыяналізаванай творчай інтэлігенцыі, непадзельна пануюць яго культура і мова. Замест таго, каб біць у званы, крычаць: "Ратуймася", - улады запэўніваюць, што ў нас усё, як у добрых людзей, у цывілізаваных народаў. На майскай сустрэчы з выпускнікамі агульнаадукацыйных школ 2017 года Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка назваў наяўнасць у нашага народа дзвюх дзяржаўных моваў - беларускай і рускай - вялікім нацыянальным багаццем. А на справе ж за больш чым дваццацігадовае выкарыстанне рускай мовы ў афіцыйным жыцці, прычым выкарыстанне бесканкурэнтнае, Рэспубліка Беларусь у дачыненні да роднай мовы свайго тытульнага народа ператварылася ў сапраўдную пустыню

Сахару. Ці ж гэта багацце для беларусаў у іх нацыянальным доме? Пры поўнай падтрымцы ўладаў рэй вядзе руская мова. Гэта - не багацце, а моўная асіміляцыя, этнакультурная, моўная галеча. Гэта - поўная страта нацыянальнай ідэнтычнасці, пра што, на вялікі жаль, недастаткова вялося глыбокадумнай, заклапочанай гаворкі на разгляданай канферэнцыі. Спадзяёмся, што яе арганізатары пакінулі такую гаворку на больш позні час.

Учарашняе і сёняшняе тыпова каланіяльнае моўнае становішча ў Рэспубліцы Беларусь, негледзячы і на яе суверэнітэт, хвалявала і хвалюе сапраўдных беларускіх нацыянальных патрыётаў. Шкада толькі, што іх мала. Яны склалі і накіравалі ў высокія ўладныя структуры дзясяткі зваротаў з настойлівай просьбай любой цаной выратаваць беларускую мову ад немінучага поўнага заняпаду, бо гэта паставіць крыж на існаванні самога беларускага народа, яго дзяржавы. Такія звароты на адрас улады цалкам абгрунтаваныя, бо менавіта па яе віне, а не народа, гіне беларуская мова. На ўсе звароты дзяржава не дае адказу, у тым ліку і на пасланыя намі. На апошні з іх у Адміністрацыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь, Савет міністраў Рэспублікі Беларусь было даручана даць адказ падначаленым установам. Іх адказ стаўся ні чым іншым, як звычайнай бюракратычнай адпіскай, неадэкватнай іх статутнай і дзяржаўнай функцыі.

Са зместам свайго Звароту лічым мэтазгодным пазнаёміць удзельнікаў канферэнцыі, а пазней праз публікацыю ў СМІ і заклапочаных катастрафічным лёсам роднага слова чытачоў ў надзеі, што гэта дапаможа і ім заняць актыўную пазіцыю ў яго абарону.

* * *

Кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь
Качанавай Наталлі Іванаўне
Старшыні Савета Рэспублікі
Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь
Мясніковічу Міхаілу Уладзіміравічу
Прем'ер-міністру Рэспублікі Беларусь
Кабякову Андрэю Уладзіміравічу

Мінула больш за год пасля нашага Звароту да Вас з прапановай пачаць тэрмінова ратаваць беларускую мову ад так рэальнага для яе на

сёння вымірання. Згодна з даўно заведзенай практыкай вы даручылі падпарадкаваным вам установам - Міністэрству адукацыі Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнай акадэміі навук, гэта значыць структурам, у кампетэнцыю якіх не ўваходзіць распрацоўка канцэпцыі дзяржаўнай моўнай палітыкі. У іх адказе на наш Зварот ні слова аб тым, як беларускую мову з сімвалічна дзяржаўнай зрабіць рэальна дзяржаўнай.

Неабходнасць непасрэдна Вашага ўдзелу ў развязванні гэтай лёсавызначальнай для беларускага народа праблемы дыктуецца дзвюма наступнымі галоўнымі прычынамі: па-першае, менавіта па віне ўладных структур, а не народа, беларуская мова даведзена амаль да поўнага заняпаду (да гэтага прамое дачыненне маюць ініцыяваныя ўладамі майскі 1995 і лістападаўскі 1996 г. рэферэндумы); па-другое, выратаванне беларускай мовы ад пагібелі набыло такі архіскладаны характар, што з гэтай бядой можа справіцца толькі дзяржава. Любая грамадзянская ініцыятыва не дасць належнага выніку. Таму ва ўнісон з папярэднім Зваротам мы зноў прапануем вам абвясціць народу, што ў моўнай сферы з-за сур'ёзных хібаў рэгулявання яе склалася надзвычайнае становішча. Пільнай увагі дзяржавы да беларускай мовы настойліва патрабуе і святкаванне 500-гадовага юбілею зараджэння беларускага кнігадрукавання. Вы павінны пераканаць народ, што сваімі канкрэтнымі практычнымі захадамі ў дадзенай сферы дзяржаўнай палітыкі зробіце ўсё, каб ужо ў бліжэйшы час у суверэннай Рэспубліцы Беларусь забяспечвалася поўнамаштабнае выкарыстанне ў афіцыйным жыцці той мовы, якую Францыск Скарына абраў для выдання Бібліі.

На нашу мінулагоднюю крык-прапанову тэрмінова ратаваць беларускую мову не адрэагавалі і падпарадкаваныя вам дзяржаўныя газеты. І як непазбежны вынік, уладамі краіны і кроку не зроблена ў інтарэсах беларускай мовы. Як і раней, у афіцыйнай моўнай сферы пануе матухна-стыхія, што выгадна толькі рэальна адзінай у нас дзяржаўнай рускай мове, што вядзе да татальнай русіфікацыі Беларусі.

Мы, як і многія іншыя, арганічна, цесна інтэграваныя ў нацыянальнае культурнае жыццё Бацькаўшчыны, людзі, спадзяваліся штосьці добрае, заспакаяльнае пачуць пра беларускае роднае слова падчас выступлення Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ў пачатку лютага сёлетняга года перад вельмі прадстаўнічай аўдыторыяй, дзе прысутнічала шмат высокага рангу палітыкаў, творчых асоб, гэта значыць тых, хто больш за ўсіх адказны за лёс свайго народа, у якога проста на вачах гіне родная мова. Зараз нават сярэднестатыстычны беларус выдатна разумее небяспеку панавання ў яго краіне "русского мира", бо гэта немінуча вядзе не толькі да страты яе этнакультурнай самабытнасці, але і дзяржаўнага суверэнітэту. Тут шмат

чаго залежыць ад таго, якую сацыяльную ролю ў краіне адыгрывае яе тытульная беларуская мова. У гэтым плане нічога не было сказана Прэзідэнтам. Наадварот, з яго вуснаў прагучала зусім процілеглае: "Я вас заклинаю (падкрэслена намі -- *Л.Л., М.С.*) и прошу: не отказывайтесь от русского языка. Потому что вы откажетесь от своего родного". На практыцы ж з-за бязмежнага панавання рускай мовы ў грамадскім жыцці краіны ўжо мільёны беларусаў страцілі роднае беларускае слова. У дашчэнту зрусіфікаванай Беларусі руская мова суправаджае беларуса ад дзіцячага садка да заканчэння вышэйшай школы, гэта значыць усё самастойнае жыццё, аж да самай смерці.

Прыведзеныя вышэй словы Прэзідэнта ніяк не стасуюцца з тым, што больш за сотню гадоў таму сказаў свайму дарагому народу, любай Бацькаўшчыне яе слаўны Вяшчун Францішак Багушэвіч: "Не пакідайце ж беларускай мовы, каб не ўмёрлі." Пад напорам русіфікатараў не паслухалі свайго Апостала, таму беларуская мова і апынулася ў такім трагічным стане. Калі ўлады, як і сёння, у абслугоўванні ўсіх сфераў афіцыйнага жыцця будуць выкарыстоўваць толькі рускую мову, беларуская мова немінуча загіне. Раім шаноўным палітыкам падумаць, ці ж з'яўляецца гэта вашым службовым абавязкам загубіць беларускую мову? Ці не разумней было б вам рабіць усё так, каб яна стала фактычна дзяржаўнай, а руская мова, як мова рускага народа, Расіі, выконвала ў нас толькі тыя сацыяльныя функцыі, якія вы цалкам свядома ўсклалі на беларускую? Цвёрда перакананы, што гэта самы правільны, дэмакратычны, гуманны варыянт развязвання створанай вамі, пачынаючы з мая 1995 года, моўнай праблемы.

Прапануем нарэшце набрацца смеласці і публічна заявіць, што адсутнасць беларускай мовы ў афіцыйным жыцці, камунікатыўных зносінах паміж людзьмі выклікана непрадуманымі майскім 1995 і лістападаўскім 1996 г. рэферэндумамі, у выніку якіх пайшлі пад нож усе дасягнутыя ў адраджэнні беларускай мовы досыць пазітыўныя набыткі пасля прыняцця 26 студзеня 1990 года самага знакавага за ўсё XX стагоддзе Закона "Аб мовах у Беларускай ССР". Абавязкова растлумачце народу, што ўсе еўрапейскія ўнітарныя краіны, а Рэспубліка Беларусь якраз і належыць да іх, у якасці дзяржаўнай выкарыстоўваюць толькі мову тытульнага насельніцтва, не прызнаючы аніякага афіцыйнага двухмоўя, таму іх родныя мовы, не ў прыклад беларускай, квітнеюць, не зведваюць аніякай пагрозы заняпаду.

Грубыя пралікі Прэзідэнцкай вертыкалі ў рэгуляванні моўнага працэсу ў значнай ступені маглі быць выкліканы яшчэ і тым, што дзеля гэтага не выкарыстаны творчы патэнцыял адпаведных інстытутаў Нацыя-

нальнай акадэміі навук Беларусі, факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў, дзе працуе нямала здаровай беларускай нацыянальнай свядомасці навукоўцаў. Яны маглі б быць незаменнай надзейнай апорай уладаў пры распрацоўцы найважнейшых нарматыўных актаў па забеспячэнні беларускай мове статусу рэальна дзяржаўнай.

Калі ж і пасля прапанаваных намі шляхоў па выратаванні беларускай мовы ад скону справа не зрушыцца з месца, калі ўзнікнуць непераадольныя перашкоды, як зрабіць яе асноўным сродкам абслугоўвання афіцыйнага жыцця, тады рэкамендуем максімальна выкарыстаць дзеля гэтага розум як мага большай колькасці не адарваных ад нацыянальнай глебы спецыялістаў. Вельмі суцяшае, што апошнім часам у многіх беларусаў абудзілася зацікаўленасць, павысілася адказнасць за лёс роднага слова. Увайшло ў практыку штогадовае правядзенне агульнанацыянальных дыктовак у Міжнародны дзень роднай мовы. Назіраецца пэўны ўсплёск шматлікіх грамадскіх патрыятычных ініцыятыў у абарону нацыянальных духоўных каштоўнасцей беларускага народа і найперш самай галоўнай з іх - мовы. Гэта - "Будзьма беларусамі", "Не маўчы па-беларуску", "Мова - нанова", "Чытаем па-беларуску з Velcom" і іншыя. Але без мэтанакіраванай нацыястваральнай дзейнасці самой дзяржавы ўсе гэтыя ініцыятывы не ў стане паўплываць на ўзрастанне сацыяльнай ролі беларускай мовы, на пашырэнне яе функцый па абслугоўванні афіцыйнага жыцця, г.зн. зрабіць практычны крок для набыцця ёю статусу рэальна дзяржаўнай. Тут патрэбна адпаведная палітычная воля самой дзяржавы, падобная той, з якой яна ў маі 1995 і лістападзе 1996 г. праводзіла рэферэндумы. Час для гэтага наспеў, і да таго ж адчуваецца нацыянальнае ажыўленне беларускага народа, чаго не заўважалася раней.

Не выключаем, што шмат карысных прапаноў па трансфармацыі моўнай сферы Беларусі з каланіяльна-залежнай у нацыянальна-суверэнную магло б даць правядзенне пад кіраўніцтвам уладных структур і з удзелам грамадскасці агульнанацыянальнага конкурсу па такім пытанні: "Маё бачанне рэальных шляхоў забеспячэння беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай у краіне". Пытанне пра рускую мову тут не павінна ўзнімацца, бо ў Беларусі яна пачувае сябе, як у Расіі. У конкурсе можна ўдзельнічаць індывідуальна і групамі. Конкурсу ніяк не могуць абысці ўсіх рангаў палітыкі Прэзідэнцкай вертыкалі, ідэалагічная эліта. Вельмі пажаданы ўдзел у ім і моладзі, якой так уласціва імкненне бачыць свой народ, сваю краіну не копіяй чагосьці чужога, а арыгіналам. Заўважым, што ў міжваенны перыяд у шэрагу ўстаноў іх беларусізацыя была паспяхова завершана галоўным чынам дзякуючы намаганням моладзі. У нашым сучасным грамадстве

магутнай сілай - шкада толькі што мала скіраванай на нацыянальны інтарэс - стаў Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі (БРСМ). Аднак, верыцца, што ад удзелу ў конкурсе яго нацыянальна-арыентаваных сяброў уладам удасца атрымаць шмат чаго карыснага пра шляхі, як узвесці і пакінуць на дзяржаўным п'едэстале цалкам законна адну беларускую мову, чым толькі і выратуем краіну ад страты яе этнакультурнай самабытнасці, загубы нацыянальнага суверэнітэту.

Упэўнены, што ў ходзе правядзення такога адпаведнага нацыянальнаму ідэалу Бацькаўшчыны конкурсу ўлады атрымаюць цэлы масіў каштоўнага матэрыялу, прыдатнага для карэннага паляпшэння дзяржаўнай палітыкі ў моўнай сферы, дзе на вялікую шкоду краіны пануе толькі руская мова. Не выключаем, што такі конкурс можа мець і планетарнае значэнне, з высокай практычнай аддачай быць выкарыстаным іншымі народамі, якія вядуць няспыннае змаганне за захаванне сваіх родных моваў ад руйнавальнага ўздзеяння на іх смяротных наступстваў сусветнай глабалізацыі. Каштоўнымі прагматычнага характару матэрыяламі конкурсу Рэспубліка Беларусь можа праславіць сябе на ўсю планету Зямля.

Уладным структурам прапануем неадкладна пачаць праводзіць праз радыё і тэлебачанне пастаяннае агульнанацыянальнае асветніцтва людзей аб значэнні і месцы роднай (этнічнай) мовы, беларускамоўнай адукацыі, беларускай песні ў жыцці асобы і Дзяржавы Беларусь. Неабходна раскрыць абсурднасць і смяротнасць для яе дзейнага канстытуцыйнага афіцыйнага двухмоўя, дапамагчы народу знайсці рэальныя шляхі забеспячэння беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай у краіне.

Агульнавядома, што нацыя памірае тады, калі памірае яе родная мова. Каб такой катастрофы не здарылася з намі, дзяржава павінна ўкараніць беларускую мову ва ўсе сферы жыццядзейнасці краіны. Пачынаць вяртаць беларускую мову на тэлебачанне трэба найперш з найбольш важных і запатрабаваных праграм - з "Навін". Бясспрэчна, кожны грамадзянін вольны гаварыць на той мове, на якой жадае, аднак афіцыйнай, дзяржаўнай мовай у Беларусі павінна быць мова карэннага этнасу дзяржавы - беларуская мова.

Мова - душа народа, аснова культуры, дзяржаўнасці. Толькі родная мова дазваляе беларусу па-сапраўднаму пачуваць сябе беларусам, патрыётам дзяржавы Беларусь. Татальны заняпад беларускай мовы вымушае людзей не па сваёй волі жыць у рэчышчы іншай культуры. Акрамя ўсяго гэтага, этнічная мова з'яўляецца надзейным гарантам і абаронцам нацыянальнай бяспекі. Гісторыя сведчыць: там, дзе мае месца няспынны працэс культурна-моўнай асіміляцыі, а ў нас гэта адбываецца ў форме франта-

льнай русіфікацыі, там ідуць войны або пануюць бестэрмінова замарожаныя ваенныя канфлікты.

Улады нарэшце павінны вырашыць і заявіць народу, кім павінна быць яго Айчына: суверэннай дзяржавай ці прыдаткам Расіі, а беларусы - самабытным народам ці адгалінаваннем рускай нацыі?

Пытанне ж пра рускую мову не павінна ўзнімацца, бо ў Беларусі з ёю няма праблем. Руская мова ў нас- гэта найперш імперскія інтарэсы Расіі ў Беларусі. Гістарычная місія ўладаў Беларусі - гэта вырataванне, абарона беларускай мовы, беларускай культуры, а значыцца і самой беларускай нацыі. У рускай мовы, у рускай культуры хапае абаронцаў і без беларусаў.

P.S. Пасланы Вам тэкст будзе прапанаваны намі для надрукавання ў газетах: "Звязда", "Советская Беларусь", "Рэспубліка", "Народная газета", таму просім Вашага ўказання рэдактарам пералічаных перыядычных выданняў змясціць яго на сваіх старонках.

Каб Вам, высокія дзяржаўныя дзеячы, глыбей усвядоміць гістарычную ролю роднай мовы народа, якому вы служыце, прапануем пазнаёміцца са зместам наступных цытат:

**“Когда исчезнет народный язык, народа нет более … Пока жив язык народный в устах народа, до тех пор жив и народ”.**

*(Рускі педагог Канстанцін Ушынскі, 1824 - 1870.)*

**“Там, где каждый владеет двумя языками, всегда в конце концов общее предпочтение по тем или иным причинам будет отдано одному из них … нация исчезнет не из-за вымирания и не из-за прекращения ее культурной общности, а просто потому, что она перестает говорить на своем языке”.**

*(Сусветна вядомы тэарэтык па нацыянальнаму пытанню Карл Каўцкі (1854 - 1938.)*

**“Введение второго государственного языка угрожает национальной безопасности, самобытности, унитарности государства, интегрирующей роли языка и культуры (коренного народа) и не в последнюю очередь, основным экономическим правам человека”.**

*(Прафесар Македонскага ўніверсітэта Чэда Цветаноўскі.)*

**“Когда мы разучимся говорить на белоруском языке, мы**

**перестанем быть нацией”.**

*(Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка.)*

Мяркуем, што ёсць сэнс дзве першыя цытаты папулярызаваць праз змяшчэнне іх у залах, аўдыторыях і іншых месцах, дзе ўладамі, грамадскасцю праводзяцца рознага роду палітычныя, культурна-асветніцкія мерапрымствы.

Просім развязанне моўнага пытання не ставіць у залежнасць ад сацыяльна-эканамічнага, палітычнага становішча ў краіне.

Леанід Міхайлавіч Лыч, прафесар.
Мікай Іванавіч Савіцкі, прафесар.

## Слова да нацыянальна з'арыентаваных колаў беларускага грамадства

Нязменнай, устойлівай традыцыяй для Прэзідэнта нашай краіны стала падчас сваіх публічных выступленняў закранаць (толькі глыбока не аналізаваць!) моўную праблему. І, на вялікі жаль, робіцца такое не для таго, каб павысіць яе сацыяльную ролю, а, наадварот, яшчэ далей загнаць у тупік, у непралазную твань.

Беларуская мова - гэта неацэнны народатворчы прадукт многіх пакаленняў нашага народа, але найменш за ўсё сучасных з-за іх страшэннай зрусіфікаванасці. Не даваць беларускай мове належнай законнай прасторы для выкарыстання ва ўсіх сферах афіцыйнага, грамадскага жыцця з'яўляецца найвялікшым злачынствам з боку дзяржавы. Ніводнага добрага слова пра беларускую мову не пачулі мы ад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і пад час яго сёлетняга лютаўскага выступу перад прадстаўнічай аўдыторыяй прадстаўнікоў СМІ, палітыкамі, творчай, навуковай інтэлігенцыяй.

Па ініцыятыве самой дзяржавы сацыяльны заняпад беларускай мовы працягваецца і сёння. Галоўная прычына: хітра, злачынна навязанае краіне ўдушлівае афіцыйнае двухмоўе. Дзеля выратавання роднай беларускай мовы ад немінучага скону, а разам з ім і этнічнай культурнай самабытнасці беларускага народа, дзяржаўнага суверэнітэту Айчыны настойліва патрабуем ад уладаў тэрміновага правядзення з шырокім удзелам найперш за ўсё навукоўцаў дзяржаўных устаноў навукова-практычнай канферэнцыі з мэтай выпрацоўкі дзейснай канцэпцыі па неадкладным спыненні супярэч-

най беларускаму нацыянальнаму інтарэсу дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі па тэме: "Праблемы забеспячэння беларускай мове статусу рэальна дзяржаўнай". Сёння для нас прапанаваная тэматыка канферэнцыі ў дзясяткі разоў важней за правядзенне ў Беларусі розных міжнародных спартыўных гульняў, ад якіх лёс яе ні на ёту не залежыць.

Пры наяўнасці ў краіне такой вялізнай арміі палітычнай і інтэлектуальнай эліты, калі толькі адэкватнае ўжыванне да яе такога слова, проста сорамна і надалей трываць шалёнае разбурэнне ўладамі этнакультурнай самабытнасці беларускага народа. Годзе апраўдваць сваю бяздзейнасць беспадстаўнымі сцвярджэннямі, што ў нас родныя і суседнія руская мова і руская культура. Такой несусветнай хлусні, бязглуздзіцы не чуюць палякі, немцы, французы … ад сваіх палітычных і нацыянальных лідараў. Нашым агульнанацыянальным дэвізам павінны стаць заклік: "Прэч з Беларусі гвалтам навязанае ёй царызмам, бальшавізмам і ўласнай Прэзідэнцкай вертыкаллю няспынныя русіфікацыі!!!" Гэты гістарычны працэс можа спыніць толькі вяртаннем беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай. Беларуская мова - галоўны гарант рэальнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

11.04.2019 г.

Надрукаваны: газета "Наша слова" № 21, 22.05. 2019 г.

Леанід Лыч, прафесар.
Мікола Савіцкі, прафесар.

**Кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь**
**Качанавай Наталіі Іванаўне**

## Прапанова: Аб правядзенні навукова-практычнай канферэнцыі

Перыядычны друк, асабліва неафіцыйны, надаваў і надае вялікае значэнне асвятленню такой лёсавызначальнай для нас праблемы, як моўная. Найчасцей за ўсё такія публікацыі мы сустракаем на старонках любімай многімі чытачамі газеты "Народная воля". З афіцыйных перыядычных выданняў можна адзначыць толькі "Звязду". У пераважнай большасці аўтары такіх матэрыялаў льюць свае горкія слёзы з прычыны амаль абсалютнай адсутнасці беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскай дзейнасці чалавека ў Рэспубліцы Беларусь, беспамылкова абвінавачваюць у гэтай

нацыянальнай катастрофе дзяржаўныя ўлады. А вось пра дзейсныя рэальныя шляхі выратавання беларускай мовы мы, на вялікі жаль, не знаходзім адказу ў тых публікацыях, на што ёсць важкія прычыны. І такое лёгка зразумець.

Дадзеная праблема ў нас ва ўсе часы насіла архіскладаны характар, была як след заблытана зацікаўленымі ў гэтым асобамі. Але такой, як сёння, мы яе яшчэ не бачылі, бо гаворка ж ідзе не пра пашырэнне сферы сацыяльнага выкарыстання беларускай мовы, хаця і гэтага складана дамагчыся, а пра само выратаванне яе. Па волі ўладаў яна практычна цалкам адсутнічае ў афіцыйным жыцці, што не дае ёй магчымасці быць і сродкам камунікатыўных зносін паміж людзьмі. Яна мілагучна гучыць толькі з вуснаў мізэрнай колькасці па-сапраўднаму нацыянальных патрыётаў, якіх з году ў год становіцца ўсё менш і менш з прычыны інтэнсіўнага пашырэння ў Рэспубліцы Беларусь рускага культурна-моўнага пачатку.

Здзіўляе, што гэта ніколькі не хвалюе надзеленых высокай уладай палітыкаў, шматлікага дзяржаўнага корпусу ідэолагаў. Гледзячы на іх, чвэрць стагоддзя маўчаць калектывы дзяржаўных гуманітарных навуковых установаў, філалагічных, філасофскіх, гістарычных факультэтаў дзяржаўных універсітэтаў, Саюз пісьменнікаў Беларусі. Дзесяцігоддзямі адварочваецца ад асвятлення набалелых пытанняў моўнай праблемы афіцыйны перыядычны друк. Ствараецца ўражанне, што гэтыя адказныя за лёс беларускай мовы аўтарытэтныя, уплывовыя структуры пагадзіліся са сконам беларускай мовы, хаця і добра ведаюць, што такое немінуча прывядзе да страты нацыянальнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, які за 25 гадоў функцыянавання Прэзідэнцкага ладу так і не набыў рэальнага статусу. Іх ніколькі не хвалюе, што са смерцю беларускай мовы краіна пазбаўляецца этнакультурнай самабытнасці, становіцца спакуслівай прынадай для той дзяржавы, чыімі духоўнымі каштоўнасцямі яна задавальняе свае патрэбы. Разбурыць уласную нацыянальную ідэнтычнасць і захаваць дзяржаўны суверэнітэт - гэта дзве зусім несумяшчальныя паміж сабою рэчы.

Хоць сёння мы, беларусы з неразмытай, здаровай нацыянальнай самасвядомасцю, на вялікую бяду, знаходзімся ў мізэрнай меншасці, нам усё ж неабходна настойліва патрабаваць ад дзяржавы правядзення толькі такой моўнай палітыкі, якая адпавядала б карэнным стратэгічным інтарэсам Бацькаўшчыны, не вяла б яе базавы этнас да загубы. Да якога ж часу наш край будзе заставацца з чужой мовай, навязанай яму царызмам жорсткімі каланізатарскімі метадамі?!

З улікам сказанага вышэй мы прапануем уладам, актыўным колам грамадскасці неадкладна правесці на самым высокім узроўні з удзелам

палітыкаў і адмыслоўцаў навукова-практычную канферэнцыю па тэме: "Праблемы забеспячэння беларускай мове рэальнага статусу дзяржаўнай". З прычыны незвычайнай складанасці праблемы можна запрасіць да працы ў ёй навукоўцаў з краін, улады якіх пасля распаду поліэтнічных дзяржаў навучыліся і абслугоўваюць усе сферы грамадскай жыццядзейнасці чалавека толькі адной сваёй роднай мовай. Не верыцца, што такое разумнае развязванне моўнай праблемы застаецца непадуладнай толькі адным беларусам. Пажаданы ўдзел у такой канферэнцыі і прадстаўнікоў ад адпаведных структур ЮНЭСКА, АБСЭ, бо моўная праблема з-за няспыннага паглыблення працэсаў глабалізацыі не збіраецца пакідаць сваёй вастрыні. А вось, мо, пасля такой канферэнцыі Беларусь стане Міжнародным Цэнтрам даследавання шляхоў забеспячэння кожнай мове тытульнай нацыі краіны статусу адзінай дзяржаўнай, заслужана здабудзе сабе гэтым сусветны аўтарытэт. Пакінуць жа занядбаную ўладамі беларускую мову сам-насам і толькі глядзець, як яна канае, значыць - пазбавіць усялякага гонару і сучасную нашую дзяржаву, і этнічна абакрадзены, у тым ліку і ёю (дзяржавай), народ.

Па віне чужынцаў і ўласных здраднікаў у нашай няпростай гісторыі не раз ставілася рубам пытанне: "Быць ці не быць беларусам самабытнай нацыяй?" І калі-нікалі даваўся правільны адказ на яго. Вядомы такі незвычайны, павучальны і на сёння факт, калі Кастрычніцкі 1926 года Пленум ЦК КП(б)Б у прынятую Рэзалюцыю ўнёс прапанову: "Уся Кампартыя Беларусі павінна гаварыць на беларускай мове!" І яна, на вялікую радасць беларусам, загаварыла. Ці не прабіў час і сёння выступіць з такім патрыятычным, выратавальным заклікам: "Уся Прэзідэнцкая вертыкаль Беларусі павінна гаварыць на беларускай мове!" Не верыцца, што сучасныя дзяржаўныя чыноўнікі па ўзроўні свайго інтэлекту, ступені нацыянальнай свядомасці, прысутнасці асабістай самапавагі, здаровага гонару, адказнасці за лёс нацыі могуць уступаць камуністам 1920-х гадоў, не адважацца паўтарыць іх разумнага патрыятычнага вычыну.

17.09.19 г. Прафесары Леанід Лыч,

Мікола Савіцкі.

## Арганізатарам кангрэса "За незалежнасць Беларусі 15.03.2020 г."

Прапановы па канцэптуальных палажэннях, на маю думку, якія павінны быць адлюстраваны ў асноўнай рэзалюцыі кангрэса:

1. Прэзідэнту і Ураду распачаць дэнансацыю дамовы "Аб саюзнай дзяржаве".

2. Ураду працягнуць у 2020 годзе дэмаркацыю дзяржаўнай мяжы Беларусі па ўсім параметры дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь з усімі суседнімі краінамі.

3. Канстытуцыйнае двухмоўе за чвэрць стагоддзя фактычна з'явілася лінгвацыдам беларускай мовы. Беларуская мова за гэты час са статусу дзяржаўнай перайшла ў статус выміраючай мовы.

8.02.2020 г. Дэлегат кангрэса,

прафесар Мікола Савіцкі.

# АТАКА НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

**Кіраўніцтву Таварыства беларускай мовы**
**імя Ф. Скарыны**

Прашу звярнуць увагу на знявагу і абразу беларускага народа і першай канстытуцыйнай дзяржаўнай беларускай мовы педагогам з-пад Клімавічаў. Яна змясціла абуральнае відэа ў Ітэрнэце пра беларускую мову "Зачем нужен белорусский язык!!!". Тут патрабуецца прафесійнае абмеркаванне (парадаў не даю), але я бачу неабходным зварот да генпракурора, Прэзідэнта, мінадукацыі. Я выступаю за пазбаўленне грамадзян беларускага грамадзянства за падобныя дзеянні. Фашызм - гэта нялюдская нянавісць да іншага чалавека.

Прафесар Мікола Савіцкі.

**Інфармацыйны дадатак:**

Сёння 25 сакавіка маю поўны дзікунскі тэкст педагога аб беларускай мове. "Белмова робіць нашых дзяцей тупейшымі" (поўны тэкст у інтэрнэце).

Педагог з Клімавічаў запісала відэаролік пра "крык душы". Яна: супрацоўніца Клімавіцкай ДЮСШ абурылася ў сваім відэаблогу абавязковым вывучэннем у краіне беларускай мовы. Паводле яе, гэта "жудасная і блытаная мова", якая "робіць беларускіх дзяцей яшчэ тупейшымі".

Іна Кардабнёва - выпускніца Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта

фізічнай культуры, кандыдатка ў майстры спорту, удзельнічала ў чэмпіянаце свету ў лёгкай атлетыцы сярод юніёраў. З 2011 года працуе інструктарам-метадыстам у Клімавіцкай ДЮСШ. Жанчына вядзе на ютубе лайфстайлавы відэаблог. У яе амаль 10 тысяч падпісчыкаў. На ім Кардабнёва раіць, як схуднець і весьці здаровы лад жыцця. Але апошні ролік яна прысвяціла беларускай мове. У 18-хвілінным відэа жанчына тлумачыць гледачам, што беларускай мовай у краіне ніхто не карыстаецца і, адпаведна, няма ніякай патрэбы вывучаць яе як абавязковы прадмет.

"Навошта беларусам беларуская мова? У нас няма нідзе надпісаў на беларускай мове. Адзінае выключэньне, гэта зрабілі для нейкага понту, не ведаю нават для каго - у метро і транспарце ў Менску абвяшчаюць прыпынкі на беларускай мове. Дзеля чаго гэта? Незразумела". Затым інструктарка-метадыстка ўзялася тлумачыць сваім гледачам з Расеі і Украіны, што такое беларуская мова. "Гэта не замежная мова. Гэта не ўкраінская мова. Украінская - гэта асобная мова, якая не падобная на рускую, у якой свае правілы. Беларуская мова таксама іншая, але яна падобная на рускую тым, што ў ёй усё наадварот".

Кардабнёва выказала думку, што беларуская мова патрэбная ў Беларусі толькі для таго, каб адвучыцца на настаўніка беларускай мовы і пазней яе выкладаць. А ў выніку, на думку педагога, пакутуюць дзеці, якія праз вывучэнне беларускай мовы не ў стане пісьменна карыстацца расейскай. "Калі маё дзіця робіць у беларускай мове расейскія памылкі, мяне гэта не абурае. Але калі ў расейскай гаворцы праяўляюцца гэтыя беларускія калгасныя памылкі, мяне гэта забівае. Беларуская мова нідзе не патрэбная. Ні для чаго. Але яна ж, сабака, уплывае на гадавыя ацэнкі, атэстаты, ЦТ і г. д. Блін, гэта жудасна блытаная мова". Жанчына кажа, што ёй крыўдна, калі дзеці з правінцыі, якія едуць вучыцца ў вялікія гарады, размаўляюць там на сапсаванай расейскай. І ў выніку пакутуюць і яны, і жыхары вялікіх гарадоў, лічыць Кардабнёва. Педагог шкадуе, што цяпер нельга, як у савецкі час, адмовіцца ад вывучэння беларускай мовы.

"Блін, ёлкі-палкі, Міністэрства адукацыі, патлумачце, куды і навошта нам трэба ўжываць беларускую мову. Навошта гэтая мешаніна, навошта рабіць нашых беларускіх дзяцей яшчэ тупейшымі. Я паважаю беларускую мову ўсёй душой, але не рабіце яе абавязковым прадметам. Хай будзе да 5-й клясы, усё, харош, мы зразумелі, што такое беларуская мова. Але ж яна працягвае нам пудрыць мазгі да 11 класа".

Затым жанчына нечакана цалкам мяняе папярэднюю думку - што беларуская мова нічым не адрозніваецца ад расейскай - і пачынае наракаць, што дзеці не разумеюць значэння беларускіх слоў.

"Маё дзіця прыносіць сямёркі, бо яму трэба пераказваць тэкст, а яно не запамінае гэтых дэбільных слоў. Бо іх рэальна, як у ангельскай мове, трэба вучыць. Дзеці, калі вучаць вершы, то яны не разумеюць сэнс, бо гэтыя замежныя беларускія словы, трэба ведаць іх сэнс".

На пытанне, ці вядома ёй, што ў Беларусі ёсць пакаранне за абразу дзяржаўнай мовы, яна не адказала. За абразу дзяржаўнай мовы ў Беларусі пагражае штраф - да 10 базавых велічынь.

2020 г.

## Открытое слово до Владимира Путина, президента Российской Федерации

На пресс-конференции 19 декабря 2019 года Вы, Владимир Владимирович, не впервые заявили, что русские и белорусы - почти один народ: "Русский и белорусский народ, по-моему, то же самое, что украинский и русский - это почти одно и то же в этническом смысле слова и с точки зрения нашей истории, духовных начал".

Вы повторили неоднократно озвученную Вами позицию современного неорусизма и русского империализма по отношению к уникальному, устойчивому, целостному белорусскому этносу. По данным Российской академии наук ареол белорусского генофонда, отличного от русского, в общих своих чертах соответствует границам Великого Княжества Литовского середины XV века. Каждый белорус в повседневной своей земной миссии самовоспитания и воспитания своего народа помнит о стратегии и тактике агрессивного соседа с востока и миллионных людских жертвах. Они сформулированы в Указе царицей Российской империи Екатериной II в далеком 1796 году. Вот квинтэссенция этой стратегии в оригинале:

*"…Великое Княжество Литовское впредь именовать только Белой Русью, а народ её белорусами, чем на века привяжем её к России. Замирить Белую Русь силой невозможно. Эту миссию мы возложим на русского чиновника, русского учителя, русского попа. Именно они отнимут у белорусов не только их язык, но и саму память про самих себя".*

Вы продолжаете реализовывать эту стратегию. Могло ли Вам, Владимир Владимирович, во сне представиться (умом трудно осмыслить,

понять), что через 75 лет после разгрома нашими дедами и отцами фашистской гитлеровской орды современная Германия будет спасать истинных братьев белорусов - украинский народ - от России с 2014 года до сегодняшнего дня во время российско-украинской войны? Столетия не восстановят существовавшие межнациональные отношения до войн современной России со своими соседями в наши дни. Обидно за русский народ, за Россию! Сама не умеет жить по-людски и соседям не даёт. С уважением до русского страдальческого народа!

Николай Савицкий,
профессор, 1934 г. рождения.

Тлумачэнне: гэты тэкст напісаны да пачатку спецаперацыі Расейскай Федэрацыі супраць Украіны ў 2022 годзе.

.

## Выступ на жнівеньскім Сойме Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" і Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі БНФ 18 жніўня 2001 г.

Паважаны Сойм! Выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у 2001 г. у гістарычным плане лёсавызначальныя ў развіцці нашай дзяржаўнасці і замацавання суверэнітэту, а менавіта: прадоўжыцца ці не на дзяржаўным узроўні інтэнсіўнае знішчэнне дзяржаўнасці Беларусі. Роля і месца нашай партыі акрэслены яе праграмай і ў бягучым часе ўдакладнены старшынёй З. Пазьняком.

Нагадаю, што 22 красавіка 2001 г. Сойм КХП БНФ прыняў пастанову "Пра ўдзел у маючых адбыцца выбарах Прэзідэнта". У ёй канстатуецца са спасылкай на Соймавую канферэнцыю "пра неабходнасць удзелу Руху і Партыі, як галоўных сілаў Вызвольнага руху, у маючы адбыцца выбарах Прэзідэнта" (цытую па праекце пастановы). Па прапанове Соймавай канферэнцыі З. Пазьняк "заявіў пра свой удзел як кандыдат арганізацыяў Вызвольнага Руху і як прадстаўнік Беларускага народа". Адсюль бачна канкрэтна пастаўленая палітычная мэта і нашы дзеянні.

Аб'ектыўны часовы фізічны адрыў нашага лідара З. Пазьняка ад Бацькаўшчыны і прынятае рашэнне ўдзельнічаць у выбарах Прэзідэнта Беларусі, месца і роля З. Пазьняка на палітычным алімпе патрабавалі ад нас (у першую чаргу ад кіраўніцтва на Бацькаўшчыне) абавязковага, упэўненага, гарантавана адказнага збору подпісаў для рэгістрацыі нашага кандыдата. Іншага проста не магло быць у БНФ і КХП БНФ.

На самым мінімуме ў дасягненні пастаўленай мэты рэгістрацыя З. Пазьняка і ўдзел у агітацыйнай кампаніі стваралі ўмовы для "раскруткі" партыі на якасна новым узроўні, пашырэнні яе структураў, прыход новых людзей і актывізацыі дзейнасці партыі. Не менш важна, а, можа, і самае галоўнае рэгістрацыя нашага кандыдата стварала рэальныя магчымасці асабіста З. Пазьняку для "самараскруткі", для акумуляцыі вакол яго ўсіх

беларусаў-змагароў за вызваленне Беларусі ад аншлюсу і этназнішчэння.

Мы аб'явілі аб дзейнасці Беларускага Вызвольнага Руху. Не ўдзел яго лідара ў кампаніі па выбарах Прэзідэнта пазбавіла прагрэсіўную, нацыянальнасвядомую частку грамадства і "болота" магчымасці аб'яднацца, "прыхіліцца" да Асобы, якая б прадстаўляла іх інтарэсы.

А што адбылося на самай справе? Адбылося тое, што ні пры якіх умовах не павінна было здарыцца. Кіраўніцтва партыі на Бацькаўшчыне правaліла збор подпісаў за нашага кандыдата З. Пазьняка. Гэта цяжка асэнсаваць, нават гаварыць аб гэтым. Партыя сваімі рукамі (а мо галовамі?) пазбавіла беларусаў мець магчымасць выбіраць і "прыхіліцца" да таго, каму давяраеш сваю будучыню.

Выбраны самы адказны, мо, гістарычны момант для кампраметацыі (як мінімум) ідэяў і дзейнасці З. Пазьняка па нацыянальным беларускім адраджэнні. Сёння, магчыма, пакуль не ўсе асэнсоўваюць, што здарылася. Гістарычны момант не вяртаецца, але ён надоўга помніцца народам. З-за бяздзейнасці ці "прафесійнай дзейнасці" ў кампаніі па зборы подпісаў кіраўніцтву партыі на Бацькаўшчыне, сябрам партыі спатрэбіцца нямала часу і работы партыі па вяртанні страчанага ў шырокім і глыбокім сэнсе. Сойм павінен гэта прызнаць, як бы гэта цяжка ні было зрабіць.

Дзе падцверджанне 104 тыс. сабраных подпісаў? Іх няма і не было. Ад сяброў Сойма гэтыя звесткі пакуль утойваюцца па незразумелых матывах. Калі мае сцверджанні няпраўда, то прашу фактамі даказаць Сойму іншае. Гэта вельмі проста, так як згодна з "Інструкцыяй для сяброў ініцыятыўнай групы" рабіліся ксеракопіі падпісных лістоў. Вельмі важна прааналізаваць прычыны і зрабіць адпаведныя высновы. Найперш важна, каб аб гэтым ведаў З. Пазьняк і разумеў рэальную сітуацыю і рэальныя магчымасці і мог супаставіць з "апраўданнем" кіраўніцтва на Бацькаўшчыне.

Я абсалютна перакананы, што ў рэальна існых умовах Партыя магла сабраць неабходную колькасць подпісаў. Усе мы працавалі ў аднолькавых умовах. Па аб'ектыўных абставінах я збіраў подпісы толькі 8 (восем) дзён. Сабраў 300 (трыста) подпісаў. Згодзен, што гэта вельмі цяжкая фізічная і інтэлектуальная праца. Хто збіраў подпісы пацвердзіць, што сабраць 10 подпісаў за дзень абсалютна рэальна. У ініцыятыўнай групе па зборы подпісаў за З. Пазьняка было 1500 сяброў. Калі б кожны сабраў па 100 подпісаў, то атрымалі б 150000 подпісаў. Адкінем 300-400 асобаў, якія не сабралі б па 100 подпісаў ці нават не бралі ўдзелу ў зборы, то выходзім таксама на патрэбную лічбу.

Важна не дапусціць самападману ўнутры Партыі ва ўмовах прынятых прынцыпаў маральнасці ў палітыцы. Вядомы такі пастулат: каб пазбегнуць

пачуцця віны трэба нястомна падманваць сябе, прыдумляць нейкія матывы і знаходзіць маральнае апраўданне сваім дзеянням.

Хто мне запярэчыць, што няўпэўненасць у пасляховым зборы подпісаў адчувалася і турбавала сяброў Сойму да пачатку кампаніі з-за неакрэсленасці дзеянняў у інтэрпрэтацыі кіраўніцтва? Менавіта таму на мінулым Сойме я паставіў пытанне: хто асабіста кіруе і адказвае за арганізацыю збору подпісаў. Адказу не было. Я прапаноўваў скласці графік пажаданай падзённай колькасці збору подпісаў і штодзённага параўнання з фактычным штодзённым зборам дзеля дзейнага эфектыўнага ўплыву (пры неабходнасці) на ход кампаніі. Гэтыя прапановы не былі пастаўлены на абмеркаванне і адрынуты з матывам, што ў нас не вытворчы працэс. Між іншым добра вядома, што прынцыпы кіравання дзейнасцю людзей аднолькавыя, незалежна ад аб'екта, на які накіравана іх дзейнасць.

Нагадаем сабе агульнапрыняты пастулат: кожнаму неабходна мэта; некалькі няўдач пры дасягненні мэтаў прыводзіць да паражэнства, нізкай самапавагі і дэпрэсіі. Пры дасягненні мэты павінен спадарожнічаць пэўны поспех.

Пасля неапраўданага правалу збору подпісаў Партыя, якая змагаецца са знешняй і ўнутранай акупацыяй, аказалася ў самаакупацыі. Самаакупацыя гэта калі чалавек сам для сябе на Радзіме становіцца (адчувае) чужым. Мяркую, што і нашага лідэра З. Пазьняка правалам подпісаў мы загналі ў стан самаакупацыі (буду шчаслівым, калі памыляюся). Партыя ідзе да самаізаляцыі. Гэты працэс неабходна як мага хутчэй спыніць.

Якое выйсце са склаўшайся сітуацыі? Па ўсіх нормах палітычнага жыцця, нормаў маралі і адказнасці за палітычна-філасофскія і праграмныя палажэнні наспела адстаўка кіраўніцтва Партыі на Бацькаўшчыне і падрыхтоўка пазачарговага з'езда Партыі. Ці ісці на правядзенне пазачарговага з'езда (па-мойму у гэтым годзе чарговы) з улікам фактычнага арганізацыйнага і колькасна-якаснага складу Партыі павінен вырашыць Сойм і старшыня Партыі З. Пазьняк.

Звяртаю ўвагу на важны (з майго пункту гледжання) момант. Спадары Ю. Беленькі, А. Крыварот неаднаразова на Соймах пры апраўданні сваіх дзеянняў выказваюць палажэнне, якое патрабуе асэнсавання. Прыводжу выказванне Ю. Беленькага на гэтым Сойме: "Для іх мэта ўзяць уладу. У нас іншыя мэты - наша Беларусь". Як можна арганізаваць дзейнасць Партыі, якая змагаецца за Дзяржаўнасць, Незалежнасць, Адраджэньне, без пастаноўкі галоўнай мэты прыходу да Улады? Як можна без улады "атрымаць" нашу Беларусь?

Прафесар Мікола Савіцкі.

# Выступленне Міколы Савіцкага на VII з'ездзе Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" і V з'ездзе Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі - БНФ 16 снежня 2001г., г. Менск

Шаноўны Зянон Пазьняк, паважаныя дэлегаты з'езду!

Беларусь праходзіць вельмі адказны гістарычны перыяд у развіцці ідэалогіі беларускага Адраджэння. Расейскія імперскія і калабарацыйныя сілы назапасілі за час лукашызацыі крытычна небяспечную масу для поўнай асіміляцыі беларускага народа і страты дзяржаўнасці Беларусі. У гэтых гістарычных умовах неабходна максімальная кансалідацыя, еднасць патрыётаў Бацькаўшчыны. Разам з тым, у такой сітуацыі неабходны аб'ектыўны аналіз як здабыткаў партыі, так і яе правалаў. З чым прыйшла партыя да гэтага з'езда?

Пералік здабыткаў партыі поўна дадзены ў справаздачах кіраўнікоў. Таму на гэтым не буду спыняцца.

У дакладзе З.Пазьняка "Дарога за два гады" сказана: *"Палітыка ацэньваецца па рэальных выніках"*. Прызнаць свае памылкі - гэта праявіць мужнасць. Гэта цяжка зрабіць нават З. Пазьняку, як гэта бачна з яго даклада (аналіз вынікаў збору подпісаў).

Асноўная ацэнка дзейнасці партыі і яе кіраўніцтва за апошнія два гады павінна давацца па выніках галоўнай падзеі - гэта ўдзел у выбарах Прэзідэнта. Лідар партыі Зянон Пазьняк прыняў рашэнне ўдзельнічаць у выбарах дзеля змагарнай альтэрнатывы і палітычнай барацьбы за вольную Беларусь. Гэта было правільнае рашэнне. Аднак кіраўніцтва на Бацькаўшчыне поўнасцю, бяздарна правяліла кампанію па зборы подпісаў. Нерэгістрацыя Зянона Пазьняка кандыдатам у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь - гэта здрада ідэалогіі беларускага Адраджэння, гэта маральны і палітычны ўдар па асобе З. Пазьняка. Усё адкінута кудысьці назад. Спатрэбіцца шмат часу і інтэлектуальнай энергіі для вяртання страчанага. Адказнасць за падобнае нясуць выканавец абавязкаў старшыні Ю. Беленькі, намеснікі старшыні і іх атачэнне. Тут не трэба ніякай дыскусіі. Ва ўсе часы, ва ўсіх краінах правал галоўнай выбарчай кампаніі аўтаматычна заканчваецца добраахвотнай, свядомай, без усялякіх крыўдаў адстаўкай. Віцэ-прэзідэнт ЗША Гор ганарова прайграў выбары і ганарова пайшоў у адстаўку, заняўся рэстаранным бізнесам.

У праекце рэзалюцыі з'езда "Кансалідацыя дзеля будучыні" запісана "Мы звяртаемся да беларускага грамадства …палітычных арганізацый

падтрымаць патрабаванне і неабходнасць новых, нечарговых выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь". Ці гатова Партыя да гэтага. Уявім, што будуць нечарговыя выборы. І што?

Нашы намеснікі Ю. Беленькі, С. Папкоў і іншыя і слухаць не хочуць аб адстаўцы, ці хаця б аб шчырым аналізе прычын і ўразумення сваёй адказнасці. Мне проста не зразумела іх нежаданне слухаць, ігнараванне якіх-небудзь прапаноў гэтымі асобамі з боку сяброў Сойму, сяброў партыі. Цяжка ўспрыняць: малейшая жаданне ці прапанова разабрацца ў прычынах правалу кампаніі па збору подпісаў і рэгістрацыі нашага кандыдата успрымаецца нервова, у штыкі; падаецца як нейкая раскольніцтва (дзіва, але гэта рэальнасць); робяцца выказванні аб ачышчэнні партыі. А мо і трэба ачышчэнне, толькі ад каго, ад чаго?

Шаноўны старшыня партыі З. Пазьняк, калі гэта не спыніць, не давесці да ўсведамлення некаторых Вашых намеснікаў, то аніякага ачышчэння партыі не трэба праводзіць. Да наступнага з'езда Вашыя намеснікі самі сваімі дзеяннямі і бяздзеяннямі завершаць ачышчэнне ад актыўных інтэлектуальных сяброў партыі. Ці тлумачылі Вам намеснікі аб прычынах фактычнага адыходу ад удзелу нават у рабоце Сойма такіх сяброў: Мікола Купава, Святлана Бельская, Іраіда Місько, Ул. Старчанка, Аляксей Фралоў і інш. Гэта не можа не наводзіць на роздум.

Сёння адсутнасць тэлефона ў кватэры лічыцца ненармальнай з'явай. Сядзіба нашай Партыі не мае тэлефона і, як ні дзіва, кіраўніцтва гэта задавальняе. Самаізаляцыя кіраўніцтва Партыі - гэта стыль яго работы. Да расколу БНФ я ў сядзібе на вуліцы Варвашэні пачуваўся як патрэбны. Якое ж было дзіва для мяне, калі пасля расколу і абрання мяне сябрам Сойму КХП я прыйшоў на другое паседжанне Управы - мне далі ў брутальнай форме зразумець, што ты тут непатрэбны.

Зянон Станіслававіч, людзі з вашага акружэння, якія прывялі да расколу БНФ, перайшлі і ў КХП. Гэта рэальнасць.

Адказнасць за правал выбарчай кампаніі ўскосна закранае і асабістыя лёсы сяброў партыі. Прашу прабачыць, але аб асабістым. За актыўны збор подпісаў за З. Пазьняка, у тым ліку і сярод студэнтаў, з 1 верасня мяне звалілі з працы. Нідзе не працую, пенсія 72 тыс. руб. Самае галоўнае - я пазбавіўся ў маім прафесійным жыцці студэнцкай аўдыторыі, студэнцтва, нівы, на якой я мог сеяць нешта разумнае для будучыні. Збіраючы подпісы, я разумеў што могуць выгнаць з працы, але гэта адыходзіла на другі план. Як я пераканаўся пасля: Вашы намеснікі, Зянон Станіслававіч, да пачатку збору подпісаў не верылі ў поспех справы. Ці многа такіх дзівакоў застанецца да наступнай выбарчай кампаніі, якую будуць узначальваць С.

Папкоў і А. Крыварот?

Выконваючы абавязкі старшыні Ю. Беленькі не здолеў аб'яднаць, арганізаваць работу наменікаў. Так, дац., кандыдат навук Ул. Старчанка, як намеснік, пачаў актыўна, уносіў канкрэтныя планы, прапановы. На жаль, пераканаўшыся, што "сталічнае ядро" не цікавяць яго прапановы паступова "знік". Другі намеснік дац., канд. філасоўск. навук М. Анцыповіч з самага пачатку работы і па сённяшні дзень так і не змог упісацца ў кіроўную рулетку. Не заўважаць гэтага, значыць быць абыякавым да лёсу партыі ў бліжэйшым бягучым часе, да аўтарытэту і палітычнага лёсу лідара З. Пазьняка. Я пакуль не ведаю пазіцыі З. Пазьняка аб персаналіях наменікаў. Але, калі Вы, Зянон Станіслававіч, не зменіце склад "кіроўнага ядра на Бацькаўшчыне", то ўсю адказнасць за далейшае развіццё партыі, выкананне Праграмы партыі павінны спаўна ўзяць на сябе. Разумеючы складанае становішча (знаходжанне за мяжой) З. Пазьняка, прапаную пакінуць толькі аднаго выканаўца абавязкаў старшыні, ім жожа быць Ю. Беленькі. Магчыма, яшчэ аднаго намесніка, але ні ў якім разе не чатыры. Жыццё паказала нізкую эфектыўнасць працы чатырох намеснікаў.

Крэда нашай партыі ёсць маральнасць у палітыцы. Цудоўна! Але маральнасць трэба ахоўваць, берагчы. Носьбіты партыйнай маральнасці павінны імкнуцца да адэкватных паводзінаў. У нас жа партыйная маральнасць не аб'яднала ў нешта адзінае чатырох намеснікаў. Кожны з іх адказны за ненармальнае становішча, але і па статусу і па функцыям ёсць жа хтосьці з іх адзін. Не нам разабрацца ў тым, дзе чатыры не разабраліся паміж сабой. У склаўшайся сітуацыі адзіны, як вучыць жыццё, выхад - абнаўленне. Кожны паасобку з чацвёркі - цудоўны чалавек, я кожнага паважаю, але ж разам Вы не тое, што трэба партыі, Беларусі. Надуманая звыш сакрэтнасць вакол фінансава-гаспадарчай дзейнасці не ўмацоўвала маральнасць партыі, а наадварот знізіла яе. Аснова партыі - яе структура. За два гады станоўчага мала. Ад Сойма гэтае пытанне як бы прыхоўваецца. Няма колькаснага росту партыі, прыходу творчых асобаў. Моладзь - наша будучыня. Без моладзі няма будучыні. У партыі моладзі амаль няма. У кіраўніцтва няма кантактаў з грамадскімі арганізацыі моладзі.

Мы ўжываем тэрмін - беларускі вызвольны рух (БВР). Усёй сваёй дзейнасцю партыя, у першую чаргу яе кіраўніцтва, навінна паўсядзённымі справамі напаўняць зместам БВР. Трэба, як запісана ў статуце, праводзіць навуковыя палітычныя, метадычныя канферэнцыі, семінары, нарады з прыцягненнем спецыялістаў і прадстаўнікоў іншых грамадскіх і палітычных арганізацыяў.

Жыццё паказала, што Сойм застаўся ў баку ад фінансава-гаспа-

дарчай дзейнасці. У Статуце запісана, што Сойм арганізуе гэтую дзейнасць, вызначае штаты тэхнічнага персаналу, зацвярджае асобаў, надзеленых правам падпісваць фінансавыя дакументы й дамовы партыі.

КХП, яе справы - гэта не чыя-небудзь уласнасць, яна належыць усім нам, усёй Беларусі. А таму, ніякіх крыўдаў за выказванні па рабоце ў нашай дзейнасці быць не павінна. Усіх нас аб'ядноўвае і дае нам моц наш лідар, лідар усёй Беларусі - Зянон Пазьняк. Дзякуй за ўвагу!

*Мая заўвага да майго выступу праз 18 год - 29.11.2018 г. Больш на з'езд мяне афіцыйна не запрашалі. М.С.*

## Да 20-ці годдзя "Дзяды-88"

Паважаныя дзейныя кіраўнікі БНФ "Адраджэньне" і Кансерватыўна-хрысціянская партыя БНФ"! Для беларусаў Дзяды адны, адна духоўная дарога да Дзядоў і шлях да нацыянальнага мемарыялу Курапаты. На Дзяды ў 1988 годзе беларусы ядналіся каля Маскоўскіх могілак. Я ішоў тады ў адной людской плыні, стаяў на каленях з усім людам, акружаным вайскоўцамі, каб упершыню бачыць і адчуць нешта неапісальнае, вельмі дарагое - бел-чырвона-белы сцяг.

У 2008 годзе, на 20-я ўгодкі "Дзяды-88" мяне запрашаюць - адны (БНФ) - заклікаюць людзей сабрацца ў гэты дзень каля Маскоўскіх могілак, другія "Кансерватыўна-хрысціянская партыя БНФ) - пункт збору: гадзіннікавы завод. Пасля расколу БНФ я з'яўляюся сябрам КХП-БНФ, але застаюся таксама з гістарычным БНФ. Дык, як мне быць і такім, як я? Адумайцеся, яшчэ ёсць час - годна, па-беларуску ў дзень 20-цігоддзя сабрацца ўсім разам на гістарычным месцы, дзе ўпершыню ў навейшай гісторыі Беларусі ўлада прымяніла супраць свайго народа газ і гвалт. "Дзяды-88" - гэта гістарычная падзея агульнанацыянальнага значэння.

Ці здольны мы аб'яднаць народ для яго Адраджэння, калі святыя Дзяды вас не могуць аб'яднаць.

23.10.2008 г.

## Слова да Заявы Сойма Партыі БНФ

Вельмі добра, што рэдакцыя газеты "Наша слова" паведаміла сваім, і не толькі, чытачам аб Заяве Сойма Партыі БНФ з заклікам называць беларускую мову роднай пад час перапісу. У гэтым жа нумары газеты ў якасці "перадавіцы" змешчана афіцыйная справаздача аб выніках падпіскі на ліпень. Абнародавана лічба 498 асобнікаў. У 25 раёнах няма ні аднаго

*з Беларусі гвалтам навязанае ёй царызмам, бальшавізмам і ўласнай прэзідэнцкай вертыкаллю русіфікацыю!!!"* Спынім лінгвацыд у Беларусі! Няма жывога носьбіта мовы - няма самабытнага народа, няма нацыі, няма годных патрыётаў дабудаваць і абараніць рэальны суверэнітэт роднай нам Беларусі! Толькі пры канстытуцыйным адзінстве беларускай мовы - будзе жыць незалежная Рэспубліка Беларусь у рэальным еўрапейскім суверэнітэце, а не ў пашчы Расейскай неаімперыі 21 стагоддзя ў якасці шасці абласцей ці адной, як Татарстан і Башкірстан без пасад Прэзідэнтаў сваіх народаў і стабільным прыглушэннем родных моў і культур.

Мікола Савіцкі, прафесар,
удзельнік установчага з'езду БНФ у Вільні.

## Развагі пасля з'ездаў БНФ

Водгук на "Наша слова" № 45. У паўсядзённым жыцці амаль ніхто, апрача самога актыву БНФ , не ведае, што ёсць дзве самастойныя арганізацыі: грамадскае аб'яднанне Беларускі народны фронт "Адраджэньне" і Партыя БНФ. Юрыдычна гэта дзве арганізацыі. З пачатку іх стварэння імі кіруюць адны асобы: адзін старшыня (сёння Рыгор Кастусёў), чатыры намеснікі і адзін Сойм. Партыя стваралася ў час росквіту БНФ толькі для юрыдычнай магчымасці ўдзелу ў выбарчых працэсах з мэтай прыходу да ўлады. У той час пытанне аб самастойных кіроўных органах гэтых структур не ўзнікала. Я жыву ў ідэалогіі БНФ, а пасля яго расколу і ў КХП-БНФ з моманту яго заснавання і прыходжу да высновы, што адзінае кіраўніцтва не спрыяла таму, каб лідары выйшлі "шчыльнымі радамі"- для плённай і эфектыўнай працы - каб весці беларускі народ да нацыянальнай і дзяржаўнай суверэннасці. Пастунова, незаўважна БНФ пачаў страчваць, а можа і не разумець патрэбныя адэкватныя часу стратэгічныя мэты. Да прыкладу: стратэгічны лозунг: "За адзіную дзяржаўную беларускую мову!" - пасля ўвядзення смяротэльнага для існавання беларускай мовы так званага двухмоўя ні БНФ, ні КХП-БНФ, ні ТБМ імя Ф. Скарыны не быў прыняты, як адзін з асноўных. Апошнія два з'езды ТБМ імя Ф. Скарыны і апошнія з'езды партый гэтую праблему не ўключалі нават ў іх парадак. Прашу давесці чытачам "Нашага слова" вашы матывы і патлумачыць мне і чытачам хібнасць маёй пазіцыі. Прапаную правесці дыскусію аб мэтазгоднасці развядзення гэтых гістарычна важных арганізацый у Беларусі і ўдакладненні стратэгіі і тактыкі адэкватных бягучаму лёсавызначальнаму гістарычнаму часу.

Мікола Савіцкі, прафесар.

## Храналогія абвяшчэння статусу дзяржаўнай беларускай мовы

У статуце ВКЛ у 1566 годзе чытаем: *"А пісар земскі маець па-руску, літарамі і словы рускімі, усі лісты і позвы пісаці, а ня іншым языком і словы... (разьдзел 4, арт. 1)"*.

У час Першай сусветнай вайны на часова акупаванай тэрыторыі нямецкі генерал-фельдмаршал Паўль фон Гіндэнбург 16 студзеня 1916 г. падпісаў "інструкцыю", у якой беларуская мова пасля доўгага перапынку і забароны набывала роўныя з іншымі мовамі правы ў адукацыі і адной з афіцыйных у грамадскай дзейнасці.

Беларускай мове статус адзінай дзяржаўнай мовы ў адпаведнасці з сучаснымі дзяржаўна-прававымі нормамі быў абвешчаны пастановай Народнага Сакратарыяту БНР 3 красавіка1918 года. Чытаем і памятаем голас і волю беларусаў: *"Народны Сакратарыят Беларускае Народнае Рэспублікі прыняў пастанову пра абвяшчэнне беларускае мовы дзяржаўнаю і абавязковаю моваю Рэспублікі. Нацыянальным меншасцям Беларусі дазваляецца карыстацца сваёю моваю ў афіцыйных дачыненнях з дзяржаўнымі ўстановамі. Усе акты, дакументы і ліставанне ўрадавых устаноў павінны адбывацца на дзяржаўнай беларускай мове"*.

26 студзеня 1990 года яшчэ ў часы БССР быў прыняты закон "Аб мова", якім беларускай мове быў нададзены статус беларускай мове як адзінай дзяржаўнай, а Законам "БССР аб дапаўненні артыкула Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Беларускай ССР" абвешчана: *"Артыкул 17. Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь з'яўляецца беларуская мова. Рэспубліка Беларусь забяспечвае права свабоднага карыстання рускай мовай як мовай міжнацыянальных зносін"*. Як бачым, гэтым законам быў вернуты статус беларускай мове як адзінай дзяржаўнай, абвешчанай БНР у 1918 годзе. Упэўнены, наступнае вяртанне наперадзе ў блізкім часе.

Мікола Савіцкі, прафесар.

## Беларуская мова як адзіная дзяржаўная - галоўны гарант рэальнага суверэнітэту нашай Бацькаўшчыны

На дварэ XXI стагоддзе, а беларусы на сваёй этнічнай радзіме працягваюць жыць ва ўмовах чужога дзяржаўнага інфармацыйнага асяроддзя, якое прымусова было навязана ім знешнімі сіламі некалькі стагоддзяў таму.

Родная (этнічная) мова любой нацыі ёсць яе самая вялікая сакральная каштоўнасць, гарант поўнага, рэальнага суверэнітэту. Беларуская мова ёсць душа беларуса, глеба для фармавання, росту нацыянальнай свядомасці і годнасці, аснова здаровага нацыянальна-дзяржаўнага патрыятызму. Родная мова ёсць ні з чым непараўнальным духоўным набыткам. Яе, як родную маці, трэба абараняць, шанаваць, быць гатовым нават ахвяраваць сваім жыццём, каб толькі не даць памерці гэтаму неацэннаму нацыянальнаму і планетарнаму багаццю.

Сёння стан базавай, гэта значыць, першай дзяржаўнай мовы - мовы беларускай - інакш нельга назваць, як катастрафічным з-за ні чым неабгрунтаванага валюнтарысцкага ўвядзення афіцыйнага двухмоўя, якое было патрэбна толькі духоўна дашчэнту зрусіфікаваным кіраўнікам краіны і чыноўніцкаму апарату. Гэта вялікае злачынства, што прыняты ў 1990 годзе дзяржавай прагрэсіўны з усіх пазіцый гістарычна выратавальны Закон аб адзінай дзяржаўнай мове ў Беларусі дзейнічаў толькі няпоўныя 5 гадоў. Праведзенымі ў маі 1995 г. і ў лістападзе 1996 г. рэферэндумамі сама дзяржава, хутчэй за ўсё выдатна прадбачачы сённяшнюю тупіковую сітуацыю ў моўнай сферы, свядома пазбавіла беларускае слова магчымасці быць запатрабаваным у афіцыйным і грамадскім жыцці. Яно амаль у поўным аб'ёме абслугоўваецца рускай мовай, што пазітыўна ўплывае на імклівую татальную русіфікацыю нашай Бацькаўшчыны. У выніку на сваёй гістарычнай зямлі беларусы засталіся фактычна не толькі без сваёй роднай мовы, але і без самабытнай нацыянальнай культуры, і да таго ж яшчэ жывуць у сфальсіфікаванай гісторыі. Мова і культура карэннага этнасу ўсіх краін свету нязменна належаць да найважнейшых стратэгічных складнікаў нацыянальных інтарэсаў дзяржавы.

Выключная арыентацыя дзяржаўнай моўнай палітыкі на Расію вылілася праз 23 гады ў амаль поўнае панаванне рускай мовы ў нашым Краі. Бясспрэчна, у 1994 г. Прэзідэнту краіны Аляксандру Лукашэнку давялося прыняць беларускую нацыю моцна здэфармаванай русіфікацыяй. Адзіную у нас дзяржаўную мову неабходна было б мэтанакіравана спяліць, вызваляць ад шкодных наступстваў русіфікацыі мінулых гадоў. Аднак прэзідэнцкая ўлада гэтага не рабіла, што прывяло да сапраўднай нацыяналь-

най трагедыі беларусаў: яны, як ніколі да гэтага амаль спрэс анямелі ў роднай мове, што вельмі трагічна: сталі практычна абыякавымі да сваёй дзяржаўнасці, ніколькі не перажываючы, што яна будзе немінуча страчана пасля поўнага завяршэння так званай інтэграцыі з Расіяй у Саюзную дзяржаву.

Так сталася ў жыцці Беларусі (з лета1994 г. і да нашых дзён), што толькі ад Прэзідэнта залежыць, будзе ў беларусаў працяг уласнай гісторыі, ці ў другім - трэцім пакаленнях ўсё абарвецца. Ва ўмовах аўтарытарнай дыктатуры 20-21 стагоддзяў у Беларусі патрэбна рашучая палітычная воля Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, які здольны сам ацаніць свае стратэгічныя памылкі, праявіць мудрасць сапраўднага, празорлівага нацыянальнага палітыка, які жыве не толькі сённяшнім днём, а і добра, хочацца верыць, бачыць сваю ўласную і беларускай нацыі перспектыву.

Бяром на сябе смеласць і адказнасць паклікаць Вас, Аляксандр Рыгоравіч, да глыбокай самаацэнкі, самааналізу моўнай палітыкі. Вы мужная, рашучая ў дзеяннях асоба, таму хочацца верыць, што зможаце выправіць Вамі створаную моўную сітуацыю. Упэўнены, што гэта абавязкова стане вялікім гістарычным подзвігам першага Прэзідэнта. Нашыя развагі і прапановы грунтуюцца на бачанні ў перспектыве Рэспублікі Беларусь па-сапраўднаму рэальна суверэннай дзяржавай, з самабытным, адрозным ад сваіх суседзяў этнакультурным абліччам, што не дасць ні сябрам, ні ворагам зблытаць яе ні з Расіяй, ні з Польшчай, ні з Украінай.

Каб стаць беларускаму народу самім сабой, а не быць цьмянай копіяй рускага народа, да чаго вядзе сучасная нацыянальная палітыка прэзідэнцкай вертыкалі, яе першачарговая на сёння задача ўзаконіць беларускую мову як адзіную дзяржаўную мову ў Рэспубліцы Беларусь. Гэта дыктуецца патрэбамі ўстойлівага развіцця яе тытульнай нацыі, арганічна вынікае з прагрэсіўнай сусветнай практыкі дзяржаўнага рэгулявання моўных працэсаў. Не выпадкова ж, а цалкам ў поўнай адпаведнасці з ёй у Расейскай Федэрацыі і ва ўсіх створаных на постсавецкай прасторы краінах дзяржаўнай мовай з'яўляецца толькі адна мова - мова карэннага этнасу. Навошта ж сярод краін СНД Рэспубліцы Беларусь быць белай варонай і з прычыны недасканалага заканадаўства несці каласальныя этнакультурныя страты, рызыкаваць лёсам саміх беларусаў і іх дзяржавай?!

Мова - душа народа. Для вяртання беларусам іх роднай мовы ва ўсе сферы жыццядзейнасці грамадства трэба неадкладна карэнным чынам выправіць моўную сітуацыю ў Беларусі. Для чаго прапануем у першую чаргу:

а) аднавіць дзейнасць гістарычных па сваім значэнні законаў аб мовах, прынятых дэпутатамі БССР. Гэта "Закон Беларускай Савецкай

Сацыялістычнай Рэспублікі “Аб мовах у Беларускай ССР”" (26 студзеня 1990 г.), "Пастанова Вярхоўнага Савета Беларускай ССР “Аб парадку ўвядзення ў дзеянне закона Беларускай СССР Аб мовах у Беларускай ССР”" (26 студзеня 1990 г.) і "Закон “Аб дапаўненні артыкула 68 Канстытуцыі Беларускай ССР”"(26 студзеня 1990 г.);

б) альбо ў бліжэйшы час прыняць новы Закон аб статусе адзінай дзяржаўнай мовы - беларускай.

Дзяржаве неабходна сістэмна і мэтанакіравана весці сярод народа глыбока прадуманую растлумачальную работу пра выключную ролю яго роднай мовы як для захавання этнакультурнай ідэнтычнасці краіны, так і для абароны, умацавання яе палітычнага суверэнітэту. Народ павінен мець цвёрдае перакананне, што панаванне рускай мовы ў сучаснай Беларусі - гэта не гістарычная непазбежнасць, не добраахвотны выбар рускай мовы нашымі прашчурамі, а вынік свядомай, сістэмнай дзяржаўнай русіфікатарскай палітыкі на працягу больш чым двух стагоддзяў, ад якой, на вялікі жаль, прэзідэнцкая вертыкаль не адышла і па сёння.

У Беларусі будзе толькі адна дзяржаўная і яна ж грамадзянская, толькі адна - беларуская мова. Змагацца за незалежную Беларусь трэба па-беларуску. Не саромеемся памыляцца. Памыляемся таксама па-беларуску.

11.10.2017 г. Прафесар Мікола Савіцкі.

## Беларуская мова як адзіная дзяржаўная - галоўны гарант рэальнага суверэнітэту нашай Бацькаўшчыны

***Насустрач чарговаму з'езду ТБМ***

*(Сваю публікацыю прапануем у якасці дадатку да выніковых матэрыялаў XIII з'езда ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны")*

На двары XXI стагоддзе, а беларусы на сваёй этнічнай радзіме працягваюць жыць ва ўмовах чужога дзяржаўнага інфармацыйнага асяроддзя, якое прымусова было навязана ім знешнімі сіламі некалькі стагоддзяў таму.

Родная (этнічная) мова любой нацыі ёсць яе самая вялікая сакральная каштоўнасць, гарант поўнага, рэальнага суверэнітэту. Беларуская мова - душа беларуса, глеба для фармавання, росту нацыянальнай свядомасці і годнасці. Родная мова ёсць ні з чым непараўнальным духоўным набыткам. Яе, як родную маці, трэба абараняць, шанаваць, быць гатовым нават ахвяраваць сваім жыццём, каб толькі не даць памерці гэтаму неацэннаму нацыянальнаму багаццю.

Сёння стан базавай, гэта значыць першай дзяржаўнай мовы - мовы беларускай - інакш нельга назваць, як катастрафічным з-за ні чым неабгрунтаванага валюнтарысцкага ўвядзення афіцыйнага двухмоўя, якое было патрэбна толькі дашчэнту зрусіфікаванаму чыноўніцкаму апарату. Гэта вялікае злачынства, што прыняты ў 1990 годзе дзяржавай прагрэсіўны з усіх пазіцый Закон аб адзінай дзяржаўнай мове ў Беларусі дзейнічаў толькі няпоўныя 5 гадоў. Праведзенымі ў маі 1995 і ў лістападзе 1996 г. рэферэндумамі сама дзяржава, хутчэй за ўсё выдатна прадбачачы сённяшнюю тупіковую сітуацыю ў моўнай сферы, свядома пазбавіла беларускае слова магчымасці быць запатрабаваным у афіцыйным і грамадскім жыцці. Яно амаль у поўным аб'ёме абслугоўваецца рускай мовай, што пазітыўна ўплывае на імклівую татальную русіфікацыю нашай Бацькаўшчыны. У выніку на сваёй гістарычнай зямлі беларусы засталіся фактычна не толькі без сваёй роднай мовы, але і самабытнай нацыянальнай культуры, і да таго ж яшчэ жывуць у сфальсіфікаванай гісторыі. Мова і культура карэннага этнасу ўсіх краін свету нязменна належаць да найважнейшых стратэгічных складнікаў нацыянальных інтарэсаў дзяржавы.

Выключная арыентацыя дзяржаўнай моўнай палітыкі на Расію вылілася праз 23 гады ў амаль поўнае панаванне рускай мовы ў нашым Краі. Бясспрэчна, у 1994 г. Прэзідэнту краіны Аляксандру Лукашэнка давялося прыняць беларускую нацыю моцна здэфармаванай русіфікацыяй. Адзіную у нас дзяржаўную мову неабходна было б мэтанакіравана спяліць, вызваляць ад шкодных наступстваў русіфікацыі мінулых гадоў. Прэзідэнцкая ўлада гэтага не рабіла, што прывяло да сапраўднай нацыянальнай трагедыі беларусаў: яны, як ніколі да гэтага, амаль спрэс анямелі ў роднай мове, што вельмі трагічна, сталі практычна абыякавымі да сваёй дзяржаўнасці, ніколькі не перажываючы, што яна будзе немінуча страчана пасля поўнага завяршэння інтэграцыі з Расіяй у Саюзную дзяржаву.

Так сталася ў жыцці Беларусі (з лета1994 г. і да нашых дзён), што толькі ад Прэзідэнта залежыць, будзе ў беларусаў працяг уласнай гісторыі, ці ў другім - трэцім пакаленнях ўсё абарвецца. Патрэбна рашучая палітычная воля Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, здольнага праявіць мудрасць сапраўднага, празорлівага нацыянальнага палітыка, які жыве не толькі сённяшнім днём, а і добра бачыць далёкую перспектыву.

Бяром на сябе смеласць і адказнасць паклікаць Вас, Аляксандр Рыгоравіч, да глыбокай самаацэнкі, самааналізу моўнай палітыкі. Вы мужная, рашучая ў дзеяннях асоба, таму хочацца верыць, што зможаце выправіць моўную сітуацыю. Упэўнены, што гэта абавязкова стане вялікім гістарычным подзвігам першага Прэзідэнта. Нашы развагі і прапановы грун-

туюцца на бачанні ў перспектыве Рэспублікі Беларусь па-сапраўднаму рэальна суверэннай дзяржавай, з самабытным, адрозным ад сваіх суседзяў этнакультурным абліччам, што не дасць ні сябрам ні ворагам зблытаць яе ні з Расіяй, ні з Польшчай, ні з Украінай.

Каб стаць беларускаму народу самім сабой, а не быць цьмянай копіяй рускага народа, да чаго вядзе сучасная нацыянальная палітыка прэзідэнцкай вертыкалі, яе першачарговая на сёння задача ўзаконіць беларускую мову як адзіную дзяржаўную мову ў Рэспубліцы Беларусь. Гэта дыктуецца патрэбамі ўстойлівага развіцця яе тытульнай нацыі, арганічна вынікае з прагрэсіўнай сусветнай практыкі дзяржаўнага рэгулявання моўных працэсаў. Не выпадкова ж, а цалкам ў поўнай адпаведнасці з ёй у Расейскай Федэрацыі і ва ўсіх створаных на пастсавецкай прасторы краінах дзяржаўнай мовай з'яўляецца толькі адна мова - мова карэннага этнасу. Навошта ж сярод краін СНГ Рэспубліцы Беларусь быць белай варонай і з прычыны недасканалага заканадаўства несці каласальныя этнакультурныя страты, рызыкаваць лёсам саміх беларусаў?!

Мова - душа народа. Для вяртання беларусам іх роднай мовы ва ўсе сферы жыццядзейнасці грамадства неадкладна карэнным чынам выправіць моўную сітуацыю ў Беларусі. Для чаго прапануем у першую чаргу:

а) аднавіць дзейнасць гістарычных па сваім значэнні законаў аб мовах, прынятых дэпутатамі БССР. Гэта "Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі “Аб мовах у Беларускай ССР”" (26 студзеня 1990 г.), "Пастанова Вярхоўнага Савета Беларускай ССР “Аб парадку ўвядзення ў дзеянне закона Беларускай СССР “Аб мовах у Беларускай ССР”" (26 студзеня 1990 г.) і "Закон “Аб дапаўненні артыкула 68 Канстытуцыі Беларускай ССР”"(26 студзеня 1990 г.);

б) альбо ў бліжэйшы час прыняць новы Закон аб статусе адзінай дзяржаўнай мовы - беларускай.

Дзяржаве неабходна сістэмна і мэтанакіравана весці сярод народа глыбока прадуманую растлумачальную работу пра выключную ролю яго роднай мовы для захавання этнакультурнай ідэнтычнасці краіны, так і для абароны, умацавання яе палітычнага суверэнітэту. Народ павінен мець цвёрдае перакананне, што панаванне рускай мовы ў сучаснай Беларусі, гэта не гістарычная непазбежнасць, не добраахвотны выбар рускай мовы нашымі прашчурамі, а вынік свядомай, сістэмнай дзяржаўнай русіфікатарскай палітыкі на працягу больш чым двух стагоддзяў, ад якой, на вялікі жаль, Прэзідэнцкая вертыкаль не адышлі і па сёння.

11.10.2017 г. Прафесары Леанід Лыч,
Мікола Савіцкі.

## За адзіную дзяржаўную мову - беларускую!

А задумае вораг з далёкага краю
Апляваць, адабраць, знішчыць мову маю-
Не дазволю. Не дам. Не прадам. Не змяняю
І да смерці за волю тваю пастаю!

Ніл Гілевіч.

Кожнаму народу ПРЫРОДА - БОГ даў родную мову. Беларуская мова ёсць родная для беларусаў. Родная маці - родная толькі для родных дзяцей. Чужое не можа быць родным. Абапіраючыся на гэты падмуркі трэба арганізоўваюць працу кіраўніцтву ТБМ па лёсавызначальных праблемах выратавання беларускай нацыі ад поўнай асіміляцыі.

Нязменнае 17- гадовае кіраўніцтва ТБМ паступова, незаўважна, як і амаль усе палітычныя партыі і рухі, прыняло навязаныя правіла гульні Прэзідэнтам і яго вертыкаллю.

Стан беларускай мовы ў Беларусі пасля рэферэндуму 1995 года, які праведзены з парушэннем законаў, трагічна-катастрафічны. Рэферэндум, як вядома, праведзены насуперак рашэнню Канстытуцыйнага суда. Згодна з міжнароднымі законамі і практыкай правапрымянення моўнае пытанне не можа (не рэкамендуецца) выносіцца на рэферэндум - гэта па-першае. Усе пытанні рэферэндуму 1995 года былі папярэдне аб'яўлены як кансультатыўныя - гэта па-другое. Прэзідэнт пагадзіўся на рэкамендацыйны характар рэферэндуму ў абмен на спыненне Канстытуцыйным судом працэдуры імпічменту. Пытанне, якое выносіцца на рэферэндум, не павінна супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, а менавіта: абмяжоўваць, адмяняць, ушчамляць агульнапрызнаныя правы і свабоды грамадзяніна, канстытуцыйныя гарантыі рэалізацыі гэтых правоў і свабод Моўнае пытанне на рэферэндум 1995 г. не магло выносіцца і ў адпаведнасці з законам "Аб рэферэндуме" 1991 г., артыкул 3.

Што адбылося ў Беларусі пасля рэферэндуму 1995 года з былой адзінай дзяржаўнай беларускай мовай? Нацыянальная катастрофа. За апошні 21 год у Беларусі ва ўсіх сферах: выхаванні і адукацыі, культуры, навуцы, СМІ, дзяржаўным і грамадскім кіраванні; карацей - ва ўсіх сферах жыццядзейнасці беларусаў у Беларусі органы ўлады адабралі ў беларусаў родную, этнічную мову.

Абранаму кіраўніцтву і Радзе ТБМ неабходна асэнсаваць прафесійна, патрыятычна, што неабходна зрабіць адэкватна рэальнай сітуацыі. Спынім лінгвацыд беларускай нацыі! Лінгвацыд - мовазабойства (элемент

*"-цыд"* ад лат. *"cido"* - забіваю.

ТБМ пасля рэферэндуму 1995 года не заняло абаронча-радыкальную пазіцыю ў барацьбе з уладнай стратэгіяй канчатковага знішчэння беларускай мовы і дэградацыі нацыянальнай свядомасці беларусаў, а незаўважна стала не замінаць ўсёй дзяржаўнай машыне давесці моўную праблему беларусаў да сённяшняга стану. Сітуацыя вымагае змяніць трэнд стратэгічнай і тактычнай дзейнасці ТБМ.

Стратэгія і тактыка дзейнасці ТБМ, планы нашай дзейнасці, як мне бачыцца, неабходна сканцэнтраваць пад лёсавызначальнымі лозунгамі, якія, на маю думку, бачацца тры:

1. **"У Беларусі, як ва ўсіх краінах СНГ - адзіная дзяржаўная мова - беларуская!"** Адзінай дзяржаўнай мовай у Беларусі мусіць быць толькі беларуская. Беларуская мова павінна стаць асновай выкладання. Дзяржаўная сістэма адукацыі ад дзіцячага садка ўключна з універсітэтам - таксама беларуская. Выкладанне асобных прадметаў на замежных мовах падтрымліваецца і развіваецца ў рэчышчы еўрапейскай традыцыі. Без ведання беларускай мовы гістарычныя мігранты (рускія, яўрэі, татары і іншыя), згодна з гістарычнай сусветнай практыкай, не могуць поўнавартнасна інтэгравацца ў грамадскае жыццё Беларусі, а будуць заставацца патэнцыйнымі пятымі калонамі. Жывы прыклад: страта Украінай Крыма і Данбаса. Ва ўмовах панавання агрэсіўнай афіцыйнай ідэалогіі "рускага свету" і рускага крыміналітэту асіміляцыйная русіфікацыя ёсць стратэгічная пагроза рэальнай суверэннасці Беларусі. У цэнтр дзейнасці паставіць праблему аб адзінай дзяржаўнай беларускай мове. Змагацца за аднаўлення закона "Аб мвах" 1990 года і адпаведных прававых актаў па яго выкананні. Будзем мэтанакіравана рухацца да беларускамоўнага жыццёвага асяроддзя ў Беларусі

2. **"Спыніць русіфікацыю Беларусі!".** Спыненне смяротнага працэсу русіфікацыі трэба разглядаць як абарону нашай дзяржавы Беларусі.

3. **"Беларуская мова - гарант рэальнага суверэнітэту!"**

Арганізацыйна-метадычныя праблемы:

1. Аднавіць (ажывіць) заснуўшыя і зніклыя структуры ў краіне, асабліва раённыя і гарадскую Рады ТБМ у горадзе Мінску, аднавіць камісіі, якія плённа працавалі ў 90-я гады пры сакратарыяце

2. У Мінску пры сакратарыяце стварыць філіял рэдакцыі газеты "Наша слова" (прафесійны калектыў з намеснікам галоўнага рэдактара) па падрыхтоўцы матэрыялаў для газеты "Наша слова" і падрыхтаваны матэрыял па электроннай пошце перасылаць у галоўную рэдакцыю ў горад Ліду.

Прапаную для абмеркавання наступныя пытанні:

1. Усю дзейнасць трэба праводзіць пад лозунгам "Спыніць русіфікацыю Беларусі!". У свой час Мінская гарадская Рада ТБМ праводзіла сваю работу пад гэтым лозунгам, што прынесла станоўчыя вынікі.

2. Аднавіць камісіі пры сакратарыяце ТБМ па напрамках жыццядзейнасці грамадства, якія незаўважна зніклі (па адукацыі і далей назвы з архіва).

3. Паралельна з барацьбой за адкрыццё новага цалкам беларускамоўнага ўніверсітэта неабходна дабівацца ад уладаў надання такога статусу (беларускамоўнага) галоўнаму Педагагічнаму ўніверсітэту імя М. Танка. Абгрунтаванне гэтай прапановы: настаўнік ёсць падмурак усёй выхаваўчаадукацыйнай піраміды.

4. Дэрусіфікацыя асветы ўсіх узроўняў

5. Распрацаваць праграму паступовай, мэтанакіраванай змены існага рускамоўнага вектара па-за ўрокамі ва ўстановах адукацыі да дамінавання беларускамоўнага. Дзяржаўная беларуская мова - не толькі для беларусаў, дзяржаўная мова - для ўсіх грамадзян Беларусі.

*Выступ на 13 з'ездзе ТБМ імя Ф. Скарыны прафесара М. Савіцкага. 2017 г.*

## Выступ на 13 з'ездзе ТБМ імя Ф. Скарыны

**29 кастрычніка 2017 года, Мінск**

Высокашаноўныя дэлегаты гістарычнага з'езда ТБМ!

Беларуская мова ёсць родная для беларусаў. Чужое не можа быць родным. Руская мова для беларусаў не ёсць родная. Абапіраючыся на гэтыя аксіёмы трэба сканцэнтраваць нашу працу на лёсавызначальных праблемах выратавання беларускай нацыі ад поўнай асіміляцыі.

Стан беларускай мовы ў Беларусі пасля рэферэндуму 1995 года, які праведзены з парушэннем законаў, трагічна-катастрафічны.

Неабгрунтаванае валюнтарысцкае ўвядзення афіцыйнага двухмоўя было патрэбна толькі дашчэнту зрусіфікаванаму чыноўніцкаму апарату. Гэта вялікае злачынства, што прыняты ў 1990 годзе камуністычнай дзяржавай БССР прагрэсіўны з усіх пазіцый Закон аб адзінай дзяржаўнай мове ў Беларусі дзейнічаў толькі няпоўныя 5 гадоў. Сённяшнюю тупіковую сітуацыю ў моўнай сферы стварыла сама дзяржава.

Што адбылося ў Беларусі пасля незаконнага рэферэндуму 1995 года з былой адзінай дзяржаўнай беларускай мовай? У той час мы не разумелі сур'ёзнасці сітуацыі ці не хапіла смеласці зразумець. А адбылася ж Нацыя-

нальная катастрофа. За апошнія 21 год у Беларусі ва ўсіх сферах жыццядзейнасці органы ўлады адабралі ў беларусаў родную, этнічную мову.

Абранаму кіраўніцтву і Радзе ТБМ, усім сябрам і прыхільнікам ТБМ неабходна асэнсаваць прафесійна і, што вельмі важна, патрыятычна дзейнічаць адэкватна рэальнай сітуацыі. Мы можам спыніць лінгвацыд беларускай нацыі!

Пасля рэферэндуму 1995 года мы не занялі абаронча-актыўную пазіцыю ў барацьбе з уладнай стратэгіяй канчатковага знішчэння беларускай мовы і дэградацыі нацыянальнай свядомасці беларусаў, а незаўважна пачалі не замінаць дзяржаўнай машыне давесці моўную праблему беларусаў да сённяшняга стану. Сітуацыя вымагае змяніць трэнд стратэгічнай і тактычнай дзейнасці ТБМ.

Стратэгія і тактыка дзейнасці ТБМ, планы нашай дзейнасці, як мне бачыцца, неабходна праводзіць пад наступнымі лёсавызначальнымі лозунгамі:

Па-першае: Адзінай дзяржаўнай мовай у Беларусі мусіць быць толькі беларуская! Беларусам - беларускамоўную адукацыю! Адукацыя ёсць ключавы элемент нацыянальнай бяспекі.

Па-другое: "Беларуская мова ў Беларусі не толькі для беларусаў, а для ўсіх яе грамадзян!" Без ведання беларускай мовы гістарычнымі мігрантамі (рускія, яўрэі, татары і іншыя), згодна з гістарычнай сусветнай практыкай, не могуць поўнавартасна інтэгравацца ў грамадскае жыццё Беларусі, а будуць заставацца патэнцыйнымі пятымі калонамі. Жывы прыклад: страта Украінай Крыма і вайна з Расеяй на Данбасе. Ва ўмовах панавання агрэсіўнай афіцыйнай ідэалогіі "рускага свету" і рускага бізнес-крыміналітэту асіміляцыйная русіфікацыя ёсць стратэгічная пагроза рэальнай суверэннасці Беларусі.

Па-трэццяе: "Спыніць русіфікацыю Беларусі!". Спыненне смяротнага працэсу русіфікацыі трэба разглядаць як абарону нашай дзяржавы Беларусь. Дэрусіфікацыю асветы ўсіх узроўняў пажадана праводзіць сумесна з ТБШ.

Па-чацвёртае: "Беларуская мова - як гарант рэальнага суверэнітэту!"

Крышачку тэзісна аб Арганізацыйна-метадычных праблемах:

Па-першае: Аднавіць (ажывіць) заснулыя і зніклыя структуры ў краіне (са 118 раёнаў Беларусі ў 25-ці няма ніводнага падпісчыка на газету "Наша слова"). Асаблівай увагі патрабуюць раённыя і гарадская Рады ТБМ у горадзе Мінску. Неабходна аднавіць камісіі пры Сакратарыяце, якія плённа працавалі ў 90-я гады.

Па-другое: У Мінску пры Сакратарыяце стварыць філіял рэдакцыі

газеты "Наша слова" (прафесійны калектыў з намеснікам галоўнага рэдактара) па падрыхтоўцы матэрыялаў для газеты "Наша слова". Падрыхтаваны матэрыял па электроннай пошце перасылаць у галоўную рэдакцыю ў горад Ліду.

Па-трэццяе: Паралельна з барацьбой за адкрыццём новага дзяржаўнага цалкам беларускамоўнага ўніверсітэта неабходна дабівацца ад уладаў надання такога статусу (беларускамоўнага) галоўнаму Педагагічнаму ўніверсітэту імя М. Танка. Абгрунтаванне гэтай прапановы: настаўнік ёсць падмурак усёй выхаваўча-адукацыйнай піраміды. Прыватныя, так званыя, беларускамоўныя ўніверсітэты, аб якіх у апошні час заявілі некалькі асобаў, ёсць чыстыя бізнес-праекты палітыкаў, якія будуць шырмай для прадаўжэння татальнай русіфікацыі адукацыі існай уладай.

І напрыканцы: **Ці патрэбен ТБМ ганаровы старшыня?**

За ўсё, што зроблена намі за гэтыя 17 год шчыра падзякуем адзін аднаму і яе старшыні Алегу Трусаву. Але ж за гэты час ТБМ усохлася да сённяшняга стану. Калі ж дэлегаты лічаць, што патрэбны статус Ганаровага старшыні, то ён ёсць. Пажыццёвы Ганаровы старшыня ТБМ у нас ёсць: - гэта яго заснавальнік і бессмяротная знічка на беларускім небакупале - Народны паэт, прафесар Ніл Гілевіч. Усялякія іншыя бягучыя ганаровыя патрэбны толькі самім ганаровым.

Мабыць мэтазгодна стварыць грамадскую "Раду старэйшых ТБэмаўцаў каму за 70 плюс" з кансультацыйнымі і дарадчымі функцыямі.

Высокашаноўныя дэлегаты!

Прымем прапанаваны Праект "Беларуская мова як адзіная дзяржаўная - галоўны гарант суверэнітэту нашай Бацькаўшчыны", і 13 з'езд стане гістарычным. Вы гэтую праблему запусціце ў інфармацыйнае асяроддзе.

Жыве Беларусь і родная мова беларусаў!

## Чаму дэлегаты 13 з'езда ТБМ не паставілі на галасаванне Праект пастановы "Беларуская мова як адзіная дзяржаўная - галоўны гарант рэальнага суверэнітэту нашай Бацькаўшчыны"?

Як вядома, з'езд адбыўся 29.10.2017 года. Праект быў прадстаўлены кіраўніцтву ТБМ 05.10.2017 г. - гэта значыць за 23 дні да з'езда.

Тэкст праекта змешчаны ў артыкуле аналагічнай назвы ў "Нашым слове" № 43, 25 кастрычніка 2017 г.

Мэта праекта - ад імя ТБМ імя Ф. Скарыны гучна заявіць аб рэальным

трагічна-тупіковым стане дзяржаўнай беларускай мовы ў Беларусі ва ўмовах дзяржаўнага "двухмоўя" і назваць эфектыўныя шляхі выхаду; запусціць пытанне аб адзінай дзяржаўнай беларускай мове ў інфармацыйную прастору Бацькаўшчыны і сусвету; спрыяць абуджэнню нацыянальнай самасвядомасці беларуса.

Мой адказ на пастаўленае пытанне ў загалоўку артыкула.

За доўгі жыццёвы шлях ніколі дагэтуль ні разу не адчуваў аднachасна такога гонару і сораму. Дэлегаты сустрэліся, столькі радасці і ўсмешак, абдымкаў. Радаваўся і я. Вось яны - творцы і абаронцы беларускай мовы для беларусаў!

Упэўнены, што ўсе дэлегаты мелі жаданне падыскутаваць, намеціць канкрэтныя планы. Аднак у зале пасяджэнняў дэлегаты чамусьці змяніліся? Фактычна былі замарочаныя, асірацелыя, пахмурныя і панурыя, прыгнёныя. Панавала бязвер'е. Гэта маё асабістае ўражанне. Яно можа і памылковае, а таму звяртаюся з паважлівай просьбай да дэлегатаў на старонках "Нашага слова" выказацца шчыра. Як я мяркую, гэта важна для дзейнасці ТБМ у нашай сітуацыі і гістарычнай будучыні беларускай нацыі.

Заклікаю дэлегатаў і чытачоў спакойна і адказна, з разуменнем лёсавызначальнай нацыятворнай і дзяржаватворнай праблемы - адзіная дзяржаўная беларуская мова ў Беларусі - патлумачыць самаму сабе, кіраўніцтву ТБМ і грамадскасці ўжо гістарычную ганебную падзею, якая адбылася на з'ездзе ТБМ 29 кастрычніка 2017 года.

У зале з'езда над дэлегатамі лунали дэманскія сілы: апанавала жорсткая духоўная нікчэмнасць; саступілі са сваіх цвёрдых гуманных пазіцый; не жывём вольнай, незалежнай думкай; адвыклі ўспрымаць нейкі заклік ды нешта рабіць для сябе і грамадства; падсвядомы страх і маўчанне большасці.

Толькі пры пэўнай унутранай самапавазе да сябе і здаровым гонары асоба здольная актыўна прымаць удзел у вырашэнні любых асабістых і грамадска-значных праблем. Успомнім думкі і практычныя дзеянні навукоўцаў і гістарычных асобаў.

Яшчэ ў 1921 годзе беларускі філосаф Ігнат Абдзіраловіч тлумачыў беларусам, што Расея ніколі не прызнавала нас як беларусаў, а значыць і беларускую мову, так, як і панская Польшча.

Дэлегаты не дайшлі да беларускай мовы, а мова - да дэлегатаў. І гэта ёсць нацыянальнай праблемай. А без мовы што мы, хто мы, навошта мы тут? Уражанне, што дэлегаты з'езда ТБМ ні ў што не верылі, ні пра што не думалі. А беларуская мова-выгнанніца, быццам нікога і не ўстрывожыла. Панаваў супакой і непарушнасць усталяванага за 17 год парадку. Прапанова

аб адзінай дзяржаўнай беларускай мовы ў атмасферы згоды і дагодлівасці (празмерна паслужлівы) не была пачутая, а праігнараваная. Мяркую, што гэтая падзея гістарычная і ганебная для беларускага этнасу.

Не забываем вядомае з нашай трагічнай гісторыі:

З Указа царыцы Кацярыны II, 1796 г.

*"…Великое Княжество Литовское впредь именовать только Белой Русью, а народ её белорусами, чем на века привяжем её к России. Замирить Белую Русь силой невозможно. Эту миссию мы возложим на русского чиновника, русского учителя, русского попа. Именно они отнимут у белорусов не только их язык, но и саму память про самих себя…"*

У Еўропе ў 20 стагоддзі паводле UNESCO вымерлі 7 моваў, з іх 4 у Расейскай Федэрацыі. Беларуская мова гэтай арганізацыяй уключаная ў Атлас сусветных моваў, якія пад пагрозай вымірання. Калі ў краіне на этнічнай мове ў сістэме адукацыі займаецца менш 30% вучняў - навука лічыць, што гэта мова перайшла мяжу да вымірання. А што ў нас?

У мінулым навучальным годзе - 13,3 працэнты, а ў сталіцы Менску, дзе пражывае чвэрць насельніцтва Беларусі - аж !!! - 1,8 працэнта. Што гэта, калі не класічны лінгвацыд (мовазабойства)? Чаму ж шаноўныя дэлегаты з'езда ТБМ пабаяліся, калі не крычаць перад усім светам - **ратуйце!**, дык хаця б падняць руку ў падтрымку ўсталявання ў Беларусі рэальнага беларускамоўнага жыццёвага асяроддзя?

Мікола Савіцкі, прафесар, дэлегат з'езда.
11.11.2017 г. адпраўлена ў газету "Наша слова".

## Насустрач 30-ці гадоваму юбілею Закона "Аб мовах у Беларускай ССР"

*Когда мы разучимся говорить на белорусском языке,*
*мы перестанем быть нацией.*
***А.Г. Лукашэнка.***

*Язык - это история народа.*
*Язык - это путь цивилизации и культуры.*
***А. Куприн.***

**Сёняшняя рэальная моўная сітуацыя ў Беларусі.**

Жыццё за апошнія, больш чым два дзесяцігоддзі, пераканаўча паказала і даказала беларусам і ўсяму цывілізаванаму свету, што ўведзенае ў

дзеянне Канстытуцыйнае двухмоўе ў монаэтнічнай Беларусі давяло да калапсу беларускай мовы. Аб'ектыўная рэальнасць на сёння сведчыць, што практычная татальная моўная дзяржаўная палітыка русіфікацыі прывяла беларускі народ на мяжу поўнага моўнага вымірання і, як вынік, знішчэння нашай суверэннай дзяржаўнасці. Высокае аўтарытарнае кіраўніцтва, калі меркаваць па дробязных кропкавых упырскваннях беларускага слова ў грамадскае жыццё, зразумела сваю антынацыянальную памылку. А таму выратаваць нашу сітуацыю можа толькі абнародаванне адэкватнай дзяржаўнай ідэі і сродкаў яе вырашэння. А яна - у нашай сучаснай гісторыі. Апошняя зафіксавала: толькі ўвядзенне ў дзеянне Закона аб адзінай дзяржаўнай беларускай мове спыніць актыўны працэс асіміляцыі беларусаў. Ні ў адной з краін, апрача Беларусі, якія атрымалі сваю дзяржаўную незалежнасць пасля распаду імперыі СССР, не было ўведзенае законна дзяржаўнае двухмоўе. Жыццё ва ўмовах так званага двухмоўя ў Рэспубліцы Беларусь пераканаўча даказала, што толькі Закон аб адзінай беларускай дзяржаўнай мове ў Рэспубліцы Беларусь і нацыянальна-патрыятычная палітычная воля Прэзідэнта здольныя гэтую лёсавызначальную праблему пачаць эфектыўна вырашаць. Як паказаў час, канстытуцыйнае двухмоўе немінуча вядзе да поўнай асіміляцыі беларускага этнасу. Зацягванне часу з вырашэннем гэтай праблемы смерці падобна. Без этнічнай мовы народ страчвае класічныя абрысы нацыі. Нішчачы мову, нацыянальную культуру і гісторыю ствараецца атмасфера (вымавім страшнае слова) нянавісці да ўсяго беларускага.

**Цікава, а дзе ж карані русіфікацыі беларускага этнасу?**

Іх павінен ведаць кожны беларус і жыхар Рэспублікі Беларусь. Сёння ў Беларусі здзяйсняецца ўнікальная гістарычная сітуацыя. Інтарэсы імперыі-асімілятара супалі з сучаснай рэальнай дзяржаўнай палітыкай самой суверэннай дзяржавы Рэспубліка Беларусь. Стратэгія ж Расіі, сфарму-лявана царыцай Кацярынай II ва ўказе ў далёкім для нашага часу 1796 годзе. І яна на нашых вачах збываецца, рэалізуецца. Вось яна: "*…Великое Княжество Литовское впредь именовать только Белой Русью, а народ её белорусами, чем на века привяжем её к России. Замирить Белую Русь силой невозможно. Эту миссию мы возложим на русского чиновника, русского учителя, русского попа. Именно они отнимут у белорусов не только их язык, но и саму память про самих себя.*" Беларусы! Запомнім смяротны вырак для нас і не толькі. Вось адкуль растуць карані ідэалогіі сучаснага "русского мира".

Прапаную кожнаму беларусу ў думках аглянуцца вакол сябе і параў-

нацць свой моўны стан з моўным станам асобы любой іншай нацыі. І што мы ўбачым? А тое, што мы не такія, як ўсе іншыя. Беларусы адзіны ў свеце народ, які пад прымусам незаўважна адышоў ад сваёй роднай мовы, роднай песні, беларускамоўных дзіцячых садкоў, беларускамоўных школ, беларускамоўных універсітэтаў. І ці можна нават у сне ўявіць, што, для прыкладу, рускі чалавек, які нарадзіўся ў Беларусі, даў згоду на падобны зняважлівы стан? У адказ мы пачуем ад рускага: "Ты, что идиот, о чем ты спрашиваешь?" А ці можна ўявіць Расею без русского языка? Дык будзем годнымі нашых продкаў і не будзем аб'ектам асіміляцыі ("этнаграфічнай масай") і паглынання нашай гістарычнай Бацькаўшчыны сучаснай неаімперыяй.

Тэкст з указа Кацярыны II, як вынікае, з'явіўся на свет у 1796 годзе. Праз 100 гадоў у 1897 годзе, адбыўся Першы Усерасійскі перапіс насельніцтва Расійскай Імперыі. У адпаведнасці з яго вынікамі ў Віленскай губерні на беларускай мове размаўляла 56,1% яе насельніцтва, у Віцебскай - 53,0%; Гродзенскай - 44,0 %; Мінскай - 76,0 %; Магілёўскай - 82,4 %; а ўсяго - 63,5% або 5.408.420 агульнай колькасці жыхароў. Як бачна, за 100 гадоў ні рускі штык, ні руская школа, ні рускі поп не змаглі асіміляваць нашых продкаў. Якая рэальная сітуацыя з беларускай мовай склалася за часы Прэзідэнцкага кіравання краінай перыядычна абнародваюцца ў сродках масавай інфармацыі.

**Гістарычна аб'ектыўны прарыў ў татальнай русіфікацыі.**

На працягу двух з добрым хвосцікам стагоддзяў Расія праводзіла ў жыццё асіміляцыйную імперскую палітыку: *"отнимут у белорусов не только их язык, но и саму память про самих себя"*. І паралельна з гэтым знішчальным гістарычным працэсам убівалі ўсімі даступнымі сродкамі ў галавы беларусаў міф аб ніколі не існаваўшым "старшем брате". Але ж, о дзіва! У гэтых умовах інтэлектуальны і здаровы нацыянальна-патрыятычны патэнцыял беларусаў выспяваў у часе, і ў канцы ХХ стагоддзя народ асэнсаваў трагізм моўнай сітуацыі ў Беларусі. Прыйшоў выратавальны час (80-90-ы гады), калі канстытуцыйныя прадстаўнікі народа (акцэнтуем: дэпутаты-камуністы Вярхоўнага савета БССР) адчулі сваю адказнасць за лінгвацыд беларускага народа, а нацыя прыйшла да разумення ролі этнічнай мовы ў далейшым яе гістарычным лёсе. Імі быў прыняты гістарычна-выратавальны Закон аб адзінай дзяржаўнай мове.

Шлях да выратавання. Сёння для спынення поўнага выцяснення беларускай мовы з жыццядзейнасці грамадства на сваёй гістарычнай Бацькаўшчыне патрэбна толькі палітычная воля дзейнага Прэзідэнта дзяржавы. Толькі ён, разам з элітай грамадства, абавязаны і могуць

прапанаваць навукова абгрунтаванае выйсце з гэтай гістарычна-трагічнай рэальнасці. Улада павінна разарваць гістарычныя ланцугі-путы "русского мира". І тут немагчыма не ўспомніць пра гістарычны Закон. Вось ён: 26 студзеня 2020 года спаўняецца 30-ці гадовы юбілей прыняцця камуністычнай уладай і цалкам камуністычным (!!!) Вярхоўным Саветам Беларускай ССР Закона "Аб мовах у Беларускай ССР". Гэты гістарычны Закон на той час і Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь 1994 года і яе 17 артыкул (і як паказаў час і сёння) быў адзінай рэальнай гарантыяй выратавання беларускай мовы і беларусаў як нацыі ад поўнай асіміляцыі. Сітуацыя патрабуе ад дзяржаўнікаў і інтэлектуалаў заўчаснага шырокага, удумлівага, абачлівага яе абмеркавання.

**Прапаную.** Кампетэнтным дзяржаўным установам падрыхтаваць абгрунтаваную праграму **"30-ці гадовы юбілей Закона "Аб мовах у Беларускай ССР"**. Лагічна было б юбілейны год гэтага гістарычнага Закона назваць і Годам беларускай мовы. Такія прапановы ўжо ўносіліся, яны не супярэчаць Указу Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 20 чэрвеня 2018 г. № 247 "Аб правядзенні Года малой радзімы", а паглыбяць, пашыраць "Рэспубліканскую праграму мерапрыемстваў па правядзенні ў Рэспубліцы Беларусь 2018-2020 гадоў пад знакам Года малой радзімы", зацверджаную пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 18 ліпеня 2018 г. №547.

У адпаведнасці з правам заканадаўчай ініцыятывы (артыкул 99 Канстытуцыі) адпаведным установам выступіць ініцыятарамі і арганізатарамі дыскусіі ў сродках масавай інфармацыі аб адзінай дзяржаўнай беларускай мове ў Рэспубліцы Беларусь і распрацоўцы новага закона "Аб адзінай дзяржаўнай мове", або аднавіць (вярнуць да жыцця) Закон "Аб мовах у Беларускай ССР" ад 26 студзеня 1990 года. Галоўнае - сістэмна на аснове навуковай, гістарычнай, педагагічнай інфармацыі праводзіць патрыятычнае выхаванне народа, умацоўваць пачуццё нацыянальнай годнасці шляхам паступовага і асэнсаванага пашырэння грамадзянамі ўжывання беларускай мовы. Нагадаю, што права заканадаўчай ініцыятывы маюць і грамадзяне, якія валодаюць выбарчым правам, у колькасці не менш, як 50 тысяч чалавек.

Важна псіхолага-педагагічна стварыць агульнадзяржаўны клімат добраахвотнасці і адсутнасці праяў якіх-небудзь форм "насілля". Праз СМІ трэба давесці да розуму кожнага грамадзяніна, народа, што менавіта мова вызначае шлях натуральнага духоўнага развіцця асобы і нацыі. Беларуская мова вывела беларусаў у свет, ідэнтыфікавала нас, абазначыла тэрытарыяльна нашае месца на зямным шары. Беларус без беларускай мовы - ніхто і нішто. Беларуская мова - святыня беларусаў. Народы і іх мовы

ствараюць суквецці цывілізацый. Мова народа ёсць яго пашпарт, унікальны ідэнтыфікатар у суквецці моваў свету. Мова народа ёсць векапомны духоўны помнік. Ён у вечнасці нацыі.

Прэзідэнт БНР Пётра Крэчэўскі пакінуў навечна нам словы, актуальнасць якіх непадуладная часу: **"Без мовы няма нацыі, без культуры - няма народу і не можа быць Незалежнасці, сваёй уласнай Дзяржавы" .**

26.09 - 19.10.2018 г.

Мікола Савіцкі, прафесар.
21.10.18 адпраўлена ў "Наша слова".

## Хто ўратуе беларускі этнас ад вымірання ў 21 стагоддзі!? (Рух да беларускай Беларусі)

Слова да кандыдатаў на пасаду Прэзідэнта. Чарговая кампанія выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь узору 2020 праходзіць у гістарычны лёсавызначальны час: *"Стремительно созревает время неоокупации Беларуси"* па сцэнарыі Крым-2;

Шаноўныя кандыдаты ў Прэзідэнты, беларусы, як самабытны этнас, і суверэнная Рэспубліка Беларусь шпарка (у гістарычным вымярэнні) рухаюцца да вымірання, знікнення беларускага этнасу і страты сваёй дзяржаўнасці, суверэннасці, сваёй адметнай культурна-дзяржаўнай ідэнтычнасці.

Беларуская нацыя знаходзіцца на мяжы этнічнага вымірання. Навука і гісторыя сведчаць: са знікненнем роднай мовы - знікае і нацыя. Страшна казаць: сёння дзеці беларусаў не разумеюць беларускую мову, цэлае пакаленне беларусаў без роднай мовы, роднай песні, беларускай гістарычнай памяці. Вяртанне гістарычнай памяці беларусам - адна з галоўных функцый дзяржавы. Сёння ж дзяржаўная сістэма выхавання і навучання ў нас амаль цалкам рускамоўная.

Канстытуцыйнае двухмоўе фактычна з'явілася лінгвацыдам беларускай мовы. За гэты час яна са статуса адзінай дзяржаўнай пераходзіць ў статус выміраючай мовы. Сярод суверэнных дзяржаў на прасторы гістарычнага СССР толькі ў нас канстытуцыйнае двухмоўе. Дык мы разумнейшыя ці дурнейшыя за ўсе былыя паняволеныя народы!?

**Мова - душа народа.** Для вяртання беларусам іх роднай мовы ва ўсе сферы жыццядзейнасці грамадства трэба на дзяржаўным узроўні карэнным чынам выправіць моўную сітуацыю ў Беларусі;

У ідэале ўсім прэтэндэнтам на пасаду Прэзідэнта трэба выпрацаваць

праграмы выратавання Беларусі ад сістэмнай катастрофы. Кожны прэтэндэнт, (у тым ліку і А.Г. Лукашэнка на шостую кадэнцыю) аб'ектыўна вымушаны выбраць новы шлях, які выведзе Рэспубліку Беларусь да нацыянальнай Беларусі ў суквецці моў і культур усіх народаў, якія абралі для жыцця нашу беларускую зямлю! Па законах міжнароднага права, дружым з усімі нашымі суседзямі на роўных узаемавыгадных нацыянальных інтарэсах.

Кандыдаты ў Прэзідэнты аб'ектыўна не маюць права не акрэсліць сваю пазіцыю па спыненні беларускамоўнага лінгвацыду і этнацыду. Прапаную ўключыць у свае адукацыйна-агітацыйныя матэрыялы лозунг: **"За адзіную дзяржаўную беларускую мову!"** Родная мова - найвялікшая каштоўнасць для кожнага чалавека.

Нацыянальна свядомы Прэзідэнт, як гарант Канстытуцыі, абавязаны давесці да кожнага беларуса і грамадзяніна рэспублікі, што не па іх волі паміраe родная беларуская мова. Кожны беларус на генным, родавым узроўні разумее, што для беларуса яна - найвялікшая каштоўнасць. Прэзідэнт павінен спыніць беларускамоўны лінгвацыд і этнацыд. Найноўшая гісторыя засведчыла: з-за ўключэння першым Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь нашай суверэннай дзяржавы ў прастору "русского мира" за чвэрць стагоддзя ў Беларусі так і не сфармавалася этнакультурная беларуская ідэнтычнасць.

Для гэтага дастаткова вярнуць да жыцця гістарычныя здабыткі, амаль цалкам камуністычнага Вярхоўнага Савета Беларускай ССР 12 склікання. А менавіта адным з першых Указаў абранаму Прэзідэнту:

а) аднавіць дзейнасць гістарычных па сваім значэнні законаў аб мовах: "Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі “Аб мовах у Беларускай ССР”" (26 студзеня 1990 г.), "Пастанова Вярхоўнага Савета Беларускай ССР “Аб парадку ўвядзення ў дзеянне закона Беларускай ССР “Аб мовах у Беларускай ССР”" (26 студзеня 1990 г.) , "Дзяржаўную праграму развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР", пастанова Савета міністраў № 240 ад 20.09.1990 г.

б) або прыняць новы Закон аб статусе адзінай дзяржаўнай мовы - беларускай.

Рэкамендую ўсім прэтэндэнтам (уключна і дзейснаму Прэзідэнту) уключыць гэтыя прапановы ў свае перадвыбарчыя праграмы на пасаду Прэзідэнта. Гэта патрабаванне бягучага крызіснага стану. Гістарычная місія новага Прэзідэнта: паставіць наш беларускі лакаматыў - у лёсавызначальны час - на рэйкі далейшага цывілізаванага развіцця і не дапусціць смерці самабытнага, старажытнага беларускага этнасу і знікнення з карты

свету рэальна суверэннай дзяржавы Рэспубліка Беларусь. Гісторыя сведчыць: уключэння Беларусі ў прастору "русского мира" высветлілася, што за 25 гадоў так і не сфармавалася этнакультурная беларуская ідэнтычнасць.

Паважаныя кандыдаты ў прэзідэнты! Паважайце найвышэйшую дзяржаўную пасаду ў Рэспубліцы Беларусь, сваю асобу і беларускі этнас і пры выкананні канстытуцыйных функцый у публічнай дзейнасці карыстайцеся беларускай мовай. Веру: пад Вашым мудрым і адказным кіраўніцтвам ёй (беларускай мове) будзе вернуты статус адзінай дзяржаўнай.

**Прэзідэнт узору 2020!** Дзяржава Рэспубліка Беларусь у Вашых далонях на наступныя 5 год. Не ўпусціце свой шанец, вядзіце яе адказна не проста да квітнеючай, а беларускай Беларусі. Гэтага вымагае аб'ектыўны гістарычны момант, у якім мы апынуліся.

Вельмі складанай і важнай для захавання суверэнітэту ёсць таксама праблема дэнансацыі дамовы аб так званай саюзнай дзяржаве. Дзяржаўныя памылкі трэба выпраўляць. Прадоўжыць у 2020 годзе дэмаркацыю дзяржаўнай мяжы па ўсім параметры з усімі суседнімі краінамі.

05.06.2020 г. Мікола Савіцкі, прафесар.

## Зварот да сябраў Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны

Высокашаноўныя і высокаадказныя сябры Рады ТБМ! На спе--цыяльным паседжанні Рады ТБМ афіцыйна заявіце народу Беларусі галоўны лозунг дзейнасці ТБМ: "За адзіную дзяржаўную беларускую мову у Беларусі!"

Звяртаюся да Вас шчыра з просьбай, а ні ў якім разе не з крытыкай, асэнсаваць хібную стратэгію дзейнага кіраўніцтва ТБМ за абарону беларускай мовы, прадстаўленую ў Звароце да грамадства "Наша задача - зрабіць беларускую мову адной з паўнапраўных моў аб'яднанай Еўропы" ("Наша слова" № 12, 24.03.21 г.). Еўропа ўспрымае наша беларускае канстытуцыйнае двухмоўе як роўнасць "паўнапраўных моў". Канстытуцыйнае двухмоўе ў цывілізаваных краінах успрымаецца як рэальная роўнасць. Хопіць ТБМ быць бэк-вакалістам нашаму канстытуцыйнаму двухмоўю прэзідэнцкай вертыкалі. Час паказаў, што яно смяртэльнае для беларускай мовы. Толькі адзіная дзяржаўная беларуская мова ёсць шлях для яе выратавання. Таму галоўныя стратэгія і тактыка: за адзіную дзяржаўную беларускую мову!

**Абгрунтаванне**. Гвалтам накінутае на нашу вольную і незалежную дзяржаву ярмо рускамоўнай татальнай русіфікацыі падвяло беларускую

мову і яе стваральнікаў і носьбітаў - беларускі народ да вымірання: лінгвацыду і этнацыду. Падаю навуковыя тэрміны ў арыгінале: *("Лингвоцид (букв. "языкоубийство" или глоттофагия) - комплекс мер административно-политического, а также экономического характера, направленных на искоренение языка, обычно в регионах его исконного распространения. Этноцид (от греч. etnos - народ і лат. caedo - убиваю) - политика уничтожения национальной идентичности, самосознания народа". "Этноцид может проводиться как через политику ассимиляции, так и в процессе становления новых наций через уничтожение или изменение самосознания старых".).*

Уладная прэзідэнцкая вертыкаль адразу пасля усталявання сваёй улады адмяніла артыкул Канстытуцыі 1994 года аб адзінай дзяржаўнай беларускай мове і ўвяла так званае двухмоўе. Пачалося выцісканне беларускай мовы з ўсіх сфер дзяржаўнага і грамадскага жыцця мірна-агрэсіўнай русіфікацыяй, самой беларускай дзяржавай, што не магчыма асэнсаваць. Вынік "двухмоўя": на сёння стан беларускай мовы катастрафічны. Беларускі народ на сваёй гістарычна-этнічнай зямлі - адзіны народ сярод народаў былога СССР, які стаў бязмоўны ў сваёй роднай этнічнай беларускай мове. І адзіны народ, які пагадзіўся цярпець шалёную русіфікацыю, што праводзіць дзейная улада пад прыкрыццём смяртэльна-забойчага канстытуцыйнага так званага двухмоўя.

"Наша слова" апошнія гады неаднакратна гаварыла з чытачамі аб трагічным стане беларускай мовы ў Беларусі, уносіла канкрэтныя прапановы па яе выратаванні і выратаванні беларусаў, як нацыі, ад вымірання. Для прыкладу артыкул "За адзіную дзяржаўную беларускую мову" ("Наша слова"№ 13, 25.03.20 г.). Успомніце 13 і 14 з'езды ТБМ, на якіх уносіўся праект "Аб адзінай дзяржаўнай беларускай мове". На дзіва, ён не быў ўключаны ў парадак дня з'езда.

У праекце **" Беларуская мова як адзіная дзяржаўная - галоўны гарант рэальнага суверэнітэту нашай Бацькаўшчыны"** прапаноўвалася (галоўнае):

*" а) аднавіць дзейнасць гістарычных па сваім значэнні законаў аб мовах, прынятых дэпутатамі БССР. Гэта "Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі "Аб мовах у Беларускай ССР"" (26 студзеня 1990 г.), "Пастанова Вярхоўнага Савета Беларускай ССР "Аб парадку ўвядзення ў дзеянне закона Беларускай СССР "Аб мовах у Беларускай ССР"" (26 студзеня 1990 г.) і "Закон "Аб дапаўненні артыкула 68 Канстытуцыі Беларускай ССР"" (26 студзеня 1990 г.);*

*б) альбо у бліжэйшы час прыняць новы Закон аб адзінай дзяр-*

*жаўнай мове - беларускай".*

На жаль, гэты праект (да 13 і 14 з'ездаў ТБМ) ужо сёння стаў гістарычным артэфактам для ацэнкі ролі канстытуцыйнага двухмоўя і нашай (і маёй) дзейнасці-бяздзейнасці ў ТБМ па барацьбе за адзіную дзяржаўную беларускую мову.

Мэта адукацыйна-выхаваўчай працы ТБМ: беларускі народ павінен мець цвёрдае перакананне, што панаванне рускай мовы ў сучаснай Беларусі - гэта не гістарычная непазбежнасць, не добраахвотны выбар рускай мовы нашымі прашчурамі, а вынік свядомай, сістэмнай дзяржаўнай русіфікатарскай палітыкі на працягу больш, чым двух стагоддзяў, ад якой, на вялікі жаль, прэзідэнцкая вертыкаль не адышлі і па сёння.

30 сакавіка 2021 г.

Мікола Савіцкі, прафесар.

## Аб даце 26 студзеня 1990 г. кожны беларус павінен памятаць!

Мінулы 2022 год быў абвешчаны Годам гістарычнай памяці. Адзначаліся розныя юбілейныя даты, падзеі нашай гісторыі. Прапаную памятаць гістарычны, лёсавызначальны Чын дэпутатаў камуністаў 11-га склікання Вярхоўнага Савета БССР 26 студзеня 1990 года.

Мне бачыцца ў сталіцы Беларусі помнік-стэла з прозвішчамі ўсіх дэпутатаў, якія аддалі свой голас за адзіную дзяржаўную беларускую мову. Гэта яны спынілі гістарычны лінгвацыд беларускай мовы і актыўны працэс вымірання старажытнага беларускага этнасу.

26 студзеня 1990 г. Вярхоўны Савет БССР прыняў Закон "Аб мовах у Беларускай ССР" і Закон аб дапаўненні артыкула 68 Канстытуцыі.

У мэтах надання беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай мовы Вярхоўны Савет БССР пастанавіў: *"Дзяржаўнай мовай БССР з'яўляецца беларуская мова. Беларуская ССР забяспечвае свабоднае карыстанне рускай мовай як мовай міжнацыянальных зносін народаў Саюза ССР".*

24.01.2023 г. Прафесар Мікола Савіцкі.

# Пяць акупацый за адно жыццё

Цешуся жыццём я ўжо больш за 80 гадоў. Спыніўся, азірнуўся і жахнуўся. Аказваецца, усё маё жыццё прайшло аж пад пяццю акупацыямі. Не хочацца верыць, але гэта гістарычная праўда.

Светлае неба над Беларуссю і адсутнасць страху я адчуваў толькі 5 гадоў пасля развалу імперыі СССР з 1991 па 1996 год, да адмены Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года і рэферэндуму 1996 года.



*Мікалай Іванавіч Савіцкі, 2015 г.*

А нарадзіўся я ў Заходняй Беларусі, каля самай мяжы, якая па жывому разарвала гістарычна адзіную і вечную тэрыторыю беларусаў. Таму мая класіфікацыя акупацыйных перыядаў пачынаецца з польскай акупацыі.

**ПЕРШАЯ - ПОЛЬСКАЯ (1921-1939)**

Успаміны дзяцінства. Крэсы ўсходнія. Вясна 1938-га ці 1939-га года. З бацькам на кульгавай кабылцы вязём з лесу вецце. Сяджу на возе і баюся

зваліцца. Насустрач нам галопам на жарабцы ў сядле пад'ехаў нейкі гмінны чыноўнік і пачаў крычаць па-польску на бацьку за тое, што ён працуе ў вялікае свята. Цяпер я думаю - гэта было 3 траўня, Дзень Канстытуцыі.

Жарабец узняўся на дыбы, а пан-чыноўнік нагайкай пачаў сцябаць бацьку і лаяцца. Мне так стала страшна, што я абсікаўся. Бацька пачаў бараніцца, пугай пачаў лупцаваць жарабца і нагайка пана не даставала бацькі. У той час я пражыў вялікі страх і адначасова дзіцячы гонар за бацьку. У тым узросце слова "свабода" было невядома мне. Але ж свіст нагайкі і храп уздыбленага жарабца, лаянка на незразумелай мове доўгі час будзілі мяне па начах, тая падзея помніцца на працягу ўсіх пражытых гадоў. Мо паводзіны бацькі і мая радасць за яго і ёсць дзіцячым адчуваннем святога слова "свабода"?



***Бацька Ян Савіцкі, жаўнер Войска польскага***

Як польскім акупацыйным рэжымам знішчалася і разбуралася аснова нацыі - беларуская мова, культура, гістарычная памяць, нацыянальная царква - добра апісана і вядома чытачу.

## ДРУГАЯ - БАЛЬШАВІЦКАЯ (1939-1941)

Чырвоная Армія СССР ноччу ціха перайшла мяжу. Польская стражніца знаходзілася каля нашай вёскі. Мы, дзеці, спалі і ніякіх стрэлаў не чулі. Раніцай прачнуліся і ўбачылі, як людзі неслі маёмасць з кашараў (вайсковая застава). Гэта былі жалезныя ложкі і ўсё іншае, што магло прыдасца ў гаспадарцы. Кашары ноччу згарэлі, а дзе падзеліся польскія жаўнеры, так і засталося загадкай для навакольных жыхароў. Ні жывымі, ні мёртвымі іх ніхто не бачыў. Гаварылі, што напалі на сонных, страляніны не было.

Так пачалася вайна майго дзяцінства. Гэты перыяд навалы з усходу называюць "другія саветы, другія бальшавікі" ("першыя саветы" былі ў

1918-1920 гадах). На жалезным ложку (для сялянскай сям'і таго часу гэта было дзіва-дзіўнае), які прынёс бацька з папялішча кашараў, прайшло наша дзяцінства і юнацтва.

Сялян у калгасы да прыходу немцаў не паспелі сагнаць. Але панскія маёнткі паспелі разрабаваць, знішчыць, а іх гаспадароў звезлі ў Сібір. За адзін дзень з дазволу і пры ўдзеле новай улады разрабавалі маёмасць, гаспадарку паноў і так званых кулакоў.

Пад савецкай уладай я пайшоў у першы клас. У доме пані Буйвіт адчынілі школу. Буквар быў беларускі. Але акупанты-вызваліцелі неслі бальшавіцкі дух і рускую мову. За адну ноч зніклі асаднікі, ляснічыя, паны і польскія чыноўнікі. Былі складзены спісы найбольш гаспадарлівых сялян на вываз у Сібір, але не паспелі.

Гэтую вакханалію спыніла новая вайна. У народзе была гамонка, што бальшавікі ненадоўга прышлі, перачакаем, хутка прыйдуць немцы. Чамусьці людзі не баяліся немцаў, але страшэнна баяліся бальшавікоў. Чаканне было кароткім.

Пачалася новая вайна. Пачалася мабілізацыя. Бацьку прызвалі. З нашай мясцовасці прызыўнікоў збіралі ў Куранец пад Вілейкай. Яшчэ да прыходу немцаў большасць навабранцаў праз некалькі дзён вярнулася ў свае хаты. Не хапала абмундзіравання і іншага вайсковага рыштунку. А гэта значыць, што поўную мабілізацыю ў Заходняй Беларусі бальшавіцкая ўлада не паспела правесці.

## ТРЭЦЯЯ - НЯМЕЦКАЯ (1941-1944)

Мы з цікавасцю дзівіліся на нямецкія самалёты ў небе. У нашым наваколлі аніякіх баёў не было, стрэлаў не чулі. Бальшавіцкія начальнікі зніклі за адну ноч. Пакінутую маёмасць на складах станцыі Зябкі і іншых пунктах людзі разнеслі па сваіх хатах. Гаварылі пра баі за горад Полацк. На другі тыдзень вайны адзінкамі і групамі, туляючыся па кустах і ў лесе з'явіліся, чырвонаармейцы, але не ў вайсковым адзенні і без зброі, а тыя адзінкі, якія былі ў вайсковай форме, прасілі нас даць якое-небудзь сялянскае адзенне, каб пераапрануцца.

Прасіліся на жытло і сялянскую працу. Іх бралі звычайна ў сем'і мужчын, якіх паспелі мабілізаваць. Было лета, і мужчынскія рукі былі запатрабаванымі. Часовая нямецкая ўлада ўзяла іх на ўлік. Некаторыя з іх пасля пайшлі на службу да немцаў, хтосьці - у лес. Так паступова з'явіліся партызаны. Аснова партызанскіх атрадаў была створана праз мабілізацыю. Спачатку ўгаворвалі мірна. Ахвочых не было. Пачалі пагрозамі і сілай

забіраць тых, каму не пашанцавала схавацца.

Была створана нямецкая адміністрацыя. Солтысам (старастам) быў прызначаны селянін Будзько. Увялі падаткі. Я адносіў у патрэбны час яйкі і малако ва ўстаноўлены пункт. Бедным і шматдзетным сем'ям была нейкая палёгка. У нас было тры гектары зямлі. Памятаю дзень, калі частку зямлі пана Кулеша, які ўцёк пры прыходзе бальшавікоў у 1939 годзе, нямецкая ўлада перадала для малазямельных. Якая была радасць! Перачытайце паэму Якуба Коласа "Новая зямля" і адчуеце, што значыць зямля ў жыцці селяніна.

З'явілася як бы двоеўладдзе. Спачатку было ціха. Працягвалася звычайнае жыццё. Партызаны прыходзілі і па-людску прасілі паесці, якое-небудзь адзенне. Потым паступова пачалі прыходзіць ноччу і рабаваць фактычна ўсё. У нас забралі каня, карову, авечак, адзенне, сала. Зімой ежу і хатнія рэчы мы хавалі ў гурбах снегу. Партызаны гэта ведалі і шукалі шомпаламі. Ішла гульня - хто каго перахітрыць. Мы, дзеці, у большасці выпадкаў аказваліся хітрэйшымі. Перад кожным прыходам партызан, як пачынаўся стукат-грукат у дзверы і вакно, мама хутка-хутка, каб выратаваць адзенне, адзявала на нас і на сябе ўсё, што было.



***Маці Надзея з Уліцкіх***

Партызаны заўсёды патрабавалі самагонкі, солі. Каб застрашыць, часта стралялі ў столь. Гэта было дужа жахліва, смярдзеў дым ад стрэлаў. Мы дрыжэлі. Зубы ляскалі ад страху. Ціснуліся да спадніцы мамы.

У 1943 годзе немцы ў нашай ваколіцы спалілі ўсё, што магло гарэць. З факеламі падпальвалі дом за домам. А стрэхі ж былі саламяныя. Аднак жа пачатак падпалам паклалі не немцы, а савецкія партызаны. Пад агонь прызначаліся найлепшыя хаты. Было гэта так. Прыходзілі днём і папярэджвалі, што дом праз дзень-два (давалі канкрэтны тэрмін) будзе спалены, і патрабавалі пакінуць яго. На просьбы-маленні не рэагавалі. На пытанне: "Дзеля чаго будзеце паліць?” - адказ быў такі: "Чтобы немцы не расквартировались на постоянно и не сделали казарму".

У маёй акрузе савецкія партызаны першым спалілі фальварак Гарадок, дзе я нарадзіўся, дзе закапаны мой пуп. Затым паслядоўна запалалі па начах Ясная Горка, Бабуліна, Паўлаўшчына, Двор Стараселле, вёскі Стараселле, Васькавічы. А гэта сеі вёсак у маёй акрузе. Гэта паміж Кублічамі і станцыямі Зябкі і Палевачы.

Партызаны палілі толькі ноччу. Пасля таго, як яны спалілі Паўлаўшчыну, дзе мы жылі, наша сям'я, а гэта 6 чалавек, мусіла вандраваць з вёскі ў вёску, з дома ў дом, дзе нам давалі прытулак. Вось у такой, як успамінаецца, паслядоўнасці: вёскі Лаза, Бортачкі, Казырова, Шамшуры, Кугалеўка, Стараселле і, урэшце, шчаслівы пераезд у сваю адбудаваную хату. Сёння гэтай хаты таксама ўжо няма, дзякуючы пасляваеннай калектывізацыі і камунізацыі Заходняй Беларусі.

Коратка пра школу падчас нямецкай акупацыі. 1 верасня 1941 года школа ў Бабуліне, якую адкрылі бальшавікі ў 1939 годзе, пачала працаваць. Навучанне было на беларускай мове. У класе вісеў партрэт Гітлера. Першы раз прыйшлі партызаны і парвалі партрэт Гітлера. У другі прыход - спалілі будынак школы. Школа перайшла ў суседнюю вёску Чашкі на некалькі месяцаў, пакуль яе таксама не спалілі партызаны. На гэтым маё школьніцтва скончылася аж да 1945 года.

Аднак у хаты сялян траплялі на беларускай мове газеты, часопісы, у тым ліку і гумарыстычныя. Усё друкаванае выклікала вялікую цікавасць у сялянскім побыце. Добра памятаю адзін малюнак і тэкст: у вакно глядзіць дзяўчына. Па вуліцы ідзе хлопец, на яго брэша сабака, пад малюнкам подпіс: "На вуліцы Курта брэша, а да мяне Янка чэша, ці ты Янка, ці ты не, спадабаўся ты мне".

## ЧАЦВЁРТАЯ - ЭСЭСЭРАЎСКАЯ (1945-1991)

У пачатку ліпеня 1944 года з нашай мясцовасці сышлі немцы, а прыйшла Чырвоная Армія. Баёў не было. Пачалася новая, чацвёртая па ліку, акупацыя - СССР. Прышлі "трэція бальшавікі" на маю малую радзіму. Пачаўся перыяд вяртання, хай і ў галечы, у голадзе, да нармальнага чалавечага жыцця. Знік страх як ад савецкай партызаншчыны, так і ад нямецкай нялюдскасці ў барацьбе з савецкімі партызанамі.

У новай камуністычнай уладзе заселі былыя партызаны. Да пачатку 1950-х калгасаў не было. Дазвалялася апрацоўваць столькі зямлі, колькі хто мог. Праз год усе былі пры хлебе. Памятаю, цэлую зіму амаль кожны дзень елі стравы з гароху. Той пах і цяпер адчуваю. Гарох вараны, пражаны і сыры. А якая радасць і шчасце было, калі набылі карову, а гэта малако, а

значыць, зацірка і кашы не на вадзе, а на малацэ. Ну, а скіба хлеба, памазаная маслам і пасыпаная соллю - шчаслівы момант дзяцінства.

Людзі праз некалькі год паступова пабудавалі жытло, развялі ўсялякую жыўнасць. Заспявалі, пачалі ладзіць вечарыны. Але новая акупацыйная ўлада не спала. З кожным годам уводзіліся новыя і павышаліся старыя падаткі. Напрыклад, кожнай сям'і, у якой быў конь, незалежна ад яго фізічных магчымасцяў і наяўнасці адпаведнай амуніцыі, даводзіўся план вывезці за зіму з Чырвонага Бору (побач з Быкаўскімі Бычкамі) на станцыю Зябкі 40 кубаметраў лесу. Даўжыня бярвенняў - 6 м.

У 1951 годзе пачаўся загон у калгас. Збіралі сходы сялян. Агітавалі. Ніхто не згаджаўся. Знаходзілі тых, у каго нічога не было, якія і запісваліся ў калгас. Такая валтузня цягнулася каля года. Але добраахвотнікаў не было. Тады з поля забралі з удзелам міліцыі ўраджай азімых у снапах. У той час я жыў у бабулі Марфы. Яна зжала жыта. Яно на полі стаяла ў бабках. Сонечны дзень. Прыехалі на некалькіх падводах са старшынём сельсавета Шчуцкім, міліцыянтам Віннікам і ўсё да апошняга снапа забралі. Бабуля прасілагаласіла, каб на насенне пакінулі. Забралі ўсё.

Быў супраціў. Мы з хлопцамі адчувалі нават нейкі гераізм у абароне хлебу і бізунамі сцябалі коней, каб яны збочылі ў канаву і перавярнуліся вазы са збожжам. Не ведаю, ці наш вяскова-юнацкі патрыятызм, ці дух дзядоў далі дарослым мужчынам смеласць і мужнасць. Яны на дарозе да створанага калгаснага тока сустракалі вазы са збожжам і скідалі іх у канаву. Так мае землякі баранілі свой хлеб, вынікі сваёй гадавой працы, каб сем'і былі з хлебам.

За гэта селянін Віктар Міцько (трое дзетак) быў асуджаны на 5 гадоў (пракурор патрабаваў 10 год), а Алесь Сяліцкі (бацька чатырох дзяцей) на 1 год (пракурор патрабаваў 5 гадоў). Жонкі адвезлі суддзі і пракурору ўсё сваё "багацце": пярсцёнкі, завушніцы, фамільныя царскія залатыя манеткі, кумпякі, кілбасы, глякі самагонкі і ўсё іншае, на што акупанты былі ласыя.

Мяне таксама хацелі арыштаваць. Арганізавалі лоўлю з удзелам самога старшыні сельсавета. Мне ўдалося ўцячы, я доўгі час хаваўся, пакуль не заціхла хваля "добровольного вступления в колхоз". Кожнай сям'і адмералі па 40 сотак. Пачалася праца за працадні, за палачкі. За год трэба было зарабіць 260 працаднёў.

У Зябкаўскай сямігодцы выкладанне вялося па-беларуску. У Празароцкай СШ матэматыка і фізіка - па-руску (настаўнікі былі не беларусы). У 1953 годзе я закончыў сярэднюю школу. Але дакументы ў ВНУ ад дзяцей сялян прымаліся толькі пры наяўнасці пашпартоў, якіх мы не мелі. Каб атрымаць пашпарт, першапачаткова трэба было атрымаць ад старшыні



***Зябкаўская школа, 7-ы клас, 1950 г.***

калгаса "справку-отпускную".

Дзеля гэтай даведкі маці цэлы год залагоджвала старшыню чым магла, а ён даволі часта заязджаў да нас з мясцовым міліцыянтам выпіць самагонкі і смачна паесці. Аднойчы маці паставіла сала на закуску. Міліцыянт Віннік кажа: "У мяне ад сала жывот баліць, давай каўбасы і кумпяк". Мы і да гэтага чацвёра дзетак, я самы старэйшы, рэдка бачылі каўбасы, а пасля яны і наогул зніклі. Усе гэтыя "далікатэсы" маці трымала да наступных заездаў-прыездаў старшыні і яго світы.

Якое ж было шчасце ў нашай сям'і, калі маці атрымала тую даведку, якая давала магчымасць атрымаць мне пашпарт. Ехаў я на падножках цягніка (не было грошай на квіток) са станцыі Зябкі да райцэнтра Падсвілле з адчуваннем свабоды і са слязьмі радасці і гонару



***Мікола Савіцкі, маладыя гады***

за маму, за родных. "Я змагу вучыцца ў інстытуце", - гэта ўнікальнае пачуццё, гэта шлях да свабоды.

У сталым веку першую асалоду ад пачуцця свабоды адчуў на Дзяды ў 1988 годзе, калі людзей міліцыя прыціснула да сцяны-агароджы магільніка на маскоўскай шашы і Зянон Пазьняк нейкім цудам узняўся так высока, што быў бачны ўсяму люду, і заклікаў ісці на Курапаты. Пераадолеўшы страх перад выгнаннем з працы, пераследам родных і іншае - я адчуў сябе ў першы раз свабодным. Калі калону мінчукоў Зянон Пазьняк па абставінах завярнуў у поле і людзі сталі на калені, каб бачыць прамоўцаў, я ўпершыню ў сваім жыцці ўбачыў бел-чырвона-белы сцяг, - у мяне пацяклі слёзы радасці, шчасця і свабоды.

## ПЯТАЯ - СУЧАСНАЯ

За пяць гадоў Адраджэння на пачатку 1990-х гадоў былі закладзены прававыя, духоўныя і маральныя асновы сучаснай беларускай дзяржаўнай незалежнасці. Камуністычны Вярхоўны Савет прыняў Закон аб мовах, надаў адзінай беларускай мове статус дзяржаўнай. Выхаваўча-вучэбны працэс у сістэме адукацыі ад дзіцячых садкоў да ўніверсітэтаў пераадолеў псіхалагічны бар'ер пераходу да жыцця ў беларускамоўным асяроддзі. Грамадская супольнасць мела і бачыла ясную перспектыву. Я цешыўся, што мае ўнукі будуць вучыцца на роднай беларускай мове.



*За незалежнасць, 1990-я гады*

І ў гэты час здыхаючая Расейская імперыя знайшла сілы, каб ачуняць. У 1996 годзе адмяняецца Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь 1994 года. Пачалася і працягваецца ў канстытуцыйна незалежнай, суверэннай Беларусі татальная духоўная акупацыя. Амаль імгненна (у гістарычным вымярэнні) адабралі ў народа родную, богам дадзеную, беларускую мову, знішчылі беларускамоўную сістэму выхавання і навучання.

Мова - душа народа. Адабралі душу. Знішчаецца нацыянальная культура, гістарычная памяць народа,

фальсіфікуецца наша гісторыя. Што гэта, калі не акупацыя? І пры гэтым дзяржаўныя ідэолагі, кіраўнік Беларусі гавораць аб нейкім патрыятызме, нават аб нацыянальнай ідэі.

Марксізм-ленінізм вучыў мяне, што краіна тады не свабодная і знаходзіцца пад акупацыяй, калі на яе зямлі стаіць хаця б адзін бот салдата іншай дзяржавы. А ў нас? Не толькі салдацкія боты, а стратэгічныя аб'екты Расійскай Федэрацыі, а цяпер яшчэ і стратэгічная авіяцыя.

З пяці маіх арыштаў і шматлікіх затрыманняў за ўдзел у акцыях у абарону свабоды і незалежнасці, самая памятная першая - 4 студзеня 1995 года. У той дзень амапаўцы напалі на групу падпісчыкаў на газету "Свабода", якія сабраліся перад Домам ураду з патрабаваннямі свабоды друку. Суддзя Ванькові прысудзіў мне 5 сутак арышту. Гэта быў першы арышт і першае "асваенне" на сёння вядомага спецутрымальніка на Акрэсціна. У мяне быў адзіны сродак пратэсту супраць незаконнага затрымання і арышту - галадоўка. Па-добраму ганаруся тым, што сярод змагароў за незалежнасць Беларусі я стаўся наведвальнікам Акрэсціна пад нумарам адзін. Там я адчуў духоўна свабоду на палітычным узроўні.

Сапраўднае хрышчэнне на годнасць змагара за свабоду атрымаў 24 сакавіка 1996 года. 78-я ўгодкі абвяшчэння незалежнай БНР прайшлі ў Мінску грандыёзна і драматычна. Акцыя каля плошчы Незалежнасці, мітынг каля Опернага тэатра, супрацьстаянне перад будынкам тэлецэнтра, пакуль вяліся перамовы прадстаўнікоў мітынгу з кіраўнікамі тэлевізіі. А




***Мікола Савіцкі, Анатоль Грыцкевіч, Артур Вольскі, Васіль Быкаў***

напрыканцы акцыі ў той дзень, упершыню пасля мітынгу на Дзяды 1988 года, была ўжыта сіла супраць безабаронных беларусаў. На скрыжаванні вуліцы Камсамольскай з праспектам Скарыны людзей зноў білі. Побач з раскіданымі кветкамі з'явіліся плямы крыві. Там я быў знявечаны і атручаны газамі. Судзіўся з Міністэрствам унутраных спраў: спагнаць расходы на лячэнне, маральныя страты і шкоду. Беспаспяхова.

Сёння тое цяганне па судах усіх інстанцый з зыскам да МУС асабіста ацэньваю як добры выхаваўчы прыклад, асабліва для моладзі, прыклад змагання за свабоду ў асабістым і грамадска-палітычным сэнсе.

Разумею, што кімсьці буду ўспрыняты нясціплым, але і сёння, пасля пазбаўлення ў 2001 годзе працы прафесара па моўнай і нацыянальнай прыкмеце, страты студэнцкай аўдыторыі, я не шкадую аб пражытым.

Свабода - гэта шчасце. Шчасце - гэта свабода. Страх - спадарожнік і вораг свабоды. Пераадолеем страх - будзем свабоднымі і станем шчаслівымі. Але падмуркам усяго гэтага ёсць глыбокае пачуццё нацыянальнай годнасці і гістарычнай свядомасці ...

## Мая свабода

Заходняя Беларусь. Крэсы. Ранняя вясна 1938-га ці 1939-га года. З бацькам на кульгавай кабылцы вязём з лесу галлё. Сяджу на возе і баюся зваліцца. Насустрач нам галопам на жарабцы ў сядле пад'ехаў нейкі гмінны чыноўнік і пачаў крычаць па-польску на бацьку, што ён працуе ў вялікае свята. Цяпер я думаю - гэта было 3 траўня, дзень канстытуцыі. Жарабец становіцца на дыбы, а пан-чыноўнік нагайкай пачаў сцябаць бацьку і лаяцца. Мне так стала страшна, што я абсікаўся. Бацька пачаў бараніцца, пугай пачаў лупцаваць жарабца, і нагайка пана не даставала бацькі. У той час я перажыў вялікі страх і адначасова нейкую радасць, гонар за бацьку. У той час і ў тым узросце сучаснае слова ***свабода*** было невядомае ні мне, ні бацьку. Але ж свіст нагайкі і храп уздыбленнага жарабца і лаянка на польскай мове доўгі час будзілі мяне па начах, і тая падзея помніцца на працягу 70-ці пражытых гадоў. Мо паводзіны бацькі і мая радасць за яго і ёсць дзіцячым адчуваннем святога слова ***свабода***.

Свабода і страх у жыццёвых абставінах ідуць поруч. Каб адчуць свабоду ў адказны момант трэба пераадолець, перамагчы страх. Свабода ёсць вынік задушэння страху.

* * *

1953 год. Закончана сярэдняя школа. Дакументы ў ВНУ ад дзяцей

сялян прымаюцца толькі пры наяўнасці пашпарта. Каб атрымаць пашпарт, першапачаткова трэба атрымаць ад старшыні калгаса "справку-отпускную". Каб яе мець, цэлы год маці залагоджвала старшыню, чым магла, а ён даволі часта заязжаў да нас з мясцовым міліцыянтам пабаляваць. Аднойчы маці паставіла сала на закуску. Міліцыянт кажа: "У мяне ад сала жывот баліць, давай каўбасы і кумпяк." Мы і да гэтага чацвёра дзетак, я самы старэйшы, рэдка бачылі каўбасы, а пасля такой чыноўнічай шляхетнасці і зусім не бачылі на стале - маці ўсе "дэлікатэсы" трымала да наступных заездаў-прыездаў старшыні і яго світы. Тое лета ў нас была толькі адна авечка. Яна і не памятаю, што яшчэ, - усё пайшло на "справку". Якое ж было шчасце ў нашай сям'і, калі маці атрымала "справку", якая давала магчымасць атрымаць мне пашпарт. Ехаў я на падножках цягніка (не было грошай на квіток) са станцыі Зябкі да райцэнтра Падсвіля з адчуваннем свабоды і слязьмі радасці і гонару за маму, за родных. "Я змагу вучыцца ва ўніверсітэце", - гэта ўнікальнае пачуццё, гэта шлях да патрыятычна асэнсаванай свабоды.

* * *

Масква, 1959-1963 гады, аспірантура, бібліятэка імя Леніна. Сёння не магу патлумачыць, чаму я кожны дзень, апроч спецыльнай літаратуры, заказваў том Я. Коласа з паэмай "Новая зямля". Бібліятэкары ведалі гэта і з цягам часу аўтаматычна выдавалі як дадатак да заказанай літаратуры і "Новую зямлю". Чытаў паэму ў часы бібліятэчнага адпачынку. Можа, беларуская класіка была духоўна-беларускай падсвядомай падтрымкай маёй душы ў родным, беларускім. Мабыць гэта і было праявай адчуванння свабоды?

* * *

У сталым веку першую асалоду ад пачуцця свабоды адчуў на Дзяды у 1988 годзе, калі людзей міліцыя прыціснула да сцяны-агароджы магільніка на маскоўскай шашы і З. Пазьняк нейкім цудам узняўся так высока, што быў бачны ўсяму люду і заклікаў: "Ідзём на Курапаты". Пераадолеўшы страх - выгнанне з працы, пераследу родных і іншае - я адчуў сябе ў першы раз свабодным. Калі калону мінчукоў З. Пазьняк па абставінах звярнуў у поле, і людзі сталі на калені, каб бачыць прамоўцаў, я ўпершыню ў сваім жыцці ўбачыў бел-чырвона-белы сцяг, - у мяне пацяклі слёзы радасці, шчасця і свабоды.

* * *

З пяці арыштаў за ўдзел у акцыях у абарону свабоды і незалежнасці

самая памятная першая. 4 студзеня 1995 года у Менску была праведзена жорсткая паліцэйская акцыя: чатыры ўзводы амонаўцаў пад кіраўніцтвам падпалкоўніка Французава напалі на группу людзей, якія сабраліся перад Домам ураду з патрабаваннямі свабоды друку. Судзя А. Ваньковіч прысудзіў мне 5 сутак арышту. Гэта быў першы арышт і першае "асваенне" на сёння вядомага спецутрымальніка на Акрэсціна. У мяне быў адзіны сродак пратэсту супраць незаконнага затрымання і арышту - галадоўка. Па-добраму, па-патрыятычнаму ганаруся тым, што стаў першым наведвальнікам Акрэсціна сярод змагароў за незалежнасць Беларусі. Там я адчуў духоўна свабоду на палітычным узроўні.

* * *

Сапраўднае хрышчэнне на годнасць змагара за свабоду атрымаў 24 сакавіка 1996 года. 78-я угодкі абвяшчэння незалежнай БНР прайшло ў Менску грандыёзна і драматычна. Ужо прайшла акцыя каля плошчы Незалежнасці, мітынг каля опернага тэатра, супрацьстаянне перад будынкам Тэлецэнтра пакуль вяліся перамовы прадстаўнікоў мітынга з кіраўнікамі тэлевізіі, і ў канцы акцыі - пабоішча на скрыжыванні вуліцы Камсамольскай з праспектам Скарыны. Людзей зноў білі і труцілі газам. Побач з раскіданнымі кветкамі з'явіліся плямы крыві. Упершыню з многім памятнага мітынгу на Дзяды 1988 г. была ўжыта ў вялікіх маштабах сіла супраць безабаронных беларусаў. Там я быў знявечаны і атручаны газамі. Судзіўся з Міністэрствам унутранных спраў: спагнаць расходы на лячэнне, маральныя страты і шкоду. Зразумела, безпаспяхова. Сёння цяганне па судах усіх інстанцый з зыскам да МУС асабіста ацэньваю як добры выхаваўчы прыклад, асабліва для моладзі, змаганне за свабоду ў асабістым і грамадскапалітычным сэнсе.

Разумею, што кімсьці буду ўспрыняты нясціплым, але і сёння, пасля пазбаўленння працы прафесара па моўнай і нацыянальнай прыкмеце, страты студэнтскай аўдыторыі, я не шкадую аб адбыўшымся. У гады духоўнай і інтэлектуальнай актыўнасці для прафесара самая вялікая кара - гэта не пусціць яго ў аўдыторыю студэнтаў.

Свабода - гэта шчасце. Шчасце - гэта свабода. Страх - спадарожнік і вораг свабоды. Пераадолеем страх - будзем свабоднымі і станем шчаслівымі.

Травень 2004 г.

Прафесар з забаронай на прафесію
па моўнай і нацыянальнай прыкмеце з 2001 г.
Мікола Савіцкі.

## Чалавек, які стаў героем у маім жыцці

Дзяцінства і юнацтва - самае светлая пара ў летапісе радаводу асобнага чалавека і яго сям'і. Але ж калі гэты райскі перыяд жыцця прыпадае на ваеннае ліхалецце, калі ты жахі вайны пазнаеш не толькі па кніжках, а сам бачыш яе нялюдскасць і адчуваеш штодня фізічна і духоўна звераеднасць, нялюдскасць акупантаў і з захаду, і з усходу, то і вобраз чалавека-героя фармаваўся ў цябе па-асобаму. Звычайна мы шукаем і знаходзім герояў сярод літаратурных персанажаў, гістарычных постацей. Я ж свайго галоўнага героя на ўсё жыццё знайшоў, як птушаня, у сваім дзіцячым гняздзечку, у сваёй сям'і. Імя майго героя - Мама.

А было гэта так. Глыбоччына. Заходнія крэсы. У 1941 годзе пачалася вайна з немцамі. Для жыхароў Заходняй Беларусі вайна фактычна працягвалася, бо яна пачалася бальшавікамі ў верасні 1939 года. Бальшавікі паспелі толькі разрабаваць маёмасць багатых сялян, вывезці ў Сібір асаднікаў і паноў-кулакоў. Тыя, каго "вызвольная" ўлада пакінула ў спакоі, працягвалі жыць-пажываць, але баючыся дабра нажываць.

Лета 1941 года прайшла агульная мабілізацыя мужчын. Чамусьці павесткі аб прызыве ў Чырвоную Армію раздавалі ноччу. Зрэдку ў небе гулі самалёты. Усе гаварылі, што пачалася вайна, але ніякага войска мы не бачылі, страляніны не было. Быў час нейкага трывожнага зацішша. Затым па палях і кустах, крадучыся, ішлі па-аднаму і купкамі маладыя мужчыны. Пачалі гаварыць, што гэта чырвонаармейцы. Некаторыя з іх прасілі яду, вопратку. Іх ніхто не даганяў. Ні ў аднаго не было зброі. Большасць з іх былі ў цывільных лахманах. Немцаў яшчэ не было. Толькі праз некалькі дзён на дарозе з'явіліся першыя нямецкія салдаты адначасова з палоннымі чырвонаармейцамі, якія ішлі па пыльнай дарозе. У некаторых калон палонных чырвонаармейцаў не бачна было ні пачатку ні канца.

Паявіліся першыя немцы, Іх было мала, і нам было цікава іх убачыць. Бегалі спецыяльна на станцыю Зябкі (чыгунка Маладзечна - Полацк). Нямецкія салдаты частавалі нас круглымі цукеркамі. Затым наступіла цішыня. З год працягвалася мірнае жыццё ваеннага часу. За гэты час у многіх сем'ях засталіся жыць чырвонаармейцы. Нямецкая ўлада імі не цікавілася. Пазней, раз у тыдзень яны павінны былі ў гміне адзначацца. За харчы чырвонаармейцы дапамагалі сялянам па гаспадарцы. Потым немцы прызвалі іх да сябе на службу: хто пайшоў да немцаў, а хто - ў лес. У хатах сялян іх не стала, зніклі.

Пайшла гаворка аб нейкіх партызанах у лясах Каравайна і ў Чырвоным бары (побач з вёскай Бычкі - радзіма Васіля Быкава). Пачалі з палёў

прападаць авечкі, каровы і іншая жыўнасць, затым - коні. А праз год пачаліся пажары. Партызаны спальвалі лепшыя дамы ў вёсках. У нашай акрузе ў радыўсе 4-5 кіламетраў, якая ўкладвалася і ўспрымалася тады ў маёй дзіцячай галаве, як сусвет, першым партызаны спалілі фальварак Гарадок. Там я нарадзіўся, там закапаны мой пуп. У тым доме жыла сям'я майго роднага дзядзі: двое дзетак, адно грудное. Другой была спалена вёска Ясная Горка, трэццяй - Паўлаўшчына, дзе жыла наша сямейка, чацвёртай - Стараселле, пятай - панскі двор Стараселле (туды пераехала сям'я дзядзі з Гарадка), шостай - Бабуліна, сёмай - Васькавічы. Дзеля гістарычнай справядлівасці і дакладнасці трэба сказаць, што палілі не падчыстую, а самыя лепшыя, самыя прыгожыя дамы. З якой мэтай? Каб не прыехалі нямецкія салдаты і не спыніліся ў лепшых дамах. Падчыстую, усё, што магло гарэць, згарэла ў час блакады партызан.

Перад тым як спаліць дом, партызаны папярэджвалі жыхароў аб гэтым і давалі нейкі тэрмін для высялення. Былі і зрывы ў дзеяннях партызан-падпальшчыкаў. Так, перад тым, як спаліць Паўлаўшчыну, партызаны папярэдзілі: "Через час будем палить, выселяйтесь", - але напароліся ў ваколіцах на немцаў, пачалася страляніна, і, уцякаючы ад немцаў, тут жа падпалілі нашу хату і яшчэ трох сем'яў, і мы з маці нічога не паспелі вынесці з хаты. Засталіся, як кол у полі, гол як сакол. Усё жыццё перад вачыма бачу, як гарыць наша хатка і вобраз мамы ў роспачы і бездапаможнасці, а пасля пажару - печка, комін і мама.

Пасля пажару пяць сямей жылі ў маленькай хаце Сямёна, якая ўцалела ад пажару. У мамы нас было чацвёра падшыванцаў. Я самы старэйшы. Мне было 8 ці 9 гадоў. Па начах пачаліся, спачатку рэдкія, набегі партызан. Прасілі адзення, ежы. З цягам часу начныя набегі станавіліся ўсё часцейшымі і страшнейшымі. Перасталі прасіць, а пачалі патрабаваць, рабаваць. Спачатку забралі кабылку, потым кароўку, а затым і парсюка. З наступленнем халадоў забралі кажух, валёнкі (вайлакі) і іншую цёплую вопратку. У той час ноч стала пеклам. Ноч, у якую "начныя госці" не прыходзілі рабаваць, мы лічылі раем.

Дык дзе ж геройства чалавека, які стаў героем у маім жыцці? А яно ў вельмі простым, прыземленым. Пачаліся начныя бандыцкія рабаванні і разбоі. Забіралі ўсё, што можна адзяваць і есці. Часта ў хаце стралялі ў столь, патрабуючы самагонкі, сала. Кожная ноч чакалася са страхам. Каб захаваць неабходныя лахманы, кладучыся спаць, мама надзявала дадатковае адзенне, што на сябе, што на нас. Як толькі пастукаюць ноччу ў акно, маму і нас дзяцей пачынала калаціць ад страху, аж зубы ляскалі. Мама нас усіх гарнула да сябе, як птушка, баронячы сваіх дзетак ад каршуна. Вобраз

партызана-разбойніка і мамы-выратавальніцы досыць часта шмат гадоў бачыўся мне ў сне. Як пачыналі шукаць сала, самагонкі, мы чацвёра абаронцаў мамы, сябе, майго роду і беларускага народа станавіліся вакол спадніцы маці і вядома ж плакалі. На ўсё жыццё дух і цяпло спадніцы маці саграваe і ахоўвае мяне.

Узімку, а яны былі (па дзіцячай памяці) вельмі снежнымі, мы - дзеці рабілі ў снежных гурбах норы і хавалі там усё тое, што маглі ноччу забраць "начныя госці". Але ж і яны былі разумныя. Лазілі па гурбах, калолі шомпаламі, шукаючы схаванае. Адбывалася, як цяпер кажуць, спаборніцтва паміж намі, мальцамі, і партызанамі: мы хавалі, а яны шукалі. Якая ж радасць была, калі пасля начнога набегу і перакопвання снежных гурбаў, схаваны намі скарб заставаўся на месцы.

Пасля партызанскага пажару (бессэнсоўнага спалення дома) наша сям'я пераязджала з вёскі ў вёску ў пошуку прытулку. Знайсці яго было вельмі цяжка для сям'і з малымі дзецьмі. Кругом пагарэльцы. Маршрут нашай сям'і такі: дом Сямёна ў Паўлаўшчыне (жыло пяць сямей) - вёскі Лаза - Бортачкі - Зарамкова - Шамшуры - Кугалеўка - Стараселле. Пасля вайны сваю хатку пабудавалі толькі ў 1950 годзе. У наш час гэтых вёсак няма. Пасля калектывізацыі цяпер там поле, якое зарасло кустоўем. Вёскі Гарадок, Ясная Горка, Стараселле (панскі двор) так і не адрадзіліся пасля вайны . Іх назваў няма і ў Хатыні. У час блакады 1943 года немцы спалілі суседнюю вёску Шарагі і 150 сагнаных людзей ў пуні. Імя гэтай вёскі таксама няма ў Хатыні. Яны ў памяці толькі тамтэйшых жыхароў. Ацалелыя дамы ад партызан і ўсё, што магло гарэць, было дапалена немцамі падчас блакады партызан ранняй вясной 1943 года.

Наша вёска знаходзілася за 4 кіламетры ад месца так званага партызанскага "Прарыву" (дарога Ушачы -Зябкі). У час блакады 1943 года мама нас выратавала, захавала жыццё. Пасля вайны, нягледзячы на галечу, дала магчымасць траім атрымаць вышэйшую адукацыю.

Толькі перажытага ў час так званай партызаншчыны ў вайну з немцамі дастаткова, каб я называў сваю маму Надзею чалавекам у якасці мадонна-гераічнага вобразу. А была ж пасляваенная галадуха і голад 1946-1947 гг. разам з братамі-ўкраінцамі. У пяць пасляваенных год да калектывізацыі пабудавалі сваю хату пяцісценку. Так і не дабудавалі. Жылі толькі ў адной палове. Мама так і прадала недабудаванае наша пасляваеннае гняздо. Яды - удоваль. А ў 1950 годзе ўсё абагулілі. Калгас. Адразу ўзнікла праблема нарыхтоўкі сена на зіму для кароўкі. Сенакосу не давалі. Аднойчы маці несла на плячах вязку саломы, якую нагрэбла пасля жніва на сваім ржышчы, як яна лічыла. Пасевы абагулілі і не дазволілі сялянам зняць

ураджай. Сваё стала калгасным. Яе сустрэў старшыня калгаса. Ездзіў у брычцы на добрым кані. Пашкадаваў, адмалілася, адпрасілася. І як праяву "вялікадушша" прымусіў маці пакласці салому на дарозе, сходзіць дамоў па сярнічкі і спаліць яе. Дзеля нас, дзеля дзетак мама вымушана была падпарадкавацца і спаліць салому. Для селяніна, які сфармаваўся ва ўмовах мізэрнай уласнасці (тры гектары зямлі), падобная дзея ўспрымаецца як вялікі грэх.

Падобнае ў той час перажылі тысячы сем'яў, і ўсе мамы гэтых сем'яў - таксама мадонны-гераіні маёй роднай шматпакутнай Беларусі. Іх вобраз быў, ёсць і будзе ў вечнасці нашчадкаў!

Люты 2005 год. Прафесар Мікола Савіцкі.

## Да 60-годдзя Міколы Савіцкага

**(вынятка з артыкула газеты "Наша слова", № 5, 1994 г.)**

Ганарымся! Захапляемся! Зайздросцім!

*"Плённую навукова-педагагічную дзейнасць прафесар Мікола Савіцкі ўдала спалучае з актыўным удзелам у культурна-грамадскім жыцці. Ён першы ў незалежнай Беларусі пачаў выкладаць інфарматыку і вылічальную тэхніку на беларускай мове. А пазалетась выпусціў "Руска-беларуска-ангельскі слоўнік па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы". Адзначым, што аналагаў падобнаму выданню няма.*

*У 1991 годзе М.І. Савіцкі абіраецца старшынём сталічнай арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны. Яго дзейнасць на гэтай пасадзе вызначаецца прынцыповасцю і дзелавітасцю, актыўнай работай па адраджэнні беларускай нацыянальнай культуры і роднай мовы. І ў тым, што беларускасць у нашай сталіцы паступова пашыраецца, ёсць заслуга і Міколы Савіцкага. Па вострых пытаннях нацыянальнага Адраджэння ён часта выступае ў друку, на радыё, удзельнічае ў навуковых і навукова-практычных канферэнцыях, дзе разглядаюцца праблемы нацыянальнай культуры, навукі і адукацыі. На грамадскіх пачатках прафесар Мікола Савіцкі ўзначальвае рабочую групу Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны.*

*А ўсе, хто асабіста ведае Міколу Іванавіча, перакананы, што гэта просты ў абыходжанні, шчыры і сардэчны, добразычлівы чалавек, невычэрпная энергія якога ў ажыццяўленні ідэалаў нацыянальнага Адраджэння Бацькаўшчыны проста зачароўвае. За гэтыя свае цудоўныя якасці ён па заслугах карыстаецца вялікім аўтарытэтам і павагай*

*самых розных людзей"*

Сакратарыят ТБМ імя Ф.Скарыны,
Рэдакцыя газеты "Наша слова".

## Прысвячэнне прафесару Міколу Савіцкаму:

**Надрукавана ў газеце "Наша слова" № 5, 1994 г.**

"... І прыміце ў падарунак гэты акраверш. P.S. У акравершы звярніце ўвагу на першыя літары паэтычных радкоў. Прачытаеце два словы: Савіцкаму Мікалаю". Аўтар акраверша Мікола Лавіцкі.

**Малітва за Беларусь**

**С**вяты Божа - святы Бессмяротны!
**А**хавай незалежны наш край.
**В**ечна квітнее хай кут гэты родны
**І** чужынцу яго ў палон не аддай.
**Ц**ерпялівы народ давялі да галечы,
**К**аб з каленак век не паўстаў беларус,
**А**бдзелены лёсам і з мовай знявечнай,
**М**усіў імкнуцца ў расійскі хаўрус.
**У**стрымай жа ад гэтай спакусы,
**М**агутны Сусвету Уладар,
**І** моцы, і розуму дай беларусу,
**К**аб быў сам сабе гаспадар.
**А**свяці, Усявышні, шлях нашай Пагоні -
**Л**яціць хай ваяр наўздагон,
**А**д вырадкаў, ворагаў нас абароніць,
**Ю**ду ж спаткае праклён.

**Кафедра інфармацыйных тэхналогій**

**Рэктару Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта прафесару Карсека Р.М.**

**З А Я В А**

10 верасня 2001 г.

На Ваша імя 10 жніўня 2001 г. я звярнуўся з заявай наступнага зместу (у канцы жніўня адбылася асабістая размова з Вамі, у час якой Вы сказалі

"не магу пакуль нічога сказаць, будзем глядзець"). Прывожу тэкст заявы ад 10 жніўня.

"Прашу Вас прадоўжыць са мной працоўны кантракт на 0,5 стаўкі прафесара на новы 2000-2001 навучальны год.

Рашэнне рэктарата (ксеракопія дадаецца) аб аб'яўленні конкурсу на пасаду прафесара па кафедры і адначасная адмова мне ў сувязі з гэтым ў перазаключэнні кантракту на наступны навучальны год - гэта два самастойныя, не звязанныя паміж сабой, пытанні. Прапанову мне заняць на 5 год пасаду прафесара кафедры лічу нямэтазгоднай і не матывавананай (з улікам майго ўзросту).

Асноўныя дадзеныя аб выніках маёй навукова-метадычнай дзейнасці за апошнія 5 год:

- у 1996 г. выдадзена кніжка "Эканамічная інфарматыка і вылічальная тэхніка", 17 ум. друк. арк.;

- у 2000 г. выйшла з друку кніжка (вучэбны дапаможнік) аб'ёмам 8,4 ум. друк. арк.;

- у 2001 г. за мяжой (Расія) выдадзены першы ў Беларусі вучэбны дапаможнік па новаму прадмету "Технология организации, хранения и обработки данных" у поўнай адпаведнасці з тыпавой праграмай; аб'ём 14 ум. друк. арк.;

- праблемы і вынікі па бюджэтнай тэме кафедры дакладваў на 18-ці міжнародных, дзяржаўных і рэгіянальных канферэнцыях;

- надрукаваў дзесяткі артыкулаў, тэзісаў.

Сёння я знаходжуся ў актыўнай фізічнай і інтэлектуальнай форме - завяршаю падрыхтоўку да выдання новай кнігі "Асновы эканамічнай інфарматыкі", 20 аўт. аркушаў, якая выйдзе ў свет у 2002 г. Лічу, што я магу яшчэ быць эфектыўна карысным маёй alma-mater."

31 жніўня Вы ў прысутнасці першага прарэктара С. Гурко сказалі, што заяву перадалі загадчыку кафедры са сваёй рэзалюцыяй. У той жа дзень мяне прыняў па маёй просьбе заг. кафедры праф. А. Маразевіч. З Вашай рэзалюцыяй я не быў азнаёмлены. Ніякай канкрэтнай пазіцыі загадчык не акрэсліў, але я зразумеў яго так, што рашэнне будзе станоўчым. Аднак 6 верасня атрымаў заказны ліст ад 30.08.2001 г. за № 05/1415 наступнага зместу: *"В связи с Вашим увольнением просим прибыть в отдел кадров университета за трудовой книжкой"*.

Прашу Вас даць мне пісьмовы адказ (вусна ніхто нічога канкрэтна не гаварыў) на маю пісьмовую заяву ад 10.08.2001 г.: па якіх матывах мяне прафесара (з дыпломам) з маімі вынікамі працы, якія коратка прыведзены

ў заяве, пазбавілі магчымасці працягваць актыўную і эфектыўную выхаваўча-вучэбную і навукова-метадычную працу. Думаю, спасылка на мой пенсійны ўзрост у параўнанні нават з дацэнтамі майго ўзросту, якія працягваюць працаваць, не гаворачы аб прафесуры ўніверсітэта, не можа быць матывам.

Савіцкі Мікалай Іванавіч.

## Факталагічны матэрыял для гісторыкаў

Паважаны рэдактар і чытачы "Нашага слова", выказваю сардэчную падзяку за ўвагу да майго юбілею, за добрыя словы надрукаваныя ў № 4, 2004 г. Дыскусія прафесароў А. Саламонава і П. Касцюковіча (НС, № 18, 2004 г.) закранула вельмі балючыя пытанні для кожнага сумленнага грамадзяніна Беларусі. У краіне пануе страх. Прыводжу прыклад страху. Мае былыя калегі па кафедры звярнуліся з лістом да высокіх асоб у вышэйшай школе наступнага зместу:

"Рэктару БДЭУ прафесару В.М. Шымаву.

Рэдактару газеты "Эканаміст" А.Ц. Кучко.

Просьба апублікаваць віншаванне з нагоды юбілея праф. М. Савіцкага.

***Віншуем юбіляра***

*4 лютага спаўняецца 70 гадоў прафесару Міколу Савіцкаму, ужо быломy выкладчыку універсітэта, якому ён аддаў амаль 40 гадоў свайго жыцця. Навуковае званне прафесара па кафедры "Вылічальныя машыны і праграмаванне на ЭВМ" яму прысвоіў у 1982 г. ВАК СССР. З'яўляецца першым кандыдатам навук па машыннай апрацоўцы эканамічнай інфармацыі ў Рэспубліцы Беларусь. Ён быў стваральнікам і арганізатарам новай у той час кафедры "Механізацыя ўліку і вылічальная тэхніка" (1965 г.), загадчыкам якой працаваў амаль дваццаць год. Быў дэканам вячэрняга факультэта. Падрыхтаваў чатырох кандыдатаў навук. Надрукаваў больш за 100 навуковых прац агульным аб'ёмам 360 выд. арк. і шэраг публіцыстычных артыкулаў па пытаннях адраджэння беларускай мовы і культуры.*

*Ён унёс значны ўклад у падрыхтоўку навукова-метадычнай літаратуры па эканамічнай інфарматыцы, якая атрымала прызнанне грамадскасці вышэйшай школы і сярэдніх спецыяльных устаноў былога СССР. У сваёй галіне ведаў ён першым стварыў комплекс навукова-метадычнага забеспячэння вучэбнай дысцыпліны "Вылічальныя машыны і праграмаванне" для эканамічных ВНУ і факультэтаў. Аднайменны*

*падручнік з грыфам міністэрства адукацыі вытрымаў два выданні (1973, 1980 гг., 29 выд. арк.). Аўтар першай тыповай праграмы курса "Машынная апрацоўка эканамічнай інфармацыі ў галінах народнай гаспадаркі", зацверджанай Мінадукацыяй СССР, і першага вучэбнага дапаможніка з грыфам па гэтай дысцыпліне (М.: Статистика, 1979, 15 выд.арк.). Выдаў падручнік для тэхнікумаў з саюзным грыфам "Техника вычислений и механизация учета", які вытрымаў тры выданні (М.: Статистика, 1969, 1974, 1979 гг., 17 выд.арк.).*

*Адзін з піянераў у распрацоўцы навукова-метадычных асноў для развіцця беларускамоўнай навуковай тэрміналогіі па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы. Аўтар першых "Руска-беларуска-англійскі слоўнік па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы" (1992 г.), вучэбных дапаможнікаў на беларускай мове па аднайменных вучэбных прадметах "Эканамічная інфарматыка і вылічальная тэхніка" (1996 г.), "Тэхналогіі арганізацыі, захоўвання і апрацоўкі звестак" (2000 г.). Адзін з першых ў незалежнай Беларусі пачаў выкладаць інфарматыку і вылічальную тэхніку па-беларуску. На грамадскіх пачатках узначальваў рабочую Камісію Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны.*

*Пасля развітання з універсітэтам за два апошнія гады падрыхтаваў і надрукаваў за мяжой (у Расіі) вучэбныя дапаможнікі для студэнтаў ВНУ у поўнай адпаведнасці з тыповай праграмай "Технологии организации, хранения и обработки данных" (2001 г.) і з грыфам Мінадукацыі Расіі "Экономическая информатика" (2003 г.).*

*16.01.2004 г. Дацэнт Г.П. Рэйлян".*

Прапаную сучасным чытачам і гісторыкам, якія будуць вывучаць Адраджэнне Беларусі на пераходзе ад 20 да 21-га стагоддзя знайсці нешта "крамольнае" аб нацыянальна-свядомым, беларускамоўным прафесары, што нельга ведаць 30-ці тысячам студэнтаў і выкладчыкаў маёй альма-матэр БДЭУ.

Пераадолеем страх - будзем свабоднымі і станем шчаслівымі. Страх - спадарожнік і вораг свабоды. Свабода - гэта шчасце. Шчасце - гэта свабода.

Прафесар з забаронай на прафесію
па моўнай і нацыянальнай прыкмеце з 2001 г.
Мікола Савіцкі.

**PS.** Патрыятычна шаноўны Станіслаў!

Разумею, што прапанова надрукаваць гэты матэрыял не ўкладваецца

ў традыцыйныя артыкулы. Вырашай сам. Ад сябе дам тлумачэнне: асабіста мне няёмка - газета так шырока і цёпла асвятляла мой юбілей і тут яшчэ нешта ў дадатак. Але ж! Пасля збору подпісаў за З. Пазьняка адміністрацыя далей пабаялася мяне трымаць на працы. 30.08.2001 г. звольнілі, хаця я быў адзіны прафесар на кафедры інфарматыкі. Ніякіх заўваг не меў. Творча актыўны. На жаль, цяпер вымушаны друкавацца за мяжой, у Расеі. Я адзіны на кафедры сярод 30 выкладчыкаў 10 год вёў выхаваўча-вучэбны працэс на беларускай мове.

Калі бачыш грамадскі і прафесійны сэнс гэтага матэрыялу, то надрукуй. Да ведама: ніхто, ні рэктарат, ні кафедра не сказалі ні слова аб юбілеі праф. Савіцкага, які аддаў універсітэту 40 гадоў творчага жыцця, хаця б у той жа ўніверсітэцкай газеце "Эканаміст". Няма чалавека - няма і праблем. Толькі чорнай хмарай вісіць над Беларуссю страх.

Прафесар Мікола Савіцкі.

## Да 70-годдзя Міколы Савіцкага

### Газета "Народная воля" № 19, 4 лютага 2004 г. Вынятак з артыкула "Неўтаймаваны прафесар Савіцкі"

*"...Але Мікола Іванавіч, як і яго сябры, складваць крылы не збіраецца. Па-ранейшаму без прафесара Савіцага цяжка ўявіць мерапрыемствы ў абарону незалежнасці Беларусі, нашай мовы, гістарычнай спадчыны, акцый грамадзянскага пратэсту. Помніцца даўні характэрны эпізод: 4 студзеня 1995 года ў абарону газеты "Свабода" яе чытачы сабраліся ля Дома урада. Міліцыя прапусціла ў Дом урада прадстаўнікоў пратэстуючых (сярод іх быў і М. Савіцкі), але ўжо на выхадзе пачала іх хапаць. "Абаронцы парадку" - ладныя дзяцюкі, паваліўшы саліднага прафесара на зямлю і затыкаючы яму ягонай шапкай рот, павалаклі ў міліцэйскі аўтабус. Галава прафесара грукала па зямлі... У выніку суд - і акрэсцінскія нары на пяць сутак.*

*Другім разам, вяртаючыся з мітынгу пратэсту, ён трапіў на заслону амапаўцаў У свядомасці Міколы Іванавіча застаўся толькі струмень газу ў твар і ўдар дручка па галаве. Шпіталь. Доўгія безвыніковыя суды з МУС-ам за атрыманую знявечанасць... Сённяшняя ўлада змагаецца з апазіцыяй не толькі турмой, газам, дручкамі АМАПа, а і вялікімі штрафамі. За тое, што прафесар абараняў ад безпадстаў-нага міліцэйскага хапуна ні ў чым не павінную дзяўчынку падчас акцыі пратэсту 19 красавіка 2002 г. "Так жыць нельга", суддзя Савецкага раёна Р. Казадаеў пакараў штрафам 500 тысяч руб."*

## Клюб "Спадчына" аб дзейнасці Міколы Савіцкага

Мікола Савіцкі - адзін з першых ў незалежнай Беларусі пачаў выкладаць інфарматыку і вылічальную тэхніку па-беларуску. На грамадскіх пачатках узначальваў рабочую Камісію Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. Сябра мінскага гарадскога культурна-асветніцкага клуба "Спадчына". Ушанаваны памятным медалём з выявай "Пагоня", адпаведным дыпломам і з занясеннем прозвішча ў кнігу гонару "Рупліўцы твае, Беларусь"

Ён удзельнік усіх масавых мерапрыемстваў, ладжаных у абарону незалежнасці Беларусі, роднай мовы, правоў чалавека, гістарычнай спадчыны, акцый пратэсту. Не аднойчы арыштоўваўся, штрафаваўся, зведаў турэмныя нары, атручванне газам і іншыя міліцэйскія "сродкі ўтаймавання". Ён першы, з каго пачаўся адлік рэпрэсій над пратэстуючай інтэлігенцыяй.

У абарону роднага слова актыўна выступае ў друку, на спатканнях з грамадскасцю. Ён адзін на кафедры сярод трох дзесяткаў выкладчыкаў вёў выхаваўча-вучэбны працэс на беларускай мове. Некалькі гадоў лекцыі чытаў з гістарычным, нацыянальным бел-чырвона-белым сцяжком на кафедры ў аўдыторыях. За ўсё гэта ўласнай спіной і здароўем зведаў "ласку" цяперашняй улады.

Пасля актыўнага збору подпісаў за Зянона Пазьняка на прэзыдэнцкіх выбарах у горшых бальшавіцкіх традыцыях быў пазбаўлены магчымасці працаваць са студэнтамі. Адлучыць прафесара ў добрай фізічнай і актыўнай інтэлектуальнай форме ад студэнцкай аўдыторыі тое самае, што артыста ў росквіце таленту пазбавіць сцэны. Ды, Бог ім усім - суддзя! Пасля звальнення за два гады падрыхтаваў і надрукаваў за мяжой (у Расіі) два вучэбныя дапаможнікі для студэнтаў ВНУ. А гэтыя ж кнігі павінны выдавацца на Радзіме на беларускай мове.

Прыйдзе час - будзе сапраўдная адзнака і пашана такім людзям як Мікола. Шмат вольнага часу аддаваў і аддае ён грамадскай дзейнасці. Другі склад Рады Таварыства беларускай мовы Мінскай гарадской арганізацыі, які абіраўся ў 1992 годзе і ўзначалены ім па прапанове БНФ, значна актывізаваў яе дзейнасць на працягу пяці гадоў. Помняцца шматлюдныя мерапрыемствы, вечарыны, перапоўненая зала Палаца культуры МАЗ-а на канферэнцыі "Спыніць русіфікацыю" з удзелам старшыні гарсавета і народных дэпутатаў усіх узроўняў. Гарадская, раённыя Рады ТБМ у той час зацята выкрывалі імітацыю паасобных чыноўнікаў прадпрыемстваў і ўстаноў у выкананні Дзяржаўнай праграмы па выкананні Закона аб мовах.

У той час сябры кіроўных органаў ТБМ наведвалі сходы працоўных калектываў, розныя нарады ў аддзелах адукацыі і навучальных установах, выканкамах. Удзельнічалі ў правядзенні цікавых вечарын, выставаў, ушанаванні выбітных асобаў грамадства, мерапрыемстваў, прысвечаных знамянальным падзеям. Сумесныя ўзаемадзеянні з бацькоўскім камітэтам беларускіх школ (тагачасны старшыня А. Шамак) спрыяла павелічэнню набору дзетак у беларускамоўныя першыя класы. У той час раённыя аддзелы адукацыі імкнуліся да супрацоўніцтва з ТБМ, бо бачылі ў іх валанцёраў у агульнай справе: вяртанне роднай мовы ў паўсядзённае жыццё. Ён узначальваў на грамадскіх пачатках рабочую групу Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны.

Вяртаючыся аднойчы з аднаго з мітынгаў пратэсту, ён трапіў на заслону АМАП-аўцаў, якія "ахоўвалі" плошчу Незалежнасці ад пранікнення на яе мітынгоўшчыкаў. Дарога дадому ляжала як раз між імі. У свядомасці Міколы толькі - струмень газу ў твар і моцны ўдар дручка па галаве. Шпіталь. Доўгія безвыніковыя суды з МУС-ам за атрыманую знявечанасць. За тое, што абараняў ад міліцэйскага беспадстаўнага хапуна ні ў чым не па вінную дзяўчынку падчас акцыі пратэсту 19 красавіка 2002 г. "Так жыць нельга", суддзя Савецкага раёна Р. Казадаеў пакараў штрафам 500 тысяч руб., а суддзя Ленінскага раёна А. Шылько пасля поўнай аплаты сумы штрафу за тое, што не была прадстаўленае (прынесенае ў суд) квітанцыя аб аплаце штрафу вынес двайное пакаранне: утрыманне штрафу з пенсіі і арышт уласнага гаража.

Сакавік, 2004 год.

## Як пачуваў сябе савецкі беларус у Празе ў 1969 годзе

У трагічны дзень для чэхаў і славакаў 21 жніўня 1968 г. я адпачываў і піў "Нафтусю" ў Трускаўцы. Памятую няспынны роў самалётаў у той дзень. Успомнілася перажытае дзяцінства пад нямецкай акупацыяй. Мы спрабавалі ўявіць: як гэта СССР "уводзіць" войска ў братнюю суверэнную дзяржаву, дзеля чаго?

Мне пашанцавала сваімі вачыма ўбачыць і сэрцам адчуць акупацыю 1968 года. У 1969 г. мяне накіравалі для навуковай стажыроўкі ў вышэйшую эканамічную школу ў Празе (Vysoka skola ekonomickaa v Praze). У той час я працаваў загадчыкам кафедры "вылічальныя машыны і праграмаванне на ЭВМ" у Беларускім дзяржаўным інстытуце народнай гаспадаркі імя В.У. Куйбышава.

Як нам аб'явілі ў Маскве, я ехаў у складзе 10-ці першых цывільных

асоб у Чэхаславакію пасля "ўводу савецкіх войск" (такі афіцыйны тагачасны тэрмін). Сказаць, што я хваляваўся, значыць схлусіць. Мне было проста страшна: за сваё жыццё, за перажыванні маці і родных за мой лёс. Я мог адмовіцца ад паездкі без якіх-небудзь наступстваў таму, што ў гэты ж час я павінен быў ехаць з той жа мэтай у Югаславію. Кіраўніцтва сказала: Югаславія адмяняецца, паедзеш ў Чэхаславакію. Даў згоду, і цягніком Масква - Прага перасякаю мяжу і не адрываю вачэй ад акна вагона.

На чыгуначных вакзалах стаялі савецкія салдаты з аўтаматамі на грудзях, чамусьці ў непрывычнай позе - з шырока расстаўленымі нагамі. Такі вобраз фармавала савецкая школа і кінамастацтва аб нямецкіх салдатах, а тут я бачу салдата - "вызваліцеля" ў такой жа позе, яўна не братэрскай. Страх вырас яшчэ больш.

Умовы быту былі цудоўныя. Я жыў у дзявочым студэнцкім інтэрнаце - з рамантычным адрасам: "Пад ліпамі", у адным з чатырох пакояў для гасцей (камандзіровачных). За год пражывання ў Празе мне гэта дазволіла сустракацца і гутарыць у неафіцыйнай абстаноўцы (што ў савецкі час забаранялася) з некалькімі дзясяткамі спецыялістаў шырокага дыяпазону з шэрагу краін Еўропы.

У першыя дні я не адчуваў адкрытага непрыязнага стаўлення да мяне з боку чэшскіх калег, але ўсё асяроддзе Прагі гаварыла мне, што я савецкі акупант. Маё працоўнае месца было ў пакоі дацэнта Яраслава Гібла, чалавека сталага веку (у тагачасным маім успрыманні). Мяне ўразіла яго шырокая эрудыцыя і добрае веданне беларускай гісторыі і культуры. Калі ён даведаўся, што я беларус, яго адносіны змяніліся. Ён вёў размову са мной не як з эсэсэраўскім дацэнтам, а паважліва-шчыра, са спачуваннем нам беларусам. Я адчуў сябе на кафедры ў Празе, як у сябе дома. Але там я адчуў, як многа з гісторыі і культуры Беларусі было забаронена для нас беларусаў у СССР.

Дацэнт Яраслаў на той час ведаў намнога больш аб БНР, аб дапамозе Чэхіі беларускім студэнтам і інш. Ён спяваў многія беларускія песні з рэпертуару Міхася Забэйды. У Празе ў 1969 годзе, дзякуючы кантактам з чэшскімі калегамі, я адчуў нейкую пустэчу ў сваёй адукацыі па беларускай гісторыі і культуры. Менавіта там, у Празе (я пабываў у многіх гарадах Чэхаславакіі, пабываў на прадпрыемствах і ўстановах), у мяне радзілася ці адрадзілася беларуская нацыянальная свядомасць і асэнсаванне інтэлектуальных асабістых страт за гады савецкай адукацыі. Не магу патлумачыць, чаму, але я незаўважна для сябе стаў распісвацца на дакументах пабеларуску (не Николай, а Мікола Савіцкі). Памятаю, пасля вяртання ў Менск першы пісьмовы дакумент на імя прарэктара Віктара Пузікава я аўтама-

тычна падпісаў: "Мікола Савіцкі". Ён мяне выклікаў і тонам савецкага чыноўніка запытаўся: "Что это за подпись? Подпиши, как надо". Я без моўнага тлумачэння ўзяў дакумент і падпісаў паўторна: "Мікола Савіцкі". Маленькая дробязь, але…

Для актыўнага майго асабістага ўдзелу ў хвалі Беларускага нацыянальнага адраджэння мяне падрыхтавала Чэхаславакія. У мяне быў час да 1986 г., да першых Беларускіх Дзядоў, запоўніць нішу пустаты па беларускай гісторыі і культуры.

Інтэлектуальны, патрыятычны дух Прагі заўсёды ў маім сэрцы. І сёння Чэхія, чэхі з'яўляюцца для беларусаў у нашым нацыянальным адраджэнні, патрыятызме, адзінстве самым лепшым прыкладам. Я ўдзячны пасольству і асабіста паслу Чэхіі за актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні сумесна з клубам "Спадчына" (Анатоль Белы) культурна-асветніцкай вечарыны 10.05.2005 г. у Доме літараратара ў Менску.

Прафесар Мікола Савіцкі.

## Рыцару Беларусі - 75

Семідзесяціпяцігадовае жыццё прафесара Міколы Савіцкага ёсць выдатны для сучаснікаў прыклад мужнасці, смеласці, адвагі, самаахвярнасці і бескарыснасці. Час і яго дзеянні паказваюць і сумленнасць, і настойлівасць, і ўпартасць у дасягненні сваёй мэты. Мэта - гэта нацыянальная ідэя. Ён адзін з абаронцаў і адстойвальнікаў яе, усведамляючы, што толькі дзякуючы ёй краіна можа стаць заможнай і незалежнай. Гэта толькі яна цэментуе, яднае, сплочвае народ у нацыю. Стрыжнем яе - ёсць родная беларуская мова.

Вучоны ў галіне эканамічнай інфарматыкі. З'яўляецца адным з пачынальнікаў развіцця машыннай апрацоўкі эканамічнай інфармацыі ў Рэспубліцы Беларусь. Стваральнік і арганізатар першай кафедры "Механізацыі ўліку і вылічальнай тэхнікі" у Беларусі. Мае больш сотні грунтоўных навуковых прац. Сярод іх - падручнік "Техника вычислений", які вытрымаў тры выданні ў Маскве. Па ім звыш дваццаці гадоў займаліся студэнты ўсіх тэхнікумаў эканамічнага профілю былога СССР. А для студэнтаў ВНУ выдаў падручнік "Вычислительные машины и программирование". Аўтар першага "Руска-беларуска-англійскага слоўніка па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы". Для ВНУ выдаў на беларускай мове вучэбныя дапаможнікі: "Тэхналогія арганізацыі, захоўвання і апрацоўкі даных" і "Эканамічная інфарматыка і вылічальная тэхніка".

З пачатку дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя Мікола Савіцкі

рашуча стаў прыхільнікам выканання Дзяржаўнай праграмы па ўкараненні Закона аб мовах, бо гэты закон адпавядаў развіццю нацыянальнай ідэі. Адзіны, хто выкладаў ва ўніверсітэце прадметы па інфарматыцы па-беларуску. Выкладаў да апошняга дня, калі ўжо крута памяняліся адносіны да такіх асобаў як ён і беларускай мовы. Працоўны дагавор з ім не прадоўжылі. Але ўжо пенсіянер-беспрацоўны завяршыў шматгадовую працу над беларускамоўным тлумачальным слоўнікам па інфарматыцы, які хутка выйдзе з друку.

Ён з першага дня ў нашым Таварыстве, і цяпер з'яўляецца сябрам Рады ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны". На працягу пяці гадоў з 1991 года ўзначальваў Раду ТБМ горада Мінска. Аб тых дзеяннях сяброў сталічнай Рады, яе раённых арганізацый сёння можна толькі марыць. Гэта шматлюдныя мерапрыемствы, вечарыны, сходы сяброў ТБМ з радасцю сустракалі ў працоўных калектывах на сходах, у навучальных установах, былі сумесныя дзеянні з гарадскімі, раённымі аддзеламі культуры і нават была дзяржаўная дапамога Таварыству. Дзе б ні быў Мікола, заўжды з ім родная беларуская мова. Ён не проста носьбіт беларускай культуры, але і яе прапагандыст. Сваімі спецыфічнымі прыёмамі вымушае суразмоўца задумацца аб паняцці "родная мова", што гэта ёсць святое. Аднойчы я стаў сведкам аднаго яго "ўрока": заходзіць ён у салон тралейбуса і гучна пачынае быццам лаяцца па-руску "Ишь ты, подавай им белорусский язык, националисты. Разве что умное на этом языке выскажешь". У салоне - цішыня. Купка маладых хлопцаў і дзяўчат заўсміхаліся. Ён падыходзіць да іх, вітаецца і кажа: "Чаму вы ўсміхаецеся, я ж вас абразіў. Няўжо вы не беларусы? Каб я такое сказаў, нават у Расіі, не кажучы аб іншых краінах, то тамтэйшыя пасажыры пабілі б мяне (і правільна зрабілі б) і выштурхнулі б з тралейбуса. А вы, маладыя людзі, наша будучыня, пэўна студэнты, нават ўсміхаецеся і то баязліва. Дзе ж мы згубілі элементарную самапавагу і здаровы гонар". І запытаўся ў пасажыраў: "Ці сустракалі вы рускага, які нарадзіўся ў Беларусі, на нашай зямельцы вырас, але выракся рускага языка? Такога вы не знойдзеце. Таму, што для рускага - рускі язык родны, гэта яго духоўная маці". Пачуліся прабачэнні маладых людзей, маўляў, мы ўсур'ёз не ўспрынялі, пачалася шчырая гутарка.

У той час калі ўлада разам з падхалімамі-халуямі пачала зацята змагацца супраць ужывання беларускага спрадвечнага звароту "Спадар", вытруціўшы гэтае слова з усіх СМІ, і толькі адзін Мікола працягваў карыстацца ім у эканамічным універсітэце ў адносінах са студэнтамі. Такім жа чынам звярталіся і яны да яго.

Ён адзін з першых сяброў Беларускага народнага фронту "Адра-

джэньне". Адлік удзелу ў культурна-асветніцкіх, палітычных мерапрыемствах Мікола вядзе ад Дзядоў-88, першага ўшанавання спрадвечнай беларускай традыцыі. Тады супраць мірных удзельнікаў была ўпершыню прыменена для разгону фізічная сіла з прымяненнем газу. Ён першы адкрыў адлік у новай Беларусі зняволеных па палітычных матывах у Акрэсцінскай турме. Гэта адбылося 4 студзеня 1995 года пад час акцыі па абароне незалежнага беларускага друку, а дакладней газеты "Свабода". Пяць разоў арыштоўваўся ён. Аднойчы кінуўся бараніць дзяўчыну, якую хлопцы ў цывільным імкнуліся схапіць, заломваючы ёй рукі. Дзяўчыну абараніў, затое схапілі яго. Пяць разоў хапалі яго, як нейкага злоснага злачынцу. Але больш за ўсё ён пацярпеў 24 сакавіка 1996 года на 78-ыя ўгодкі абвяшчэння БНР. Быў атручаны газам і атрымаў цяжкую чэрапна-мазгавую траўму ад АМАПаўскага дручка. Судзіўся Мікола з МУСам за сваё знявечанне, ды так нічога не атрымаў.

Пераможца конкурсу, праведзенага радыёстанцыяй "Беларуская служба радыё "Свабода", на тэму "Мая свабода" і быў прэміраваны паездкай у Чэхію з наведваннем калектыва рэдакцыі. Адзін са старэйшых сяброў Мінскага культурна-асветніцкага клуба "Спадчына", які ўшанаваў яго медалём "Пагоня" і срэбным імянным пярсцёнкам з уласнымі ініцыяламі "М" і "С" з надпісам "Жыве Беларусь". А ў Старадарожскім нацыянальна-мастацкім музеі Анатоля Белага ёсць яго партрэт, напісаны мастаком Алесем Цыркуновым і бронзавая плакетка з яго выявай і надпісам "Мікола Савіцкі - прафесар кібернетыкі", зробленая мастаком Міколам Несцярэўскім.

Не здраджвае Мікола даўняшняй традыцыі Адраджэнцаў: на лацкане піджака, паліто ў яго заўжды нашы нацыянальныя сімвалы. Ён упэўнены, што яны вярнуцца на пачэснае дзяржаўнае месца. Гэты дзень прыбліжаюць менавіта такія, як ён.

4 лютага ў Міколы Іванавіча Савіцкага дзень народзінаў. Няхай Божа пашле яму, яго родным і блізкім здароўя, даўгалецця, дабрабыту, далейшай веры ў нацыянальную ідэю, якая абавязкова запануе, калі ёсць такія з рыцарскім характарам.

10 студзеня 2009 г. Мікола Лавіцкі.

## Голас аднадумцаў-паплечнікаў

У дні ганаровай даты 80 на жыццёвым шляху Міколы Савіцкага ёсць патрэба адгукнуцца аб гэтай асобе. Імя прафесара Міколы Савіцкага добра вядома навукоўцам эканамічнага профілю, а таксама тым, хто напрыканцы

80-х гадоў мінулага стагоддзя далучыўся да працэсу нацыянальнага адраджэньня, пазнаваў Беларусь і сябе ў беларушчыне.

З 1964 г. працоўная біяграфія Міколы Савіцкага звязана з Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэтам. Сюды ён прыйшоў пасля аспірантуры ў Маскве, дзе абараніў кандыдацкую дысэртацыю па машыннай апрацоўцы эканамічнай інфармацыі, якая была ў гэтай галіне першай на Беларусі, зацверджанай ВАК СССР. У 1982 годзе атрымаў званне прафесара на кафедры інфарматыкі і вылічальнай тэхнікі, якой ён загадваў 20 гадоў.

У 2009 годзе абраны правадзейным членам (акадэмікам) міжнароднай акадэміі навук Еўразіі.

Падрыхтаваў чатырох кандыдатаў навук. Аўтар больш за 100 навуковых прац агульным аб'ёмам 360 выд. арк. і шэрагу публіцыстычных артыкулаў па пытаннях адраджэння беларускай мовы і культуры.

У сваёй галіне першым у Беларусі стварыў комплекс навукова-метадычнага забеспячэння вучэбнай дысцыпліны "Вылічальныя машыны і праграмаванне" для эканамічных ВНУ. Аднайменны падручнік з грыфам Міністэрства адукацыі вытрымаў два выданні. Суаўтар першага навучальнага дапаможніка з грыфам курса "Машынная апрацоўка эканамічнай інфармацыі ў галінах народнай гаспадаркі". Выдаў падручнік для тэхнікумаў "Техника вычислений и механизация учета", з саюзным грыфам, які вытрымаў тры выданні. Аўтар "Руска-беларуска-англійскага слоўніка па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы" (1992 г.), вучэбных дапаможнікаў на беларускай мове па вучэбных прадметах: "Эканамічная інфарматыка і вылічальная тэхніка" (1996 г.), "Тэхналогіі арганізацыі, захоўвання і апрацоўкі звестак" (2000 г.), "Тлумачальнага слоўніка па інфарматыцы".

Спадар Мікола адным з першых ў незалежнай Беларусі ў 1989 годзе пачаў выкладаць інфарматыку і вылічальную тэхніку па-беларуску. Ягоны прыклад ў 90-я гады XX стагоддзя перанялі шматлікія выкладчыкі з розных галінаў ведаў.

Беларускамоўнае выкладанне інфарматыкі ва ўніверсітэце было спынена ў 2001 годзе, і з адзіным на той час беларускамоўным прафесарам на кафедры інфармацыйных тэхналогій Міколам Савіцкім не прадоўжылі кантракт. Пасля гэтага навукоўца не прыпыняе творчай працы над навучальна-метадычнай літаратурай, ён падрыхтаваў і надрукаваў за мяжой (у Расіі) два вучэбныя дапаможнікі для студэнтаў ВНУ у поўнай адпаведнасці з тыповымі праграмамі: "Технологии организации, хранения и обработки данных" (2001 г.) і з грыфам Мінадукацыі Расіі "Экономическая информатика" (2003, 2004 гг.).

Мікола Савіцкі ў канцы 80-х гадоў актыўна ўліўся ў супольную плынь

грамадскай працы па нацыянальным адраджэнні і з 8 лютага 1992 г. па 23 верасня 1997 г. узначальваў Мінскую гарадскую раду ТБМ імя Ф.Скарыны, а сёння з'яўляецца сябрам Рэспубліканскай Рады ТБМ. На старонках ягонага жыцця прапісаны шматлікія ўдзелы ў з'ездах, мітынгах, шэсцях, канферэнцыях, круглых сталах. Тэматыка іх адзіная - беларускае жыццё.

Нарадзіўся Мікола Іванавіч чацвёртага лютага 1934 года ў фальварку Гарадок (Заходняя Беларусь), які быў цалкам (жытловы дом і гаспадарчыя будынкі) спалены савецкімі партызанамі ў вайну. Цяпер гэта Глыбоцкі раён Віцебскай вобласці.

Сям'я была беззямельная, толькі 3 гектары маці прынесла ў сям'ю з пасагам. У сям'і было 5 дзяцей, двое хлопцаў і тры дзяўчаці, старэйшы за ўсіх - Мікола. Ён па сутнасці і даглядаў братоў і сясцёр, бо бацькі былі пастаянна ў працы.

Жылі бедна, адным словам - галота. І святам у сям'і быў дзень, калі варылася манная каша, манка.

Нягледзячы на беднасць, Савіцкія вырашылі будаваць сваю вялікую хату, і будавалі пасля вайны яе, пяцісценку, доўга, нават так да канца і не дабудавалі, бо бацька памёр рана, у 55 гадоў. Шукалі муляраў, печнікоў, якіх пасля вайны было няшмат. І ў спадара Міколы маецца адчуванне, што іх печку клаў бацька Васіля Быкава, бо Гарадок стаяў блізка ад Бычкоў.

Тады Мікола яшчэ не ведаў, што спрычыніўся да беларускага пісьменства ў прасторавай акалічнасці, якая адкрые шлях у Адраджэнне. Юнак з увагай слухаў аповяды старэйшых пра землякоў, якія потым стануць славай Беларусі. Хлопец некалькі гадоў жыў у бабулі Марфы ў Чашках, якая расказвала, як яна танцавала 8 кален кадрылі з Ігнатам Буйніцкім.

Маці Надзея жыла доўга, больш за 90 гадоў, ужо зусім у паважаным узросце хадзіла на мітынгі, а калі не змагла, то пастаянна пыталася ў сына: "Ну і калі вы ўжо дойдзеце да Беларусі?"

Пасля школы хлопец паступае ў Інстытут народнай гаспадаркі ў Мінск, і там пачынаецца і доўжыцца ўсё яго жыццё.

Калі я спытала ў шаноўнага прафесара, як ён уступіў на шлях адраджэння, то спадар Мікола прыгадвае Маскву, дзе ён вучыўся ў аспірантуры і дзе стараўся пазбавіцца ад беларускага акцэнту. А той, як на ліха, не збываўся. І на пачатку было сорамна. А потым, калі працаваў год у Чэхіі, то было ўжо сорамна, што не ведае сваёй Радзімы. За суседнім сталом працаваў чэшскі інжынер, дацэнт Гіб, прафесар, высокаадукаваны чалавек, які стажыраваўся ў Англіі. І той ведаў столькі інфармацыі пра чэшскія і звязаныя з імі баларускія акалічнасці - і пра БНР, і пра Забэйду-Суміцкага, што навукоўца Савіцкі адчуў сябе няёмка і вырашыў заняцца самаадукацыяй.

Хлопец прыняў на ўсё жыццё адзінае рашэнне. Сваё, роднае - гэта не сорам, гэта - гонар. Нельга яго выкідаць на сметнік. І любіць, і ведаць сваё - пачэсна. Міколава адраджэнне пачало набываць сілу.

Я пазнаёмілася з Міколам Савіцкім у пачатку 90-х на шматлікіх мітынгах, і мне надзвычай спадабаўся гэты чалавек, мужны, смелы, які без агляддкі на свой статус загадчыка кафедры самага папулярнага ўніверсітэта быў запалены бунтарскай энергіяй пераўтварэнняў. Гэта было сугучна з адчуваннямі многіх, бо беларусы - пакорная нацыя толькі да пары. Калі ж незадавальненне ператвараецца ў грымучую сілу, то беларусы класічна падымаюць талашоўскую сякерку. І вось ужо больш за 20 гадоў мы апантана робім агульную нацыянальную справу.

Камітэт Ушанавання Клуба "Спадчына" двойчы ганараваў Міколу Савіцкага за актыўны ўдзел у нацыянальным адраджэнні і змаганне за родную мову:

Сакавік 1997 г. *"За актыўны ўдзел у нацыянальным Адраджэньні і змаганне за родную мову ганаруецца памятным медалём з выявай "ПАГОНЯ" з уручэннем гэтага дыплома і занясеннем у кнігу гонару "Руплiўцы твае, Беларусь".*

Лістапад 2003 г. *"За самаахвярнае змаганне ў адстойванні нацыянальнай адукацыі, гістарычнай спадчыны, распрацоўку навукова-метадычнай тэрміналогіі і выданне падручнікаў па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы на роднай мове ганаруецца срэбным пярсцёнкам з выявай "Пагоня", асабістымі ініцыяламі "М" і "С" і надпісам "Жыве Беларусь" з уручэннем дыплома і занясеннем у Кнігу гонару "Руплiўцы твае, Беларусь"*

А ў Старадарожскім нацыянальна-мастацкім музеі Анатоля Белага ёсць яго партрэт, напісаны мастаком Алесем Цыркуновым і бронзавая плакетка з яго выявай і надпісам "Мікола Савіцкі - прафесар кібернетыкі", зробленая мастаком Міколам Несцярэўскім.

Сям'я шчыра дапамагае спадару Міколу ў ягонай рупнасці. З жонкай Глафірай, з якой ён пазнаёміўся на кафедры эканамічнага ўніверсітэта, калі яна была аспіранткай, яны - аднадумцы, і на мітынгі хадзілі разам. А статус жонкі Савіцкага прыносіў і страты, і набыткі.

Дачка Насця таксама працуе ў эканоміцы, кандыдат эканамічных навук, падаравала бацькам трох цудоўных дзяўчынак - Альжбэту, Марыльку і Анэльку. І толькі адна думка засмучае дзеда і бабулю - гімназія, дзе вучацца ўнучкі, рускамоўная.

Калі я спытала, што змяніў бы спадар Мікола ў сваім жыцці, адгарнуўшы назад два дзесяцігоддзі, то ён прызнаўся, што вельмі шкадуе аб сваім познім (у 1988! ) прыходзе ў беларушчыну. Бо ў Радзіму трэба ўкладаць ад нараджэння, каб сябрам па барацьбе за свабоду было лягчэй, адчуўшы моцнае плячо аднадумцы.

І сёння, разменьваючы 9-ты дзесятак, прафесар Мікола Савіцкі такі ж натхнёны, такі ж малады душой. Ён любіць паэзію, асабліва творчасць Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Уладзіміра Караткевіча, сучасную чытае ў часопісе "Дзеяслоў", які выпісвае. З трыма ўнучкамі чытае часопісы "Вясёлка" і "Буся". Цікавіцца мастацтвам, кантактуе з мастацкай суполкай "Пагоня". Імкнецца быць слухачом філармоніі і Опернага тэатра.

Летам ён збірае лясныя ягады ў беларускіх лясах, а ў грыбны сезон - грыбы. У купальны сезон асаблівую асалоду атрымоўвае ад раняшняга і вечаровага яднання з вадой беларускіх азёр і вадаёмаў. На лецішчы ў Зялёным зліваецца, як чалавек з глыбокімі сялянскімі каранямі, з садам і агародам. Узімку любіць пакатацца на лыжах. У мінулую зіму асабісты нарматыў быў 5 км.

Мікола Савіцкі кажа, што ён удала далучыўся у свой час да Асобаў Беларусі - Ніла Гілевіча, Васіля Быкава, Генадзя Бураўкіна, Радзіма Гарэцкага - і быў запалены агнём прасветлай любові да свайго краю, сваёй мовы і культуры. І гэты агонь сілкуе яго, напаўняе энергіяй, не дазваляе яму быць тэлевізарным пенсіянерам. У сваёй зямлі ягоная сіла і гонар, перададзеная продкамі, якую сям'я Савіцкіх захоўвае і перадае сваім нашчадкам. І ў гэ=тым - бяссмерце гэтага сціплага беларускага роду Савіцкіх.

31.01.14 г. Людміла Дзіцэвіч,

сябра Рэспубліканскай Рады ГА ТБМ імя Ф. Скарыны.

Для газеты "Народная воля".

## 100 словаў да 100-годдзя БНР

Радыё Свабода абвясціла конкурс "100 словаў да 100-годзьдзя БНР".

Дасылайце на bnr100slovau@gmail.com свае думкі, уражанні, нататкі і кароткія эсэ, прысвечаныя стагоддзю БНР. Найлепшыя тэксты будуць апублікаваныя на сайце Радыё Свабода, іх аўтары атрымаюць падарункі:

- 1 месца - электронная кніга Amazon Kindle;
- 2 месца - швэдар symbal.by.
- 3 месца - вышыванка symbal.by (жаночая ці мужчынская).

Пераможцы будуць названы 25 сакавіка, у дзень 100-годдзя абвяшчэння незалежнасці БНР.

**Вынікі конкурсу:** першае месца прысуджана прафесару Міколу Савіцкаму з выдачай прыза "Электронная кніга Amazon Kindle".

Радыё Свабода публікуе тэкст прафесара Міколы Савіцкага дасланы на гэты конкурс. Вось ён:

*"100" - гэта гістарычная адзінка часу, нешта вялікае за гарызонтам асабістага зямнога чалавечага жыцьця. "100 БНР" - для сьвядомага беларуса - гэта нешта чутае, вядомае, а для бальшыні беларусаў - нячутае і невядомае, але для ўсіх нешта сакральнае, абуджальнае, узрушальнае, узвышальнае, узмацняльнае, бяздонна багатае ўнутраным сэнсам і цяжка выканальнае словамі. Гэта як Бог для чалавека, як Галоўная малітва. Для беларуса "100 БНР" зойме пачэсны пасад з мовай, культурай, Радзімай, Бацькаўшчынай - тое, што напаўняе жыцьцядайнай, стваральнай энэргіяй.*

*"100 БНР" - гэта зьнічка Адраджэньня на вечным дзяржаўным шляху ліцьвінска-беларускай дзяржаўнасьці ў бачным нам гістарычным сузор'і на цывілізацыйным шляху ад: ... - Полацкага Княства - ВКЛ - БНР - БССР - Беларуская Рэспубліка".*

Словы радыё Свабода: *"84-гадовы прафесар Мікола Савіцкі - беларускі навуковец у галіне эканамічнай інфарматыкі, кандыдат эканамічных навук, аўтар шэрагу навуковых прац, слоўнікаў і дапаможнікаў, у тым ліку і на беларускай мове. Працаваў у Беларускім дзяржаўным эканамічным унівэрсытэце загадчыкам катэдры інфармацыйных тэхналёгій і дэканам вячэрняга аддзяленьня. У 2001 годзе кіраўніцтва БДЭУ не працягнула з Савіцкім кантракт".*

## Мае асабістыя радасць і слёзы

**(Гэты артыкул друкаваўся ў газеце "Новы Час" " 28.11.2019 г.)**

А можа ўсё гэта не толькі маё асабістае? Беларус! Дапамажы мне не памыліцца. Гаворка пойдзе пра падзею 22 лістапада 2019 года ў Вільні.

З тэрыторыі суверэннай дзяржавы Рэспублікі Беларусь, з розных яе куточкаў сама арганізавана, без удзелу ўлады беларусы групамі, сем'ямі, з дзецьмі рознага ўзросту, адзіночкі-патрыёты, хто як мог, скіраваліся ў Вільню, сталіцу нашых гістарычных дзяржаўнікаў Вялікага Княства Літоўскага, у Мекку ліцвінаў-беларусаў для пахавання нацыянальнага нашага героя, аднаго з кіраўнікоў Паўстання 1863-1864 гадоў супраць расійскага царызму Кастуся Каліноўскага і яго 19 пабрацімаў. Хто не змог па нейкіх жыццёвых абставінах прыняць асабісты ўдзел у гэтай гістарычнай падзеі ў

гісторыі беларускай нацыі, кожнай сям'і, кожнага беларуса мелі магчымасць сваімі вачыма бачыць на Belsat наш сучасны беларускі патрыятычна-нацыянальны ўздым. Сямігадзінны бесперапынны тэлемарафон першага незалежнага беларускамоўнага канала Belsat дазволіў нам духоўна абагаціцца і, на жаль, адначасна перажыць 7 гадзін сораму за мізэрна нізкі ўзровень прадстаўніцтва нашай роднай дзяржавы. На міждзяржаўнай цырымоніі пахавання герояў поруч з прэзідэнтамі Літвы і Польшчы і іх лэдзі не было майго, нашага кіраўніка дзяржавы.

У фінальнай частцы цырымоніі польскія і літоўскія вайскоўцы ўрачыста знялі з трун Кастуся Каліноўскга і Зыгмунта Серакоўскага паўстанцкія сцягі, якімі яны былі пакрыты, і ўрачыста прыгожа перадалі іх сваім прэзідэнтам. (Зыгмунт Серакоўскі быў адным з кіраўнікоў паўстання. Ён сабраў атрад з 5 тысяч чалавекі, на жаль у баі быў разбіты расійскімі войскамі. Суд прысудзіў яму смяротнае пакаранне праз павешанне. Быў пакараны ў 1863 годзе ў Вільні на Лукішскім пляцы).

Адсутнасць нашага кіраўніка першай, пасля развалу СССР, дзяржавы Рэспубліка Беларусь, Мітрапаліта Беларускай праваслаўнай царквы, ганаровай беларускай вайсковай пашаны для мяне былі самымі цяжкімі момантамі - і невытлумачальнымі. Не знаходзіў адказы: а дзе ж мой, наш лідар, чаму яго няма тут? Чаму няма ніводнага вайскоўца-беларуса поплеч з літоўскімі і польскімі?

Пахаванне праходзіла па найвышэйшым рытуале вайсковай пашаны. Даруйце мне, калі мае развагі памылковыя, або пакарайце, але ж мне сорамна за сучаснае кіраўніцтва, якое праігнаравала адэкватны ўдзел у гістарычнай дзеі разам з дзяржавамі Літвой і Польшчай, спадкаемцамі герояў паўстання 1863-1864 гадоў. Веру, прыйдзе час, і сакральны сімвал: паўстанцкі сцяг (напэўна, яго копія), які прыняў прэзідэнт Польшчы, з труны нашага нацыянальнага героя будзе перададзены нашай дзяржаве.

Сардэчную ўдзячнасць заслужыў калектыў Belsat за прафесійную работу і разуменне гістарычна-выхаваўчага значэння падзеі 22 лістапада 2019 года ў Вільні. Вы злучылі духоўна нас сучасных беларусаў з духам і сакральнай энергіяй нашых продкаў XIX стагоддзя. Кліч "За нашу і вашу свабоду!" працягвае жыць сярод народаў суседзяў і ён запатрабаваны сённяшнімі рэаліямі.

А як выглядала, была прадстаўленая наша Бацькаўшчына на цырымоніі развітання з Каліноўскім і 19 паўстанцамі? Ва ўмовах заведама фальшывай інфармацыі аб месцы і ролі гістарычнай асобы Кастуся Каліноўскага ў нацыя- дзяржава-творчасці мы разумеем, што гэты час трэба перажыць. А жыхарам суседніх краін і цывілізаванаму свету цяжка

ўцяміць пазіцыю кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь. Аніводнага сучаснага афіцыйнага дзяржаўнага сцяга не было, аніякіх іншых дзяржаўных атрыбутаў, толькі вянкі. Удзельнікі і тэлегледачы іх не ўбачылі на працягу сямігадзіннай міждзяржаўнай падзеі. На жаль, дысанансам прагучалі словы афіцыйнага прадстаўніка Рэспублікі Беларусь намесніка прэм'ер-міністра Ігара Петрышэнкі. Вельмі добра, што ён выступіў па-беларуску. Назваў пахаванне паўстанцаў гістарычным момантам, аднолькава важным для народаў Беларусі, Польшчы, Літвы і Латвіі. Разам з тым, яго прамова закончылася словамі аб недапушчальнасці выкарыстання фігуры Каліноўскага "ў палітычных мэтах". Менавіта на гэтыя словы і на няўдзеле, і адсутнасці кіраўніка краіны, як роўнага сярод роўных, ва ўрачыстай цырымоніі побач з прэзідэнтамі Літвы і Польшчы беларусы ў Вільні адрэагавалі крыкамі: "Ганьба!".

Зафіксуем і такі важны для нас гістарычны момант. На Імшы ў Віленскім кафедральным саборы Св. Станіслава і Св. Уладзіслава на алтары прысутнічалі прадстаўнікі духавенства Беларусі: беларускай каталіцкай царквы, беларускай уніяцкай царквы, беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. А архіепіскап-мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч выступіў з духоўна-патрыятычным казаннем і на роўных з архіепіскапам-мітрапалітам Гінтарасам Грушасам вялі святую Імшу.

А як жа падалі гэтую нацыянальную і гістарычную падзею каналы беларускага тэлебачання? У максімальна лаканічным, схаваным ад беларусаў стылі пад назвай "Церемония перезахоронения останков Калиновского". На самой справе гэта было на міжнародным узроўні пахаванне Кастуся Каліноўскага і 19-ці паўстанцаў 1863-1864 гадоў. Дакладна вядома, што Каліноўскі быў павешаны, закапаны ў агульнай яме і заліты нягашанай вапнай. 22 лістапада 2019 года парэшткі не перахоўвалі, а была цырымонія пахавання па канонах хрысціянскай і сучаснай цывілізаванай традыцыі.

Калі верыць (паверыць) беларускім каналам, то ў Вільні 22 лістапада не было аніводнага афіцыйнага дзяржаўнага, аніводнага гістарычна-дзяржаўнага бел-чырвона-белага сцяга. Гэта класічны прыклад непавагі ідэолагаў-журналістаў да сваёй прафесіі і знявага свайго спажыўца-гледача. Выклікала здзіўленне і выказванне на беларускіх тэлеканалах дырэктара інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук, кандыдата гістарычных навук Вячаслава Даніловіча. Ён фактычна пацвердзіў сваю і кіраванага ім Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук прарасійскую неапанславянскую пазіцыю і небяспечную сучасную ідэалогію "русский мир". Але ж гэта - праблема беларускіх гісторыкаў, і не толькі іх.

Вітанне і развітанне з па рэшткамі нацыянальных герояў на чале з

вечнай постаццю Кастуся Каліноўскага, Зыгмунта Серакоўскага і іх пабрацімаў у Вільні 22 лістапада 2019 года яскрава прадэманстравала нам і свету наш глыбокі беларускі патрыятызм, любоў да Бацькаўшчыны і здольнасць сама-арганізавана яднацца вакол сваіх лідараў, беларускай нацыянальнай ідэі, лёсавызначальнай падзеі. Прыемна, што палякі (з вядомым польскім гонарам) зайздросцілі ў гэты дзень нам, і працягваюць сёння. У гэты дзень Вільню заліло бясконцае мора нашых бел-чырвона-белых сцягоў: першага дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь, пад якім у час інаўгурацыі чвэрць стагоддзя таму прымаў прысягу і прамаўляў клятву перад беларускім народам Аляксандр Лукашэнка.

Мікола Савіцкі, прафесар.

## Творы мастацтва ў адрас М. Савіцкага:

Мастак Алесь Цыркуноў намаляваў партрэт "Прафесар Мікола Савіцкі. Эцюд", 2004 г., 50х35 см.

Мастак Мікалай Несцярэўскі - барэльеф "Мікола Савіцкі. Прафесар кібернэтыкі", 2006 г., бронза, 40х27 см.

Мастак Анатоль Крывенка. Карціна "Васіль Быкаў і сябры клюба Спадчына".

Мастак Міхаіл Карпук. "Партрэт акадэміка Міколы Савіцкага", тэмпера - лак, 64 х53см.

## Артыкулы прысвечаныя адраджэнцкай дзейнасці Міколы Савіцкага:

Ігар Герменчук. Паліцэйская акцыя ў Менску, газета "Свабода" № 2, 1995 г.

Мікола Лавіцкі. Заступнік Радзімы, газета "Наша слова" № 4, 2004 г.

Мар'ян Віж. Няхай марудна, але павышаецца наша свядомасць, газета "Наша слова" № 2, 1993 г.

Вольга Караткевіч. Як прафесар Мікола Савіцкі судзіцца з міліцыяй, газета "Народная воля" № 73, 1998 г.

# СПІС

друкаваных работ прафесара Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта Савіцкага Мікалая Іванавіча

## 1. Падручнікі, вучэбныя дапаможнікі, манаграфіі, брашуры

| №№ | Назва | Від работы | Выходные дадзеныя | Аб'ём (у д.л) | Суаўтары |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 1. | Вычислительные машины и программирование | Учебное пособие Допущено Министерством высшего и среднего специального образования БССР в качестве учебного пособия для студентов экономических вузов и факультетов | Минск Вышэйшая школа, 1973 | 28,35 | |
| 2. | Сборник задач и упражнений по курсу "Вычислителыше машины и программирование" | Учебное пособие Допущено Министерством высшего и среднего специального образования БССР в качестве учебник для студентов экономических специальностей вузов | Минск: Вышэйшая школа, 1973 | 12,86/7 | Дудерштэйн Б.А., Германович Я.Ф., Рыжков А.В., Тихоновец Д.П., Кожемяко Т.К. |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 3. | Вычислительные машины и программирование. Издание второе, переработанное и дополненное. | Учебник. Допущено Министерством высшего и среднего специального образования БССР в качестве учебника для студентов экономических вузов и факультетов. | Минск: Вышэйшая школа, 1980 | 29,04 | Бородина А.И., Германович Я.Ф., Галиновский О.И., Свирид Г.П., Кожемяко Т.К. |
| 4. | Сборник задач и упражнений по вычислительным машинам и программированию. Издание второе, переработанное дополненное. | Учебное пособие. Допущено Министерством высшего и среднего специального образования БССР в качестве учебника для студентов экономических специальностей вузов. | Минск: Вышэйшая школа, 1981 | 15,83/6 | |
| 5. | Машинная обработка экономической информации | Учебное пособие. Допущено Министерством высшего и среднего специального образования СССР в качестве учебного пособия для студентов вузов, обучающихся по специальности "Планирование народного хозяйства". | Москва: Статистика, 1973 | 13/10 | Коношенкова Г.П. |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 6. | Машинная обработка экономической информации в народном хозяйстве | Учебное пособие. Допущено Министерством высшего и среднего специального образования СССР в качестве учебного пособия для студентов экономических специальностей. | Москва: Статистика, 1979 | 15,01/5 | Костикова Г.А., Патрушина С.М. |
| 7. | Техника вычислений и механизация учета | Учебник. Допущено Министерством строительства предприятий тяжелой индустрии СССР в качестве учебника для строительных техникумов по специальности "Планирование в строительстве" и "Бухгалтерский учет в строительстве". | Москва Статистика,: 1969 | 14,56 | |
| 8. | Применение бухгалтерских машин на промышленных предприятиях | Монография | Минск: Вышэйшая школа, 1969 | 8,79 | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 9. | Техника вычислений и механизация учета, Второе переработанное издание | Учебник. Допущено Министерством строительства предприятий тяжелой индустрии СССР в качестве учебника для строительных техникумов по специальности "Планирование в строительстве" и “Бухгалтерский учет в строительстве". | Москва: Статистика, 1974 | | |
| 10 | Техника вычислений и механизация учета, Издание третье, переработанное и дополненное | Учебник. Допущено Министерством строительства предприятий тяжелой индустрии СССР в качестве учебника для строительных техникумов по специальности "Планирование в строительстве" и “Бухгалтерский учет в строительстве" | Москва: Статистика, 1979 | | |
| 11 | Применение электронных вычислительных машин в учете и экономическом анализе | Брошюра | Москва: Знание,1965 | | Лукин В.В. |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 12. | Вылічальную тэхніку - на службу эканоміцы | Брашура на беларускай мове | Мінск: Беларусь, 1966 | 1,2 | Лукін В.В. |
| 13. | Справочник расчетчика по заработной плате | Справочная литература | Минск: Наука и техника, 1968 | 25/6 | Б. Пашкевич |
| 14. | Справочник расчетчика по заработной плате, Издание второе, исправленное | Справочная литература | Минск: Наука и техника, 1969 | 25,6/6 | Б. Пашкевич |
| 15. | Справочник расчетчика по заработной плате, Издание 3-е , переработанное и дополненное | Справочная литература | Минск: Наука и техника, 1970 | 30,8/7 | Б. Пашкевич |
| 16. | Справочник расчетчика по заработной плате, 4-е переработанное и дополненное издание | Справочная литература | Минск: Наука и техника, 1972 | 38,7/8 | Б. Пашкевич |
| 17. | Руска-беларуска-англійскі слоўнік па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы | Слоўнік | Мінск: МП Гаспад,1992 | 2 | |
| 18. | Тэхналогія арганізацыі, захоўвання і апрацоўкі звестак | Вучэбны дапаможнік | Мінск: БДЭУ, 2000 | 8,4 | |
| 19. | Технология организации, хранения и обработки данных | Учебное пособие | Москва: ИНФРА-М, 2001 | 14,21 | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 20. | Экономическая информатика | Учебное пособие. Допущено министерством образования Российской Федерации в качестве учебного пособия для студентов высших учебных заведений, обучающихся по специальности 351400 Прикладная информатика (в экономике) | Москва Экономистъ, 2004 | 27 | |
| 21. | Эканамічная інфарматыка і вылічальная тэхніка Мінск: | Вучэбны дапаможнік. Рэкамендавана кафедрай інфармацыйных тэхналогій і Радай улікова-эканамічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў якасці вучэбнага дапаможніка для студэнтаў эканамічных спецыяльнасцяў | БДЭУ, 1996 | 17,44 | |
| | Разам па раздзелу: 235,1 друк. аркуша | | | | |

## 2. Навуковыя артыкулы, даклады на канферэнцыях

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Формы счетоводства и перспективы его комплесной механизации | Статья | Минск: АН БССР, "Резервы эко-ном. В социали-стической про-мышленности, 1961 | 0,3 | |
| 2. | Единая журнально-ордерная форма счетоводства | Статья | Москва, журнал "Бухгалтерский учет", 2000, № 3 | 0,3 | |
| 3. | О журнально-ордерной форме счетоводства в связи с применением счетно-клавишных машин | Статья | Книга "Вопросы статистики и учета", Москва: Госстатиздат, 1962 | 0,8 | |
| 4. | О форме счетоводства в связи с развитием счетно-клавишных машин | Статья | Москва, журнал "Бухгалтерский учет", 1963, № 1 | 0,5 | |
| 5. | Счетно-клавишные машыны и формы счетоводства | Статья | Книга "Проблемы механизации учета", Москва: Госстатиздат, 1963 | 1,0 | |
| 6. | О механизации учета при помощи бухгалтерских автоматов | Статья | Книга "Вопросы механизи-рованной обработки экомической информации", Москва: Высшая школа, 1964 | 0,5 | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 7. | Книга о механизации труда | Статья | Москва, журнал "Учет и финансы в колхозах и совхозах", 1964, № 1 | 0,2 | |
| 8. | Механизацыя учета выработки и заработной платы при помощи бухгалтерских автоматов | Статья | Москва, журнал "Социалистический труд", 1964, № 5 | 0,5 | |
| 9. | Применение бухгалтерских многосчетчиковых машин | Статья | Москва, журнал "Бухгалтерский учет", 1964, № 5 | 0.5 | |
| 10. | Механизация учета как фактор укрепления хозрасчета. | Глава в монографии | Монография "Внутризаводской хозрасчет и режим экономии, Минск: Наука и техника, 1965 | 1,5 | |
| 11. | Механизация учета затрат на производство | Статья | Москва, журнал "Бухгалтерский учет", 1965, № 2 | 0,5 | |
| 12. | Агрегатирование вычислительных машин | Статья | Киев, сборник "Механизацыя учета и вычислительных работ", выпуск 4, 1966 | 0,5 | |
| 13. | Алгоритм | Статья | Беларуская савецкая энцыклапедыя, том 1, 1969 | 0,1 | |
| 14. | Показатели и методика определения экономической эффективности автоматизи-рованных систем управления (на чешском языке) | Статья | Прага, Механизация и автоматизация административы, №12,1971 | 1,0 | Я.Эглеман, Г. Коношенкова |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 15. | Rusko-cesky slovnik z oblasti vypocetni techniki | Кніжка | Прага, VSE v Praze, 1971 | 2,0 | Я. Гібл |
| 16. | На кафедре вуза | Статья | Москва, журнал "Бухгалтерский учет", 1971, № 4 | 0.2 | |
| 17. | Организация машинной обработки экономической информации в ЧССР | Статья | Москва, журнал "Бухгалтерский учет", 1972, № 2 | 0,3 | |
| 18. | Преподавание дисциплины "Счетно-вычислительные машины и программирование" | Статья | Москва, Машинная обработка экономических данных и методика преподавания, Статистика, 1972 | 0,2 | |
| 19. | Хозяйственный учет в интегрированной системе предприятия | Статья | Москва, Тезисы докладов Все-союзной научно-технической конференции "Совершенствова-ние бухгалтерского учета в современных условиях управления производством", Сборник №4, Статистика, 1975 | 0,3 | |
| 20. | Типовая программа курса "Машинная обработка эконо-мической информации в отраслях народного хозяй-ства" для студентов специаль- | Брошюра | Москва, Высшая школа, 1975 | 0,75 | Н.Г. Твердохлеб |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| | ности 1701 -планирование народного хозяйства. Индекс УМУ-17/186 №2/60. Утверждена МВиССО СССР 31 мая 1974 г. | | | | |
| 21. | Проектирование подсистемы бухгалтерского учета Киев, | Статья | Новые методы разработки АСУ горнорудных предприятий, институт автоматики, 1974 | 0,4 | |
| 22. | Построение информационных моделей | Статья | Минск, сборник "бухгалтерский учет, финансы, кредит, статистика, вып. 6, Вышэйшая школа, 1975 | 0,3 | |
| 23. | О взаимосвязи между автоматизированной информационной подсистемой и автоматизиро ванной системой управления | Статья | Минск, Совершенствование системы информации на разных уровнях управления. Часть 2, БелНИИНТИ,1975 | 0,3 | |
| 24. | Машинная обработка экономической информации в промышленности | Статья | Москва, журнал Вестник статистики, №10, 1975 | 0,2 | |
| 25. | Контрольные и информационные функции учета в АСУ | Тезисы | Минск, Тезисы докладов республиканской межотраслевой научно-технической конферен- | 0,2 | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | ции "Совершенствование учета иконтроля в народном хозяй-стве", БелНИИТТИ, 1976 | 0,3 | |
| 26. | О взаимосвязи между автоматизированной информационной подсистемой и автоматизированной системой управления | Статья | Минск, сборник "Бухгалтерский учет, финансы и статистика", выпуск 7, Вышэйшая школа, 1976 | 0,3 | |
| 27. | Система механизации учета затрат на производсво | Статья | Минск, сборник "Бухгалтерский учет, финансы и статистика", выпуск 8, Вышэйшая школа, 1977 | 0,3 | |
| 28. | Бухгалтерский учет в условиях АСУ | Статья | Минск, сборник "Бухгалтерский учет, финансы и статистика", выпуск 9, Вышэйшая школа, 1978 | 0,2 | |
| 29. | Информационное обеспечение подсистемы бухгалтерский учет | Статья | Минск, сборник "Бухгалтерский учет, финансы и статистика", выпуск 10, В. школа, 1979 | | |
| 30. | Опыт автоматизации учета материальных ценностей на складах производственного объединения игрушек "Мир" | Статья | Минск, сборник "Бухгалтерский учет, финансы и статистика", выпуск 11, Вышэйшая школа, 1980 | 0,3 | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 31. | Книга о технике и технологии вычислительных работ | Статья | Москва, журнал "Механизация и автоматизация производства", №12, 1980 | 0,2 | |
| 32. | Контрольные работы и методические указания по курсу "Основы механизации и программирование вычслительных работ" | Методическое издание | Мн.:БГИНХ, 1966 | 0,2 | |
| 33. | Система команд и операций "Минск-2". | Методическое издание | Мн.:БГИНХ, 1966 | 1,0 | |
| 34. | Темы контрольных работ по курсу "Счетно-вычислительные машины и программирование" и методические указания к их выполнению | Методическое издание | Мн.:БГИНХ, 1969 | 1,2 | |
| 35. | Программа курса "Механизированная обработка экономической информации" | Методическое издание | Мн.:БГИНХ, 1969 | 1,2 | |
| 36. | Сборник задач и упражнений по курсу "счетно-вычисльтельные машины и программирование" | Методическое издание | Мн.:БГИНХ, 1969 | 7,5 | В соавторстве |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 37. | Программа, методические указания и темы контрольных работ по курсу "Вычислительные машины и программирование на ЭВМ" | Методическое издание | Мн.:БГИНХ, 1970 | 1,0 | |
| 38. | Машинная обработка экономической информации | Методическое издание | Мн.:БГИНХ, 1971 | 2,0 | |
| 39. | Механизированная обработка экономической информации. Программа и методические указания | Методическое издание | Мн.:БГИНХ, 1971 | 1,5 | |
| 40. | Методические разработки для студентов плановых специальностей по курсу "Машинная обработка экономической информации" | Методическое издание | Мн.:БГИНХ, 1972 | 5,5/4 | Г.П.Коношенкова |
| 41. | Машинная обработка экономической информации. Программа, теметика контрольных работ и методические указания по их выполнению | Методическое издание | Мн.:БГИНХ, 1975 | 2,2 | |
| 42. | Программа курса "Механизированная обработка экономической информации | Методическое издание | Мн.:БГИНХ, 1976 | 1,0 | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 43. | Практикум по отраслевому разделу курса "Машинная обработка экономической информации" для студентов специальности 1737 | Методическое издание | Мн.: Белкомунпроект, 1977 | 2,0 | |
| 44. | Задания и методические указания к практическим занятиям по курсу "Вычислительные машины и программирование" | Методическое издание | Мн.:БГИНХ, 1978 | 1,5 | |
| 45. | Учебно-методическое пособие по курсу "Вычислительные машины и программирование" для студентов заочного обучения | Методическое издание | Мн.:БГИНХ, 1981 | 1,4 | |
| 46. | Задания к лабораторным занятиям по курсу технические средства АСУ | Методическое издание | Мн.:БГИНХ, 1984 | 3,0 | |
| 47. | Методические указания и задания для практических занятий и самостоятельной подготовки по курсу "Бухгалтерский учет" с использованием ПЭВМ | Методическое издание | Мн.:БГИНХ, 1988 | 2,5/1,5 | П.Я. Папкоўская, А.Т. Абразоўскі |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 48. | Методические указания по анализу использования основных производственных фондов в сельском хозяйстве на ПЭВМ "Роботрон 1715" | Методическое издание | Мн.:БГИНХ, 1990 | 1,0 | |
| 49. | Методические указания по использованию пакета прикладных программ по теме "Анализ производства продукции растениеводсва" на ПЭВМ Роботрон 1715 | Методическое издание | Мн.:БГИНХ, 1990 | 1,0 | |
| 50. | Каротки эканамічны слоўнік | Кніжка | Мн.: БДЭУ, 1993 | 13,4 | Суаўтары |
| 51. | Опыт проведения практических и лаборатор-ных занятий по курсу "Вычислительные машины и программирование" | Тезисы | Методика преподавания учетных дисциплин, Материалы методической конференции, Мн.: БГЭУ, 1982 | 0,2 | |
| 52. | Опыт преподавания студентам учетных специальностей дисциплины "Спецпрактикум на микро- и мини-ЭВМ" | Тезисы | Республиканская научно-методическая конференция "Совершенствование учебного процесса в аспекте требований квалификационных характеристик", Рига, 1986 | 0,2 | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 53. | Опыт организации самостоятельной работы студентов по изучению микро-ЭВМ | Тезисы | Материалы межвузовской научно-методической конференции "Интенсификация самостоятельной работы студентов", Алма-Ата, 1986 | 0,2 | |
| 54. | Опыт использования микро-ЭВМ "Нева 501" при изучении дисциплины "Спецпрактикум на микро- и мини-ЭВМ" | Тезисы | Всесоюзный семинар "Применение экономико-математических методов и ЭВМ в системе обучения экономистов", Суздаль, 1986 | 0,2 | |
| 55. | Учебно-методическое пособие по изучению микро-ЭВМ "Нева 501" | Учебное издание | Мн.: БГЭУ, 1986 | 4,4 | |
| 56. | Методические указания для самостоятельной подготовки к лабораторным занятиям по курсу "Спецпрактикум на микро- и мини-ЭВМ" | Учебное издание | Мн.: БИНХ, 1988 | 4,5 | Н. Говядинова, Ж. Петухова |
| 57. | Дыскрымінацыя беларускай мовы:міф ці рэальнасць | Тэзы | Канстытуцыйны працэс у Рэспубліцы Беларусь (тэзісы дакладаў міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі 26-27 красавіка 1996 г.), частка 1, Гродна, ГГУ, 1996 | 0,2 | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 58. | Мова - Нацыя - Нацыянальная ідэя - Інтэлігенцыя | Артыкул | Кніжка, "Беларуская нацыянальная ідэя", 47,5 аўт.арк. Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя 17-18 красавіка 1999, Мн.:, Хата, 2000 | 1,0 | |
| 59. | Аб развіцці беларускай навуковай тэрміналогіі па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы | Тэзы | Перспектывы развіцця і функцыянавання нарматыўнай лексікі, Гомель, 1998 | 0,2 | |
| 60. | Праблемы і вопыт беларускамоўнай інфарматыкі | Тэзы | Проблемы совершенствования компьютерной подготовки в университете на факультетах неспециального профиля. Материалы республиканской научно-методической конференции, Гродно, ГГУ, 1999 | 0,33 | |
| 61. | Нацыянальная дзяржаўная мова - аснова развіцця вышэйшай школы | Тэзы | Нацыянальная адукацыя і пытанні беларускамоўнага выкладання (Тэматычны зборнік матэрыялаў Рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі), Брэст, Пірс, 1993 | 0,2 | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 62. | Роля і месца роднай мовы ў гуманітарнай адукацыі | Тэзы | Система гуманитаризации образования в Республике Беларусь | 0,2 | |
| 63. | Аб развіцці навуковай тэрміналогіі | Тэзы | Материалы научно-методической конференции "Новые информационные технологии в учебном процессе", Мн.: БГЭУ, 1994 | 0,2 | |
| 64. | Аб пераемнасці выкладання інфарматыкі ў сярэдняй і вышэйшай школах | Тэзы | Вторая международная конференция "Новые информационные технологии в учебном процессе", Мн.: БГЭУ, 1996 | 0,3 | |
| 65. | Аб арганізацыі завочнага навучання на сучасным этапе | Тэзы | Новые технологии в системе заочного обучения, Мн.: БДЭУ, 2000 | 0,2 | |
| 66. | Аб практычных задачах расрацоўкі тэрміналогіі па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы | Тэзы | Пытанні нармалізацыі беларускай навуковай тэрміналогіі. Матэрыялы рэспубліканскай канферэнцыі, Гомель, ГГУ, 1994 | 0,2 | |
| 67. | Праблемы і вопыт беларускамоўнага выкладання інфарматыкі | Артыкул | ТэхноОБРАЗ'99, часть 2, Гродно, 1999 | 0,3 | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 68. | Аб асноўных прынцыпах падрыхтоўкі падручніка | Тэзы | Пути реализации обучающе-исследовательского подхода в системе многоуровневой подготовки специалистов экономического профиля. Тезисы докладов, Мн.: ДГЭУ, 2001 | 0,2 | |
| 69. | Дыскрымінацыя беларускай мовы з гледзішча міжнароднага права і дэмакратыі | Артыкул | Аняменне. З хронікі знішчэння беларускай мовы, Вільня, Gudas, 2000 | 0,3 | |
| 70. | Ці спрыяе рэалізацыі задач акмеялогіі сучасны стан беларускай мовы | Тэзы | 5-я міжнародная навуковая канферэнцыя "Нацыянальная адукацыя і полікультурная парадыгма", 18-19 верасня 1996 г., Брэст | 0,2 | |
| 71. | Родная мова - аснова культуры і эканомікі | Тэзы | Рэспубліканская навуковая канферэнцыя "Культура. Чалавек. Эканоміка", 21-22 лістапада 1996 г., Мінск. | 0.2 | |
| 72. | Пралемы адукацыі і навуковай тэрміналогіі ў ВНУ Беларусі | Тэзы | 4-я міжнародная канферэнцыя "Праблемы украінскай навукова-тэхнічнай тэрміналогіі", 17-20 снежня 1996 г., Львів. | 0.3 | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 73. | Праблемы і вопыт беларускамоўнага выкладання інфарматыкі | Тэзы | Рэспубліканская навукова-метадычная канферэнцыя "Праблемы удасканалення кампутарнай падрыхтоўкі ва ўніверсітэтах неспецыяльнага профілю", 18-19 снежня 1997 г., Гродна. | 0.3 | |
| 74. | Тэма даклада: "Этнічная мова - грунт гуманітарызацыі адукацыі" | Тэзы | Рэспубліканская навукова-метадычная канферэнцыя "Праблемы гуманізацыі пры падрыхтоўцы эканамічных кадраў", 4 сакавіка 1998 г., Мінск. | 0.2 | |
| 75. | Аб развіцці навуковай тэрміналогіі | Тэзы | Міжнародная навуковая канферэнцыя "Перспектывы развіцця і функцыянавання нарматыўнай лексікі", 22-24 мая 1998 г. | 0.2 | |
| 76. | Пытанні беларускамоўнай адукацыі ў памежным раёне | Тэзы | 2-я міжнародная канферэнцыя "Культура беларуска-польскага-украінскага сумежжа", 15-16 кастрычніка 1998 г., Брэст. | 0.2 | |
| 77. | Да пытання фармавання творчай асобы | Тэзы | Міжнародная канферэнцыя "Эканамічныя праблемы кіравання якасцю", 23 лютага 1999 г., Мінск. | 0.2 | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 78. | Да праблемы беларускамоўнай тэрминалогіі па інфарматыцы | Тэзы | Міжнародная канферэнцыя "Эканамічная навука і адукацыя праблемы і перспектывы", 15 чэрвеня 1998 г.,Мінск. | 0.2 | |
| 79. | Роля і месца роднай мовы ў гуманітарызацыі адукацыі | Тэзы | 2-я міжнародная канферэнцыя "Сістэма гуманітарызацыі адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь", 1-2 снежня 1998 г., Мінск. | 0.2 | |
| 80. | Да пытання пераемнасці пры выкладанні інфарматыкі | Тэзы | Міжнародная канферэнцыя "Матэматычная адукацыя: сучасны стан і перспектывы", 17-18 лютага 1999 г. Магілёў. | 0.2 | |
| 81. | Опыт подготовки экономистов по информатике в БГЭУ | Тэзы | Міжнародная канферэнцыя "Научно-методические основы преподавания финансово-кредитных и учетных дисциплин", 22-24 сакавіка 1999 г., Масква. | 0.3 | |
| 82. | Праблеммы беларускамоўнай адукацыі ў памежным рэгіёне | Тэзы | 3-я міжнародная навуковая канферэнцыя "Культура беларускага пагранічча: культура беларуска-украінска-расейскага сумежжа", 31 мая-1 чэрвеня 1999 г., Мозыр | 0.2 | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 83. | Развагі да выкладання інфарматыкі эканамістам | Тэзы | Міжнародная канферэнцыя "Праблемы практычнай падрыхтоўкі спецыялістаў эканамічнага профілю", 31 сакавіка 1999 г., Мінск | 0.2 | |
| 84. | Аб дзейнасці мінскага гаркама партыі напярэдадні прыняцця закона Аб мовах у Беларускай ССР | Тэзы | Навукова-практычная агульна-рэспубліканская канферэнцыя "Закон аб мовах - вынікі і перспектывы", 29 лютага 2000 г., Мінск | 0.3 | |
| 85. | Аб арганізацыі завочнага навучання на сучасным этапе | Тэзы | Рэспубліканская навукова-метадычная канферэнцыя "Новыя тэхналогіі ў сістэме завочнага навучання", 15 сакавіка 2000 г. | 0.2 | |
| 86. | Роля і месца інтэлігенцыі ў асветніцтве" | Тэзы | 2-гі міжнародны кангрэс "Беларускае асветніцтва: вопыт тысячагоддзя", 26 мая 2000 г. | 0.2 | |
| | Разам па раздзелу 2: 79.85 друк. аркушаў. | | | | |

**3. Выкананыя і ўкарэненыя навукова-даследчыя работы**

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Внедрение внутризаводского хозрасчета в новых условиях планирования и экономического стимулирования на Минском опытном механическом заводе | Рукопис | Минск, БГЭУ, 1968 | 0,5 | |
| 2. | Проектирование механизации учетных работ на Минском кожевенно-сырьевом заводе "Большевик". Руководитель темы и исполнитель | Рукопис | Минск, БГЭУ, 1968 | 4,0 | |
| 3. | АСУ "Белоруськалий". Подсистемы бухгалтерского учета. Характеристика подсистемы. Руководитель темы и исполнитель | Рукопис | Минск-Солигорск, 1973 | 1,0 | |
| 4. | АСУ "Белоруськалий". Задача "Учет отгрузки минеральных удобрений". Руководитель темы и исполнитель | Рукопис | Минск-Солигорск, 1973 | 3,0 | |
| 5. | АСУ "Белоруськалий". Задача "Учет реализации минеоальных удобрений. Руководитель темы и исполнитель | Рукопис | Минск-Солигорск, 1973 | 3,0 | |
| 6. | АСУ МПОИ "Мир". Отчет по обследованию бухгалтерского учета на головном предприятии МПОИ "Мир". Руководитель темы и исполнитель | Рукопис. | Минск, 1977 | 4,5 | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 7. | АСУ МПОИ "Мир". Техническое задание на разработку подсистемы "Бухгалтерский учет" на головном предприятии "Мир" | Рукопис | Минск, 1977 | 2,0 | |
| 8. | АСУ МПОИ "Мир". Задача учет материальных ценностей. Постановка и алгоритм решения. | Рукопис | Минск, 1977 | 4,0 | |
| 9. | АСУ МПОИ "Мир". Инструкции о порядке анализа результа решения и выпуска документаци; технологические инструкции; организация и ведение массиов НСИ и эксплуатации программ | Рукопис | Минск, 1977 | 2,0 | |
| 10. | Отчет по теме "Исследование информационных связей подсистемы управления сбытом" ( на примере АСУ-ГПЗ 11). № гос.регистрации 79023841. Руководитель темы и исполнитель | Рукопис | Минск, 1980 | 4/1 | |
| | Разам па раздзелу 3: 25 друк. аркушаў | | | | |
| | Усяго апублікавана: 340 друк. аркушаў | | | | |

**З М Е С Т**



# Мікола Савіцкі, адвечны змагар за беларускую мову